# ქართული პოეზიის ანთოლოგია

ორ ტომად

ტომი

II

რედაქტორი.
ალეს რაზანაუ

მინსკი
„მასტაცკაია ლიტარატურა"
1989

# Анталогія грузінскай паэзіі

*ў двух тамах*

Том

II

Рэдактар
Алесь Разанаў

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Гр
А 72

*Пераклад з грузінскай*

Рэдакцыйная калегія:
*Васіль Зуёнак, Міхаіл Квлівідзе, Атар Нодзія, Алесь Разанаў, Максім Танк, Джансуг Чарквіяні*

Укладанне, падрадковыя пераклады і заўвагі падрыхтаваны Галоўнай рэдакцыйнай калегіяй па мастацкім перакладзе і літаратурных узаемасувязях пры Саюзе пісьменнікаў Грузіі.

Біяграфічныя даведкі і тлумачэнні *Уладзіміра Сіўчыкава.*

Во второй том включены произведения поэтов, живших в XIX и XX столетиях: Николоза Бараташвили, Ильи Чавчавадзе, Акакия Церетели, Важа Пшавелы, Галактиона Табидзе, а также современных грузинских поэтов.

В переводах приняли участие мастера поэтического слова нашей республики: М. Танк, М. Лужанин, В. Витка, А. Звонак, Р. Бородулин, В. Зуенок, Г. Буравкин, А. Вертинский и др.

А $\frac{4702170202-011}{М\ 302(03)-89}$ 129—89

ISBN 5-340-00140-7 (т. 2)
ISBN 5-340-00181-4

## Аляксандр Чаўчавадзе

### ГОРА СВЕТУ

Гора свету і ягоным жыхарам,
Тым, што дзеляць злосць з хлуснёю папалам,
Што дабра не робяць нават і сябрам!
Хто ж узняў іх гнюсны род?
Гарапашнікаў бяздольных кроў і пот!

Што ў іх душах чорных? —Зайздрасць і хлусня!
Каб расло гарой багацце іх штодня,
Каб тлусцела й багацела іх радня,—
Яны смокчуць з году ў год
Гарапашнікаў бяздольных кроў і пот!

У агні знішчэння, ў полымі вайны
Задарма кладуць жыццё зямлі сыны,
Каб на іх касцях сыцелі груганы...
Хто іх выкарміў? — Прыгнёт,
Гарапашнікаў бяздольных кроў і пот!

Гвалт балюе на руінах, сее страх,
Ён трымае праўду вязнем у мурах,
Растаптаўшы кветы праўды ў пух і прах,
Кветы — сведкі ўсіх нягод,
Гарапашнікаў бяздольных кроў і пот.

Ды чакае крывасмокаў судны дзень,
Не паможа ім ніхто ў ліхой бядзе,—
З ганьбай кожны галаву сваю складзе
За пакуты ўдоў, сірот,
Гарапашнікаў бяздольных кроў і пот.

Хто рабунку і разбою стаў слугой,
Веру продкаў топча бруднаю нагой,—
Задушыць гатовы бліжняга свайго,
Абы грэбці ў свой даход
Гарапашнікаў бяздольных кроў і пот.

Нават тронаў і карон уладары,
Хто на шэры люд паглядвае з гары,
Прагна п'юць, нібы драпежныя звяры,
Нібы шакаліны зброд,—
З гарапашнікаў бяздольных кроў і пот.

А чынушаў-махляроў прадажных рацъ,
Шкуру з кожнага гатовая садраць,
Можа й брата за ламаны грош прадаць!
Глеба ж для такіх брыдот —
Гарапашнікаў бяздольных кроў і пот.

Вы, хто сілай і жалезам ланцугоў
Закавалі ў падняволле беднякоў,
Вы адкажаце цаной сваіх галоў
За пакутны свой народ,
Што стагоддзі праліваў і кроў і пот!

## МАРА, МАРА...

Мара, мара, ты навошта зноў мне вочы засціш,
Збегам думак-спадзяванак марна сэрца лашчыш?
Ты навошта абуджаеш вобраз светлы даўні,
Што аднойчы прывід шчасця нечакана даў мне,
Той, што лёсам маім жорсткім знішчаны дазвання,
Дзе скрозь слёзы гасне пробліск кволых спадзяванняў?

Не прашу ў цябе я, мара, літасці-спагады,
Ты вярні юнацтва слёзы — буду ім я рады;
Ахіні былых парываў ветрыкам ласкавым,
Аднаві ў душы стамлёнай згадкі светлай явы.
Я малю, ты адгукніся дзён шчаслівых рэхам,
Каб я мог хоць успамінам сэрцу даць уцеху.

## УСЁМАГУТНАЕ КАХАННЕ

Хто табе не пакараўся, ўсёмагутнае каханне?
Хто не нёс табе ў дарунак свайго сэрца хваляванне?
Схочаш — цар рабом слухмяным, а мудрэц вар'ятам
стане.
Салаўю не забароніш ружу славіць несціхана!
О, кахання моц і ўлада, хто не быў тваім падданым?
Цар? Манах? Стары ці юны? Ўсе табой замілаваны.
Тваёй воляй неадольнай той суздром апанаваны,
Хто адчуў твае спакусы, хто красой зачараваны.
І хоць часта ты наносіш улюбёным сэрцам раны,
І хоць шчасця не бывае без пакут неспадзяваных,
Шчасце зведаў поўнай мерай, хто табой быў напатканы!

## ГАДЫ, ГАДЫ...

Гады, гады, як сноў дзівосны рой
Вы праляцелі шпаркай чарадой!
А я такі, як быў, а я ўсё той,
Непадуладны поступу часін,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

Я дужы духам, хоць зусім адзін,—
Паразгубляў сяброў, душы спакой,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

Хоць лёс мне слаў шмат горкасных хвілін,
Надзею нёс, як шчыт трывалы мой,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

Шукаць нам з ёю іншых пуцявін.
Памерці лепш, чым быць чужынцам ёй,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

Адной адзінай я, бо сам адзін,
Служу аддана, цвёрда, ўсёй душой,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

Калі ж яна, як я, цвярдзей цвярдынь,
Дарма ўвіхаецца сапернік мой,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

Ёй быць заўжды ўладаркаю маёй,
Дзе б я ні быў, хаваю вернасць ёй,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той,
Непадуладны поступу часін,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

## Грыгол Арбеліяні

### ВЕЧАР РАССТАННЯ

Захад сонца ў час расстання, ветру лёгкія павевы
Мой Каўказ сівагаловы абнялі, як бацьку дзева.

Да нябёсаў узняліся горы-волаты маўкліва
У каронах беласнежных таямнічыя, як дзівы.

А да іх бакоў скалістых хмары туляцца употай,
Пагражаючы свет белы захлынуць дажджом-патопам.

Лес ліслівянаю апраткай засцілае гор адхоны,
Вее водарам салодкім ад той нерушы зялёнай.

З гор струменяў дыяменты з гулам падаюць у прорву,
І раве нястрымны Церак, абуджае рэхам горы.

Пазіраю, засмучоны, ўдалеч, дзе пыліць карэта,
Што забрала ўсё на свеце, чым была душа сагрэта,—

Вобраз той праменна-светлы незвычайнай, яснавокай,
Што над светам гэтым тлумным узняла мой дух высока!

Пакідаеш назаўсёды? Што ж, бывай, маё каханне,
За цябе маліцца буду да апошняга дыхання!

Больш цябе я не пабачу, лёс цяпер мой — адзінота.
Без цябе жыццё марудна пройдзе ў клопатах-турботах.

А карэта ўдаль імчыцца... А душа ляціць за ёю...
І няма ўжо больш каханай... Дзесьці знікла за гарою...

І сціскае роспач сэрца, і не бачаць вочы свету...
І схаваў туман навекі з воч зажураных карэту.

І з грудзей ірвуцца стогны, іх стрымаць не маю сілы,
Дык бывай навек! Ты шчасцем мяне шчодра адарыла.

Па табе душой і сэрцам я пакутую няўсцешна.
Не пабачу больш цябе я, бо кахання спета песня.

Не пачую больш ніколі голас твой ласкавы й мілы,
Хто мой боль цяпер загоіць, хто мне дасць спакой
і сілу?

Знікла ты, і я навекі стаў ахвяраю журботы,
І душа мая спазнала смак гаркавы адзіноты.

Хто адчыніць дзверы лёсу, уваскрэсіць здань былога?
Як паверыць мог я шчасцю — кроплям сонца залатога?

Я цяпер адзін!.. Бывай жа, зычу шчасця і спакою.
Мне ж не мець яго ніколі, павянчаны я з тугою.

Хай маўчыць язык знямелы — марны ўсе яго літанні,
Калі сэрца, нібы рану, точыць боль бесперастанны.

Вось і ноч... Сяджу ў самоце. Хто пачуе голас жалю?
Толькі вокліч вартавога скалане начныя далі.

Ды ўздымаюцца пад неба горы-волаты маўкліва,
Ды мільгае над Казбекам толькі зорка палахліва.

Ды бліскучыя струмені стрымгалоў ляцяць у прорву,
Ды імчыць, грукоча Церак, абуджае рэхам горы!

## МУХАМБАЗІ

Не частуй вінам — я п'яны без яго тваёй красой,
Бо язык мой здрадзіць мне і раскажа свету,
Як у сэрцы я хаваў таямніцу гэту:
Пра каханне да цябе марнай мары мэту,
Слёзы, стогны і пакут горкія прыкметы,
І вар'яцтва, што ўзяло ў кіпці ясны розум мой...
Не частуй вінам — я п'яны без яго тваёй красой!

Толькі розум даў бы мне глянуць праўдзе ў вочы,
Ды пазбавіць і яго, бачу я, ты хочаш!
Забярэш яго ў палон хараством дзявочым,
Ветлым позіркам вачэй, што чарней ад ночы.
Ты ўсё бачыш ды падносіш мне з усмешкай келіх свой.
Не частуй вінам — я п'яны без яго тваёй красой!

На згібенне, як відаць, ты мне ў падарунак
Ружу кінула, рвучы майго сэрца струны:
Падары не ружу мне — палкі пацалунак,
І тады — захочаш ты — вып'ю смерці трунак.
Што віно? Перад табою я раблюся сам не свой.
Не частуй вінам — я п'яны без яго тваёй красой!

На цябе зірну няўрокам — і гару ў запале,
Зацвітае твар твой ясны кветкаю міндаля,
І бунтуе ў маіх жылах кроў гарачай хваляй.
Я кахання не зракуся, хоць гібею ў жалю.
Ты зірні: я вар'яцею, будзь спагадлівай са мной...
Не частуй вінам — я п'яны без яго тваёй красой!

* * *

Хай таго спасцігне ганьба, хто заняты сам сабою,
Хто да бацькаўшчыны роднай не гарыць святой любоўю,
Хто не мае сіл змагацца супраць гвалту і разбою,
Хто сябе аберагае, не бярэ хто ў рукі зброю,
Хто не можа цешыць вока злой варожаю крывёю,
Лашчыць слых свой енкам злыдняў, што ляглі на полі
бою!

Непатрэбна тая доля, дзе пануюць гора й смутак,
Дзе да самай дамавіны падняволлем людзі скуты!
Лепш на свет не нарадзіцца, чым насіць няволі путы,
Чым гібець у беспрасвеццi, дзе жыццё гарчэй атруты!

Хто не верыць у збавенне — не зазнае той свабоды!
Гора, гора таму краю, дзе жыццё — адны нягоды,
Дзе ўладарыць сіла зброі над зняволеным народам!

## Вахтанг Арбеліяні

### ТОЛЬКІ РАНІЦА РАЗВЕЕ...

Толькі раніца развее тумано̆ў імглістых вэлюм,—
Усеўладнае свяціла заўладарыць светам цэлым,
Каб сагрэць усё жывое ясным цудам чарадзея,—
Так прытомленае сэрца ажыўляе жар надзеі.
Дзень сканае урачыста, нават следу не пакіне.
І патоне ўсё жывое ў змроку шарае гадзіны.
Ды назаўтра зноўку ўзыдзе сонца ў ясным сінім небе
Ажывіць усё зямное, даць цяпло азяблай глебе.
Мне ж — святлей за ўсё надзея, што жыве ў душы са
мною.
Бачу сёння, ўбачу заўтра, не хачу расстацца з ёю.
А пачую голас мілы — ўраз на сэрцы пасвятлее,
Да жыцця адчую прагу і душой памаладзею!

Цябе не спаткаю —
Я розум губляю.
Цябе не пачую —
Я ў цемры смуткую.
А скажаш ты слова,
Я слухаць гатовы,
Напоўнены верай
Бясконца, без меры.
Нявер'е пакіне,
І смутак мой згіне,
Нібы свежы вецер

Змёў здань ліхалецця.
Як прагне нябога
Спачыну з дарогі,
Як прагне націнка
Жывое расінкі,
Так трызню табою:
Будзь ранняй расою,
Будзь яснаю зоркай
Над доляю горкай!

## КЛЕТКА

Дзе б ні быў я — вольнай волі
Я ўсё роўна буду рад.
*Шата Руставелі*

Птаха, што ў сіло папаў, не саджайце ў клетку, людзі,
Бог даў крылы — хай ляціць, сад уранку спевам будзіць.
Не ў палоне жыць арлу, а між скал на волі вольнай,
Паміж хмар яму лунаць, спачываць на строме горнай.
Не ў палоне сэрцу жыць: у каханай сэрца — мора,
З нарачоным век ёй жыць або згінуць непакорай.
Бог жанчыне сэрца даў — змест і сутнасць існавання,
Існаванне ж для яе — палымянае каханне!
Розум у палон не ўзяць — у палоне розум гіне.
Сее мудрасці святло розум людзям і айчыне.
Той, хто ўсіх жывых стварыў, не прызначыў ім палону.
Лепш на волі смерць сустрэць, чым у клетцы жыць да
скону!

## КАХЕЦІЯ

Хто жыццём сваім і доляй змалку быў прыгнечан,
Хто шчаслівых дзён не бачыў у жыцці пакутным,
Хараству не аддаваўся сэрцам чалавечым
І жыццё лічыў нікчэмным, горкім і атрутным,
Хто прыроды ўладны голас не адчуў душою,—

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хай руку падасць, яго я узніму на строму.
І прачнецца яго сэрца прагай агнявою,
І ўзгарацца яго вочы зноў па-маладому.
Боль прагнаўшы, ён адчуе радасці жаданне
І згадае шум застолля, маладосці песню,
Слодыч першага кахання, горыч развітання.
І тады, душой здранцвелы, да жыцця ўваскрэсне,
Для вялікае любові, радасці зямное.
Вось яна! Зірні ў даліну яснымі вачамі
І пабачыш ты, як дзіва, хараство жывое:
Там прастора спрэс услана кветкамі, садамі,
А над ёю гор вяршыні ўвысь глядзяцца строга
У каронах беласнежных, у лясным адзенні;
Там рака іскрыцца срэбрам між крутых разлогаў,
То бурліць вясёлай плынню, то плюскоча лена...
Глянь, як граюць сонца блікі ў ізумруднай шыры,
І жыццю насустрач пойдзеш ты з душою шчырай.
О, Кахецыя, ці буду шчасцем тым адоран,
Што змагу тваю пабачыць я красу і веліч,
Любавацца, захапляцца з вышыні Гамборы,
За тваё здароўе выпіць поўны хмельны келіх!

## Ніколаз Бараташвілі

### ЗМЯРКАННЕ НА МТАЦМІНДЗЕ

Мтацмінд, гара святая, колькі прыгажосці
Ў тваіх мясцінах неабжытых у зіхценні
Зары! Вяршыня ў полымі, даліны ў ценю —
Глядзіш і думаеш: тут ёсць святое штосьці.

Таемнасць нейкая стаілася ў тваіх ваколіцах наўсцяж.
Ты, сузіральнік, позірк кідаеш: не скупа горны краж
Пакрыў даліну кветкамі, нібы абрусам трапезу святую.
Іх пах, як фіміам, нагадвае і кедр і тую.

Успамінаецца той добры час, калі ў тузе
Я па тваіх сцяжынках вандраваў, гарысты край.
Мне блізкім сябрам вечар быў і месяц май,
Як я, то хмарны, то пагодны — па чарзе.

Ах, што было тады з красой прыроды! Як пяшчотай,
Яе зефір абвейваў. Вобраз неба я ў душу ўвабраў употай
І захаваў дасюль. Няхай убачыць зрок яго сінечу —
Імчацца думкі да яго. Запаланіць жа вобраз думкам
нечым.

О божа, колькі я ўглядаўся ў неба, каб з табой
Сустрэцца хоць бы позіркам. Я ўведаў, папрасім,
Што смертным доступу туды няма зусім
І не спасцігне промысел твой розум мой.

Я на вяршыні нейк стаяў і ў задуменні ў неба ўсё
ўглядаўся.
Як і цяпер, змяркалася, у панізоўях туманок руном
паслаўся,
І вецер час ад часу выў, як падпявала думкам-мроям;
Мо ён выказваў стогны гор зусім у тон з маім настроем?

Калі ад гора нейкага ў цябе на сэрцы сум, нуда,
Зірнуць уверх, дзе ззяеш ты, як срэбная падкова,
Пры ўсходзе ці заходзе сонца дастаткова,
Каб акрыяць, і што б ні здарылася — не бяда.

Маўчала ўсё наўкол, і змрок, бы сырадой, з нізоў
цадзіўся;
У пары з зоркай, як з каханкай, поўны месяц паявіўся,
Сваім аблічам ён нагадваў іконны лік святой багіні
Або зямны і датыкальны лік манастырскай інакіні.

Змярканне, бачанае мной з Мтацмінды-Святагор'я,
Запомню я на ўсё жыццё ўрачыстасцю пейзажа,
Таемнасцю цяснін, далін, дзе змрок чарнеў, як сажа,
І бляскам снегавых вяршынь, як сонца бляск на ўзмор'і.

Калі ў мяне на сэрцы ноч, я зноў стараюся вярнуцца
На ўзвышша чыстае тваё, каб да вышынь душой
памкнуцца
І зразумець, што б ні было: усё ж адбудзецца падзея —
Узыдзе сонца, і святло разгоніць змрок, і дзень зардзее.

## ТАЕМНЫ ГОЛАС

Чый гэта ўнутраны голас не зычна,
А з пачуццём неадольнага смутку
Склонам звычайна назоўным ці клічным

Кліча мяне, у якім бы закутку
Я ні бываў з той часіны расстання
З роднай сям'ёй ды і з бацькавым домам?
Сродак агульнага карыстання?..
Не, ён нікому такі невядомы.
Свой ён і ўсе мае ўчынкі па-свойму
Цэніць з нязменнай парадай: «Вучыся.
Шлях твой — прасторная ў квецені пойма
З чыстай ракой. Адшукай — і напіся!»
Так ён мне шэпча і вучыць нядрэмна.
Я ўсё шукаю той шлях — і дарэмна.
Дзе ён? Якою прыкметай валодае?
Можа, і голас той, што з аддалення
Мкнецца ў душу маю зябкаю слотаю,—
Скарга майго несвятога сумлення?
Што ў такім разе зрабіў я, каб тым
Так саграшыў і душу сваю зрушыў
З раўнавагі? Я ні ўчынкам крутым,
Ні вераломствам ні срэбра, ні ружаў
Не дамагаўся. Дык што ж ты вяшчуеш,
Голас таемны? Скажы, калі чуеш.

## НОЧ У ДАЛІНЕ КАБАХІ

Люблю ўсе мясціны Кабахі між гор,
І ў майскую цёплую ноч асабліва,
Калі ў лугавіны Куры з пералівам
У пырсках спадае са скалаў Каджор.
То плаўна цячэ, то ўздыхае Кура,
Нібы закаханая перад расстаннем.

Такі быў той вечар, калі на гулянне
Я выйшаў. Была веснавая пара.

Прыбраўшыся ў строі святочныя, там
Гулялі дзяўчаты і, быццам шпалеры,
Радамі пастроіўшыся, кавалеры
Давалі праход для сяброўак і дам.

Спярша на іх шпацыр, як цар на парадзе,
З-за лёгкіх аблок маладзік любаваўся,
Але зразумеў, знаць: на гэтым агледзе
Свяцілы зямныя, і ў хмарку схаваўся.
«Што-небудзь ты спеў бы нам,— просяць жанчыны,—
Ну хоць бы: «Ніхто над сабою не вольны» *.

Спявак той дамашні, а можа, і школьны
І рады што-небудзь прапець для пачыну.
Таму, кашлянуўшы і ўзяўшы дыхання
На поўныя грудзі, патрэбную ноту
Бярэ як на спробу. Далей у ахвоту
Выплаквае ў фортэ пакуты кахання.

І тут заўважаю я ў белай сукенцы
Яе, прыгажуню, што недзе ў жаночай
Кампаніі шумнай удзень ці то ўночы
Яе сустракаў. І, напэўна, паненцы
Запомніўся сам, бо яна мне кіўнула
Галоўкай і міла ўсміхнулася.

Божа,
Стаіць вунь, як лань між ільвоў, і прыгожа
Паманьвае ручкай — аж сэрца кранула.

Ну, час мой настаў! Хваляванне гашу
І к ёй падыходжу.— Я вельмі шчаслівы,
Што зноў вас сустрэў. А яна жартаўліва

---

* «Ніхто над сабою не вольны» — назва верша А. Чаўчавадзе. Гэты верш у свой час быў пакладзены на музыку і стаў папулярным рамансам.

Ў адказ: — Мо другую? Скажыце, прашу.—
І дзякуе тут жа, дае тлумачэнні:
— Цяпер стала модна знаёмых спаткаць
І выгляд рабіць, што не можаш пазнаць.
Прыемна, што з правіла вы — выключэнне.

А я лепячу, што ні моды, ні годы
Ўспамінаў пра вобраз такі не сатруць,
Што з першай сустрэчы шчасліўцы бяруць
Адбітак ягоны ў душу назаўсёды.
Тут ветрык з нагор'я падзьмуў і прыўзняў
Падол яе верхняй і ніжняй спадніцы,
І ножкі аздобныя той шаляніца
Адкрыў напаказ, нібы з'яву са з'яў.

Я быў у палоне і ўжо, ап'янелы,
Адно толькі бачыў: праменні крышталю
Між вабных паўкружжаў грудзей яе ззялі,
І сад мне ўваччу стаў квітнеючым, белым.
Зноў месяц з'явіўся, не ўрымсціў, свяціла,
Яшчэ раз заззяла яе ажарэлле.
Тут хтосьці гукнуў: «Нас чакаюць арэлі:
Не бойся!» Яна галаву апусціла
І знікла з вачэй...

## РОЗДУМ
## НА БЕРАЗЕ КУРЫ

Хаджу сюды штодня, бо тут адзіны
Прытулак мне для роздуму ў спакоі.
Люблю да слёз я гэтыя мясціны
З іх цішынёй і дымкай над ракою.

Ляжу ў траве і аддаюся слыху.
Цячэ Кура, чуваць мне рокат зліва:
На глыбіні і па вірах — паціху,
Па водмелях і па жвірах — бурліва.

Пра што твой шум, рака?
Пра дні былыя
З іх пастаяннай сечай ці разнёю?..
Усё наша жыццё ў хвіліны тыя
Здаецца мне нікчэмнай мітуснёю.

Наш свет, як рэшата, няма сумнення,
Да верху не дальеш яго ніколі.
Хто перад смерцю ў ім з задавальненнем
Казаў: «А мне ўсяго было даволі?»

Ніколі ўладары заваяванага
Паўсвету, што да рук сваіх прыбралі,
Не скажуць: «Досыць нам нарабаванага» —
Яны б і ўсё астатняе ўзялі ці ўкралі.

А для чаго з зямлёй ім вузы шлюбныя,
Калі яны зямлёю стануць самі?
І ўсё ж цары, на словах міралюбныя,
Захопы сняць і трызняць тымі снамі.

Яны ўсё робяць так, каб ні праклёны,
Ні суд трацейскі будучых нашчадкаў
Не выпаліў пагардай іх імёны
З гісторыі і іх народаў спадкаў.

Але ж чарнец ад модлаў не збялее,
Хоць ён быў і святцом паміж сваімі.
Калі наш свет дашчэнту спапялее,
Хто ж будзе помніць здзейсненае імі?

Мы ўсе — сыны зямлі і па закону
Павінны ёй служыць на ёй ці ў саклі,
Бо варты жалю тыя, што да скону
Паміж жывымі трупамі прапахлі.

## ЧАНГУ́РЫ

Тваё галашэнне, чангуры,—
Зварот, адраджэнне той буры,
Ў якой толькі чуліся ўсхліпы ды стогны.

Калі ж дачакацца, чангуры,
У песнях тваіх не настрою хаўтураў,
А іншыя ўчуць суцяшальныя тоны?

Пакуль што такіх не чуваць ад цябе,
І тон твой жалобны,
да плачу падобны,
Рве сэрца, якое і так у журбе.

## МАЁЙ ЗОРЦЫ

За што ты не то ў злосці, не то ў крыўдзе
Ўглядаешся ў мяне, вяшчунка долі?
Я ўсё ж люблю цябе, хаця тваёй патолі
Не знаў і знаю: лепшае ка мне не прыйдзе.

Ты думаеш, на ўсё, што мне табою
Прызначана ў пасаг і мной жаданае,

Расчараваны, я махну рукою,—
Як на нязбытнасць, толькі абяцанае?

Звязалі нас з табою повязі, як шлюбныя,
Высокая мая, бо, нізкая, нашто ты?
Будзь добрай ці благой, а ты мне любая,
Бо ты ж — мігценне сутнасці маёй істоты.

Час прынясе і мне раскошу веснаходу,
Спазнаю цеплыню ў пагодлівыя дні,
Вось ты тады мне зверху з гэтае нагоды
Мой шчасны лёс, як жменю срэбра, сыпані.

## ЗАВУШНІЧКА

Сеў матылёк
На пахучы званок —
Ландыш трымціць, нахіляецца.
Так завушнічка —
Бліскучая знічка —
З ценем сваім забаўляецца.

Як не зайздросціць
Самой маладосці,
Што не праз боскую літасць
Можа дазволіць
Пад ценем спатоліць
Вуснаў сваіх прагавітасць?

Кожнай сястрычцы
Па завушнічцы —

Мудрыя кажуць пра да́ры.
Дзе ж пра дарунак —
Яе пацалунак —
Знак?
Сарамлівасць на твары.

## АДЗІНОКАЯ ДУША

Сіроцтва — хай не знаць яго нікому,
І ўсё ж яно радніцца праз гады.
А хто асірацеў душой, такому
Душу адвесці з некім сапраўды.

Хто заўдавеў, таго душа пяклася,
Пакуль дзесь не злілася з ёй ці з ім.
Але калі яна надзей зраклася,—
Усё! Не дапаможаш ёй нічым.

Каго ў даверы злосна ашукалі,
Той больш не верыць ні ў дабро, ні ў зло,
І як бы зноў яго ні запэўнялі,
Не верне больш старое рамясло.

Выпрабаванне цяжкае — сіроцтва.
Не ў радасць нам і роспач, і жуда.
Душы ж расчараванай адзіноцтва —
Ні з чым непараўнальная бяда!

## МАЯ МАЛІТВА

О божа, бацька мой, зірні з нябёсаў
На сына грэшнага! Ён у бядзе —
Страсцям паддаўся, рызыкуе лёсам.
А хто ж бяду інакшы адвядзе?

Не ўводзь яго ў адчай, пакінь надзею.
Калісь і сам Адам твой запавет
Пераступіў — і свет не сірацее.
Вялікі свет збярог за ўласны свет!

Напіцца ж дай і мне, жыцця крыніца,
Крыштальнае вады твае, і ўдаль
Нясі чаўнок маіх страсцей — блазніцаў
І плаўна ў прыстань ціхую прычаль.

О сэрцавед, ва ўсіх усе дазвання
Ты тайны знаеш, маеш к ім ключы.
Аб чым яшчэ прасіць?.. Маё маўчанне
Па дабраце ў малітву залічы.

* * *

Калі мы сыдземся і ты падобна
Сваімі ўсмешкамі на ранне ў маі,
Мне ўцех не трэба больш, не трэба раю,
Ты — рай, і мне б валодаць ім аднаасобна.
Як я люблю цябе! Як я жадаю
Ўзаемнасці, такой жа непадробнай!

Калі ж з нахабнасцю цішком, без стуку,
З намерам адабраць маёй уцехі рай,

Нас развядзе ў бакі разводніца-разлука,
Тады мне жыць не хочацца, хоць памірай.
Павер, любімая, павер! Сваю навуку
Я мукай набываў, ты ж праўдай правярай.

І сон не ў сон пры ёй, разлуцы, яд у марах,
На сэрцы то туга, то, як палын, адчай.
Калі ж той час, што ты мне скажаш: «Заключай
Наш дагавор навек!», як і прынята ў парах?
Павер жа: будзе так і толькі выбачай,
Што трэба час, каб сонца бліснула ў хмарах.

* * *

Сінь нябёс сакавіка —
Колер кветкі васілька,
Быццам створаны наўздзіў,
Я з маленства палюбіў.

І цяпер, калі ўжо ўсе
Ўцехі гаснуць пакрысе,
Колер сіні я хвалю,
Больш за ўсе яго люблю.

Бачу сінь — і вельмі рад:
Зноў прыгадваю пагляд,
Той, які змяніў мой лёс
І з нізін на ўзвышша ўзнёс.

Гэты колер — уладар
Змалку вынашаных мар
Тут, сярод сінечы гор,
Ім жыве зямны прастор.

Ім адным і я жыву,
А памру — і ў сіняву
Адыду, хай там мяне
Неба слёзна ўспамяне.

Мне на помнік дзе-нідзе
Сіні іней ападзе,
Ўчуўшы кліч: «Распалавінь
Цемру нада мною, сінь!»

## МАІМ СЯБРАМ

Пакуль вы ўсе па ўзросту не ў зеніце
І жар кахання ў кожным не ачах,
Няўдач сваіх да сэрца не гарніце
І пазбягайце вільгаці ў вачах.

Плячо ў плячо з гадамі крокам спорым
Ідзіце толькі ўперад да канца,
Бо варты жалю той юнак, каторы
З сябе старога строіць мудраца.

Як і дзіцячае, нам смешна штосьці
Старэчае і ў многіх, і ў адным.
Хвала таму, хто быў у маладосці
Разумнікам і крышачку дурным.

Калі пастукае і ў век ваш лета,
Нібыта ўмоўны знак яму ці ёй,—
Магчыма, вам не лішне будзе гэта
Парада з горкай практыкі маёй:

Не захапляйцеся такой асобай,
Якой красы аж цераз край стае.
Ёй словы заляцання даспадобы,
А пачуццё кахання — не яе.

* * *

Не дакарай, каханая, паэту,
Што пачуццё на вершы раздае.
Ён, смертны, ставіў бы такую мэту,
Але падчас умення не стае.

Пачуцці ж бессмяротныя — і годзе
Падробкамі хаваць іх сціплы ўбор!
Ён сонцам быць хацеў бы, каб пры ўсходзе
Праменнем аздабляць вяршыні гор.

Хацеў бы, каб і ты ў сугучным ладзе
З прыродай чыстым ручайком цякла;
Каб салаўі ў гаях і ружы ў садзе
Імкнуліся к яму, як да святла.

Каб ён паіў сабой ядловец колкі
І птушку, што пакінула дупло,
Каб існаваннем нашае суполкі
Усё навакол буяла і цвіло.

Такі мой падыход к яму, каханню,
Калі б сказала ты: «Не згодна я!» —
Жыццё б звялося толькі к існаванню —
Без кветак руж і спеваў салаўя.

* * *

Прытулак я ў пустыні, хоць і з горам,
Знайшоў — забыты храм сярод пяскоў.
Цмеў каганец, анёлы пелі хорам
Давіда псалмы, кожны ў сем радкоў.

Перш-наперш я з апраткі і абутку
Строс пыл і, змардаваны ўшчэнт, прысеў,
Там, падалося мне ў маім закутку,
Век скончылі мае нягоды ўсе.

Здаваліся ў мінулай паняверцы
Ўсе пошласці сярод жыццёвай стыні.
Курыў я фіміам у палкім сэрцы
Каханню чыстаму, адной святыні.

Але ці ж доўга можа ўяўны свет
Трываць? Умомант знік, нібы з суроку.
Цяпер прытулак мой — прыстанне бед,
А ўяўны рай — замарачэнне зроку.

Нядоўгае было ў нас з ім знаёмства,
І ўсё ж за тое я той храм хвалю,
Што, не прыняўшы свету вераломства,
Ён, цэлы, зноў схаваўся пад зямлю.

Баюся, што ўжо больш не стане сіл
Стварыць калі не храм, то хоць святліцу,
Дзе б я, абтупаўшы дарожны пыл,
Мог шчыраму каханню памаліцца.

## МЕРАНІ

Імчыцца, ляціць без дарог і сцяжын мой Мерані борзды,
навыцяжку гон.
Свіст увушшу і «крум-крум» гругановы з ветрам ляцяць
наўздагон.
Рвіся, мой Мерані, толькі наперад і пра спачын не гадай;
Чорныя думы мае і мой смутак буйнаму ветру аддай!
Напераэз і віхрам, і хвалям над кручамі рвіся, нясіся
наўскач,
Каб нецярплівы сядак не стаміўся і адпачыў ад няўдач.
Страху не ведай, крылаты рысак мой; буры, гарачыня—
Не перашкоды і не стрымаць ім ні седака, ні каня!

Не стану плакаць, што за плячыма мая айчына і круг
сяброў,
Што ўжо ніколі больш перад вачыма яна не ўстане, мая
любоў.
Дзе ноч агорне, хай там разбудзяць, хай там і будзе
мой родны кут.
О, калі б зорачцы той пуцяводнай сказаць прычыну маіх
пакут!
Пакуты сэрца—ужо астылы кахання вугаль ці папялок—
Даверу хвалям, і ты, двухкрылы, нясі на ўзмор'е іх
з-пад аблок.
Рвіся ж, мой Мерані, толькі наперад і пра спачын не
гадай;
Чорныя думы мае і мой смутак буйнаму ветру аддай.

Хай мой спачын будзе дзесьці ў нязроднай зямлі пад
ніцай вярбою пахілай,
Хай па-над ёю, магілай, слёз не пралье дарагая мая
і каханая.
Чорны крумкач забярэ мяне ў дол—тая птушка паганая,
А беспрытульны віхор намяце курганок плывунца над
магілай.

Не слёзы каханай, а дождж і росы ўпадуць на грудзі
мае ў труне,
Не плач маіх родных, а крумканне птахаў там паніхідаю
будзе па мне.
Імчыся ж, мой Мерані, конь крылаты, за грані лёсу
збяжым з табой.
Не быў яздок твой слугою лёсу, ён з ім гатовы ўступіць
у бой.

Хай я загіну там, лёсам асуджаны, але ж сумленна,
накшталт тарца,
Крыж-накрыж: на шаблю — шабля, як вораг, буду
рубацца я з ім да канца!
Рвіся ж, мой Мерані, толькі наперад і на гару, і з гары,
Думы мае, невясёлы мой роздум буйным вятрам падары.

Не, не пагасне запал душэўны таго, хто рваўся на
скакуне
Насустрач смерці, твой след, мой Мерані, тут застанецца
між аблачын,
Па ім калісьці і мой наступнік, як я, рвучыся ўдалячынь,
Нагоніць лёс свой такі ж здрадлівы і, абагнаўшы, рукой
махне.
Рвіся ж, мой Мерані, толькі наперад і на гару, і з гары,
Думы мае, невясёлыя думы, буйным вятрам падары!

* * *

Красуня, не ўпікай яму ў адчаі,
Што ён агонь кахання прытушыў.
Прыгожы твар яшчэ не азначае
У вас, прыгажунях, хараство душы.

Аблічча прыгажосць — прыроды ласка,
Яна, як лёс, дабро і зло снуе.
Таму і сэрца, звабленае бляскам,
Расчараванне з часам спазнае.

Прыгожае, яно — ахвяраванне
Святла з вышынь на людскі абыход.
Чаму ж і дара вечнага кахання
Нам неба не дало? Наадварот!

І час яго не старыць, а ратуе
Ад напускных пачуццяў і маны.
Саюз двух душ прыгожых гарантуе
Нязменнае каханне да труны.

Яно такое ў іх, дзе ўсё сагрэта
Сапраўдным пачуццём! І калі ёсць
На свеце рай, то менавіта ў гэтай
Двaістасці пад імем Прыгажосць.

## МАГІЛА ЦАРА ІРАКЛІЯ

*Князю М. П. Баратаеву*

Перад тваёй грабніцай на калені
Я стану і скажу, сівы герой:
О калі б мог цяпер хоць на імгненне
Ты ўбачыць родны край па-над Курой!

Як спраўдзілася ўсё, што перад сконам
Ты прадказаў краіне-сіраце.
Твой царскі запавет нам стаў законам,
І лік ахвяр вайны больш не расце.

Вярнуліся ў свой край яго выгнанцы,
І кожны з іх, сустрэўшы свой народ,
Агнём душы паўдзённага змаганца
Тут плавіць спакваля паўночны лёд.

Пазычанае за мяжой насенне
Пад цёплым небам Картлі прынясе
За кожны пуд па сто пудоў не меней.
Вайну змаглі, цяпер за мір мы ўсе.

Каспійскае і Чорнае — два моры
Больш не пагроза нам. Прывет чаўнам!
З усіх бакоў эскадраў камандоры
Вязуць здалёк сабрацццяў нашых к нам.

Што ж, спі, герой наш, пад вярбінай ніцай.
З падзякай за прадказаны ёй лёс —
Ўся Грузія перад тваёй грабніцай,
Узведзенай з яе нязмерных слёз.

* * *

Не адмаўляй, злы дух, таго, што хтосьці
Цябе мне падаслаў, каб ты адкраў
Мой супакой і веру маладосці.
Прызнай, што так, вяршыцель чорных спраў!

Ты абяцаў мне рай зямны спачатку —
Жыві, маўляў, і здавальняйся ўсім.
Слаў пухам, аказаўся ж пух брусчаткай,
Замест цяпла вясны слаў холад зім.

Скажы, куды ж яны, з якой вадою
Дзівосы абяцанняў адплылі?
Ты хоць бы заікнуўся мне пра тое,
Нашто ты мне даваў іх і калі.

Я закляймлю той дзень сваім праклёнам,
Калі хлуснёй тваёй сваю душу
Я сам зацьміў, зрабіў яе замглёнай;
Спагады ж у цябе не папрашу.

Прэч, ашуканец, прэч, пакуль не ўдарыў!
Ты ўсё, чым я калісь гарэў, згасіў,
У росквіце жыцця душу састарыў.
О, гора тым, каго ты спакусіў!

## ЧЫНАРА

На ўцёсе над Курой, скупым на ўборы скнары,
Адзіная, як струнка, стройная чынара;
І ў зацень ад яе ў разгар і ў спёку лета
Імкнешся, каб забыць на час нягоды свету.

Хай стане ветрана — і з кроны, праз сплячэнне
Галін зялёных, чутны шэпты, шапаценне,
Нібы якаясь мова тайная, нясмелая,
А ветрагону з ёю, пэўна ж, зразумелая.

Так, як каханак — любую сваю каханку,
Рака цалуе ногі ёй беспярастанку,
Але чынара гордай кронай красамоўна
Ківае ў два бакі: знай, што адказ адмоўны.

Яна — нязгода, ён — парыў і дамаганне,
І на рацэ пры ўздыху кожным хваляванне,
Нібы ён з ёй спрадвеку шчырай дружбай дружаць:
Сустрэўшыся, шумяць, а пры разлуцы тужаць.

* * *

Жывінку для жыцця ўзвей-вецер злою сілай
Зламаў і свіснуў мне: «Вось кветка — на, вазьмі!»
Яе расой нябеснаю заўжды расіла,
А ён, знішчальнік злы, расу змяніў слязьмі.

Няўжо ім, кволым, лёсам так прызначана
Трымцець ад бур, пакуль не распагодзіцца?
А мне, як толькі ўздумаю, што радасць страчана,
Імгненна сэрца з горычы заходзіцца.

* * *

Ты — божы цуд, анёл мой. Дзеля бога,
Не стань маім забойцам ты сама.
Апроч мяне, на свеце больш нікога
У маіх бацькоў з радні ў жывых няма.

Мой шафер — мой кінжал, а ў ролі свацці
Служыла б бурка і — набок сваты!
Навошта б мне здаліся ўсе багацці,
Калі б са мной быў скарб адзіны — ты?

## Рафаэл Эрыставі

### РАДЗІМА ХЕЎСУРА

Там — дзе я на свет з'явіўся, дзе кранаў струну,
Там — дзе спяць мае хеўсуры, лёгшы у труну;
Там — Радзіма! Сэрца любіць тую старану!

Не прадам сваю Радзіму —
Не пайду ў чужыя храмы!
Не аддам я нашы горы
За ключы ад райскай брамы!

Я нідзе краіны лепшай не знайшоў, сябры,
За маю — з крышталь-вадою, з полымем зары,
За маю — з арлом у небе, з турам на гары.

Не прадам сваю Радзіму —
Не пайду ў чужыя храмы!
Не аддам я нашы горы
За ключы ад райскай брамы!

Хай раздольна на раўніне, ды, нібы магніт,
Неадольна вабіў родны горны краявід:
Чым на далях красаванне, лепей тут нябыт.

Не прадам сваю Радзіму —
Не пайду ў чужыя храмы!

Не аддам я нашы горы
За ключы ад райскай брамы!

Не патрэбны мне ні слава, ні палац, ні трон,
Ні штандары, ні музыкі, ні хвалебны звон.
Калі гэта ўсё ў чужыне, дзе жыццё — палон.

Не прадам сваю Радзіму —
Не пайду ў чужыя храмы!
Не аддам я нашы горы
За ключы ад райскай брамы!

О, Радзіма — ты мне маці, ты ў мяне адна,
Як гасподзь у гэтым свеце і як сатана.
За цябе змагацца буду ад відна і да відна!

Не прадам сваю Радзіму —
Не пайду ў чужыя храмы!
Не аддам я нашы горы
За ключы ад райскай брамы!

## ВАДАСПАД

Народжаны ў гарах
Грукоча вадаспад.
Гудзе, ляціць, пяе
Вясёлкавы каскад.

Ракоча дужы гром
У хвалях ледзяных.
Рассыпаўся прамень
У пырсках залатых.

Кіпіць, віруе шум
Пад велькаю гарой.
Асвечана гара
Вясёлкавай дугой.

## СІРАТА

А хто будзе дзіця глядзець?!
А хто верне яму бацькоў?!
Павяла іх у цемру смерць...
Хто сагрэе астылую кроў?

А хто будзе яго карміць?!
А хто будзе дзіця калыхаць?!
А хто будзе дзіця любіць?!
А хто будзе яму спяваць?!

І чакае дзіця бацькоў.
Плача, плача — каб хто дапамог!
Толькі ёсць на зямлі любоў...
Уратуе пакутніка бог!

## ЗВАРОТ ДА ВУЧНЯЎ

Уставайце, хлопцы!
Хопіць ленавацца.
Уставайце хутка,
Час за розум брацца!

Пеўні пракрычалі
І прагналі зоры.
Ластаўка шчабеча
Весела, бадзёра.

Перапёлка ў жыце
Заспявала песню.
Дзятлы малаткамі
Стукаюць у лесе.

Сонечныя промні
Радасці даруюць.
Поле і даліна
Кветкамі красуюць.

Івалга з-пад хмары
Хлопцаў падганяе,
Новы дом будуюць
Мурашы у гаі.

Чмель майструе соты.
Матылі гуляюць.
Вусень цягне лісцік.
Пчолы мёд збіраюць.

Кожнае стварэнне
Мае свой занятак —
Хто пілуе дрэва,
Хто спявае ў шатах.

Уставайце, хлопцы,
Час за розум брацца!
Бог нам дапаможа!
Нас чакае праца!

## Ільля Чаўчавадзе

### ГОРАМ КВАРЭЛІ

Родныя горы, ваш сын развітаецца з вамі.
Памяць пра вас не аддам забыццю я з гадамі...
Будзеце вы маім сэрцам, што б'ецца ад ласкі і шаны.
Горы, я з вамі прыродай самой павянчаны.
Быў я маленькі, ледзь-ледзь разумеючы дзіва,
Ды ўжо ад велічы вашай дрыжэў трапятліва...
Не трапятанне ад страху, трымценне ад страху.
Сэрца было не пудлівым, хацела размаху.
Я на вяршыні глядзеў з багавейным трымценнем
І летуценіў, зайздросцячы стромам і ценям,
Дзе нават блізка прайсціся не мелі адвагі аблокі,
Дзе пачыналі ўраганы палёт свой высокі.
Дзе караван журавоў, заблукаўшыся ў высі,
Ўпоравень з вашымі гордымі чоламі віўся.
Я прастадушна з дзіцячай наіўнасцю марыў
Лётаць крутымі шляхамі вятроў-хмарадараў.
Марыў я з ветрыкам лёгкім памчацца на схілы,
Марыў займець я арліныя вольныя крылы.
А калі вылі ў цяснінах вятры несціхана,
Быццам ільвы, што балюча залізвалі раны,
Я, што лісток той, трымцеў і ўслухаўся нясмела,
Родныя гукі былі мне, і сэрца цяплела.
Самаздаволенне гнаў я з маленства, як помню.
Зараз, сябры, я сабой задаволены, бо мне

Тут нарадзіцца пашчасціла ў краі адзіным,
Вырасці між перуноў і ўраганаў грузінам.
І калі смутак сціскаў маё сэрца ціскамі,
Слёз ручаі я тады праліваў перад вамі.
Плакаў, чакаў я спагады і вашага жалю,
Як і цяпер, вы тады мяне не суцяшалі...
Цені імгненняў, што зніклі, нібы аблачыны,
Ў сэрцы сваім захаваю да самай канчыны!..
Як я любіў вас, сябры майго светлага рання,
З вамі цяпер разлучае жыццёвая ноша расстання.
Мушу расстацца, бо лёс патрабуе ахвяры.
Горшай не мог аніяк ён мне выдумаць кары.
Кожны каня майго крок мне здаецца вярстою.
Кожная хваля без вас робіць мяне сіратою...
Вы ўжо марудна знікаеце... вашы вяршыні
Ледзь разбіраю... хвіліна — і ў сіні ўсё гіне.
Марна змагаюся з даллю, самотны, ў адчаі
І па баках я трывожна блукаю вачамі!..
Вашых вяршынь не відаць з іх былою красою,
Больш не аздобяць паныласці неба сабою!..
Вас са слязьмі на вачах пакідаю я ў скрусе...
Я да вас сэрцам і зіркам з чужыны цягнуся;
Зноўку душа мая вам усміхнецца з чужыны,
Сэрца любоўю заб'ецца, як птушка даліны.

## ВОЗЕРА БАЗАЛЕЦІ

А на дне азёрным, кажуць,
Ёсць калыска залатая,
Пад вадой, наўкол калыскі
Сад чароўны зацвітае.

Гэты сад заўжды зялёны,
Не жаўцее ён ніколі,
Часу ход зямны над садам
Ніякой не мае волі.

Не пашкодзяць зяляніну
Саду ні зіма, ні спёка,
Засень ясніцца вясною,
Сонейка стаіць высока.

Ціха ў садзе залатая
Кволіцца калыска тая,
Ды з людзей ніхто ў чароўны
Вечны сад не завітае.

І адны сірэны маюць
Смеласць акружыць калыску,
Вечныя, пяюць над ёю,
Бачачы калыску зблізку...

Кажуць, што схаваць калыску
Аддала загад царыца,
Што дазволіла Тамара
Хмары слёз людскіх праліцца,

Каб шатром акрыць калыску.
А ніхто сказаць не можа,
Люд паклаў каго ў калыску,
Слёзы ліў навошта гожа...

Ці ў калысцы немаўлятка
Той, каго назваць баяцца,
Той, каго жадае ўбачыць
Наш грузін, загнаны ў працы?

А як так, героем слынным
Будзе да апошняй рыскі

Той, чыя рука, нарэшце,
Дакранецца да калыскі!

А як так, дык тая маці
Шчаснай і славутай будзе,
Што працягне немаўлятку
Першая святыя грудзі.

## АРАТАЙ

«Хадзі па полі, плуг, сярдзіта,
Ты падпявай яму, гіргіта».

Воле мой, Лаба, ў нас доля адна —
Чорная долу нас гне баразна.
Лямку цягнуць будзем у цішыні
І дажываць у бязрадасці дні,
Скіба за скібай вярнуць араллю
Будзема, росячы потым зямлю.
Мы пад ярмом, не нудзіся дарма,
Лёгкага ў нас не бывае ярма:
Позірк мой доле, ярмо мяне гне,
Сілаю неба забралі ў мяне;
Нас, як ахвяру, чакае зямля,
Каб аніхто і не ўспомніў пасля,
Мовы не маеш, я з мовай — таму
Ты не зайздросці, мой брат па ярму...
Шабля нашто мне, калі не на страх
Не заступіцца за праўду ў баях?
Што за карысць мне ад плуга, калі
Ён толькі поркацца можа ў зямлі
І не знішчае пад корань траву,

Што не дае збожжу ўзняць галаву?
Смутак мой, боль ува мне зарунеў
І чалавечае годнасці гнеў,
Словы, што ў сэрцы пасуць перуны,
Мусяць у сэрцы памерці яны.
Слоў маіх мук ты не ўцяміш зусім,
Іх забіваю я ў сэрцы сваім...
Лаба, павер, што, знямеўшы ў тужбе,
Мне цяжалей у ярме, чым табе.
Што ты нудзішся?.. Мы ў свеце адны,
Плуг дацягні да канца баразны,
Сябра свайго не пакінь у бядзе,
Ён не пакіне цябе анідзе!..

## МАЦІ ГРУЗІНА

Сённяшні дзень, народжаны ад мінулага, ёсць бацька будучага.

*Лейбніц*

Грудзі грузінкі калісьці кармілі
Сына радзіме, гадуючы ў сіле,
І з калыханкаю матчынай горы
Слалі герою дух непакоры...
Зніклі і тыя часіны!.. Гаркота,
Рабская доля, цяжкая работа
Сілу забралі, надзею забілі,
Прывідам сына зрабілі ў бяссіллі.
Дзе ж нашых продкаў цяпер, адкажы ты,
Вострая шабля і дух самавіты,
Гордая прага на ўчынак найчынны,
Бойка на смерць з варагáмі Айчыны?

Лепей не будзем аплакваць гаротна
Тое, што знішчыў час незваротна;
Сум свой — даніну мінулым часінам
Знішчым, за іншаю зоркай ісці нам,
Будучыню нарадзіць мы павінны,
Будучыню для людзей і Айчыны...
Гэта, матуля, твой неацэнны
Дар і яшчэ абавязак свяшчэнны!
Сына ўзгадуй, дай душы яго словы,
Помніць няхай запаведзі Хрыстовы,
Любіць людзей і шануе заўсёды
Цягу да брацтва, адзінства, свабоды,
Каб дабрыню ён чыніць не вагаўся,
Каб за наступнае з лёсам змагаўся...
Прымецца саджанец твой і, дарэчы,
Як чалавек, плод свой дасць чалавечы.
Маці! Пачуй жа маленне грузіна:
Выхавай гэтак душу свайго сына,
Каб ён за ісцінай следам спяшаўся,
Каб і за ім светлы след заставаўся.

## ВЯСНА

Апрануўся лес у лісце.
Ластаўка вяшчуе ўдачу.
Слёзы самі паліліся
У лазы — ад шчасця плача.

Луг рунявей ад кіліма,
Горы кветкамі спавіты.
Любая мая Радзіма,
Расцвіцеш, скажы, калі ты?

## ПАЭТ

Не для таго спяваю, каб спяваць,
Як птушка, у якой клапотаў мала,
Не зачароўваць гукамі мяне
Улада неба на зямлю паслала.

Багаславіла неба, а народ
Зямны мяне, нябеснага, аперыў
І ўзгадаваў, і з богам гавару,
Каб весці за сабой народ наперад.

Ад боскага святога алтара
Агонь таму ў грудзях маіх палае,
Каб як сабрату мне, каб як свая
Была і радасць, і бяда людская;

Людская рана каб маёй была,
Душа гарэла ад людской пакуты,
Каб і людское шчасце і адчай
Былі прыняты ў сэрца і пачуты...

Тады запаліць у маёй душы
Агонь з нябёс іскрынка без прынукі,
Тады і заспяваю, і тады
З вачэй людскіх я вытру слёзы мукі.

## Акакій Цэрэтэлі

### АМІРАНІ

Да скалы каўказскай моцна
Быў прыкуты Амірані,
Груганнё над ім кружыла
І садзілася на раны.

Падарыў агонь ён людзям —
Таму злыдні цела рвалі,
Ды без лекаў, нейкім дзівам
Раны самі зажывалі.

Ён умеў цярпець нягоды,
Не ўкленчваў прад бядою,
Перад сілаю варожай
Не схіляўся галавою.

І нарэшце — перамога!
Кожны смелы — з ёю будзе.
Ён у спадчыну, як прыклад,
Перадаў адвагу людзям.

Мая Грузія прыкута
Да скалы, як Амірані,
Груганнё над ёю кружыць
У чаканні, у чаканні...

Ды часіна волі прыйдзе,
Ланцугі парвём і путы.
Зноў там радасць засмяецца,
Дзе журыліся пакуты.

## ПЕСНЯ НАТЭЛЫ

Струны ўмела на чангуры
Я для песні навяла,
І яны зноў загучалі:
«Адэла-дэла-дэлала!»

На свой гук і на свой голас,
Але ўсе звіняць у лад,
Дружна ў злагадзе спяваюць:
«Адэла-дэла-дэлала!»

Хоць адна струна парвецца —
Трэба помач каб прыйшла,
Бо спяваць чангуры вечна:
«Адэла-дэла-дэлала!»

А чангуры — Сакартвела,
Быццам Грузія сама,
Ну а мы як тыя струны:
«Адэла-дэла-дэлала!»

Ды паслаблі раптам струны,—
Бы паменела святла,
А у цемры як спяваць нам:
«Адэла-дэла-дэлала!»

Бы шакал, пракраўся вораг,
Нарабіўшы многа зла,
Нас не так спяваць змушае:
«Адэла-дэла-дэлала!»

Трэба жыць усім у згодзе,
Каб пазбавіцца сіла.
Чаму ж мы спяваем поразь:
«Адэла-дэла-дэлала!»

Хай бы еднасць — наша сіла —
Хціўцам вісельняй была.
Хай баяцца нашай песні:
«Адэла-дэла-дэлала!»

Хопіць плакаць! Усе струны
Я слязамі заліла.
Не магу праз плач спяваць я:
«Адэла-дэла-дэлала!»

## КІНЖАЛУ

Харасанскі мой кінжал,
Дружа мой, люблю цябе я!
Збавіць ад варожых джал —
Ты адзіная надзея.

Я вастру цябе або
Чышчу, каб срабрыўся болей.
Стань жа братам і рабом
Тым, хто ўніжаны няволяй!

Востры, ты гатовы ў бой,
І няма табе заганы.
Ты стальному сэрцу свой
І руцэ стальной адданы.

Слава кавалю таму,
Што цябе скаваў так чынна!
Дружа мой, рыдаць прымусь
Маці ворага па сыне!

Колькі ворагі раней
Выпіць змусілі заразы.
Палячы, кінжал, мяне
Ад прыгнёту і абразы!

Паміж ім і мной жыві,
Выклік кінь ягонай сіле.
Памакну цябе ў крыві,
Быццам бы пяро ў чарніле.

Кроў чырвоная маю
Сівізну няхай акропіць.
Стогн варожы у баю,
Нібы музыка, захопіць.

Я вастру цябе, кінжал,
І вучу блішчэць трывожна.
Хопіць, дружа мой, ляжаць —
Час настаў, выходзь жа з ножнаў!

# СВІТАННЕ

Задуменная Мтацмінда
Зорку раннюю вітае,
Што над слыннаю магілай
Гэтак ласкава світае.

Слухае гара, прыціхшы,
Як Кура бесперастанку
Нескаронаму герою
Напявае калыханку.

Да грудзей Мтацмінда туліць
Дарагую нам магілу,
У якой яна люляе
Сына бацькаўшчыны мілай.

І паэт, у хваляванні
Азірнуўшы наваколле,
Да сваёй радзімы любасць
Гэткай песняю спатоліў:

«Край, дзе неба — бірузою,
Дзе зямля — смарагд адвеку,
Да цябе прыйшоў я хворы,
Ты сустрэў мяне, як лекар.

Не, не вынес я расстання.
Без цябе — мы ўсе сіроты.
Я спяшаў цябе пабачыць,
Натаміўшыся самотай.

Я вярнуўся. Мне насустрач
Твае сонца, месяц выйшлі,
Карагоды яркіх зорак
Расквітнелі ў небе пышна.

Радасць сэрца паланіла,
Знік мой сум, не стала жалю.
Ажывіў, мой краю, кветкі,
Тыя, што даўно завялі.

Край, дзе неба — бірузою,
Дзе зямля — смарагд адвеку,
Твой я, і ў тваіх абдымках
Дай памерці чалавеку.

За цябе памру, мой краю,—
Не кідай, прашу, мяне ты,
Ты накрый мяне сабою
Па зямному запавету.

Пахавай мяне, мой краю,
У сваёй зямлі ласкавай,
Там, дзе неба — бірузою,
Дзе нібы смарагды — травы».

* * *

Малады быў, мары песціў,
Сэрца білася старанна,
Я чакаў не дачакаўся,
Неспатолены, кахання.

Як састарыўся, знясілеў,
Да маршчын дажыў на твары,—
Мяне любяць ці не любяць,—
Мне ўсё роўна ўжо зараз.

Беднасць гналася за мною —
Пра кавалак хлеба марыў.
Будзе скарб альбо не будзе,—
Мне ўсё роўна ужо зараз.

Сябраваць хацеў з людзьмі я,
Ад мяне яны — як хмары.
Будзе сябра ці не будзе —
Мне ўсё роўна ужо зараз.

Крыўды горкія зазвычай
Нада мной віселі карай.
Будзе слава ці не будзе,—
Мне ўсё роўна ужо зараз.

Шапкаваў я дапамогі,
А атрымліваў удары.
Як памру, ці будуць плакаць,—
Мне ўсё роўна ужо зараз.

Лёс — пракляты, сэрца — рана,
Сівізна душу мне старыць...
Буду жыць-такі ці не я,—
Мне ўсё роўна ужо зараз!

## СУЛІКО

Я магілу любай шукаў,
Толькі не знаходзіў навакол.
Доўга плакаў, суміўся, гукаў:
«Дзе ж ты, дарагая Суліко?»

Я заўважыў ружу між шыпоў —
Век не бачыў вабнасці такой.
Да яе ў трымценні падышоў:
«Ці не ты мая Суліко?»

Кветка невыказнае красы
Нахіліла ў згодзе галаву,
І, як слёзы, пацеркі расы
Пырснулі ў зялёную траву.

Салаўя убачыў праз лісты
І патурбаваў яго спакой,
Я спытаўся ў птушкі: «Ці не ты,
Ці не ты мая Суліко?»

І ў адказ пачуў ласкавы спеў
Ціхага дагэтуль салаўя,
Быццам бы сказаць ён мне хацеў:
«Хіба ты не бачыш — гэта ж я!»

Зорка ззяла светла нада мной,
Нібы намякала спатайком.
Я спытаў, любуючыся ёй:
«Ці не ты мая Суліко?»

І яна мігнула мне ў адказ,
Промнямі пагладзіла мяне.
І якраз у гэты самы час
Ветрык мне на вуха зазвінеў:

«Тое, што шукаў, ты ўжо знайшоў —
Удыхні, паслухай і зірні.
Ты знайшоў яе — і боль прайшоў,
Хай цяпер твае святлеюць дні.

Стала ружай, зоркай, салаўём
Тая, што пяшчотна ты кахаў,

Не, каханне шчырае тваё
Не здалела чорная туга».

Зразумеў я гэты запавет,
І не праклінаю я свой лёс,
І ўжо больш не скарджуся на свет,
І не праліваю болей слёз.

Ружаю журбу сваю лячу,
Слухаю, шчаслівы, салаўя,
Радасны, за зоркаю сачу,—
І нібыта зноў з табою я.

Зноў мне стала хораша ў жыцці —
Я знайшоў цябе праз боль вякоў:
Гэта ты спяваеш, і мігціш,
І цвіцеш, як ружа, Суліко!

## КАХАНАЙ

Закаханы ў цябе я,
Я твой раб, чараўніца!
Я табой маладзею
І хачу наталіцца.

Я не знаю спакою —
Ты ў турме сваёй душнай,
Цябе хоча прысвоіць,
Нібы рэч, крывадушнік.

Слоў табе не шкадуе,
А ў тых словах — атрута.

Саладжавіць, мядуе,
А ў руках яго — путы.

Ты не вер гэтай песні!
Колькі звёў ён нявінных,
Колькі мараў ён весніх
Спакусіў і пакінуў.

Будзь жа стойкай, спакойнай,
Як Нестан, непрыступнай,
Яе прыклад дастойны
Твае зменшыць пакуты.

Тарыэл, твой да скону,
Цябе ўсюды шукае,
Каб украсці з палону
Цябе, дарагая.

Ён расстацца з крывёю
І з жыццём нават згодны,
Каб свабодай тваёю
Любавацца заўсёды.

## Георгій Чаладыдэлі

### УСПАМІН

I

Помню дагэтуль, як выпраўлялі
Ў школу мяне, зусім малалетка.
Азбуку даўшы, ўсё правяралі,
Ці да падзеі гатоў я гэткай.
«Аз» запыталі, а потым — «букі»,
Толькі чакалі марна адказу,
Блытаў бязбожна літары, гукі.
Невук — стала ўсім ясна адразу.
Мне гаварылі, вывеўшы з дому:
— Час для ляноты скончыцца ў школе.
Там цябе хутка ўструняць, вядома,
Калі не кінеш гулі-сваволле...

II

Я развітаўся ў суме з палямі,
З кожнай галінкай роднага саду,—
Шчокі блішчэлі слёз ручаямі,
Ды не заўважыў жалю-спагады.
Толькі на ганак вывеўшы, маці
Раіла: — Будзь жа рупны і ўпарты.
Той, хто застаўся змалку пры хаце,
Што дасягнуў і чаго ён варты?
Дык не лянуйся, ведай цану ты

Працы нястомнай, кожнай хвіліне
Веды твае і твае пакуты —
Дзеля карысці нашай айчыне...

## III

— Вельмі старайся, любы, у школе,
Розумам слухай мудрыя словы,
Але прашу я, сынку, найболей,—
Не выракайся роднае мовы.
Добра вядома і несумненна:
Калі падмурак стаў разбурацца,
Класці цагліны, ўзводзячы сцены —
Проста пустая, марная праца!
Не пазайздросці сытым, багатым,
А як спаткаеш, сын, бедалагу,
Дык падзялі ты з ім, нібы з братам,
Лустачку хлеба, як і біклагу...

## IV

— Выбавіць сябра з цяжкай нягоды —
Гэта і гонар і слава, мой сыне,—
Добры ў пашане будзе заўсёды,
Хоць на радзіме, хоць на чужыне.
А як расстацца выпадзе рана
Целу з душою,— жыць не бясконца,—
Лепей усё-ткі быць пахаваным
Вобліз матулі ў роднай старонцы...

## V

З гэтай парадай, з гэтым наказам
Так і жыву я ў свеце суровым.
Што б ні рабіў я — ўспомню адразу
Матчыны слёзы, матчыны словы.

## Іосіф Давіташвілі

### РУНЬ

Руней, зеляней, пшаніца,
Каб хлебным зрабіцца плёнам;
Далоні таго, хто сеяў,
Хай будуць багаславёны!

Тваіх каласоў пяянне
Мне радасць надзеі дорыць.
Хай неба цябе аросіць,
Хай сонца святлом азорыць.

Хай уначы калыханку
Дзеткам пяе перапёлка;
Усцеш мяне шапаценнем,
Парадуй красой на золку.

Я просты падданы працы,
Ніяк не дайду да ладу,
Прашу памагчы па-брацку,
А чую папрок ці зваду.

Падацца мне, можа, ў горад,
Пакінуўшы свой палетак,
Каб рамяству навучыцца
І не пакутаваць гэтак?

Руней, каласуй, пшаніца,
На ўцеху і мне і полю,
Каб той, хто цябе пасеяў,
Не кляў, як заўсёды, долю.

Збяруцца з сярпамі людзі,
Закружаць гуртом старанным:
Петра, Георгі, Федар,
Беса і я з Алмаханам.

І Цінія нам снядак
У засені дрэў згатуе;
А Соса вадой крынічнай
Нас са збана пачастуе.

## КРЫНІЦА ЛЁСУ

Што прыціхла ты, крыніца
Нашай долі, нашых бедаў?
Усхадзіся, каб на свеце
Кожны смак нядолі зведаў.

Сэрца гэты свет мне паліць,
Што надвое раз'яднаны:
Пестуны шчаслівай долі
Тых гнятуць, хто занядбаны.

Крыцца, нібы чуры, ў цемры
Век гаротнікі павінны,
Голас чуючы багатых:
«Нам служыць — ваш лёс адзіны!»

# Ніко Ламауры

## МАРОЗ
## І МАЛЕНЬКІ ВУЧАНЬ

Поле снежнае затаілася,
І няветлае і панылае,
Лес замёр густы ў белым покрыве,
Голле голае — як застылае.

Ані посвісту, ані голасу,
Завіруха ўжо крылы згортвала,
Над бязмежнаю белай роўняддзю
Заўладарыла ціша мёртвая.

А мароз мацнеў і спяшаўся з гор
То сцяжынаю, то лагчынаю,
Так хацелася, не цярпелася
Цараваць яму над далінаю.

Не спускаў вачэй ні з дарогі ён,
Ні з пагорачка ў полі кожнага;
Пахваліцца каб сваёй сілаю,
Падпільноўваў ён падарожнага.

І прыкмеціў тут раптам хлопчыка,
Той у школу бег рана-раненька.
А пад пашкаю — кніжкі з сшыткамі,
Сам рухавенькі ды румяненькі.

Пераняў яму ўсе шляхі мароз,
Стаў і вылупіў бельмы грозныя:
— Гэй, дурны хлапчук, лепш назад бяжы,
Не спрачайся з сілай марознаю!

А не вернешся той жа час дамоў,
Дык спазнаешся з доляй цяжкаю.
Не такім, як ты, шыі скручваў я,
А з табою — цьфу! — бедалажкаю...

Але хлопчыка не спалохала
Папярэджанне тое строгае,
Хоць халодныя бралі дрыжыкі,
Ён далей сваёй бег дарогаю...

І раз'юшыўся яшчэ горш мароз:
Хіба ён дзіця не адужае?
Як пачаў хвастаць проста ў твар яму
Невыноснаю лютай сцюжаю.

І зайшліся рукі ў маленькага,
І валёнкі раптам заціснулі.
Закрычаў хлапчук:
— Мама, мамачка! —
А ў вачах яго слёзы бліснулі.

Але раптам з далечы снежнае
Галасы пачуў ён дзіцячыя
І наперад зноў смела кінуўся:
— Не, не здамся я! Не заплачу я!..

Бег ды бег малы, бег ды бег... і вось
Пасвятлела цемра вакольная.
І адстаў мароз, бо святлом яго
Напалохалі вокны школьныя.

# Важа Пшавела

## АМІРАН

Прачніся, чуеш, Аміран?
Дай вараному чарамшы.
Калі няшчасны ты ў любві,
У скачцы боль закалышы.

*З народнага*

Зірніце — волат-чалавек,
Што прыкаваны да скалы.
Яго лятункі ў вышыню
Панеслі думныя арлы.

Яго нясцерпна апавіў
Халодны, як змяя, ланцуг,
Ад зроку сонца засланіў
Сляпога павуціння пух.

На ім і лёд, і чорны мох.
А час ідзе, а час брыдзе.
Які ўжо год чакае ён,
Калі ланцуг з яго ўпадзе.

Пакладзены ля ног яго
Ржавее нерухомы меч.
А ён у ганьбе і журбе
Цяжкія думы гоніць прэч.

Забылі неба і зямля,
Як, іх ратуючы калісь,
Ён нішчыў д'яблаў і чарцей,
Як парадніў ён дол і высь.

Ля ног пакутніка ляжыць
Сабачка — борздкае шчаня:
Працягвае наўздзіў усім
Ён рэч нязвычную штодня...

Ён ліжа дзень і ноч ланцуг,
Каб разарваць метал акоў,
Каб мог свабодным вязень стаць
І пакараць гвалтаўнікоў —

Тых кавалёў, што ў судны час
Свайму сумленню насупор
Скавалі ланцугом яго,
Зрабілі вязнем гэтых гор...

Калі ж паржаўлены ланцуг
Урэшце трэшчыну дае,
Грукоча зноўку малаток —
Аковы новыя куе;

Так аднаўляецца ланцуг,
Што вісне на руках раба.
Бягуць гады за цугам цуг,
І коціцца зямлі арба...

Калі ж паўстанеш, Аміран,
Як гаспадар і як змагар,
З сябе скрышыўшы лёд і сталь,
Пакажаш сонцу ясны твар?

Каб меч твой промнем палымнеў,
Каб цемру пранізаў твой зрок,

Каб загрымелі высь і дол,
Вітаючы твой спеўны крок!

Каб скаланулася зямля,
Уторачы табе здаля,
Каб зыркія чародкі зор
Сядалі на вяршыні гор,

Каб птушкі славілі вясну
І каб, пачуўшы навіну,
Звінелі ў моры струны хваль,
Нібы пад пальцамі раяль...

Каб з неадольнаю журбой
Той, хто нявінных распінаў,
Маланку ўбачыў пад сабой
І кару грозную спазнаў!

Каб раздрабіўшы молат свой,
З цяжкой паніклай галавой
Дрыжаў ад страху той каваль,
Што вязня закаваў у даль.

## ЗАПАВЕТ МАЙГО ДЗЕДА

Чаму ты плачаш, мой унук,
Што цяжка так гняце цябе?
Павінен мужным быць джыгіт
У радасці, як і ў бядзе.
Джыгіт не мае права ліць
Чуллівых слёз у час бяды.
Трымай напагатове меч:

Ты перад ворагам заўжды.
Дай бог табе, мой мілы ўнук,
Здароўя і нястомных сіл,
Каб бег тваёй удачы конь,
Узносячы да неба пыл!

* * *

Я — тут, а ты — на тым баку.
Нас падзяляе плынь ракі.
Маста няма,— і не кране
Мая рука тваёй рукі.
Мне б дацягнуцца да цябе,
Адчуць сунічных губ агонь.
Ды плынь рачная не дае
Пацікнуць мне тваю далонь.
Не маем лодкі — ты і я.
Не ўмеем плаваць мы, хоць плач.
Не кінуць нам ні высь, ні дол
Выратавальны круг удач.
Чакаю я, і ты чакай
І з воч, як сонца, не знікай.
Не дакрычацца да цябе:
Раве рачная быстрыня
І, рэха ўдалеч несучы,
Глытае покліч мой штодня.
Бягуць няўмольныя гады.
І сумна мне ад іх хады.
З душы пакуты не пазбыць,
Бо разам нам з табой не быць.
Ды хоць не чуеш ты мой крык,
Мне свеціць твой чароўны лік.

## ХІБА ГЭТА МАЛАДЗЕЦТВА

Хіба ж гэта маладзецтва,
Калі дужы ты і ўпарты?
Малайчына —
Той мужчына,
Што чагосьці духам варты.
Хіба гэта малайчына
Той,
Хто кволых крыўдзіць прагне?
Малайчына —
Той мужчына,
Што ў бядзе руку працягне.
Хіба гэта маладзецтва
Біць гвалтаўніку паклоны?
Малайчына той, хто можа
Сябра вызваліць з палону.
Хіба гэта маладзецтва,
Калі ты глядзіш звысоку
На галоднага сабрата,
Быццам ты крылаты сокал?
Выхваляцца фанабэрна —
Хіба ж гэта маладзецтва?
Малайчына той, хто верна
Служыць дзеля чалавецтва.

* * *

Ручай гарэзны з вышыні
Бег у даліну гаманліва,
Ён пераскокваў камяні
І скалы абмінаў гулліва.

Сабе рабіў ён адкрыццё,
Які ён трапяткі і дужы,
І напяваў: — Усё б жыццё
Мне паліваць фіялкі-ружы...
Малодшы брат вялікіх рэк,
Вірую я ў стыхіі воднай.
Не расставацца мне б вавек
З прыродаю — матуляй роднай.

## АЛЕНЬ

Бядуе ў засені алень,
Ён не пайшоў на пашу ў горы
Да тых, з кім разам кожны дзень
Страчаў зару, праводзіў зоры.
Ён страціў рогі ў барацьбе,
Па іх нясцерпна зараз тужыць.
Ён у адчаі і журбе,
Якіх не ў сіле сам адужаць.
Аленям — родзічам сваім
Яму зірнуць у вочы сорам,
Таму пад туманом густым
Хаваецца з няўцешным горам.
Не ведае, няўцямны, ён,
Што рогі вырастуць ізноўку,
Што ў бегу ветру наўздагон
Сустрэне сябра і сяброўку.

* * *

Ёсць у гор багата пекнаты,
Прыгажосць сваю даліна мае.
І дзівосны той парыў святы,
Што да зор душу маю ўздымае.
Свеціцца рупліва мой пагляд
Думкаю, з якой не разлучуся.
Я заўсёды невымоўна рад
Тым, што з марай у жыцці лучуся...
Хоць гняце туга і боль пячэ,
Добра, калі ты ў шляху яшчэ.

## СКАЖЫЦЕ ФІЯЛЦЫ

Скажыце фіялцы чароўнай,
Што з'явіцца ў дзень веснавы
Свавольнік з рукою гвалтоўнай —
І ёй не ўтрымаць галавы.
Жыццё ты прымала, магчыма,
За рай, дзе ні ветру, ні хмар?
І раптам — бяда прад вачыма:
З нябёс бліскавічных удар...
Дык што ж, не ўзыходзіць ніколі,
Пужліва хавацца ў зямлі,
Каб іншыя кветкі ў наўколлі
Пад сонцам раслі і цвілі?
Зямля, я табе даручаю
Фіялку такую, як ёсць,—
Няхай не трымціць у адчаі
Яна за сваю прыгажосць.

## АРОЛ

Хто бачыў гордага арла,
Які ад раны занямог?
Зрабіўшы рэзкі ўзмах крыла,
Хацеў узняцца, ды не змог.
Ён, прыкаваны да зямлі,
Адчуў, што ў бездань лёс вядзе.
І акружала груганнё
Яго, нямоглага ў бядзе.
Яму ўзляцець бы, як калісь,—
Яго абараніла б высь!

* * *

Ішак малы, як і стары,
Асліны мае розум.
З яго ты прыклад не бяры,
Мужчынам будзь цвярозым.
Штодня працуе кожны з нас
Рукамі і нагамі.
Але не шкодна ўсё ж падчас
Паварушыць мазгамі...
Ты побач з сябрам ці адзін,
Не вер мане прайдохі.
Сапраўдны ў свеце той з мужчын,
Хто мысліць хоць бы трохі.

* * *

Кураня каршун панёс
За аблокі — да нябёс.
Горка плача гаспадар —
Не чакаў такіх ахвяр.
Толькі плач або крычы,
Тут няма чым памагчы.
Ды з чаго зусім раскіс
У суседнім лесе ліс?
Што ён думае ў нары?
Паспрабуй ды разбяры!

## Шыо Мгвімелі

### ЗІМА

Вецер дзьме, скавыча вецер,
Як бадзяга беспрытульны.
У згалелым чыстым полі
І самотна, і няўтульна.

Гэта йдзе зіма са сцюжай,
З завірухаю марознай,
І стаяць дубы-асілкі
Нерухома ў позе грознай.

Над усім пануе смутак,
Апусцелі вёскі, сёлы,
Толькі гойсае ў каміне
Аганёк жывы й вясёлы.

Цішыня. І толькі зрэдку
Прамычыць кароўка ў стойле
Ды пранізліва завые
Воўк галодны ў наваколлі.

## ВЯСНА

Сёння першы дзень вясновы,
Пойдзем, хлопча, ў чыста поле,
Паплавы зазелянелі,
Ажывае ўсё наўкола.

Сонца позіркам гарачым
Аглядае лес, дубровы,
Нішчыць рэшткі снегу ўпотай
Сваёй сілаю агнёвай.

Пад кустамі — сіні россып
Першакветкавых пралесак,
Матылёў стракатакрылых
Веснавая куламеса.

Вунь і ластавак чародкі
Над радзімай шчасна кружаць,
Раз фіялкі заквітнелі,
Дык распусцяцца і ружы!

## ЛЕТА

Вось і лета на парозе,
Поле скрозь пазалацела,
Зернем поўнае калоссе
Шыі долу гне нясмела.

Пераліўна, як алмазы,
Бліскацяць на сонцы косы,
І трава сама кладзецца
У пахучыя пракосы.

Свята працы. Нават пчолцы
Паміж кветак не да гуляў,
Цэлы дзень збірае ношку
І нясе ў свой родны вулей.

Пастушок у дудку грае
І ўрачыста, і заўзята,
На зялёны баль — на пашу
Кліча статак свой рагаты.

І пад спеў жалейкі-дудкі
Статак свой хлапец старанны,
Покуль вымі не набухнуць,
Будзе пасвіць да змяркання.

## ВОСЕНЬ

Неба скрозь дажджом набракла,
Чуцен голас ветравею,
Пажаўцелі горы й долы,
Лес дрымотны залацее.

Сонца знікла, толькі хмары
Небасхіл заслалі шэры.
Дзень пахмурны, дзень асенні
Ціха стукаецца ў дзверы.

## ФІЯЛКА

Гляньце вы на гэту кветку
У сукенцы ярка-сіняй:
Матылёў яна чаруе,
Дорыць мёд сям'і пчалінай.

То ўпрыгожыцца прывабна
Напаказ любой нявесце,
То, пакрыўдзіўшыся, знікне
Між кустоў у ціхім месцы;

То галоўку ўзніме горда,
Шыйку выгнуўшы гулліва,
То расой-слязінкай блісне
Свету беламу надзіва.

# Дуту Мегрэлі

## МАЛЕНЬКІ ГРУЗІН

Я — малы грузін, бацькамі
Мне каўказскія вяршыні,
Нават смерць тут не змяняў бы
На раскошу на чужыне.

Картлі, Гурыя, Мегрэлі,
Імерэці і Кахеці,
Гэта — Грузія, радзіма,
Даражэйшая на свеце.

Гэты край — святла пярліна,
Гэта — божай маці мара;
Шмат ён зведаў зла і гора,
Зведаў радасці нямала.

То крышыў заціяты вораг —
Аж дасюль рубцы на твары;
То квітнеў у промнях славы
Ў час Давіда і Тамары.

Я — грузін, сваймy народу —
Сын, адданы ў кожнай справе,
Хай мне выпадзе на долю
І жыццё і смерць у славе!..

## Ірадыён Еўдашвілі

### СЯБРАМ

Гэй, сябры, наперад дружна,
Не кране нам сэрцы боязь,
Хоць адзначан поступ мужны
Нашым потам і крывёю!

Толькі ўперад! Нам прыпала
Ліхадумны час адолець,
І пранесці праз навалы
Сцяг братэрства, праўды, волі!

Хай паганцы сцежкі мосцяць
Да куміра ўзбагачэння.
Плюй на тых, хто пазайздросціць
Зухам сквапным і нікчэмным!

Языкі хай чэшуць марна
Слугачы нажывы лёгкай,
У злараднасці пачварнай
Не знайсці ім век палёгкі.

Зробіць будучыня вырак
Свой суровы й справядлівы:
Іх магілы ўспора пырнік,
След змятуць вятроў парывы.

Не, сябры, такое долі
Нам не трэба. Хай у твары
Вее вецер вольнай волі,
Сэрцы грэе светлай марай!

Дык жа смела ў бойку рушым
З часам крыўды і нягоды,
Праўды й дружбы непарушнай
Сцяг высока ўзнімем горды!

## РАБОЧЫ

Нарадзіўся я ў халупе курнай,
Быў трыснёг калыскай немаўляці,
Рызманы не грэлі майго цельца
У бацькоўскай выстуджанай хаце.

Падпявалі ветры калыханцы,
Што журботна маці мне спявала,
І ад гукаў тых незразумелых
Маё сэрца страх і жаль сціскалі.

О, я й зараз чую песню тую,
Злучаную з ветру скавытаннем!
Толькі марна я дрыжаў ад страху,
Ашуканы цьмяным прадчуваннем.

Скеміў я пазней, што гукі тыя
Апявалі посвістам шалёным
Долю тых, хто пад ярмом жалезным
Шыю гнуць прымушаны да скону.

І цяпер, калі якому пану
Сваім потам паліваю поле,
Чую гук таемны калыханкі,
Што сціскае сэрца вострым болем.

## АЛАЗАНІ

Эх ты, рэчка-сірацінка,
Што празвана Алазанню,
Плешчаш плынню бірузовай,
Скачаш хваляю-джэйранам.

Шэпт асіны, гук чангуры,
Від Гамборы, што сатканы
Дзевай казачнай Этэры,
Бачу ў снах свайго выгнання.

Ды не ўбачу іх наяве
У самоце й паняверцы,
Бо цікуе неспадзеўкі
Час маёй гвалтоўнай смерці;

Бо загіну на чужыне,
У кайданы закаваны.
Не зашэпчуць на магіле
Кветкі-браткі на расстанні.

Хіба што завые злосна
Сівер сцюжны ў голлі гнуткім,
Як бяздомнага нябогу
Засыпацьме снег бялюткі.

То не снег, то маці слёзы,
Для жыцця вясной растануць.
Прыйдзе час — з маімі побач
Лягуць вашыя кайданы!

Хай тады ў бязлюдных пустках
Заквітнее ў красках поле,
Хай джэйран між стромаў скача,
Нібы вецер вольнай волі!

Эх, ты, рэчка-сірацінка,
Што празвана Алазанню,
Шэпт асіны, гук чангуры —
Горкі момант расставання!

# Катэ Макашвілі

## РАМАНС

Хворы я, ў сабе замкнуты,
Ў несуцешнасці ўвесь гіну,
Сэрца ные ад пакуты...
Што рабіць мне, дарагі мой?!

Сілу меў — журыўся мала
І адольваў сум заўсёды.
Сёння ж скруха апантала...
Што рабіць, скажы, мой родны?!

Сэрца я ўвярэдзіў, знудзіў,
Жоўцю горкай струціў жылы,
Схаладзелі, ссохлі грудзі...
Што рабіць, скажы, мой мілы?!

І душы няма спагады,
Доля радасна не клікне,
Што ж рабіць мне, дай мне рады,
Гора горкае, скажы мне!

## БЛАЗЕН

Убачыў я цябе, бабыль, калі ў балоце
Душу хаваў ты... быў пад чорным пакрывалам,
Над галавой чарнелі грыфы у палёце...
Душа — малюсенькае цельца, трапятала!
І я палаў, твае прымаючы пакуты,
Паслаў табе ратунак — лодачку душы,
Закалыхаў цябе я, на руках заснуў ты,
Табе разгладзіў валасы і абсушыў!
Натоўп, на свята склікaны, смяецца,
Ў шыкоўнай зале свецяцца алмазы.
У п'яным захапленні долу гнецца,
Цалуе ў ногі наш магут Армазі!
А я ўбаку, паранены я ў сэрца.
...Я твой пахолак, я твой блазен!

## Эцім Гурджы

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ТБІЛІСІ

Добры дзень, Тбілісі, родны горад мой!
Дваццаць год не быў я, заблуканы, тут.
Да зямлі грузінскай, да вады святой
я прыйшоў, сагнуты ношаю пакут.

Высіцца Мтацмінда, быццам вартаўнік.
Колькі бессмяротных твой хавае схіл!
Да сівых каменняў сэрцам я прынік,
каб малітву ўзнесці каля іх магіл.

Крэпасць наша, слава — ты Нарыкала,
Грузіі аддана бараніла лёс.
Мне турма прытулкам польская была,
і табе, змарнелы, скаргу я прынёс.

Бачу я вялікі наш Сіёнскі звон,—
голас твой мне чуўся ў цяжкі час нягод.
І Кура-сястрыца і браток-Рыён,
я прыйшоў амыцца ў плыні вашых вод.

Картласа нашчадкі, любыя браты,
вы пазнаць павінны, што там ні кажы,
знаўшага няволю, здраду і драты...
Добры дзень! Прыйшоў я, я — Эцім Гурджы!

## КРУЦІЦЦА СВЕТ

Свет ляціць у вечнай крутаверці,
круціцца, нібы ганчарны круг,
не ўцячэ ніяк жыццё ад смерці,
паланіў усё бязладны рух,
нехта аж заходзіцца са смеху,
нехта стогне, а другі — пяе,
той знаходзіць у раскошы ўцеху,
а ў таго — на саван не стае,
нехта рад багатаму пасагу,
і нявеста ззяе пад фатой,
а другому — хлопцу-бедалагу
век не знацца з радасцю такой.
Хрэсьбіны, вяселле, танцаў пошчак,—
радасці да раніцы гусці,
а паблізу ўжо ляжыць нябожчык,
што не ведаў сытасці ў жыцці.
Ды ў зямельку ўсе, як ні хітруйся,
пойдуць: гэта — усяму вянец.
Эх, Эцім Гурджы, і ты рыхтуйся,
бо чакае ўсіх адзін канец!

## Я — ПАЭТ ЛЮБОВІ

Я — паэт, паэт любові,
тку карункі роднай мовы,
вам нясу я ў кожным слове
светлай радасці асновы.
Слова роднае не маніць,
ружы вам кладзе пад ногі,
хто ж любоў людскую ганіц
тым я вораг да знямогі.

Я з мінулага стагоддзя
госцем апынуўся ў гэтым,
словы ў шчырай песні зводзіць —
большай я не знаю мэты.
Не загінуць успаміны
пра мяне, калі я згіну.
Прыхаплю любоў — не кіну
сумаваць, як сірацінў.
Верш хадзіў са мной у людзі,
мне цаны няма — жывому,
а памру, няхай не будзе
слёз і крыўды анікому.
Не прыйду, каб і хацелі,
Я, Эцім Гурджы, нанова —
Хоць нашчадак Руставелі,
брат стрыечны Саят-Нова.

## Аляксандр Абашэлі

### ЛІСТ
### ДА НОЭ ЧХІКВАДЗЕ

Ты зведаў жах Галгофы і памёр...
І вось ляжыш, маўчаннем ахінуты,
І рукі-крылы ўшыркі распасцёр —
На ложку, быццам на крыжы, распнуты.
Ты паміж нас прарокам быў, паэт,
Змагаўся, і гарэў, і прагнуў волі...
І адпалаў. І ўзнёсся ў іншасвет.
І стаў да бога блізкі, як ніколі.
Пакінуўшы паўзмрок зямных пячор,
Ляціш ты ў неруш са святла сатканы,
Лунае дух твой сярод светлых зор,
А на грудзях як зорка — след ад раны.
А можа, і ў святле вышэйшых сфер
Аб прыцемку зямным твой боль і смутак,
Мо незавершаны цябе вярэдзіць верш
І недапітая яго атрута?
Нам пра цябе нат цяжка і ўявіць,
Каб наскі свет так раптам надакучыў,
Каб тое, што смыліць нам і баліць,
Цябе таксама не пякло балюча.
Зірні ж з краіны бляску і святла
На любы край, на слынную Мтацмінду,
Туды, дзе дом твой, бы гняздо арла,—
Навошта ты, арол, яго пакінуў?

Скажы, дзе йдуць цяпер твае шляхі?
Дзе лётае твой дух неўтаймаваны?
Каму цяпер складаеш грозны гімн?
Каго на волю клічаш ты з кайданаў?
О, каб жа сапраўды зірнуў здаля,
З нябеснай брамы, на дзяцей гаротных —
Усмешкамі сагрэлася б зямля,
Не ўбачыў бы ў вачах слязы ніводнай!

Там у святле сліпучым вечных сфер
Аб прыцемку зямным твой боль і смутак,
І незавершаны цябе вярэдзіць верш,
І недапітая яго атрута.
Ты б пекла дасягнуў і здратаваў
Карэннем, што ў зямлю ўрасталі з сэрца,
Калі б табе зламыснік не даваў
Над намі голле вершаў распасцерці!
І зараз кожны, хто ў змаганні згас
І прыйдзе пад шацёр магутных песень,
Пачуўшы звон іх, загарыцца ўраз
І з паняверкі духам уваскрэсне.
Пакоціцца ў працяг тых песень звон
І з гор высокіх зрынецца лавінай
На каламуць і марнасць нашых дзён —
І пойдзе ад грузіна да грузіна!
І змые ўшчэнт наш змізарнелы век,
Дзе мара, як разменная манета...
Ці здолеў большага пад сонцам чалавек?
Ці зведаў у жыцці ён славы гэткай?
І мы гарым у трапяткім агні
Паэзіі — нам іншага не трэба!
Паэзія — у кожным нашым дні,
Нібы дыханне, з намі неадчэпна.
Ды сёння ўсе дарогі — накасяк:
Памёр стары шаіры дасканалы,
А новы не народзіцца ніяк —

Тут згасла вера, шчырасць тут сканала!
Чаму з гары не рыкне бык Важы?
Чаму не гахне гром Бараташвілі?
Чаму не скрышыць голас іх лаўжы
Пустых радкоў — здабычу тлення й цвілі?
Эх, зараз не друкуюцца грамы,
І рык быка даўно звязлі на сметнік:
Замест прарочых слоў каўтаем мы
Нішчымны крупнік паласы газетнай.

## Георгій Кучышвілі

### НА ВУЛІЦАХ ТБІЛІСІ

I

Буду зноў па горадзе блукаць я,
Покуль сон на лаўцы дзе не зморыць.
І прысняцца мне ў гамонцы вуліц
Ружы саду
і маленства зоры.
Ды не дасць забыць жыццё ліхое
Стражнік.
Злосную яго гаворку
Я праз сон пачую,
гляну коса
І, апраўдваючыся,
ўсміхнуся горка.

II

Я свой сум
У вуліц шум
ізноўку
Панясу —
няхай паплача сэрца.
У бадзяннях горкіх тых, бяздомнік,
Недзе, нешчаслівы,
стрэну смерць я.

## ПЕСНЯ

Дзень іскрысты,
Прамяністы!
Грае ў свеце
Зноў вясна!
Луг, палеткі
Ўбрала ў кветкі,
Кліча ўдаль
Усіх яна!

Я іду туды,
Дзе воля,
За дарогу,
За сады,
І са мной
Усюды з песняй —
Сойкі,
Ластаўкі,
Дразды.

Дзень іскрысты,
Прамяністы!
Грае ў свеце
Зноў вясна!
Луг, палеткі
Ўбрала ў кветкі,
Кліча ўдаль
Усіх яна!

## АЎТАПАРТРЭТ

Часта ён
        сядзіць за чаркай, хмуры,
З цяжкай думаю сваёй
        сам-насам,
І няўцям нікому,
        што за буры
У душы яго
        бушуюць часам.
У паэзіі
        радкі літыя
Ён пераплаўляе
        буры тыя!
І яго да п'яніц
        невылечных
Толькі вы
        не залічайце спехам,
Хоць сядзіць за чаркаю
        увечар —
З барадой персідскай,
        з ясным плехам!

# Сандро Шаншыяшвілі

## ЮНЫ ЛЕНІНЕЦ

Сынок, можа, ты даведаешся штонебудзь пра майго Важыка? Цябе ўсе знаюць: падай яму голас. Ён не вярнуўся дамоў з вайны. А дзевяць гадоў таму назад я атрымала ад яго пісьмо. Ваюю, пісаў, на нейкай грамадзянскай вайне. З таго часу я пра яго больш нічога не ведаю: ёсць ён яшчэ дзе-небудзь жывы на свеце ці яго ўжо няма? Увесь час я ўсё чакаю вяртання сына, усе ўжо вочы прагледзела. Праведай пра яго штонебудзь дзеля мяне. Хай беражэ цябе бог!

*(З пісьма маці)*

Зябка... Месяц за акном
Узысці спазніўся
Ці то зноў, як палатном,
Хмаркай засланіўся.
Ветрана. Аж стогне дах.
Рвецца ў двор навала
Бурай, а на варатах
Паміж шул — завала.
Хоць завала — не замок,
А паказчык хвацкі,
Што і двор і ў ім дамок —
Скарб, па ўсім бядняцкі.

Там сядзіць ля камінка
Нейкая старая.
Плача, і штораз рука
Слёзы выцірае.
Год за годам — час бяжыць,
Можна з ліку збіцца.
Ноч. Цяпер бы ёй спачыць.
Ляжа, ды не спіцца.
Што гады, то паўбяды.
Каб былая сіла
У нагах, то, як заўжды,
Маці б пахадзіла
Па ваколіцы і ўсім
Людзям, хто прыстойны,
Гаварыла б: «Адстаім
Мір! Не трэба войны».

А пакуль што час ідзе
Ў траурным убранні.
І яна ўсе дні ў хадзе,
Клопаце, чаканні.
У чаканні дзень за днём,
Ноч за ноччу — ў ім жа.
«Колькі шчэ яго з канём
Мне чакаць? Дваім жа
Усё-ткі жыць было б лягчэй».
Хусткай з воўны белай
Ўкрылася — і ля плячэй
Раптам пацяплела.

«Хоць бы ж раз была мая
Ноч са сном, дрымота».
Чуе: — Мама! Гэта я.
Адчыні вароты.
Я на ветры ўвесь скалеў,
Важыке твой, чуеш?

Дужы сілаю, як леў.
«Скуль жа ты качуеш?» —
Маці думае, а ён:
— Адчыняй, мамуся.
Сын, якога ты здавён
Жджэш, дамоў вярнуўся!

Як хутчэй яна ўстае.
Сэрца аж зайшлося.
«Ну няўжо ў руку мае
Сны? Няўжо збылося?
Чую, сын. Не стукай, ша!» —
І бягом к варотам.
Адчыняе — каб душа.
«Дзе ж ты? Дзе ж ён? Хто там?»
Страх. Дыхання не стае.
Слёз прыток таропкі...
Быў салодкі сон яе,
Ды, на жаль, кароткі.

Покуль сніўся ён старой,
Сын яе адзіны
Біўся з ворагам, герой,
За сваю Радзіму.
Колісь, выйшаўшы з турмы,
Ён сказаў, суровы:
«Ленін — бацька наш, а мы —
Дзеці Ільічовы».
Шмат ён ворагаў паклаў
Шашкай гартаванай
І ў адной з атак прыняў
Проста ў грудзі рану.
Паў з каня, не змог устаць,
Выпрастаўся прама
І адно, што ўспеў сказаць:
«Мама! Дзе ты, мама?»

Ўжо каторы год пайшоў,
Як ён там загінуў,
А чакае ўсё дамоў
З войска маці сына:
«Можа, прыйдзе да сяўбы
Хоць у водпуск з роты?
Я ж гатова ў час любы
Адчыніць вароты».

З гэтай думкай, як відаць,
Нельга развітацца.
Колькі ж маці сына ждаць?..
Ждаць — і не даждацца.

## КАЛІ МЯНЕ НЕ БУДЗЕ З ВАМІ, ДЗЕЦІ

*Дзецям — кветкам камунізма*

Калі мяне не будзе з вамі, дзеці,
Чангуры возьмеце. Чатырохструнны
Ваш сум развее. Так што на прыкмеце
Яго вы майце ды і ўзрост свой юны.

Збярыцеся вакол маёй магілы,
І я ўяўлю: у танцы вы спляліся.
Вясёлы шум ваш быў заўсёды мілы
Старому Сандро пры жыцці ў Тбілісі.

На той сустрэчы, быццам на паверцы,
Пабуду я жывы і шчэ дзябёлы.
Найлепшым помнікам, кажу ад сэрца,
Мне б быў ваш голас шчасны і вясёлы.

Яго пачуўшы, я напалавіну б
Памаладзеў і ўстаў, калі б пачалі.
Мне б ні зямля, ні века дамавіны
Быць разам з вамі не перашкаджалі.

Сляза навернецца, ну што ж, утруся я,
Вы ўсё ж зляцеліся, як птушкі з седала,
І мне падасца там, што гэта Грузія
У вашым вобразе мяне наведала.

## Валерыян Гапрындашвілі

### СКУЛЬПТУРА БЕТХОВЕНА НА ЛЕВАЙ СЦЯНЕ ТБІЛІСКАЙ КАНСЕРВАТОРЫІ

З сценнае нішы ты паглядаеш —
Вочы, бы ў грыфа, львіная грыва.
Грузіі неба ці ўпадабаеш,
Ці ты прызнаеш долю шчаслівай?

Важка кранаеш клавіш каменны,
Гукі, як з пращчы, мкнуць у разлогі.
А верабейкі з тлумам нязменным
Смела паселі проста на ногі.

Оперу ўважыў апекаваннем.
Чуючы басу гром і знадворку,
Ты назіраеш поўні ківанне,
Моўчкі цалуеш згаслую зорку.

Спознены, часам спынюся ціхмяна:
Можа, нарэшце скажаш мне што ты.
Ды, не змяніўшы позірк туманны,
Ловіш ты прагна поўначы ноты.

— Слухай праз гукі хвалебнага хору
Раны, што песню ў сэрцы мне спеляць!..—
Шчыра скажу маўчуну-дырыжору,
Ён, спадзяюся, сум мой раздзеліць.

## ПРАГА ПЕСНІ

Толькі на вершы быў я багаты,
Іншыя скарбы — кволыя цені.
З вершамі птахам стаў я крылатым,
З вершамі зведаў радасць натхнення.

Песню такую прагну я скласці,
Каб з ёю зліцца ў плыні адзінай,
Каб, адпалаўшы, у прысак апасці,—
Гэта і быў бы спеў лебядзіны.

Лёс мой — чаканне лепшае песні,
Трызненняў гэткіх невераемных.
Летам, зімою ці напрадвесні
Жыў я шуканнем кветак таемных.

Досыць пакутай мераць мне крокі,
Дбаць пра надзённы хлеб існавання,
Як у кашмары вогненнавокім,
Рыфмы вышукваць, словаў гучанні.

Досыць — падзенням, досыць — узлётам.
Я да апошняе песні гатовы.
Верш мой друкуюць хай сабе потым,
Як запавету чыстыя словы.

Ціха прамоўлю з болем сардэчным:
— Дык адступіся ж, лёсе мой горкі,
Дасць мне радзіма ўтулак навечна,
Шчыра аплачуць ясныя зоркі.

Песню такую скласці павінен
Я, каб самому вырашыць — годзе!
Веру, што спеў мой марна не згіне,
Жыць застанецца ў родным народзе.

## ПЕРШЫ СНЕГ

А першы сняжок нагадаў мне аб першым каханні
І першай той ночы,
Калі паланёны быў я дазвання
Пяшчотай жаночай.
Хіба мы маглі ў тую ноч адагнаць рэжысёра
З задумай ягонай,
Які аддзяліў нас дваіх ад сусветнай прасторы
Бялюткай заслонай.
Нам нешта фантан на самоце нашэптваў упарта,
І сеці шасцелі,
І снег нерухома стаяў ганароваю вартай
Ля нашай пасцелі.
Не крата́ў ніхто той заслоны, як неба, бязмежай,
Надзеі не звялі.
Ды лебедзяў вецер-свавольнік падняў беласнежных,
Як на карнавале.
І нам з-за куліс уявіліся раптам абліччы,
Усе нас віталі,
Да нашага ложа прыйшла і сама Беатрычэ
Ва ўборы з крышталю;
Яна нервавалася, словы-сняжынкі трымцелі
Няпэўнай парошай.
Ах, першы той снег — ён тады нам наладзіў вяселле
З бязмежнай раскошай.
Які ж ты жаданы, які нечакана гарачы,
Бялюткі снег першы!
Пачуццяў юначых, любові чысцюткай юначай
Бялюткі снег першы!
А першы сняжок нагадаў мне аб першым каханні
І першай той ночы,
Калі паланёны быў я дазвання
Пяшчотай жаночай.

# РЫЁНІ

*Грыголу Тарадзе*

Ты і скакун і барэц-чэмпіён.
Як я люблю твой размах, тваю сілу.
І калыханкі тваёй пераазвон
Чуць бы хацеў, нават лёгшы ў магілу.
Вады тваёй чыстай хапіўшы глыток,
Горы ўяўляючы цэлым сусветам,
Кідаўся я ў твой імклівы паток,
Быццам адны ў нас і мары і мэта!
На галаве меў лазовы вянец,
Хвалі! Вышэй грабяні свае ўзносьце.
Я не баяўся — адважны плывец,
Хмельны ад радасці і маладосці.
Быў я гатовы з табой да канца
Плыць — хоць да вусця ад самай вытокі.
Смела даваў у глыбіні нырца,
Песняй вітаў над табою аблокі.
Так даспадобы былі мне масты,
Я праплываў, нібы рыба, пад імі
І абганяў па дарозе плыты
Ў хуткім парыве, з табой у абдыме.
Успамінаю блакітны паром
І незнаёмку на ім з парасонам.
Пыркі мяне арасілі дажджом,
Закалацілася сэрца шалёна.
Толькі табе я, рака, давяраў
Першае шчасце і першае гора.
Мары таемныя ў шлях выпраўляў
З хваляй, што гэтак спяшалася ў мора.
Рыбы тваёй я не ведаў смачней,
Лепшых частункаў ніколі не меўшы.
Сябрам уважлівым стала ты мне,
Калі чытаў табе першыя вершы.

Запаланілі мяне ўжо тады
Двух берагоў тваіх светлыя чары.
А паміж імі — гуллівасць вады,
Быццам віно маладое — мачары.
Як і раней, ты спяшаешся ўдаль,
Нібы юнак — у сусвет ад парога...
І акрамя тваіх песень і хваль,
Болей мяне не хвалюе нічога.
Я, як да маці, іду да цябе,
Нібы дзіця ў нечаканай нягодзе:
— Дай мне прытулак, суцеш у журбе,
Жыць то пад градам, то ў холадзе годзе!..
О, мая любая, прагну я зноў
Хвалі твае, твае белае грывы.
Як аднаму з тваіх верных сыноў
Дай мне прытулак — і буду шчаслівы!
Неўтаймаваная! Бачыць хачу
Я і цяпер і размах твой і сілу.
Песню тваю не змагу не пачуць
Нават тады, калі лягу ў магілу.

## Іосіф Грышашвілі

### ПРОДАЖ ГЕНІЯЎ
### НА ТБІЛІСКІМ БАЗАРЫ

Пад сценамі Ванкі ў нядзельныя дні
Базар мітусіцца ў брудзе і звадзе.
Там і купіў я шэсць фунтаў кніг:
Шата, Акакій і Чаўчавадзе.

«Я ўласнасць Тэклі» — надпіс такі
Быў на адной з гэтых кніжак рэдкіх.
А на другой — нібы шэпт — радкі:
«Хай Тэргі Іллі пазабудуць месхі».

У трэцяй каханне стагнала ў слязах
Рамэо грузінскага і Джульеты.
Ад чацвёртай ішоў тытунёвы пах —
Тытунь хтось высушваў у томе гэтым.

І я падумаў: а хто ён такі —
Той прадавец? Падбірайла спрытны?
Давіда-рэктара — на кулькі!
На закрутку — том старажытны!

А можа, цяжкі ў чалавека лёс,
Можа, хвароба, пагроза жабрацтва,
І кніжкі сюды чалавек прынёс,
Каб неяк ад нэндзы ўратавацца?

Ды сорам пячэ і згрызота грызе.
Вось куды нашу вялікасць звалілі!
Слава грузінаў на продаж ідзе —
І Інгароква, і Джавахішвілі!..

І сэрца маё адчувае тугу:
Няўжо не пазбегнуць мне гэткае кары
І будуць калісь прадаваць на вагу
Усе мае кніжкі на гэтым базары?

Блукаю па ім, як самотны Шаміль,
І Бесікі верш паўтараю, як рэха,
І сум на душы, як атрутная цвіль:
Няўжо гэта прывід наступнага века?

## ЦІ ПАСТАРЭЎ?..

Хмара бяды з галавой накрыла,
Зніклі апоры з-пад ног — дазвання!..
Ды змог абапёрціся я на крылы
твайго кахання.

Старэю? Не! І вершы — сведкі,
Радок іх дужы.
Не абляцелі ў сэрцы кветкі —
Кахання ружы!

Хто супакоіць вір ля Метэхі?
Хто верш, на вятрыска падобны, спыніць?
Каханне — гэта жыццё, не ўцехі,
мая багіня!

Што сівізна у маёй чупрыне?
Як дрэва крону, нясу чупрыну!
Калі ж каханне наша загіне —
і я загіну...

Старэю? Не! І вершы — сведкі,
Радок іх дужы.
Не абляцелі ў сэрцы кветкі —
Кахання ружы!

## РАЗВІТАННЕ СА СТАРЫМ ТБІЛІСІ

Манускрыпты табе паддаліся —
Цітлы іх ты ўсе растлумачыў,
Ды малюнкаў старога Тбілісі
Ты наяве ніколі не бачыў.

Давялося б табе на світанні
Убачыць вулкі старога квартала!
Піць віно з бурдзюкоў Сірачхані
У час, калі чыануры гучала!

Сапраўды паважаеш ты чаргі?
Старыну адышоўшую тую?
Зразумей жа, чаму, нібы скарбы,
Я вароты Тбілісі вартую.

І чаму асуджэння паэтаў
Мае вершы не сталі баяцца,
І чаму ад мінуўшчыны гэтай
Я ніяк не магу адарвацца.

Не сустрэнеш цяпер, як калісьці,
Незвычайнае гэтай карціны:
На дарозе начной ля Балнісі
На арбах — да світання! — гасціны.

Хто сягоння віна на магілу
Прынясе табе добрую кварту?
Хто пакажа магутную сілу
Барана байцоўскага гарту,

Што прывязаны быў ля духана?
Дзе кінто, што насіў закускі?
Адматлялася, абарвана
Бахрама ад ягонай хусткі!

Дзе кулачныя бойкі? Дзе гульні?
Танцы? Песні?
Мне прыкра і горка:
Не чуваць іх у сённяшнім гуле,
Нават назвы забыла гаворка!..

Вось ляжу на ціхім балконе,
Мара птушкай ляціць у вышыні,
Ранак выбухнуў у бяздонні,
Верш гучыць у маім успаміне.

Нібы рыфму, лаўлю вятрыска,
Каб павеяў матывам дудукі,
Толькі гукі дудукі і блізка
Не пускаюць
жалезныя гукі!

Не дудукі, а коміны зноўку
Завадскія — ў жорсткім сугуччы.
Клетка — моцна трымае салоўку,
Чалавеку — аброць на пачуцці.

Сэрца ў роспачы, і невядома,
На каго мне глядзець як на бога.
Я — Атэла, чыя Дэздэмона
Засталася ў свеце былога...

Ты даруй мне, стары Тбілісі,
Што і сілы, і фарбы не тыя,
Каб уславіць цябе, як калісьці,
Дні апець твае залатыя!..

О, Тбілісі майго ўспаміну,
Час мяне ў невядомае кліча!..
Мой Тбілісі, цябе я пакіну,
Ды твайго не забыць аблічча!

# Галакціён Табідзе

## РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ГРУЗІІ

Рэвалюцыйнай, не бачанай і не чутай яшчэ,
На подзвіг вялікі паўсталай па волі сваёй,
Ідэі, абліччa якой — пералом небывалы,
З цэлым краем павязанай тысячай повязей,
Натхнёнасці масаў, што плынню мільённахвальнай
Цякуць, імкнучыся да новых абсягаў жыцця,
І напорам упартасці трушчаць вароты
Да мільёна новых неабсяжных даляглядаў,
Да разбурэння — але! — да знішчэння старога,—
З замкнутага свету каб выйсці пад новае сонца;
Няўхільнаму кругазвароту кола гісторыі
Рэвалюцыйнае Грузіі,
Валатоўскаму кроку, парыву дзівоснаму
Рэвалюцыйнай, не бачанай і не чутай яшчэ —
Новай Грузіі Слава! Пераўтварэнню — Слава!

## СНЕГ ВЕЯЎ КАСЯКОМ

Снег веяў касяком, снег веяў похілам.
Задумліва, як Дзікенсаў герой, як помню я,
Сяджу і думаю — вось-вось патухне полымя —

Акно ўразнасцеж: снег і касяком і похілам.
Рассыпаліся думкі белыя астылым попелам...
Не гасні, светач мой... Там, у душы, таксама...
Снег веяў касяком, снег веяў похілам...

## НІКОЛІ ДОЛЯ НЕ БЫЛА ТАКОЙ ХІМЕРАЙ

Ніколі доля не была такой хімерай
Да дня, калі на плаху ўсклалі Рабесп'ера.

Скала і хваля йшлі імклівым бурным валам,
Калі труба з Парыжа гімн свабодзе грала,

Калі, як цень, хімера выцягнула морду
Да бушавання гневу, да людскога сходу,

Калі з Егіпта з хітрасцю хамелеона
К Парыжу падбіраўся шал Напалеона.

Ўсё знікла, і свабода, знішчаная ўсуе,
Дачасна з часам болей не фліртуе.

## І Я ЛЮБОЎЮ, МАРАЙ АПАНТАНЫ

Стаміўся і алень той горды мой.
І я любіў, як Дзікенсаў герой,
Каля агню віно піць у задуме
Пра полымя, што ў сэрцы не патухне.

Збылося колькі дум; і ў сэрцы хай
Ад стрэл любові не астынуць раны,
Затое зноў садоў дзівосных май,
І я любоўю, марай апантаны.

## ГЭТАЙ ЦЁМНАЙ НОЧЧУ

Гэтай цёмнай ноччу ў Грузіі вандруе хтосьці,
Гэтай цёмнай ноччу чую стогны.
Памянём яго ў апошнім нашым тосце,
Памянём заздравіцай яго мы.

Гэтай цёмнай ноччу — толькі бубнаў шолах,
Наплываюць слёзы мне на вочы.
Паліловіў горныя вяршыні золак...
Ён жа... стогне, стогне ў змроку ночы.

## ЗНОЎ ЭФЕМЕРА

Што калыша кіпарысам веццe,
Шоламам чаму дыхнула ціша?
Ветру больш няма, а гэта ж вецер
Шаты кіпарысныя калыша.

Цеснай клеткаю стаў нуд мой млосны,
Непраглядны, як ліхая хмара.
Толькі цераз выраст свой вынoсны
Гнецца і ламаецца чынара.

І паэт — што гэтая чынара,
Вышыня — абсяжнасць яго лёту;
Гнецца гордай галавой ахвяра
Злоснага варожага паклёпу.

А як горда ён ідзе па свеце!
Чуе ўсё, чым таямнічасць дыша.
Ветру больш няма, а толькі ж вецер
Шаты кіпарысныя калыша.

Францыя — Верленавай каханкай,
Мараю была, першапрычынай;
Раптам уварвалася маланкай
У яго прыгожы сон жанчына.

Дэманам спалоханым, віхурай
Полымя навокал бушавала,
А ў душы яго жанчына бурай,
Нібы апантаная, крычала.

Кінуўся, як дзікі конь, з вяршыні
І не выплыў з прорвы агнявое.
І не плакалі па ім жанчыны,
Не ішлі маўкліва за трунoю.

О любоў — марская шумавіна!
Дайце веку меч, маланку, камень —
Эпітафію стварыць: «Жанчына
Ўверглася ў жыццё яго каханнем».

Паганіні... Нерат ночы п'янай...
Чашу поўную бярэ маэстра...
І надзеяй светлай фартэп'яна
І валторна вырваны з аркестра.

Скрыпку ён бярэ: і вось палацы
Ў высях з гукаў струн, навідавоку —

Мкне ў прасторы свету на маланцы
І легендай чуецца здалёку.

Не! Надзеяй лёт іх не спавіты,
Толькі мільгацяць жанчыны-цені.
Плачуць з музыкаю хрызаліты
Ў іх вачах пяшчотна-летуценных.

Летуценнік, ружы ён прымаў і буйства
Сэрца не хаваў за славай зорнай,
А не ўбачыў трэснутага люстра,
Безнадзейнасці ў пустой грымёрнай.

Ў час, калі заводы пырпчуць слінай,
Дант — Верхарн, вяшчун эпохі новай,
Верш сплаўляе з вогненнай машынай
І жалезным, магнетычным словам.

Колы круцяцца, мацнее рокат,
Пара свішча ў грукаце і ў гудзе.
О Верхарн — чуваць іх дзікі рогат —
Хіба нам супыну ўжо не будзе?!

Час настаў, жалезная геена
Патрабуе пэўнасці, нібы забойства.
Хуткасць — большай хуткасці замена,
Хто адстаў, той пакараны жорстка.

І сканаў у вогненнай агоніі
Той, хто пульсам быў эпохі бурнай,—
Толькі іншай славай лёс ягоны
Загучаў на трапезе хаўтурнай.

Дастаеўскі... Стоpазовай страты
Крыж твой варты і твае пакуты,
Цёмнай ноччу, дэспатам праклятый,
Ты чакаў апошняе мінуты,

Ка́та ў вязніцу сваю на госці...
Ды каштоўней і глыбей за гэта
Засталося нам на памяць штосьці
Ў рысах векапомнага партрэта.

Ён сваёй не пераважваў шалі
Ў міг, калі на прасвятлелым твары
Цені смертнае тугі блукалі.
Што ёсць смерць? І што ёсць мера кары!

З эшафота ён глядзіць дагэтуль
Стылымі вачыма ў далеч свету...
Што ж яшчэ дадаць яго партрэту? —
Ветру ж больш няма... Застылась ветру...

## КАЛІ СЫН АРЫСТЭЕЎ АКТЭОН...

Калі сын Арыстэеў Актэон
На паляванне пушчаю ішоў,
Ён белую убачыў Артэміду,
Яна купалася з чародкай німфаў
У крышталёвых водах Парфенона.
Спыніўся Актэон, памерклі вочы —
Заваражыла Актэона дзіва.
Але яго ж багіня й пакарала,
Ператварыўшы ў статнага аленя;
Стаў Актэон ахвяраю сабак,
Яго свае ж сабакі разарвалі.
Галакціён, цябе ўвесь век карае
Любоў твая, нібыта Актэона.
Табой дрэсіраваныя сабакі
Цябе абрэхваюць з усіх падклеццяў.

## ДРУГІ, ТАЕМНЫ ВОБРАЗ

Апоўначы, ў гадзіну страшнай адзіноты —
Перада мною вобраз мой другі, таемны.
Спаткаўшыся, стаім з вялікім хваляваннем:
Бясклопатна пажыць — намер мой быў дарэмны.

Перада мной мінулае ў патоку дзён
Марноту барацьбы нагадвае здавён.

І ў гэты час бязмежнай прагну я свабоды,
Каб не стаяла поруч божышча пакуты,
Каб не ганяў мяне мой вобраз выкрывальны,
Каб сам з сабою быў заўсёды я і ўсюды.

## ЖЫЦЦЁ МАЁ

Жыццё маё — нібы празрыстае віно,
Іскрыцца да апошняй кроплі ў чашы гэтай,
Мне спадчынаю з ім дастаўся німб паэтаў,
Бяссмерце без яго — навошта мне яно?

І дзень за днём снуюцца сонмы дзён чароўных,
І не абрыдне мне бяседны кубак поўны —
За вас, каму паэзія — забава ў меру...
З мінулым пэўны я і ў будучыню веру.

## СТАРАСЦЬ

Пакінуты я рыфмаю старою
(Ў сябрах былых праглядваецца здрада),
І хоць любіў я ваяваць з хандрою,
Як мне цяпер яе адолець — ката?

Эх, каб жаночае праклянцце — старасць
Рукой адвесці мне, як думкі тыя?
Пасля дажджу зноў прыйдзе дождж на
радасць
І ўсе трывожныя маркоты змые.

## СНЕГ

Люблю ліловы карагод снягоў,
Цнатлівае сняжынак рассціланне
І холаднасць вільготную яго,
Трывалую цярплівасць у каханні.

Краса! Душа заснежана мая,
І дні бягуць, старэю і сівею!
Таптаў блакітную пустыню я
І жыў у сібернасці снегавею.

Жыццё маё такое, што я — брат
Сцюдзёны студзеню, заледзянелы,
Але я вечна помніць буду рад
Крананне рук тваіх сняжана-белых.

О любая, бяссільнасць рук тваіх
У лаўрах снегу... бачу раз каторы —
Мільгне і знікне, зноў мільгне на міг
Твой вэлюм белы ў снежна-сінім моры...

Таму й люблю ліловы рой снягоў
І з моста ў рэчку плаўнае падзенне,
Тужлівы лёт, задыхлівасць вятроў
І касачоў блакітнае цвіценне.

Снег падае!
І ў гэты снежны дзень
Я стомлены, я сінім сном замецен —
Хай раптам гэты холад прападзе,
Хай раптам абміне калючы вецер!

Дарога ёсць!
І ёсць жыццёвы тлум,
І ты ідзеш у ім адна, як болесць!
Я снег люблю, як прыхаваны сум
У голасе тваім любіў я колісь!

Як я кахаў, як ап'янялі мозг
Крыштальнасць белая, спакой, надзея,
Травінкі ў валасах і лёт валос,
Калі сама ты з вецярком ляцела.

О, як табою мрою! Так жытла
Жабрак бяздомны ў холад прагне часам.
За мной лясоў заснежаных імгла —
І я адзін з сабою тут сам-насам.

Снег падае!
І ў гэты снежны дзень
Я стомлены, я сінім сном замецен —
О, хай жа гэты холад прападзе!
О, хай жа абміне калючы вецер!

# БЛАКІТ
# АЛЬБО РУЖА Ў ПЯСКУ

О царыца Марыя, прачыстая дзева!
Быццам на мокрым пяску шыпшына,
Воля мая парыванням да неба
У блакітную далеч шляхі пралажыла.

Морак на горныя прорвы асядзе,
А як асветліцца золкам каменне,
Бессанню стомлены ў п'яным чадзе
Блудны твой сын прыпадзе да каленяў.

Зморены чадам пахмелу, ў бяссонні
Я прыхілюся пад брамаю ўпотай,
Промень пранікне ў святыню Сіёні
І азорыць аблічча тваё пазалотай.

І скажы тады: «Вось я, твой лебедзь,
Ранены ў райскім садзе, ў галечы —
Цеш свае вочы, спяшайся ўгледзець
Стомлены твар мой, бяссільныя плечы.

Цеш свае вочы ў маім паглядзе,
Што красаваў колісь кветкай радасты;
Бессанню стомлены, ў п'яным чадзе,
Ён цяпер ззяе слязамі помсты.

Цеш сваё сэрца! Маё знемагае
У крывадушнасці, фальшы, падмане;
Здзіўленая душа памірае,
Як матылёк, у цябе пад нагамі.

Ўся асалода мая — у хімеры,
Шчасце душы маёй доля падсекла,
Быццам з раю выгнаны Аліг'еры,
Я цяпер кінуты ў багнішча пекла.

Так вось і я: калі подых апошні
Раптам павее на клятае шчасце,
Я не ўспомню цябе з уздыхам набожным
Перад горкім сваім прычасцем.

Я складу рукі, і ў зарападзе
Шпаркія коні памчаць да схілу —
Бессанню стомлены, ў п'яным чадзе
Сам адыду я ў сваю магілу.

О царыца Марыя, прачыстая дзева!
Быццам на мокрым пяску шыпшына,
Воля мая парываннім да неба
У блакітную далеч шляхі пралажыла».

## АПОШНІ ЦЯГНІК

Як калясніца лёсу і жыцця,
Вось-вось цягнік адыдзе; разам з ім
Мая надзея з'едзе і душа,
І зорка долі прападзе за ім.

Я знаю, як назваць такі ад'езд,
Ды, словы-назвы, мне ўжо не да вас...
Няўжо такі ад цягніка чакаць
Мне слоў уцехі і спагадных слоў?

Цягнік — як лава сонная, стаіць.
Цягнік — адыдзе ён праз пяць хвілін.
І вось ужо развітвацца пара.
Цягнік — адыдзе ён праз пяць хвілін.

Вось колы зрушылі — і ляск і звон,
Бягу я ўдоўж вагонаў, душыць плач.

На векі вечныя цяпер бывай!
Бывай на векі вечныя, паплач!

О госпадзі, за што такі мне лёс —
Штогод надзею новую глуміць!
Чаму наканавана, каб паэт
Развітвацца вучыўся ўвесь свой век?

* * *

Мора начное — ў расхлістаным шале —
Бедная багна жудасцю грае.
Быццам сабакі, грызуцца хвалі —
Во дзе свабода іх кручанай зграі!

Дужае пнецца, малее слабое,
А без цябе ўсё адно мне, ўсё роўна.
У гэтым сціску, у гэтым разбоі
Я — пасярэдзіне, дзе нерухома.

І не шкадуйце мяне... Крутаверці
Склаў я даніны журботнай занадта...
Не да свабоды быццам — да смерці
Мора панесла вечнага Чайльда.

Злосцю я змучаны, злосцю пануры!
Хвалі спагады глыбока запалі...
Славіў я волю, славіў і буры,
Толькі не гэтую! Чуеце, хвалі?

Як разгуляецца злосная сіла,—
Тут усё й скончыцца рабскай пакорай.
...Ты б гэту буру ператварыла,
І я абняўся б з шалёнасцю мора!

# Тыцыян Табідзе

## АЎТАПАРТРЭТ

Профіль Уайльда... Пад люстра аправаю,
Бачу інфанту светлавалосую.
Вусны ад вуснаў — робяцца млявыя,
Кудзераў хвалі апальваюць россыпам.

Рукі дрыжаць, гэтак прагна гартаецца
Томік Маснэ, дзе паэзія страсная —
Ёю праменна душа загараецца,
Просіцца ў вершы святло непагаснае.

Нібы ў Багдадзе прытомлены дэндзі,
У халаце, як пашá-эфендзі,
Зноў перачытваю Малармэ...

Хай сабе грозіць нягода ліхая,
Я на паводдзі жыццё ўтрымаю,
Раем каб стала ў пякельным ярме.

* * *

Не я свой верш пішу... Ён, як аповесць, піша
Мяне,— так жыць пільнуюся найперш...
Што верш? Абвал снягоў. Дыхне. Садзьме—і ціша...
Жывога ў дол сапхне. Вось што такое верш.

З пялёсткавых завей мой красавік пачаты,—
Я нарадзіўся ў дождж, як яблыні цвілі,
Сады ад тых дажджоў слязьмі былі багаты,
І слёзы да вачэй здалёку падплылі.

Я знаю, што памру, ды калі зрок бяссонны
На вершы спыніць хоць які паэт,
Устане на маю, напэўна, абарону,
І не загіну я, мой не сатрэцца след.

Пасведчыць ён, што быў хлапчына нехлямяжы
З арпірскіх берагоў, дзівак — радкі збіраў,
Яны за харч былі на ўсіх шляхах бадзяжных,
І кроку аднаго ад іх не адступаў.

Зямля грузінская і сонца твар агністы
З пакутаю яго вялі за далягляд,
Для іх ахвяраваў ён шчасцем асабістым,
А вершам шчасце даў, хоць, можа, і не шмат.

Не я свой верш пішу. Ён, як аповесць, піша
Мяне,— так жыць пільнуюся найперш...
Што верш? Абвал снягоў. Дыхне. Садзьме — і
ціша...
Жывога ў дол сапхне. Вось што такое верш.

## З САГАНЛУГА

Штосьці Кура свой лагодны прыцішыла голас,
Толькі пад Метэхі трохі шуміць на лагчынах,
У плытагонаў, напэўна, лучыну пакралі анёлы,
І на плыце аблачын поўня, як быццам жанчына.

Хлопчык-татарын прыгоніць аслоў з Саганлуга,
І агароднік пагоніць пустыя драбіны,
Хто папікне мяне, з тых жа дарог валацугу,
Што за вялікім сучаснікам следам я рыну?!

Што ў мяне ёсць, што я меў і што будзе надалей?
Нібы гара безраслінная Шаўнабада,
Стаў бестурботны, адно толькі сэрца мне паліць —
Долы Крцанісі і поруч са мной Марабда.
Помста лезгінаў усё тут разрабавала,
І пашчапаным надтруннем стаіць Нарыкала.

Ноччу спакойна. Кура свой прыцішыла голас,
Толькі пад Метэхі трохі шуміць на лагчынах,
У плытагонаў, напэўна, пакралі лучыну анёлы,
І на плыце аблачын поўня, як быццам жанчына.

## ДАБРЫДЗЕНЬ РАДЗІМЕ

Калі ты брат, заспявай мне што роднае,
Нізка зямлі я схілюся і ўкленчу.
Слаўлю, жыццё, тваю слодыч нязводную,
Твой я, з табой застануся навечна.

Віны мухранскія, хто даў вам колеры?
Зазеляніў над Арагві пракосы?

Скрозь абысці нават сонца не здолее
Ніўны абсяг залатога калосся.

Хоць і памрэ нетутэйшы, дык што яму,—
Пойдзе і знікне, як сон паміж дрэваў,
Мне ж як сказаць, што гарамі затоена,
Што з недаросткаў вырошчвае дэваў.

Дзе тут нарэшце мяжа вінаграднікам,
Хто насадзіў столькі лоз у далінах?
Лепш мець радзіму зусім непаглядную,
Чымся ў такой чараўніцы быць сынам.

Што з маёй Грузіяй можа стаць поручкі,
Дзе так пякуча гараць далягляды?
З неба ссыпаюцца зоры і зорачкі,
Хто дзе жыве ў гэткіх райскіх прысадах!

Я нарадзіўся з душою адданаю,
Ношу салодкую ўзяўшы на плечы.
Дай мне дабрыдзень, жыццё незраўнанае,
Мы застанемся з табою навечна.

## СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЯ ВАНДРОЎКА

Усюды май — самы лепшы месяц,
Але ў Батумі — зусім адменны:
Батумскі май нам зямлю нявесціць
Красой бязмежнай, красой імгненнай.

Спачыла мора на ціхіх крылах,
Як не было там вірлівых плыняў,

А неба раптам сем брам раскрыла,
Абняўшы мора вясёлкай сіняй.

Тут парасонам шапоча пальма,
Вабяць заслоны белых ірысаў,
Ад белых руж асняжэлі далі,
Нібыта лебедзь упаў і разбіўся.

Насцеж адчынена брама раю,
Я ж без цябе тут, мне брыдка гэта,
На адзіноце вясну гукаю:
Аддаў край светлы сваім паэтам.

Чароўны край — як Эдэм праўдзівы,
Няхай бы ў ім не жылі жанчыны!
За брамай бачу райскія дзівы,
І горка мне без цябе, адзін я...

## РЫА-РЫА

Пяючы, лёгка крочыць пуцінаю
І аб Грузіі марыць спакусна.
Неабструганая чараціна я,
Што спявае без дотыку вуснаў.

Калі б меў я хоць тысячу сэрцаў,
Я ўсю тысячу разам бы вырваў,
Толькі б смутак з чала твайго сцерці,
Толькі б поўніла бедную ліру.

А жалейкі гудуць і спяваюць,
І ўтуруюць ім Гурыі горы.

З гэтай песняй і рай я прымаю,
І за пекла не кіну дакору.

А што больш ад паэта вам трэба,
Што чакаць ад яго па сумленню?
Жменю куль мне сыпніце пад рэбры,
За айца свайго ўзняўшы маленне.

## ВЕРШ, ЯКІ ПАВІНЕН БЫЦЬ ПРАЧЫТАНЫ Ў МУХРАНСКАЙ ДАЛІНЕ

Мухранскія долы зіхцяць зелянінай,
З'явілася ластаўка ў родным гняздзе,
І стронга рве нерат, каб марна не гінуць,
Над Белай Арагві плынь Чорнай гудзе.

Гара за гарою, абвал за абвалам,
Адліжнай вадой залівае мяне,
На слёзы і Церака зараз не стала б,
Калі б нават быў ён і двараз паўней.

Лезгіны укралі мяне з Ламіскана,—
Я — Гурамішвілі — палонны здавён.
Са свету нясу я ў падземныя станы
Адно хіба шчасце — радзімы паклон.

Нашто пераводзіць чарніла з азёраў,
Вастрыць чараціны заместа пяра,
Калі цябе сонца не грэе, а хворасць
Калоціць душу і трасе песняра.

Схапілі Мерані, скрывавілі горла,
Натхнёнаму вершу паблыталі шлях,
Але ён праломіць загаты і горда
Падковамі бразне далёка ў гарах.

З нябёсамі неба, ільды з леднікамі
Злучаюцца, і вылятае мой верш,
Што можа зраўняцца ў палёце з арламі
І па-над Мухранскай зямлёй ажыве.

## МЯНЕ РАЗБОЙНІКІ ЗАБІЛІ НА БЕРАЗЕ АРАГВІ

За плячыма краіна чэркесаў,
Прадчуваецца блізка Дар'ял,
Церак высах, ды з шчыліны цеснай,
З кроплі рынецца ўспенены вал.

Мне на голаў упалі нябёсы
І зямныя нябёсы — ільды,
Хоць Дар'ял заўладаў маім лёсам,
А ў вачах — Церак слёз і жуды.

Бачу бездані страшныя прорвы,
Вось-вось Дэман мяне дажане —
Ён жалезнаю мышцай пабора
І вяроўкаю ўдавіць мяне.

Гэткі лёс на дарозе чакае,
Я, няйначай, яго заслужыў,
Не лічы ты мяне пустабаем,—
Я стаю на апошняй мяжы.

Моцна вабіць у змрок гэты шэры,
Кліча дно страшных прорваў крутых...
Але, Евы дачка,— з недаверам
І на гэта ўзіраешся ты.

Я хачу быць адважным, як Мцыры,—
Вочы барса згасіць аб уцёс,
Я табою напоўнен так шчыра,
Што раблюся патокаю слёз.

На дарозе самотным бадзягам
Я ляжу, падплываю крывёй,—
Я забіты ў даліне Арагві,
І не ты вінна ў смерці маёй.

## НА ГАМБОРСКАЙ ГАРЫ

*С. Шаншыяшвілі і Г. Леанідзе*

Уджáрму пакрышыў стагоддзяў гром,
Але ў адломках ты, гара, жывеш.
Браты мае, хаця б дакуль жывём,
Любові нашай пратрывае верш.

Такая, мусіць, ноч была тады,
Калі Вахтанг пачуў з нябёсаў звон,
І сёння ў небе плача праз гады
Пшавелы залаты рададэндрон.

На тары грае музыкант свой час,
І «Суліко» Акакія пяе.
Каханне нас адведвала не раз,
Але заўжды яго нам не стае.

Усходні спеў свой праспяваў ашуг,
Час нашай тройцы песню пачынаць,
Ды чэзне слова — не разварушу,
І разам нам мелодый не звязаць.

Ніно, Меліта і яшчэ Зенар —
Жанкі Кахеціі — павабны сон.
Тыгр стаў жанчынай, проста ў рай яна
Вядзе праз мост, сатканы з валасоў.

Як малако ад матчыных грудзей,—
Такая ноч салодкая — для стрэч.
Гушкае Йоры чараду надзей,
І Гаргасал на месяц вострыць меч.

## АКРАКАНА

Брэшуць сабачкі на месяца поўню,
Месяц паволі сыходзіць доле,
З лёсаў абралі зоры — вандроўны,
З неба маланкамі слацца на волі.

Брэшуць сабачкі з нейкай напасці,
Сон не ідзе да вачэй трывожных,
Хочуць сабачкі мой сон украсці...
Што ж у мяне яшчэ ўкрасці можна?

Месяц паволі сыходзіць доле,
Ён засланіў руіны Кароглі,
Горы клыкамі Тбілісі колюць,
Шчыт абарончы ўзнялі над парогам.

Ты дарагі мне, як родная маці,
Сэрца маё ты параніў, Тбілісі,
Верным сабакам буду ўслаўляць я
Твой сонцаўсход у гарыстым абрысе.

Бачу я браму тваю з Акраканы,—
Радасцю жылы мае наліліся: —
Доля шчаслівая мне даравана —
Быць абаронцам тваім, Тбілісі!

## КАЛЯ АНАНУРЫ

Ты не павінна быць тут, а здаецца,
Пад Анануры бачу вобраз твой.
З Арагві Чорнай Белая ліецца,
Мяне ж хацелі разлучыць з табой.

Не знаў цябе, не сустракаў нідзе я,—
Тамару некалі так Врубель уяўляў —
Ты Модзі-нахе — цытадэль надзеі,
Ты воблак, што плысці ўгары прыстаў.

І так пяшчотна гэтая прыгадка,
Нібыта дотык дэманавых крыл...
Аленіх ног, як у цябе, дзяўчаткам
Няхай бы лёс паболей надарыў.

Хай іх паэты ўсцешацца таксама,
Гасцінна кліча ў заўтра іх жыццё,
А нашы мары у жалобных рамах —
Ім суджаны суцём і забыццё.

Нібыта стронга, між камення б'юся,
І шчэлепы парваныя ў мяне,
Націснуты курок, і згуба, мусіць,
Мае душы сягоння не міне.

І быў за сведку змрочны Анануры,—
Так паміралі як стаіць сусвет,
І ў тым, што калышу свае хаўтуры,
Ёсць і цана таго, што я паэт.

## АРПІРЫ

Дваццаць гадоў нібы толькі у сне былі —
Помню, на дворыку лежачы, марыў,
Сніцца і зараз юначае неба мне,
Даль, што жыццё не кранула пажарам.

Як Саваоф — Накерала пад зорамі,
Плынь Чаладзідская сонца украла,
Сукня Тамары трызніцца узорная,—
Колькі гадоў, колькі рук вышывала!

Імем высокім тваім, Руставелевым,
Я не адзначан, хоць мары не гінуць,—
Тут, у цяньку, анічога не дзелім мы,
Лісце на дрэве цяплей за жанчыну.

Неба высокае ў муках расплаўлена,
Зорак зіхценне лядзянае льецца,
Сёння радкі прайдзісвецтвам прыпраўлены,
Сэрца ж маё, як і некалі, б'ецца.

5 Зак. 1315

І чым прасцей гэта зложыцца, збаецца,
Сэрцу дагодзіць ласкавая мова,
І ўжо ў грудзіне начы не змяшчаецца
Яблыня ў цвеце раскошы вясновай.

Неба барвовае, неба стракатае —
Вецер усходзіцца з гор перакатамі.

# Паола Яшвілі

## ТБІЛІСІ

На Мамадавіцы ўзлячу за імгненне,—
Душа там прытулак знайшла ў цішыні.
Хачу перад вамі я стаць на калені,
Тбілісі і сонца, каб лепш з вышыні

Убачыць мой горад, шчаслівы і шчодры,
І сонца, і буйныя зоры ўначы,
І ясную далеч, каб слухаць акорды,
Якімі бяздоннае неба гучыць,

Убачыць арбу і духмянае сена,
Даўгія плыты на заломе ракі
І белыя сосны,— нібы да калена
Пасталі ў Куры маладыя жанкі.

Гудуць твае вуліцы і тратуары,
Стракатыя плошчы начамі не спяць,
Узвышшы дымяцца блакітнаю парай,
Навокал чыгунныя горы кіпяць.

Я вершы, нібыта крывавыя росы,
На твой пакладу недасяжны парог,
Мой горад любімы, мільённагалосы,
Сталіца паэтаў і творчых трывог.

# Я ВЕРНЫ САБЕ

Маланак стрэлы між хмар імглістых
І горкі лівень — не перашкода
Звярнуцца з просьбай, паслацца лістам,
Каб слова з вецціем з'яднала згода.

Я так скажу ім: хай ноч злуецца,
У гром і ў лівень не замаўчу я,—
І зноў з галінкі лісток праб'ецца,
Як толькі голас і верш пачуе.

Калі з прадвесня да скону лета
Гамоняць словы чмяліным роем,
Няма, Прырода, вышэйшай мэты,
Чым увасобіць усё жывое.

Зямля, дай сыну пяро паэта,
Каб стала праца натхнёнай звычкай,
Твой сын павінен пацвердзіць гэта,
Каб іскры боскай не згасла знічка.

Зямля, Радзіма, ты маеш сілы
Дайсці праз штормы дарогай роўнай
Да залатое адвечнай жылы
І да жывое крыніцы моўнай.

Прадвесне служыць душы і славе.
Каб згінуў вораг,— я верны другу,
Я верны слову, а значыць — Справе,
Як сейбіт верны сяўні і плугу.

## НОВАЯ ГРУЗІЯ

Вароты Азіі. І горы, і даліны,
Сады і ў буйных росах сенажаць.
Як сцягі, пасівелыя быліны
Пра вашу славу з веку ў век шумяць.

О Грузія! Ты разарвала путы
І ворагаў не пацярпела ты.
Глядзела неба на твае пакуты
І столькі адпусціла пекнаты!

Ты застанешся вольнай назаўсёды!
Паўзлі іранец, рымлянін, абрэк,
Ты ўсе адбіла штурмы і паходы,
Адбі замах і ў наш суровы век!

Гарачых коней, стрэлы, патранташы
Хутчэй рыхтуй на справядлівы бой,
Каб забяспечыць будучыню нашу
Братэрствам, дружбаю з чырвонаю Масквой.

Вароты Азіі! І горы, і даліны,
Сады і ў буйных росах сенажаць.
Як сцягі, пасівелыя быліны
Пра вашу славу з веку ў век шумяць.

## З ЛІРЫЧНЫХ АДРАСОЎ

Я дагэтуль такога кахання не ведаў яшчэ,
Што трывожыць на золку, што будзіць уночы.
Я шукаю цябе. Боль мне сэрца пячэ,—
Што кахаю, засведчаць іскрыстыя вочы.

Я разгублены: глупства за глупствам раблю:
Гэта — ты, гэта — ты. За табою адною сачу я.
Памыляюся часта, бо шчыра да болю люблю,—
Кліча нехта, а я анічога не чую.

Неспакой мой не можа развеяць нішто,
Бо з'явілася ты на парозе трывог і сумнення.
У мяне галава сівізной серабрыцца густой.
Не турбуйся,— яна асвятляе сумленне.

Трыццаць сем прамінула суровых гадоў.
Будзь са мной, як мастак з неразлучнаю музай.
Я твае спадзяванні апраўдваць гатоў
І засведчыць любоў неразрыўным саюзам.

Хай цябе не турбуюць дакоры віны.
Я баюся маўчання, а трызніцца часам у гуле
Набліжэнне пачвары жахлівай вайны
І атрутнае джала мне ў сэрца нацэленай кулі.

## САБЕ САМОМУ

Сядай, намалюй, напішы
Пра ўсё, чым жывеш, па парадку,
Паперы часцінку душы
Давер, і ўсё скажаш нашчадку.

Ад тлуму пазбаў свае дні,
Ад пены і едкага пылу,
Правер свой радок на агні,
Ці мае ён пэўную сілу,

І слоў не марнуй, не маўчы,
Нясі іх, як поўную чашу,
Сугуччамі сам падлічы
Ты ўсю непатрэбшчыну нашу,

А словы, як стрэлы душы,
Да мэты пускай у натхненні.
Сядай, намалюй, напішы
Пра славу свайго пакалення.

Пішы, каб не быць у даўгу.
У светлага дня, што надыдзе,
Пішы пра варожы разгул,
Пішы пра расстрэл Джапарыдзе.

Кахецii мусіш паслаць
Радкі на крылатым Мерані
І вочы усім развязаць
На подзвіг Дадзешкіліяні.

Сядай, намалюй, напішы,
Даверся сардэчпай парадзе,
Паданне вякоў давяршы
Паэмаю пра Саакадзе.

Нягодніка словам удар,
Здымі з яго брудныя стружкі,
Будзь песень і дум уладар,
Каб стаў зразумелы нам Пушкін.

Чакае народ ад цябе
Натхнёнага, шчырага слова.
Не падаць з каня ў барацьбе
Ён вучыць цябе адмыслова.

Пабачыш, як смелы радок
Удзячныя людзі сустрэнуць,

Вітаючы цвёрды твой крок,
Букетамі ўсцелюць арэну.

Сядай, напішы і натхні
Сумленным радком, прамяністым
І станеш раднейшым з радні
Архвацкім усім пандурыстам,

Каб песня ляцела ў прасцяг,
Каб неба і горы гайдала,
Каб кожнае слова, як сцяг,
У дні перамог узнімала,

Каб сэрца паходняй было
У змроку і ў лютыя зімы,
Каб кніг непагасным святлом
Магла ганарыцца Радзіма,

Каб кожны старанны чытач
Быў з кнігаю з ранку да ночы
І, скінуўшы горыч няўдач,
Прымружыў стамлёныя вочы.

Калі дасягнеш ты ўсяго
З уласным сумленнем у згодзе,
У лёса прасі аднаго —
Застацца навек у народзе.

А вораг, як пошасць, паўзе
І сыкае кожнаму ў вочы:
«Пісаў вось, але балазе
Памёр, як звычайны рабочы».

## ПАЭЗІЯ

Лепш вар'яцтва, чым слоўнае згіне багацце,
Лепш аслепнуць, чым сонца хвалой не сустрэць,
Калі вершы зачахнуць і музыку страцяць,
І самотнае сэрца не змогуць сагрэць.

Ёсць забойства, пажар і нявольніцтва путы,
Ёсць чума, землятрус і вайна на ўвесь свет,
Але ёсць у душы і такія пакуты,
Што не зможа адолець ніводзін паэт.

Побач з іншымі ходзіць маё непрыкметнае цела,
Нехта кажа: «Вось гэты складае у вершы радкі».
А ці ведае хто, як душа у паэта збалела,
І ў палаючых скронях звіняць і звіняць малаткі...

Колькі трэба вачэй, каб усіх зразумець і пабачыць,
Колькі сэрцаў патрэбна, каб радасць адчуць і тугу,
Колькі вобразаў страціць, якія адолець няўдачы,
Каб хоць верш зберагчы, што пакінуць нашчадкам змагу.

Словы зноў неадступна гудуць да світання,—
Я і раб, і ўладар, і пакутнік адзін.
Ноч мінае, знікаюць трывожныя здані,
Я даўно не істота, я — толькі ўсяго успамін.

Колькі вершаў напісана, спісана столькі з рахунку
Незваротных гадоў непражытага мною жыцця.
Не прашу я ў апошняга верша ратунку,—
Крумкачам яго кіну, што некалі ў двор наляцяць.

## ЭЛЕНЭ ДАРЫЯНІ
## ПІША ПРОСТА І БЛЫТАНА

Сёння ў поўнач усходзіцца вецер
І развее пялёсткі і слёзы.
Муж пайшоў не ў гуморы пад вечар,
Заўтра вернецца ён нецвярозы.

У каміне датлеюць мае летуценні.
Апраўданні — зняважлівей дробнай падачкі.
Прамяняў ён маё несвятое сумленне
На пяшчоты даўно палінялай спявачкі.

А ў яго грабянец адшукаю блудніцы,
А яна ж нешчаслівей куды за мяне...
Ён дамоў прыпляцецца, папросіць напіцца
З гладыша і мяне нізашто папракне.

Жонка я для яго і цяпер без заганы,
Ён мяне цалаваў, як не ўмее цяпер.
Тлеюць плямы віна на кашулі, як раны,
І ляціць на падлогу сарваны каўнер.

Не бядую, бо ўласныя слабасці знаю:
Смеласць мужа — мая, безумоўна, віна.
Ён ізноўку да д'яблаў нап'ецца віна
І засне. Я ж пазней за яго засынаю.

## Грыгол Цэцхладзе

### НЯДЗЕЛЯ Ў ТБІЛІСІ

Пад колер персіка
была ў нядзелю
атмасфера.
Матыль
наважыўся
дагнаць прапелер.
На выстаўку было
падобна гэта...
Сачылі
за палётам,
смяяліся
правінцыялы.
Міліцыянера вусы,
што цягнуўся
на скрыжаванні вуліц,
як перпендыкуляр,
былі падобны
на ініцыялы.

# ЛЮБЛЮ Я ЎЗГОРКІ ГУРЫІ БЯСКОНЦА

Люблю я ўзгоркі Гурыі бясконца
Ў зеленапышнай веснавой красе.
Бахмара выкаціць на ўлонне сонца,
Пакліча птушка нас:
Сячы і сей!
Ачышчаны сцябліны, колле ўбіта;
Падрос памочнік бацьку — і які!
На букавае лісце прагавіта
Накідваюцца рослыя быкі,
У аднаго з іх, бы ў аленя, рогі...
— Дзень добры!
— Рад сустрэчы я!
Каўнер свой папраўляе з асцярогай
Суседка сарамлівая мая.
Навошта ёй хаваць крыштальнасць шыі,
Пад гузікамі — серабро грудзей?
О, прыгажуня, хіба ж ёсць такія,
Каму б ты не была за ўсіх мілей...
Хто сад пабачыць мой — пахваліць кожны,
А дом які я здолеў збудаваць!
Сярод сяльчан я — хлопец не апошні,
Цябе жамчужынай не грэх назваць.
Ў руках ёсць сіла, ў сэрцы — жар кахання.
Цябе аддаць? Не, я памру хутчэй...
Мяне бадзёрыць птушка на світанні:
Сячы і сей! Сячы і сей!
Чым на галінах персікавых квецень,
Ты ў шлюбным шоўку будзеш прыгажэй.
Як сонца зноўку новы дзень прывеціць,
Пакліча птушка нас:
Сячы і сей!
Хмызняк я высякаю, пні карчую.
З тваім каханнем праца йдзе спарней.

Вось-вось, здаецца, птушку я пачую,
Як некалі раней:
Сячы і сей!
Засею кукурузаю дзялянку...
Аздобіла ты мне красою дні,
Прыйдзі ты да мяне вясновым ранкам,
Ў агатавыя косы загарні!
Салат, гуркі і дыні працай шчырай
І на маёй бахчы ты пасадзі,
На полудзень з віном і свежым сырам
Сюды за ручку кошык прывядзі.
Будзь для мяне ты пуцяводнай зоркай
І толькі аднаму ты мне свяці,
Няхай сялом усім нам крыкнуць: горка!
— Здароўя вам!
— І радасці ў жыцці!..
— Як шмат зрабіў, пакуль была з бацькамі!..
Цяпер магу каўнер папpавіць свой...
Бы тайная вайна ідзе між намі...
— Пакончылі вы, мабыць, з крапівой?
— Ды не! Работы там яшчэ нямала...
Якой халоднай гутарка была!
Сказаць цяплей — адвагі не ставала.
Застаўся я адзін...
Яна пайшла...
Як працаваць?
Пайшло маё каханне,
Краса і мара светлая мая.
Яе звядзе хто — ноч тады настане,
І жыць не захачу ўжо болей я...
Ды сонца зноўку новы дзень прывеціць,
Пакліча птушка нас:
Сячы і сей!
Чым на галінах персікавых квецень,
Ты ў шлюбным шоўку будзеш прыгажэй!

## Калаў Надзірадзе

### НЕ ШМАТ, РАДЗІМА, Я ТАБЕ СКАЗАЎ

Не шмат, Радзіма, я табе сказаў
Пяшчотных слоў, прыгожых і ласкавых,
Але любоў у сэрцы, як сляза,
Празрыстая і светлая, як слава.

Магчыма, ўпартасць сціплая мая
Не дазваляла мне ў любві прызнацца,
Але ў душы нашу да скону я
Яе, святую, змалку і з юнацтва.

Сказаў не шмат я. Як дзівосны сон,
Жыццё плыве за небакрай паволі,
І ўжо ідзе падлік начэй і дзён,
Але любоў не пройдзе аніколі.

Мне для прызнання не хапае слоў,
Таму маўчу я ў будні і на свяце.
А хто ж гаворыць часта пра любоў
Да роднай маці?

## ІДЗЕ СНЕГ

*Памяці Тамар*

Ідуць снягі. Спакою, цішыні
Не рады я і чысціні не веру!..
Я песню завяршаю пры агні
І замыкаю за сабою дзверы.

Такая чысціня за думкамі ішла
І з нараджэння век мой скарачала,
Каб незабудка ў сэрцы расцвіла,
Маю калыску муза калыхала.

Шапоча ціхі і сцюдзёны снег,—
Здаецца, час у незваротнасць крочыць,
І хутка мой кароткі век
Укрые замець чорнай ночы...

Я чую стогн мінуўшчыны здалёк,
А заглушыць адчай не маю сілы.
Ты, дарагая, спіш, а снег халодны лёг
Глухім сумётам на тваю магілу!..

Той снег ляціць на першую любоў
І шапаціць, як твой чароўны голас,
Тваю усмешку я лаўлю ізноў,
І толькі снег, і толькі ноч наўкола.

Ідуць снягі. Спакою, цішыні
Не рады я і чысціні не веру.
Я песню завяршаю пры агні
І замыкаю за сабою дзверы.

# У ТБІЛІСІ

Добра на вуліцу досвіткам выйсці.
У сэрцы радкі Руставелі звіняць,
Добра сяброў сустракаць, як калісьці,
Лепшага друга, як брата, абняць.

Добра, калі ты, як дзень прамяністы,
Верны заўсёды народу свайму,
Цвёрды сумленнем, сардэчны і чысты,
Усёю душою аддалы яму.

Добра сысці пад зялёныя шаты,
Добра на бераг Куры зазірнуць,
Дзе салаўі галасней, як на свята,
Ў чыстым блакіце і ў сэрцы пяюць...

Добра, калі мне насустрач ідуць
Дойліды, муляры, людзі навукі,
Добра, калі па праспектах вядуць
Нашы машыны сумленныя рукі.

Дзеўчыну з Зоркай Героя сустрэну,
І ветэрану пашаны стае,—
Ён вызваляў і Варшаву, і Вену.
Гэта ўсё дзеці, Тбілісі, твае,

Што з ранку да ночы надзейней, упарцей
Будуюць і сеюць на роднай зямлі,
Яны да світання заўсёды на варце,
Каб мірныя людзі спакойна жылі.

Добра на вуліцу досвіткам выйсці.
У сэрцы радкі Руставелі звіняць,
Добра сяброў сустракаць, як калісьці,
Лепшага друга, як брата, абняць.

Добра ўглядацца, любімы мой горад,
У сонечны твой непаўторны прастор
І ціха шаптаць: «Твае паркі і горы
Саткалі, Тбілісі, дзівосны узор!»

Цябе узнімаюць, мой віцязь былінны,
Гарачыя рукі старанных людзей,
Кладуць і кладуць да цагліны цагліну
Для нашых нашчадкаў, для лепшых надзей!»

І я не цураюся працы старраннай,
Як сейбіт сумлення, дабра вартаўнік,
Каб стаць хоць галінкай на дужым платане,
Каб след на зямлі назаўсёды не знік.

У шуме зялёных лістоў з хваляваннем
Пачуе нашчадак яшчэ малады
Пра нашы пакуты, імкненні, каханне,
Пра нас і пра грозныя нашы гады,

Каб потым расказваць аб дружбе і згодзе
Суровую праўду нашчадкам сваім,
Каб жыў для народа, каб дбаў аб народзе,
Каб людзі заўжды ганарыліся ім.

Добра на вуліцу досвіткам выйсці.
У сэрцы радкі Руставелі звіняць,
Добра сяброў сустракаць, як калісьці,
Лепшага друга, як брата, абняць.

## Цярэнцій Гранелі

* * *

Як люстэркі, мігцяць летуценні.
Прад сабою ў бясконцым даўгу,
на сутыку жыцця і натхнення
я збавення знайсці не магу.

Быць другім не хачу і не буду.
Дзесьці мне ўжо майструюць труну.
А жыццё, што не ўздымецца з бруду,
заглушае натхнення струну.

Горы крые туман паднябесны.
Дорыць вокнам жанчына давер.
Дзесьці згодна спяваюцца песні —
там, напэўна, вяселле цяпер.

Як люстэркі, мігцяць летуценні.
Прад сабою ў бясконцым даўгу,
на сутыку жыцця і натхнення
я збавення знайсці не магу.

## ВЯРТАННЕ Ў ВЁСКУ

Пасярэдзіне лета. Як позна змяркаецца ўсюды.
Ўспамінаю дзяцінства. На гэтым пагорку стаю.
Неба іншым было — я чакаю нябеснага цуду.
Потым белая ціша забрала надзею маю.

Мне бяссонне малюе настойліва скрушную долю.
Матчын цень даручае мне бацьку і меншых сясцёр.
Усё болей прыцягвае позірк бажніца, а ў полі
чалавечы прытулак — травою зарослы бугор.

Сёння я варушу сваіх мараў няспраўджаных прысак.
Аддало мяне шчасце бязлітасным хвілям на суд.
І ўжо цяжка, напэўна, ўва мне ўбачыць генія рысы,
і ўжо можа смяяцца з мяне фанабэрысты люд.

Хоць мой вогненны позірк яшчэ не адолела змора,
я збляднеў і зрабіўся падобным на ранішні змрок.
Не змаглі памагчы мне ні талент, ні думныя зоры —
за Іовам пакутным я сёння іду крок у крок.

Хай бы стала надзея, імя маё ўзяўшы, мне цёзкай,
а не толькі шчытом і не толькі — калі-нікалі...
Пустка. Мірсціцца смерць. Цішынёю атульвае вёска.
І ў сусвеце сінеюць руіны, што домам былі.

* * *

Прагну неба, зямлёю забыты.
Гук замрэ ў абарванай струне.
Са здзіўленнем, на блазна нібыта,
мой знаёмы глядзіць на мяне.

Сэнс вядзе за сабой без прынукі,
свет інакшы ільсніцца ўваччу.
Скрыжаваўшы бяссільныя рукі,
паляцець на нябёсы хачу.

Я не ведаю, хто яшчэ болей
стане смягнуць і мучыцца так...
У бязлюдным туманлівым полі
пакладуся на дол, як мярцвяк.

Прагну неба, зямлёю забыты.
Гук замрэ ў абарванай струне.
Са здзіўленнем, на блазна нібыта,
мой знаёмы глядзіць на мяне.

## МАЛІТВА ПАЛЁТУ

Натхненне імкне ў высоты
да боскага хараства.
Божа, дай моц палёту
і пакажы Хрыста.

Зацьміў імглой нецвярозай
грэх першасны ўсіх суздром.
Божа, вазьмі мой розум
і сам будзь павадыром.

Заваблівае бездарожжа.
Бура не ўзносіць — гне...
На іншай планеце, божа,
ты абудзі мяне.

Журыцца сад асенні,
кліча сваю вясну.
Дай мне, як баславенне,
божа, бязмежжа сну.

## СЁСТРАМ

Думкі памкнуцца ў край іншы заўзята.
Што мне рабіць? Я — зняволены бог.
Неба маё перакрэслілі краты,
змрочна мяне абступае астрог.

Песціць чынары і хвоі зух-вецер.
Дні мае гаснуць, маркотнее час.
Больш я нікога не маю на свеце,
буду заўсёды я памятаць вас.

Сэрца стлумілі мне цёмныя здані.
Сонца вісіць, як павук, у акне.
Ці зразумелі вы тыя жаданні,
што арыштантам зрабілі мяне?!

Горкія слёзы ў душы накіпелі,
людзі мяне аглядаюць здаля.
Што мне, урэшце, астрожная келля?!.
Стала мне келляй астрожнай зямля.

Думкі памкнуцца ў край іншы заўзята.
Што мне рабіць? Я — зняволены бог.
Неба маё перакрэслілі краты,
змрочна мяне абступае астрог.

## АГОНЬ ДУШЫ

Грукат фабрык. Гудкі. Не стамляецца праца.
Апячэцца прастрэленым сцягам блакіт,
і начныя агеньчыкі пойдуць бадзяцца...—
век чырвоны, што вабіць нібыта магніт.

Пошчак стрэлаў. Крывёй напаіліся рэчкі,
небяспекаю сцежкі паўсюль заняло.
На руінах натхненне трапеча, як свечка,
і віхор узнаўлення распростаў крыло.

Дым, кастры вартавыя і подзьмухі чутак.
Зорацъ рыцары здалечы ў шал перашкод.
У вачах нежывых пракаветнее смутак,
і душа мая высіцца, як эшафот.

## ВЯСНОВЫ ВЕЧАР

Вечар вясновы. Цішы не цяжка.
З дрэва на дрэва пырхае пташка.

Хвіля — душа пераступіць мяжу.
Я па табе і сягоння тужу.

Кратаюць неба далоні начы.
Ціха вызваньваюць шчасця ключы.

Новаю воляй цябе надзялю.
Месяц стаміўся глядзець на зямлю.

Вечар вясновы. Цішы не цяжка.
З дрэва на дрэва пырхае пташка.

# НЕДЗЕ І НЕХТА

Думак шмат. А прастора — завеса,
і душа — беспрасветны цалік.
Недзе там, каля хмурага лесу,
адгукаецца крыкам цягнік.

Недзе вецер расхіствае брамы,
свечка нейчы азорвае спрат.
Недзе некаму шлюць тэлеграму —
стукаціць дапазна апарат.

Нас вятрыскі сягоння шукалі —
сэрцы ўсіх на адзінай асі.
Адбірае зацята ў шпіталя
смерць чыёсьці жыццё: аддасі!..

Часта нейчае хціваe вока
на мяне пазірае ва ўпор.
З карабля, у маркоце глыбокай,
аглядае жанчына прастор.

Анікога няма тут, не будзе,
карацее жыцця майго цяг.
І стаяць адзінока, як людзі,
нерухомыя дрэвы ў лясах.

Ноч, што поіць павольнай атрутай,
праміне, пачуццё адпячэ...
Ці мне мала далося пакуты,
што чакаю пакуты яшчэ?!.

## БЯЗМЭТНАЕ БАДЗЯННЕ

Гэтая восень і гэтае поле
зноўку ў бадзянне мяне павялі.
Зноў захацеў паляцець я на волю —
стала журботна душы на зямлі.

Думка ў крыві асядае цяжкая.
Горад валодае мной, бы рака.
Ледзь не штодня на кладах сустракаю
я прастытутку альбо жабрака.

Ах, я і сам у жыцці недарэка.
Вецер хістае мяне, як лазу.
Я прывітаю таго чалавека,
вочы якога святлілі слязу.

Помніцца ноч, калі ў скрынцы са смеццем
спаў я і сон мне паказваў рай.
Плача катрынка, і гойсае вецер,
і невясёлы сядзіць папугай.

Марай агледзіцца высь, і абразай
здасца зямля — спаконвечнае дно...
Даў ты мне, божа, жыццё, але разам
даў і пытанне: навошта яно?!.

Зноў да зямлі я прыкуты — адвага
некалі здрадзіць і стане нямой.
Некалі прыйдзе маркотны бадзяга
і пастаіць ля магілы маёй.

Промень дзівосны мільгне навіною —
думцы цяжэй яшчэ стане ўдвайне.
Божа! Туман твой вісіць прада мною.
Божа! Твой змрок абступае мяне.

# З СЭРЦА КРОПЛІ КРЫВІ

Гэтыя радкі я пішу ў ветравейную ноч, калі кроплі дажджу б'юцца ў шыбіны вокнаў і ўдалечы плача раяль.

Я зараз прыгадваю бурлівыя хвілі свайго жыцця — і дрыжыкі роспачы праймаюць мяне.

Але ў той жа час мяне па-ранейшаму цешыць, што я Цярэнцій Гранелі.

Наперадзе — прорва: адтуль наплывае чорны туман і ахінае мяне ўсё болей.

З часу стварэння свету я несупынна ішоў да святла, каб убачыць сонца.

І вяло мяне па жыццёвай маёй дарозе заўсёды тое, што было недаступна хадзе і недасяжна зроку.

Я рана прыйшоў.

І цяпер набліжаюся зноўку да сарцавіны цемры, з якою цела маё сальецца, як з морам кропля вады.

Кожная ноч прыносіць думкі пра смерць і далеч.

І я баюся...

Думаю: ужо нарадзілася недзе няўмольная тая хвіля, што стане апошняю для мяне. І ўсё-ткі я веру ў сваю неўміручасць.

Паэзія мне адкрыла, што па-за ўсімі краямі ёсць край неўміручасці: у яго блакіце лёгка лунае мая душа.

Навальнічная ноч. Мне хочацца апынуцца ў інакшым свеце.

Паэзія дорыць раптоўную радасць, якая мае крылы палёту.

Я не хацеў жыць.

Я не хацеў паміраць.

Я ўвесь час хацеў не таго, што ёсць.

Я і зараз аддана веру, нібы ў таямніцу, у трэці шлях існавання, у шлях, што вядзе за мяжу і жыцця і смерці.

І зноўку, як скрушлівы серафім, стаю прад бязмоўным абліччам вечнасці і чакаю ценю Хрыста, які ўратуе мяне ад згубы.

Я веру ў жыццё па-за целам.

І звяртаюся да ўсяго свету са словамі, вынашанымі ў самым сэрцы:

я хачу лётаць,

я хачу быць усюды, як бог...

Я заблытаўся, быццам дзіця, у гэтым грэшным свеце.

І не ведаю, як мне выбіцца з цёмных балотных нетраў, якія завуцца зямлёй.

Не смерць.

Не жыццё.

Нешта іншае.

І не могуць выказаць сэнс пачуцця штодзённыя словы.

На двары зноў бушуе бура. Кроплі дажджу зноў б'юцца ў шыбіны вокнаў, і зноў удалечы плача раяль.

## РАДЗІМЕ

Ці ёсць што за жыццё вышэй, ці не?..
Бяздонні то ў бязмоўнасці, то ў гудзе.
Лёс Грузіі ўзіраецца ў мяне,
і боль яе мае вярэдзіць грудзі.

Ці белы лебедзь у нябёсы мкне,
ці мармур белы ажывае ў цудзе —
лёс Грузіі ўзіраецца ў мяне,
і боль яе мае вярэдзіць грудзі.

Я моўчкі плачу. У маім акне
туманіцца вялікае бязлюддзе.
Лёс Грузіі ўзіраецца ў мяне,
і боль яе мае вярэдзіць грудзі.

## Шалва Кармелі

### КАЛІ ГЭТА БЫЛО?

Калі было ўсё гэта? — не прысню.
Нічога ў дзесяць год не забываеш.
Калі кахае сэрца ўпершыню,
Тады і свет вялікі адкрываеш.

Як поўня запаўняючы эфір,
Яна ў блакітным плацці паўставала.
Агонь арабаў і прастора-шыр
У бляску воч яе не пагасала.

Ішлі. Яе акліянулі «Лейла»,
Спынілася, усмешку падарыла.
Не помню сёння — для каго была
Яе усмешка: так зірнула міла.

А ноччу плач ёй пацеркі сіляў.
Хацеў, каб мне была яна сястрою.
Тады б такой сустрэчы я не знаў,
Калі прызнанне свеціцца слязою.

Калі было ўсё гэта, можа, ў сне?
Мне дзесяць год, дзіцячая пяшчота...
І з той пары красуня для мяне —
Мая пакута, боль і адзінота.

* * *

Сёння кот варожыць на пагоду:
Мыецца — прарочыць сонца кожны раз.
Смерці мы выказваем нязгоду,
Дамавіна-санаторый не для нас.

Душна, цяжка дыхаць, як ад млосці.
Душыць кашаль, як пазбавіцца ад мук?
Аксаміт валос пагладзіў хтосьці,
Адчуваю дакрананне мілых рук.

Хмар няма. Зноў сонца над гарамі.
Ты, сястрыца, не паверыш, можа, мне:
Адчуваю, што душа мая згарае,
Малярыйная, нікога не кране.

Кінь, сястра, і шклянкі, і мікстуру,
За аленямі ў лясы гайда са мной.
Хоць не кат Абастумані па натуры,
Ды сухотніка гняце гарачынёй.

Свеціць сонца. Хмара ўжо знікае.
Лес жывіцаю прапах, прапах наскрозь.
І той мост, што на дарозе правісае,
Мы з табой палюбім моцна, як свой лёс!

## КАСЦЁР

Сушняку дзяўчо знайшло
На пагорках пачарнелых...
Асвяціў касцёр сяло,
Высь ад іскраў пасвятлела.

Так у таз б'юць — будзь здароў!
І танцуюць неяк дзіка.
Ачышчэнне ад грахоў —
Праз агонь сігаюць з крыкам.

Праз агонь дзяўчо ляціць,
Вочы свецяцца, як зоры...
І касцёр ярчэй гарыць,
Праганяе ведзьму ў горы.

# Георгій Леанідзе

## ПЕСНЯ ПЕРШАГА СНЕГУ

I

Гэта першы снег ці сокал
Галубоў трывожыць так?
Зорка зыркая высока
Заміргала, як маяк.

Таямнічы голас чую:
Вабіць, кліча вышыня...
Паскачу я, палячу я —
Асядлайце мне каня!

Паплылі сняжынкі хмаркай,—
Можа, ўсё-ткі даганю?
Маладосць вясёлкай яркай
Адышла ўдалечыню.

Адышла, як час вясенні,
Паспрабуй яе вярні!
І, нібыта з гор алені,
Мне крычаць юнацтва дні.

II

Маё сэрца, белы голуб,
Чысты летам і зімой!..
Як зрабіць мне гэткім голас —
Чалавечы голас мой?

Каб за мараю мне ўгнацца,
Паскараю зноў я крок:
Дзе, скажыце, без юнацтва
Возьме крылы мой радок?

III

Узлятай жа проста з сэрца,
Птушка песні, да нябёс!
Я адкрыў у вырай дзверцы:
Не драмай ты ў паняверцы,
Калі кліча зорны лёс!

Гэта — верш мой, або доля,
Або ўзлёт юнацкіх дзён?
Гэта — сэрца або поле,
Што гудзе ад пчол, як звон?

Не! Ды гэта — снег святлівы,
Што з-пад зор ляціць наўздзіў,
Галубы, якіх шчасліва
Крыллем сокал абудзіў!

Дык хутчэй!
Паспець хачу я —
Не ўцякай жа, вышыня!
Даскачу я,
Далячу я —
Гэй, сядлайце мне каня!

І хоць снег насустрач хмарай,
Мне абсяг наўсцяж відзён.
Наўздагон — за светлай марай,
За юнацтвам — наўздагон!

# ОЛЕ

## I

Ці спякота, ці снег, ці залева,
Ясным днём і ў паўночнай імгле,
Оле,
    Оле,
        самотнае дрэва,
Ты стаіш на высокай скале.
Тваё сэрца драўлянае паліць,
Раз'ядае атрута нуды.
Дрэва праўды і крыўды, што джаліць,
Дрэва —
        покліч спрадвечнай бяды.
Ты, падцятае ўласным бяссіллем,
Пазіраеш пакутліва ўніз,
Як арол, што з паломаным крыллем
Над каменным абрывам павіс.
Ты — скакун, да зямлі прыкаваны,
Што не здолее стаць на дыбы,
Твой камель перуном абстраляны,
Оле —
        дрэва няўмольнай журбы.

## II

Табе трызніцца бура цяжкая
І тапор, што няўмольна сячэ,
Бляск знішчальны маланкі, якая
Ствол і крону агнём апячэ.
Сустракаеш ты граду налёты
І набегі шалёнай пургі,
Оле —
        дрэва шчымлівай самоты,

Оле —
    дрэва зялёнай тугі.
Слепіць люты мароз твае вочы,
Яснай далі табе не стае.
Усадзіць табе ў грудзі ахвочы
Дождж пранізлівы коп'і свае.
Прагне сонца ў спякотным сваволлі
Тваю постаць развеяць у дым.
Оле —
    дрэва пякельнае долі,
Як ты ўсё-ткі стаіш на сваім?

III

У цябе — ні сястры, ні матулі,
Да грудзей тваіх смутак прынік,
З зеляніны вясновай кашулю
Хутка сшые табе сакавік.
Лёгкім ветрыкам чуб свой прычэшаш,
Вып'еш ранкам расінкі з зямлі,
Ноччу зоркі зіхотныя ўсцешыш,
Калыхаючы іх на галлі...
І ў дрымоце заплюшчыўшы вочы,
Ты пабачыш, нібыта ў святле,
Як ты самым самотным уночы
Думным дрэвам стаіш на скале!

IV

І каго ты спрадвеку чакаеш
І па кім тваё сэрца баліць?
І каго так чулліва гукаеш,
Хто сумее твой сум спаталіць?
Ты ў чаканні не страціш надзею,
Калі ён не паспее прыйсці
І ў будзённыя дні і ў нядзелю...

Ён ідзе, ён жа ёсць у жыцці!
Толькі ён, прытаміўшыся, можа,
Ледзьве цягне дарожны цяжар?
Можа, шквал ураганны варожа
Б'е і б'е падарожніку ў твар?
Дык ідзі і шукай сваю долю!
І вазьмі каго-небудзь з сабой:
Хто яшчэ назаве цябе Оле,
Імем Оле з пяшчотнай журбой...
Цябе кліча з зялёнага боку
Лес — узгор'яў жыхар і далін,
Ён цябе запрашае здалёку,
Ён махае рукамі галін.
Лес, што ў поўным і зладжаным зборы
Строем волатаў-дрэў устае,
Праз глухую адлегласць прасторы
Шчыры голас табе падае:
— Чуеш, годзе хістацца ў сінечы,
Заручонае з доляй цяжкой!
Хопіць лютаму ветру за плечы
Абнімаць цябе зябкай рукой!
Я табе адчыніў свае дзверы,
Уваходзь — па-сяброўску прыму,
У сваёй старажытнай кватэры
Накармлю, прытулю, абніму.
Тут цябе не пакрыўдзяць ніколі
Старажылы лясной грамады,
Оле —
 дрэва праклятай нядолі,
Оле —
 дрэва спрадвечнай бяды!

V

А ты ўжо пагляд сінявокі
Скіроўваеш увышыню,

Дзе цугам крыляюць аблокі
Насустрач наступнаму дню.
Яны цябе клічуць і вабяць —
З зямлі да нябёс напрасткі,
Дзе спеўным гатовы ядвабам
Цябе спавіваць жаўрукі...
І сонца цябе сустракае
З лагодаю, як дабрадзей,—
Яго далаper трапяткая
Прытуліць цябе да грудзей.
Златаюцца з бубнамі зоркі,
А ты на жалейцы іграй,
Танцуй, каб скакалі пагоркі
І ў скокі ішоў небакрай...
Не ведай ні смутку, ні болю,
Пакуты былыя забудзь,
О, дрэва самотнае Оле,
Да шчасця далучаным будзь!

## VI

Оле,
Оле,
Убачыў цябе я
На высокай гранітнай скале,
Тваё цела пад ветрам дубела,
Ты трымцела ў халоднай імгле.
Ты, падцятае ўласным бяссіллем,
Пазірала пакутліва ўніз,
Як арол, што з паломаным крыллем
Над цяснінай каўказскай павіс...
Ты, скакун да зямлі прыкаваны,
Разарві ланцугі і вузляці,
Хай загояцца даўнія раны,
Хай не будзе самоты ў жыцці! —
Каб сказаць:

— Калі сэрца балела,
Не баліць ужо сёння яно;
Каб у рэчку ныраючы смела,
Ты плыло, як плыве бервяно,
Каб цябе абстругаў я натхнёна,
Каб у бегу і летаў і зім,
Як з трывалага камня калона,
Дах трымала ты ў доме маім!

VII

Хай цябе абмінае залева,
Хай маланка цябе абміне,
Оле,
Оле —
Самотнае дрэва,
Я прашу,
Ты прыходзь да мяне!

## Іона Вакелі

### РУКІ

Радасць у сэрца ліецца, калі
Праца ідзе без прынукі,
Дбаюць пра славу роднай зямлі
Нашы нястомныя рукі.

Коласам спелым палеткі звіняць,
Статкі выходзяць на пашу.
Здзейсняць надзею наступнага дня
Рукі руплівыя нашы.

Песні ўзлятаюць, калышуць прасцяг,
Вабяць чароўныя гукі,—
Славяць імклівасць і радасць жыцця
Нашы пяшчотныя рукі.

Вугаль капаюць, жалеза куюць,
Крышаць гранітныя скалы,
Робяць магутнай краіну сваю
Клопаты рук нашых дбалых.

Сонца расплавіць ільдзіну зімы.
Дружба — бяссмерця зарука.
Шчыра з сябрамі вітаемся мы —
Нашы сплятаюцца рукі.

Зброю сціскалі, мужнелі ў баі,
Бралі прызы за рэкорды.
Мір і спакой на зямлі адстаім
Сілаю рук нашых цвёрдых!

## Давід Гачачыладзе

### КАЛІ Я СЛУХАЮ СТАРУЮ ПЕСНЮ

Як пачую нашу песню,
Нашу песню,
Затрымчу ад хвалявання, нібы ў сне...
Вецер даўні, нібы прывід, уваскрэсне
І, здаецца, верне ў даўняе мяне.

Промень колішні мінулае пакажа,
Як калісьці загучаць чангуры зноў.
За смугою часу продкаў я заўважу,
Іх убачу праз гады,
Як праз акно.

— Хто вы там? —
На нас глядзяць яны балесна,
Славяць край свой, што радней за ўсе краі...
Нашу песню калі чую,
Нашу песню,—
Бачу: крэпасць над цяснінаю стаіць.

Рэчка шабляю зламанай халадзее,
І жанчына
Аглядае з вежы даль,
Праз вякі глядзіць, стамлёная, з надзеяй,—
Я малітву яе чую ў шуме хваль.

Нашы коннікі —
Зірні на іх, запомні —
Напярэймы, бачыш, ворагу імчаць.
Коп'і вострыя, калючыя, як промні,
Ярка ў хмарах перадымленых
Блішчаць.

Лёс цяжкі наш,
Нашы мары, просім, здзейсні!
Наша будучыня,
Долю перайнач!
Песня даўніх нашых бедаў,
Наша песня,
Як мне вынесці твой смутак і твой плач?

Голас плача,
Голас воінаў хавае...
Што зрабіў табе, татарын, той хлапчук?!
Там з-за песні чалавека забіваюць —
Ні надзеі,
Ні заступніка ад мук.

Дзе ахвяру пахавалі, далакопы?
На траву мы ногі ставім ці на твар?
І ўздыхае Мтквары сумная
Глыбока,
І крывава поўня сочыцца з-за хмар.

Ціха.
Скончылася песня.
Плачуць вочы.
Чым, скажыце, боль мінулага лячыць?
Мне здаецца, вочы продка за мной сочаць
І напеў стары усё яшчэ гучыць.

Гасне дзень,
І ўжо сутонее нанова.
Сярод свечак Гарэджы і я стаю...
Раскрываюць вусны мёртвыя галовы —
Нашу песню,
Нашу даўнюю пяюць.

## Алія Мірцхулава

### РАДЗІМА

Не толькі спелай шчодрасцю садоў
І сонцам славіцца мая краіна,—
Глядзі: блакітнай стужкаю між гор
Накручана дарога, як спружына.
Паслухай: ветрык ціхенька ўздыхнуў,
Разносіць па далінах водар хлеба,
І шчасце зычыць кожнаму двару
Высокае бязвоблачнае неба.

Гару пяройдзеш — зноў стаіць гара,
Пакрытая лясамі да вяршыні.
Там перазвон вясёлых ручайкоў
Зліваецца са шчэбетам птушыным.
Унізе — аксамітныя лугі,
Гароды лапушацца на сугрэве.
Вартуюць моўчкі цішыню далін
Рагатыя, нібы алені, дрэвы.

З гары зірні: мой край як той кілім,
Сатканы тысячамі рук увішных.
З лістоты аксамітнай у садах
Вылузваюцца персікі і вішні.
Направа — поле спее збажыной,
Спяваюць каласы матыў адвечны.
Налева — схілы пракаветных гор,
Дзе пасвяцца каровы і авечкі.

Дарога лучыць з горадам сяло,
Усцяж буяюць лозы вінаграду.
І як залог працоўных перамог,
Чырвоны сцяг узвіўся па-над садам.
І горад сустракае белізной
Дамоў высокіх, клубаў і палацаў,
І зычныя заводскія гудкі
Сцвярджаюць дружным спевам славу працы.

Усіх багаццяў нашых не злічыць,—
У кошыках, у скрынях і засеках
Ёсць хлеб і мяса, масла, сыр і мёд,
Набытыя руплівым чалавекам.
У кожным доме — шчасце, згода, мір,
Прыбраныя, дагледжаныя дзеці.
Жыве заможна селянін-грузін,
Гасцей жаданых знойдзе чым прывеціць.

І кожны сад тут радуе пагляд,
Нібы ў раю, у засені зялёнай.
Пад сонцам наліваюцца плады —
Гранаты, мандарыны і лімоны.
І напаўняе гронкі вінаград
Не казачнай — зямной, рэальнай сілай,
Што маладзіць і сэрца і душу
І прымушае кроў кіпець у жылах.

Ад мора Чорнага да беласнежных гор
Пад полагам бязвоблачнага неба
Квітнее сэрцу дарагі прастор,
Прапахлы сонцам, ружамі і хлебам.
Мая Айчына, родная зямля!
Прыгожая яна ў любым убранні,
Бо фарбы яе свежыя заўжды,
Нібыта на карцінах Пірасмані.

## Сіман Чыкавані

### ХТО СКАЗАЎ...

Хто сказаў, што бацькаўшчыне мілай
Называцца суджана малой,
Быццам крэпасць славіцца не сілай,
А велічынёй адно сваёй?!

Узняліся вежамі жывымі
Пікі гор — аблокам не дастаць,
Толькі сонца, зоры па-над імі,
Крылы гордых птахаў шалясцяць.

Вы акіньце захаплення вокам
Гор вяршыні ў золаце святла,
Вы збярыце фарбы, што навокал
Шчодрая прырода праліла;

Вымерайце сілу урагану,
Сілу незалежнасці арлоў,
Волю рэк, што мкнуць да акіяна,
Хараство узлёту купалоў,

Пройдзеную продкамі прастору,
Скакуном працятыя вякі,
Цвёрды крок Гаргасала, што ў горах
След пакінуў, сонечны такі.

Да старонак славы нашай
сaмі
Чуйнай дакраніцеся рукой —
І паўстане край наш перад вамі,
Край бясконцы сутнасцю сваёй.

Хто сказаў, што бацькаўшчыне мілай
Называцца суджана малой,
Быццам крэпасць славіцца не сілай,
А велічынёй адно сваёй?!

## СТРАТА СЯСТРЫ

У бессардэчным леце тым
ручнік
Табе на лоб халодным лёг кампрэсам,
Сястра мая,— я галавой панік,
А плакаць я не мог, скаваны стрэсам.

Як аблачынка, раставала ты.
Змагалася світанне з цемрай ночы,
Венера-зорка да тваёй тахты
Імкнулася і падала на вочы.

Згасаючы, прасіла ты жывых:
— Дапамажыце мне...
Ты жыць хацела.
Смерць дакранулася да губ тваіх —
І ты, як свечка, ціха дагарэла.

Смерць, як жабрачка, ў ясны летні дзень
Тваё жыццё забрала маладое,

Жыццё тваё пайшло, як бацькаў цень,
Заўчасна за вячэрняю зарою.

Мае пачуцці тоўпяцца сям'ёй,
Гады не прынясуць мне суцяшэння.
Так ціха над магілаю тваёй —
Ні плачу не чутно, ні галашэння.

Матулі ўсё здаецца, што з табой
Сустрэнецца там бацька над ракою,
Крыніцы воч захмарацца журбой
Перад табой, схуднелаю такою;

Заплача па табе ён ля вады,
І на руках цябе перанясе ён,
Там, за ракой, сатрэ свае сляды,—
Нябыт па-свойму маці разумее.

А я ў той свет паверыць не магу —
Свет белы я нястомна апяваю.
Як дождж усходам, людзям памагу,
Пакуль ты ў маёй памяці жывая.

## ПЕСНЮ ПАЧЫНАЦЬ НЯЛЁГКА

Песню пачынаць нялёгка і шчасліваму.
Гэта — як закласці сад, падмурак дома.
Я не змог асвоіць вас, прылівы і адлівы,
Хоць аб моры і спяваў не раз, вядома.

Знаю сам, нядобра верш выказваць горлам.
Мёртвы ён, калі душа ў ім не спявае,

Не звініць бруі крынічнай шчыры голас,
Не красуе кветка ад расы жывая.

Што такое ўсё ж яна, аснова песні?
Смутак мой ці радасць іншага паэта,
Дожджык-грыбасей, радзіны ўсходаў весніх
Ці туман, суровай ласкай гор сагрэты?

А прыправа верша — гэта што такое?
Зыб пад сонцам, лёгкі ход плыта́ па возеры,
У вачах каханай ззянне трапяткое
Ці духмянасць сена маладога ў стозе?

Песню пачынаць — адной задумы мала.
Гэта — як перамагчы сумненне, браце,
Як на небе выбраць зорку, каб спрыяла,
І знайсці пярсцёнак, згублены не ў хаце.

Дзе знаходзіць мара хлеб свой, тым не меней?
Хто пладамі наталяе голад сэрца?
Верш падобны і на ладан дымны ў жмені,
І на спрэчку вечную — жыцця са смерцю.

## МНЕ ПРЫСНІЎСЯ СОН

Мне прысніўся сон учора —
Конь блакітны, ліпа, храм.
Кліч пачуў, ды толькі ў горы
Не рвануўся конь мой там.

Я каня рукой не ўдарыў,
Сам застыў — нібы без ног.

І ў жыцці развеяць хмары
На шляху сваім не змог.

Мне пад ліпай стала блага,
Не памог мне храм стары.
Скруха валасы аблашчыла,
Потым — сцяла без пары.

Падаў я, слабеў ад болю,
Пастарэлы, поўз наўгад,
Як раку ў гарах, не здолеў
Пераплысці далягляд.

Без каня імкнуўся ў неба,
Слабасць, старасць перамог,
А зямлю сваю як трэба
Асвяціць усё ж не змог.

## СУЦЯШЭННЕ

Нашага дзяцінства дні спакойна-ціхія
Адляцелі ў вырай быццам...
Сталі снамі,
Успамінамі,
Якія мы расцілі
І якія выраслі разам з намі.

Як жывая яблыня і ліст інжыра,
Як адтуль, з лугоў вясны далёкай, пчолы,—
І цяпер яны са мной,
Заўсёды шчырыя,
І душу хвалююць, сумны ці вясёлы.

Нават успаміны, пасталеўшы з часам,
Абнаўляюцца і ўражваюць іначай.
Дзіўны ў нас, паэтаў, лёс, пакуль не згасла
Сэрца, поўнае пачуццяў нерастрачаных.

Песні ціхія, пяшчотныя са мною,
Ды люблю радок — для галасістых вуснаў.
Век увесь змагаўся з цемраю начною,
І пад небам сонечным звінелі гуслі.

Я даўно смуткую — ад цябе няблізка,
Боль свой выплеснуць раней не змог, пахмуры.
У двары, дзе вокны ззялі, засталіся
Толькі весніцы, ды сад, ды груд-падмурак.

Сэрца перайшло на шэпт — і ўжо лягчэе.
Можа, муза скажа пра маё каханне,
Бо ў душы — надзея:
Светла так начэе,
Што і ноч самá прадказвае світанне.

Нашага дзяцінства дні спакойна-ціхія
Адляцелі ў вырай быццам...
Сталі снамі,
Успамінамі,
Якія мы расцілі
І якія выраслі разам з намі.

Расцвілі яны ў двары вясковым дружна,
Быццам новае жыццё, душу сагрэлі,
І чакаюць дні пяшчотныя, як ружы,
Нас, шчаслівых, тут, у сонечнай Мегрэліі.

# У САМШЫТАВЫМ ЛЕСЕ

Я зайшоў сюды, у лес самшытавы.
Мох на дрэва кожнае ўспаўзае.
Завяла-завабіла куды ты,
Прыгажосць лясная?

Цішыня кругом, бы ўсё заснула.
Тут і след Тамары ёсць, паверыш.
Я кажу самшытам: «У мінулае —
Адчыніце дзверы!»

О святая маці! Ты садзіла
Ружы, а ўзышоў самшыт трывалы.
Я ў былое пранікаю, здзіўлены,
Як самшыт — на скалы.

Я хачу грудзьмі сагрэць самшыты,
Час адчуць, уплецены ў карэнне.
Дрэвы лашчу, ад імху блакітныя,
Поўны захаплення.

А самшыты вечныя, як з медзі,
Чыстыя яны, як самацветы.
Я нібыта ўпершыню разгледзеў
Лес, ад сонца светлы.

Наліліся сонечнаю сілай
І ствалы, і голле налілося.
І спяваю я аб краі мілым
На лясной дарозе.

# Ніко Самадашвілі

## НІКО САМАДАШВІЛІ

*(Прысвячэнне самому сабе)*

У сваім сэрцы чую цябе я —
птушкай спяваеш вольнаю ў свеце;
ты нарадзіўся добрай надзеяй,
на панадворку выў тады вецер.

Не даглядаў я цябе як трэба
і не прылашчваў — быў пустамеляй —
ці грукатала хмарамі неба,
ці ап'яняла сонечным хмелем.

Думалі людзі — ветрыку хвалі,—
хлопца ж хвастала грываю бура,
і за хваробу, мусіць, прыймалі
будучых вершаў болькі на скуры.

Ці з ліхаманкаю нейкай, ці стомай,
ці, можа, з болем утаймаваным
часам вяртаўся позна дадому
і цалаваў цябе ў мораку, п'яны.

Покуль не знік мой смутак шчымлівы,
дык да цябе нахіляліся блізка
белыя грудзі майскае слівы,
божыя рукі люлялі калыску.

Крэмзанне вершаў стала пакутай,
лепш бы акопваў лозы ты ў садзе —
ці ж каму трэба смех твой і смутак,
ты б іх на вецер выкінуў, браце.

Ён захапіўся б вершаў лісткамі,
з рогатам, свістам іх прачытаў бы;
шмат маляваў ты ўночы слязамі,
досвіткам браў ты яркія фарбы.

Я цябе сцішваў ноччу бяссоннай,—
хіба ўтаймуеш зуха такога?
Чэрап гудзеў мой трэснутым звонам,
потым настала раптам знямога.

Як жа мы будзем разам, мой браце,
жыць у часіну сумную гэту?
З гора злыселы, сілу я страціў,
ты ж яшчэ ў думках поўны імпэту...

* * *

Я, адчыніўшы вокны шырока,
глянуў на летні сонечны горад —
і памутнела жальбаю вока,
сэрца адчула вострую горыч.
Зноў, на людское гледзячы шчасце,
будзе там нехта, быццам закляты,
марна і доўга стукаць, як дзяцел,
у неабдымны свет дуплаваты.

* * *

Спі, мой сыночак, хай усё болей
сон дае добры сіл табе й моцы,
можа, разлучыш ты мяне з доляй,
што катавала дні мяне й ночы.

З лёгкай усмешкай сніш, мусіць, маму,—
быццам да вуснаў ветрыку дотык;
спі і не ўздумай, родны мой Тамаз,
меиь мой занятак і рамяство ты.

Колісь душою ўчуеш юнацкай,
беднасцю нашай узгадаваны,
гора якое меў тады бацька,
як на кані ты ездзіў драўляным.

Старасць настане з мохам на скронях,—
будзеш выносіць у дамавіне,
на тваіх чуйных чыстых далонях
мо жыццяпіс мой след свой пакіне.

З працай сумленнай, з праўдаю ў згодзе
жыць табе, родны, шчыра жадаю;
некалі ў шафе, пэўна, ты знойдзеш
сшыткі, блакноты, іх прачытаеш.

Іх прачытаеш, востра адчуеш
клопат надзённы, боль невядомы,
смутак, што часта днюе й начуе
у спарахнелым сцішаным доме...

А на граніце сумнай магілы
слоў не пішы ты пра небараку,
што ў маладосці, трацячы сілы,
сам сябе нішчыў, сам і аплакваў.

Спі, мілы Тамаз, не патрывожу
сон, які сніш ты, ўсё, што ты бачыш;
нельга пра тленнасць... Крый цябе божа,
хай будзе светлы сон твой дзіцячы!

## ПРАГУЛКА

Я ў захапленні з горнай цясніны
вывеў цябе ў шырокае поле,
дзе на разлогах жоўтых і сініх
ветрык гуляў малы на прыволлі.

У неабдымнай далі стракатай,
дзе не відно ні дарог, ні сцежак,
пад недасяжным крутым даляглядам,
мабыць, канчалася свету бязмежжа.

Поле ў сонечным спела тумане,
радасна сэрца ў грудзях спявала,
зноў маладое наша каханне
моцы шчаслівай нам прыбаўляла.

Шолахам дрэвы здалёк нас віталі,
ціха ішлі неадступна за намі,
нешта няўцямна аб тым шапталі,
што прыйдзе хутка з наступнымі днямі.

# ДА ЖЫЦЦЯ СКІРАВАНЫ ПОЗІРК

Ён адыходзіў спрадвечнай дарогай,
досвітку цені трымцелі ў дарозе;
ён дагараў і цьмянеў патроху —
быў да жыцця скіраваны позірк.

Недзе грымелі абвалам горы
і вуркатала рэха высока,
моўчкі таемна снілі пячоры
казку стваральную ў волкім змроку.

Па-над гарамі ўзнімаўся золак,
а чалавек дагараў у знямозе;
ён адыходзіў з усмешкай кволай,—
быў да жыцця скіраваны позірк...

## Карло Каладзе

### ЖАЎРАНАК

Гімнам сустракае жаўранак узыход сонца.

Я раскажу аб сутнасці мастацтва...
Я жаўранка падняў — ён на зямлі
Ляжаў без руху: што магло з ім стацца?
Крыло і дзюбка —
У крыві былі.

Зямля наўкол звінела ручаямі,
Ды жаўранак,
Што мёртвы ўпаў між рос,
Застылымі чарнюткімі вачамі
Не на яе глядзеў —
У сінь нябёс.

Я разумеў, што тут было забойства!
Я птаха нёс.
Я ціхі-ціхі быў.
Паўсюль спыняў прахожых я і проста
У іх пытаўся: «Хто яго забіў?»

І мне ля гор і рэк,
Усюды ў краі,
Адказвалі дзяды і юнакі:
«Ці ж у таго страляюць, хто спявае?
Як ты падумаў? Гэта ж грэх такі...»

І толькі расказаў мне дзед з Мухрані,
Што за палёт цана —
Такая смерць,
Што калі птах спяваць пра сонца стане,
Ён будзе да яго
Ляцець, ляцець.

Унізе — дзень, унізе скрозь цвіце ўсё,
Унізе, там, дзе горы,— снегу бель,
А ў небе жаўранак,
Якому цесна
Ад маладосці, сонца і сябе.

У вышыню, расчыненую насцеж,
Ляціць — далей, далей,
У яснату!
Ды, небам захлынуўшыся ад шчасця,
Ён падае і гіне на ляту!

...Цямнела ўжо.
Набрыньвалі аблокі.
Зара пераліваласяў рацэ.
Стаяў я доўга ў роздуме глыбокім
З навек замоўклым птахам у руцэ.

І ведаў я, што калі час мой грымне —
Няхай жыццём за гэта заплачу —
Да сонца, што ўсміхнецца з-за гары мне,
Я рукі расхіну
І палячу!

Я палячу, назад не азірнуўшыся,—
Вы мне даруйце ўсе, каго люблю,—
Як жаўранак той, сонцам захлынуўшыся,
Памру я ў небе
З песняй пра зямлю!

## ПРЫТЧА
## ПРА БУРДЗЮК ДЛЯ ВІНА
## І БУРДЗЮК-КАТРЫНКУ

Гэта прытча са мной бывае,
Як зімою прыйду я дамоў не ў пару.
Агонь мяне языком вітае
У каміне: рады гаспадару!

І, быццам два дамавікі, з ценю
Да агню падплываюць два бурдзючкі.
Самі лезуць мне на калені,
Пад пахі тыцкаюць свае бакі.

Адзін, набраўшы паветра ў грудзі,
Гудзе з-пад пахі ў сваю дуду,
Другі, пагойдваючыся, як студзіна,
Чакае, пакуль я шклянкі знайду.

Адзін, патанчэлы, шклянкі напоўніць,
Другі, патаўсцелы, ізноў запяе.
Адзін, каб я выпіў да дна, напомніць,
Другі — не паспееш міргнуць — далье.

Адзін тонкім голасам падабрэлым
Назвоніць плётак салодкіх мне,
Другі, свой жывот нахіліўшы схуднелы,
У шклянкі, балбочучы, зноў зірне.

Адзін мяне хваліць. Другі падлівае.
Да раніцы трапіў я ў лапы да іх.
Агонь як ні кідаецца, ні палае,
Сагнаць іх не можа з каленяў маіх.

Калі ж дагарыць у каміне і ўрэшце
Праз комін ноч сыдзе да аблачын,

Сябры два, выдыхнуўшыся дарэшты,
Заснуць, не думаючы ні аб чым.

Адзін без віна да новай адлучкі,
У другога ўсяго дзве ноты на дне;
Звесіўшы свае карацелькі-ручкі,
Спяць сябры-бурдзючкі пры сцяне.

А зноў замяцеліць у час вечаровы,
Дружбакоў давядзецца мне пабудзіць:
Аднаму — душу ўдыхнуць нанова,
Другога — да горла віном наліць.

Калі даспадобы табе наш звычай,
З намі прысядзь да агню ў добры час.
А сэнс гэтай прытчы, як многіх прытчаў,
Раскрые хай той, хто мудрэй за нас.

## Я І СКУЛЬПТАР НІКО КАНДЭЛАКІ

З гліны, рыжае гліны,
вільготнай, слухмянай,
лепіш цела маё, чарадзей?
Кажаш мне, што і я
тут калі-небудзь стану,
сярод гэтых гліняных людзей?

Ну якую ты, скульптар,
рыхтуеш мне долю?
Каб замоўк я, жывы чалавек?

Каб рукою
не мог варухнуць я ніколі,
каб стаяў нерухома я век?

Я ж — зусім не маўклівы!
Што ж нямым мяне лепіш?
Не хачу ў тваёй гліне застыць!
Лепіш цела...
У вусны
дай мову мне лепей,
калі хочаш мяне ажывіць!

Майстар, рыжы, як гліна,
прыжмурвае вочы,
ззяе сонцам:
— Ды ўсе мы якраз
тая ж гліна, зямля,
калі ведаць ты хочаш! —
І, вясёлы, рагоча ў адказ.

І зноў лепіць Ніко мяне.
Думкай адною
увесь час ён заняты, штукар.
Вось паставіў мяне ён перада мною,
звёў, як кажуць, нас
тварам у твар.

Зноў спрачаемся мы.
Творцы два. Два грузіны.
Ўсё ўлічыць яму трэба як след.
Хоча ён ажывіць
гэту мёртвую гліну,
мяне выправіць хоча
у свет.

Я чакаю. А скульптар
гліну месіць нанова.

Лепіць, лепіць.
Яшчэ адзін міг,
і — о дзіва! —
з'явілася слова
на губах скамянелых маіх!

## АРТЫЛЕРЫЙСКАЯ ДУЭЛЬ

Мы бачылі смерць.
Не такая яна,
Якую запомнілі з казак дзіцячых.
Другую нам смерць паказала вайна —
Іначай там смерць выглядала, іначай.
Яна на плячах не насіла касы,
Уночы касцей белізной не свяціла —
Касіла пякельным агнём наўкасы,
Зямлю ўсю уздыбіўшы да небасхіла.
Кідалася, прагная, на бліндажы,
Наўкол валуны, нібы цацкі, драбіла
І быццам крычала:
«Вось тут і ляжы!
Ты хочаш ці не, а табе тут магіла!»
Мы бачылі там:
малады камандзір,
Што нёс на плячах пыл гарачых паходаў,
Ішоў, нестрыманы, у вогненны вір
Пад посвісты куляў наперадзе ўзводу.
Плячысты, высокі, ён стаў пад гарой,
Айчыны адважных герояў нашчадак.
І з кожным узмахам рукі
чарадой
На ворага з громам ляцелі снарады.

Ізноў ускідалася ў неба зямля
З абломкамі зброі варожай і дзотаў.
Зноў білі гарматы і рэхам здаля
Ў гарах адгукаліся ўсюды грымоты.
Праз ноч віраваў, нарастаючы, бой —
Здавацца ніяк не хацелі фашысты.
Ды спішылі ўсё ж іх магутнай пальбой
Грузінскія слаўныя артылерысты.
На горы ляцела смерць тысячу раз
І тысячу раз ноччу той адступала.
Адолелі смерць мы.

Свабодны Каўказ!

Зноў мірнае сонца над ім уставала.

## Іраклій Абашыдзе

* * *

Якая мне справа да сушы і мора:
Я іх не ствараў,
я за іх не ў адказе,
Хапае мне ўласных нягодаў і гора,
Я —
сэрца свайго неўтаймоўнага вязень.

І ты не ў адказе за сушу і мора:
На крылах памкненняў узнёслых,
як птушка,
Над імі лунаеш у сіняй прасторы
Ты —
думак сваіх уладар
і паслушнік.

І ён не ў адказе за сушу і мора:
Не ён іх стварыў,
ён іх не пашкадуе
І нашы сялібы,
і рэчкі,
і горы
У смерчы закруціць,
развее,
здратуе!

Пакуль жыццядайныя мора і суша
Даюць весялосць нам
і хлеб наш штодзённы,
Хай палкае сэрца
аддана ім служыць,
Хай смелая думка
ратуе ад скону!

* * *

Зноў і гэтай вясны,
Як хацелася,
стрэць не ўдалося.
Прамільгнула яе
мімалётная
Першая просінь.
Адышла назаўжды,
Свае скарбы забраўшы з сабою,
І на горных сцяжынах
Упарта май крочыць за ёю.

Зноў і гэтай вясны
Мне сустрэць не ўдалося,
як марыў,
І пабачыць як схілы Ліхі
Вызваляюцца з хмараў,
Як бурлівыя хвалі Рыёні
у даль адплываюць,
Над палямі Калхіды
мільёны сонц
жарам палаюць.

Я ўсё роўна не ўбачу
Вясну непаўторную гэту,
Што на міг расцвіла
І асыпалася,
                    першацветам,
І ў цяснінах патокаў
Бурлівых, нястрымных
                              кіпенне,
І на горных вяршынях
Праменняў зары зіхацення.

Усё роўна і гэтай вясны,
Як хацелася,
                    стрэць не ўдалося.
Прамінула яе мімалётная
Першая просінь,
У бясконцасць яна адышла.
Там адно засталіся
Недаступныя скалы, пячоры
Хвамлі, Кутаісі.

## БАЦЬКА

Калі вы ў Імерэціі нашай бывалі,
Летняй, самай пагожай паўдзённай парой,
Чалавека сляпога хіба сустракалі
У пасёлку маім. Гэта бацька быў мой.

Яго падпільнавала ліхая гадзіна,
І на вочы яго слепаты цень найшоў,
І ён потым, хваробай прыкуты, ў хаціне
Прасядзеў беспрасветна пятнаццаць гадоў.

Толькі часам выходзіў на вуліцу з дому
З памагатым сваім — неадлучным кійком,
Апрануўшы чаху рыжую, як салома,
Перастояўшая пад асеннім дажджом.

Так дажыў невідушчы да самае смерці.
За пятнаццаць гадоў нат забыўся зусім,
Як жыццё выглядае, дзень сонечны свеціць.
І не бачыў нат, як смерць сустрэлася з ім.

Ён без жалю пакінуў блакітныя кручы,
І палі, і даліны з вясновай красой.
А са мною што будзе, калі я — відучы
І гляджу з захапленнем на гэты край свой.

* * *

Бывайце!
Вы зачаравалі
Душу мне,
Прызнаюся шчыра,
Кіпучыя, пенныя хвалі
І Таха і Гвадалквівіра.

Бывайце!
Яшчэ, можа, разам
Мы стрэнемся шчаснай парою.
А сёння да граняў Каўказа
Ваш гул панясу я з сабою.

Бывайце,
І горы, і нівы,

І пройдзеныя мной дарогі,
Квітнейце пад сонцам шчасліва.
Хоць знаю,
Што жыць мне нямнога.

Бывайце!
Я тут не шукаю
Сабе для магілы мясціны.
Пад родным сваім небакраем
Знайду сабе вечны спачынак.

## МЦХЕТА

Калі ўсё толькі сон,
і прах,
і морак,
Чаму тады,
скажы,
з мінулых дзён
Паўсталі старажытныя саборы
І чуцен іх званоў
прызыўны звон?

Чаму тады Самтаўра слуп магутны
Пад панцырам муроў зіхціць,
скажы?
Чаму ў куранскай плыні каламутнай
Пампея мост адбіўся і дрыжыць?

Ступай за мной у неруш нескрануты,
Дзе ў забыцці,
пад тоўшчаю гадоў,

Магільні змрочныя князёў славутых
Спяць між руінаў
мёртвых гарадоў.

Ідзі за мной у Мцхету,
край паганскі,
У змрок глухіх пячор,
суняўшы страх:
Натоліш позірк дыяментаў бляскам,
Што ўсыпалі каменны саркафаг.

Спыніся ў ззянні камянёў зіхоткіх,
Што аздабляюць вазы, і збаны,
І ножны шабляў,
і вянцы,
і сподкі —
Адчуеш блізкі поступ
даўніны!

Вазьмі ад зыркіх скарбаў
меч і келіх,
Плён працы
карпатлівых рук майстроў,
Паслухай,
як яны калісь звінелі,
Адчуй,
як пульсавала ў продку
кроў!

І ты ўжо сам цяпер,
што грозны воін!
Напоўні ж келіх пеністым вінам:
Мой тост за ўсё,
за ўсё,
за ўсё жывое,

Што нам здавалася
магільным сном!

. . . . . . . . . . . . .

Калі ўсё толькі сон,
і прах,
і морак,
Чаму тады,
скажы,
з мінулых дзён
Паўсталі старажытныя саборы
І чуцен іх званоў
прызыўны звон?

# Грыгол Абашыдзе

## ГОРЫ І СКАЛЫ

Паглядам не абняць высокіх стром,
Іх недасяжнасць недаступна воку,
Каджэцкай крэпасці зубцом
Іх вежы рэжуць цяжкія аблокі.

Стаяць у гордай велічы сваёй,
Да неба ўзняўшыся з бяздоння,
Накрыўшы хмарнаю чадрой
Галовы, пасівелыя ў бяссонні.

І затаіўшыся на вышыні,
Бывае, ўніз шпурнуць знянацку камень
І доўга слухаюць у цішыні,
Як рэха коціцца вякамі.

* * *

На скалах тых не сцёрся часу след,
Напэўна, што адсюль пачаўся ранак,
Калі адкрыўся чалавеку свет,
Дзівосаў поўны і неспадзяванак.

І рынуўся далёкі прашчур наш
З чужынцам загрудкі схапіцца.

У камяні, у жвіры нездарма ж
Ашчэраныя зеўраюць байніцы.

Я тут яшчэ калісьці хлапчуком
Між камянёў, дзе сівер дзікі свішча,
Навобмацак, а то паўзком
Шукаў даўно патухлыя кастрышчы.

І праз тысячагоддзі высякаў
З акамянелага вуголля
Агонь, які нанова ажываў,
Высвечваючы наваколле.

* * *

Няхай не падабаецца каму
Ваш горды і суровы нораў,
Вы сэрцу мілыя майму,
Да вас прырос душою, горы.

Над безданню палёт арла
І промень сонца над вяршыняй,
Як росчырк вострага крыла,
Мае вы будзіце ўспаміны.

Люблю спічастую граду,
Якая ўвысь імкнецца строма.
Я тут заўжды свой след знайду,
Дзе ўсё, як дома, мне знаёма.

* * *

Што можа быць найболей блізка,
Чым бераг роднае ракі,
Яе выток, адкуль калыска
Твайго народа — на вякі?

Між гор спрадвечныя даліны,
Нібы арліных крыл размах.
Прасторай цешацца грузіны,
Ды сіла ўся іх — у гарах.

Усёй трываласці апора
І непрыступнасці рубеж.
Пашана вам, асілкі-горы,
Мая любоў і гэты верш!

З вяршынь на ворага бясстрашна
Выходзілі мы на прастор,
Каб вольнай і шчаслівай наша
Зямля квітнела паміж гор.

* * *

Тулілася мая хаціна,
Сцяной прыпаўшы да скалы.
Цясніны вузкая шчыліна
Высвечвала мой кут малы.

Няхай сабе абмежаваны
І непрытульны гэты кут,
Але заўсёды мне жаданы,
Бо тут прайшло юнацтва, тут

Аблазіў змалку я ўсе кручы
І, нахіліўшыся ў правал,
Крычаў, бывала, гэтак гучна,
Што водгулля каціўся вал,

Бесперапынны ў пералівах,
Наноў адбіты глыбінёй.
І казачным здаваўся дзівам
Слабы дзіцячы голас мой.

Як волат я шпурляў камені
У прорву з вышыні гары
І ў першым радасным натхненні
Тут вершамі загаварыў.

Падняўшы сівыя галовы,
Стаяла горная радня.
І кожнае маё ўжо слова
Сурова судзіць з таго дня.

Адтуль з-за воблачных вышыняў
Як на далоні ўсё відно:
Зеніт нябёс, крыштальна сіні,
І недасяжнай прорвы дно.

Хай строгі, але справядлівы
Прысуд на ўсе гады і дні —
Без велічы, красы і сілы
Не можа быць і глыбіні.

* * *

Вятры гуляюць над вяршыняй,
Дзе на скале арлы жывуць,
І недарма гару Арлінай
Спрадвеку між людзей завуць.

Напагатоў узняўшы пікі,
Стаяць хрыбты — за строем строй,
І на абсяг увесь вялікі —
Душы ніводнае жывой,

Бо над гарою той Арлінай
Адны драпежныя арлы,
Што ў страшных казках і былінах
Дзяўбуць ахвяру ля скалы.

Драпежнікаў, іх столькі многа,
І ўсе яны жыўцом дзяўбуць
Таго, хто ўкраў агонь у бога,—
І толькі тым яшчэ жывуць.

З налітымі крывёй вачыма
Героя сэрца рвуць наноў.
Усплёсак горнай ручаіны
Мне чуўся звонам ланцугоў.

Ды незвычайным усё гэта
Не ўспрымалася тады.
Мы ланцугі з усёй планеты
Сарваць павінны назаўжды.

І хто скаваны быў адвеку,
Той вольна ўздыхне ізноў.
Бяссільны страх над чалавекам
І груганоў, і кайданоў.

* * *

Над галавою лапік неба
На шапку не выкройваў я,
Бо і малому на патрэбу
Была ўжо ўся зямля мая,

Бо са скалы ахвярны голас
З такою сілай загучаў,
Што дужым станавіўся кволы
І волатам рос на вачах.

Было няцяжка здагадацца —
Парваў нявольнік кайданы,
Самаахвярны волат працы
Разбурыў мур глухой сцяны

І ўжо без боязі і страху
Навідавоку, на святле,
Надзеўшы белую папаху,
Стаіць асілак на скале.

І грады гор, нібы атрады,
Крануліся за далягляд.
Як невыказна быў я рады,
Ўрачысты ўбачыўшы парад!

І вось ужо за небасхілам,
Куды не дасягае зрок,
Зачараваны гэтай сілай,
Я ўсё лаўлю іх гулкі крок.

Ад шчасця замірае сэрца,
Калі прыгадваю той час.
Напэўна, што на той паверцы
Я вернасці вучыўся ў вас

Зямлі, і слову, і айчыне,
І небу, сонцу, вышыні,
Шчаслівы вашымі вачыма
Лічыць свае гады і дні.

Зрадніўшыся з маленства з вамі,
Перад сумленнем у даўгу,
І ў марах узмахнуць крыламі
Без вас наўрад ці ўжо змагу,

Як уяўлялася калісьці,
Вось толькі моцна захачу —
Удасца на прасторы выйсці,
Раскіну рукі — палячу

У неабсяжнае бязмежжа,
На край зямлі, да берагоў,

Дзе новыя пабачу вежы
Пад вечным покрывам снягоў.

Удзячны першаму натхненню —
На ўсё свая пара і час,
Спакою, вытрымцы, цярпенню
Вучыўся, горы, я у вас.

Прыгледзьцеся бліжэй, грузіны,
О, як глыбока заляглі
Тысячагоднія маршчыны
На твары роднае зямлі,

Ды маладое перад светам
Яе аблічча на сцягу.
Хто за грузінскага паэта
У большым перад ёй даўгу?

Хай будзе гэты доўг сумесны,
Але, напэўна, кожны з нас
Складзе найлепшую ёй песню
У самы свой высокі час.

## Шалва Амісулашвілі

### ЛЮБІМАЯ ТРОЙЦА

Гайдаюцца каля акна галіны дрэў,
Вiруюць замецi пялёсткаў ружаватых,
Адзін сяджу ў зямлянцы: ліст мяне сагрэў,
Гляджу на здымак, што даслалі з роднай хаты.

Як шэрань ранкам, жаль употайкі прыйшоў,
На плечы апусціўшы мне пакут каменне,
Я слухаю мелодыі былых часоў,
Гадую ў неспакойным сэрцы суцяшэнне.

Шаль кашміровы на матуліных плячах,
Не паскупіўся час на сівізну для таты,
Між імі — ўнук, нагадваў рук яго размах
Саколіка, які нябёсаў прагне ўпарта.

Грузінскай роднае зямлі святы запал
І зараніца будучыні красяць вочы,
Са стойкасцю дзядулеў гарт у іх запаў,
А валасоў вянец — агат чарней ад ночы.

На трысняговай дудцы грае сын штодня,
Каб я адвагу ў бітве з ворагам не страціў,
Пячэ матулінай слязы гарачыня,
Прасейваў бацька словы рупна, бы старацель.

Хачу паміж былым і будучым паўстаць
Мастом, каб апынуцца дома на хвіліну.
Калісь, мажліва, будуць і пра нас казаць:
«Нібы арагвінцы, ўсталі за Айчыну».

...Дыван вішнёвых кветак кінуты вясной,
У промнях сонечных мой светлы смутак грае.
Я ў незнаёмай старане, і нада мной,
Грузінскім воінам, туман чужога краю.

## ЗАКЛІКАННЕ

Бэзу куст за адкрытым акном,
Набрынялыя пахамі гронкі,
Шчабятанне стрыжоў над гняздом,
Белата запаветнай старонкі,

Шэры стол і чарніліцы шкло,
Востры меч песнятворцы Пшавелы,
Дрэва персіка, што зацвіло,
Як чангуры дажджу зазвінелі,

Зерне, што прытуліла ралля
(Зіхацела, нібыта Шлях Млечны),
І далін пладаносных зямля,
Што пад сонцам буяе спрадвечна,

Ў росным лузе каралі слядоў,
Утрапёны крылаты Мерані,

Летуценні дзіцячых гадоў,
Нечуванае ў свеце каханне

Уладарна паклічуць цябе:
Падрыхтуйся да працы рупліва,
Каб служыла пяро барацьбе,
Пазбаўляйся настрояў гуллівых.

Хай аголіць прызнанняў нарог
Скарбы думак, пачуццяў найпершых,
Каб ліліся заветна ў народ
Ручаінай спяваючых вершаў.

Не губляй нізавошта надзей,
Каліопе захоўвай адданасць
І запальвай у сэрцах людзей
Да бацькоўскай зямлі закаханасць.

Загусаюць парады, як мёд,
Але ты — на шляху сваёй мары,
Зіхатлівы вясёлкавы мост
На тваім небасхіле не марна.

Загучыш, як дзянніцы арган,
У натхнёна-жывым адчуванні,
Бы магутныя крылы арла,
Распрастаюцца словы прызвання.

Ветразь планаў пара разгарнуць,
Увабраць у сябе моц Радзімы,
Шлях жыццёвы напэўна адчуць —
Хай гучаць жа аб мужнасці гімны!

## ДАРУНАК

Сустракаю без крыўды я старасць
І кажу на адметнай мяжы:
«Як на тыгравай шкуры палосы —
Шэсць дзесяткаў — гады-рубяжы».
Свой у старасці погляд на рэчы,
Свае радасці і капяжы,
Даў мне лёс неацэнны дарунак —
На зямлі Сакартвела пражыць!

## Рэваз Маргіяні

### ВЯРТАННЕ Ў РОДНЫ ДОМ

З чужых дарог, з чужых краёў —
З вайны вярнуўся я дамоў,
Сяджу на крэсле ганаровым,
Што засталося ад дзядоў.

Усё хвалюе тут мяне:
І рогі тураў на сцяне,
І месячык, мой брат названы,
Чый твар ў маленечкім акне.

Палае наш стары ачаг.
Ад дыму слёзы на вачах,
Плыве, віецца дым гаркавы,
Ды мне салодкі гэты пах!

Ачаг з магутных камянёў
Як вежа з водбліскам агнёў,
Што вырываюцца з байніцы,
Дзе, як гарматы — жэрлы дроў.

Мой родны кут, мая сям'я!
Як марыў вас убачыць я!
Мая матуля, бацька, жонка —
Царыца мілая мая!..

Вайна цягнулася бясконца...
Мая Хатуна, Окра мой,
Вас без мяне ўзрасціла сонца
Руплівай Грузіі маёй.

Люлялі ў гэтай вас калысцы,
Ў якой і прадзед ваш, і дзед,
І бацька ваш ляжаў калісьці...
Шлях пакаленняў — след у след!

Старое чангі, чыануры...
У іх вяселлі і хаўтуры —
Былога неўміручы гук.
Яны смяюцца і галосяць...
Ў іх сэрца роду засталося
І цеплыня ягоных рук.

Вось стол абедзенны стары...
Ён помніць многія піры,
На ім лаваш, айва з Лечхумі
І вінаградараў дары.

Чысцейшай чачы добры гляк,
Якаяваліць і гуляк,
Віно, што трошкі забрадзіла,
А ўсё ж цудоўнае на смак!

З чужых дарог, з чужых краёў
Я ў дзверы родныя ўвайшоў,
Якія вораг — не адчыніць,
Якія — насцеж для сяброў.

О, неба роднага шацёр
У дыяментах майскіх зор,
Гор велічэзныя вяршыні
І шапкі на вяршынях гор!

Таксама шапку я насіў!
Не зганіў я імя грузіна,
Дайшоў з Каўказа да Берліна,
Грудзямі маці засланіў.

Чырвоны прамяністы сцяг
Мне асвятляў мае дарогі
І сёння ў небе Перамогі
Палае зарывам жыцця.

Хай зоры свецяць, як рубіны,
Над неўміручаю зямлёй!
Вярнуўся я дамоў, грузіны,
Ў абдымкі Грузіі маёй!..

* * *

А Сванецii горы
бачыў ты ў зяляніне?
Мой маленечкі дворык
на далоні вяршыні?
Ты гумно маё бачыў
даўжынёю ў два крокі?
Ніжэй будкі сабачай
і вышэй за аблокі!
Дуба-волата вежа
ля маленькага дома,
І лунае ў бязмежжы
песня з рокатам грома.
То на чангі зайгралі
сваны на паляванні...

Горных зорак каралі
бачыў ты на світанні?
Бачыў ты калі-небудзь
мурагі на вяршыні?
Ходзяць косы па небе,
сонца спіць ў канюшыне!
Бачыў ты, як па спуску,
па вузенькай сцяжыне,
Крочыць дзеўчына ў хустцы
Далі — нашай багіні?
Хустка з неба пашыта,
залаціцца, як ранак.
Далячынню блакіту
вочы свецяцца ў сванак!
І гняце мяне горад:
і тады я ў гуморы,
Калі ўспомню я, горац,
свае родныя горы!

## Аляксандр Саджая

### СТАРЫ ЧАНГУРЫ

Растрывожыў сэрца на хвіліну
Мне напеў — салодкі і далёкі.
Па сцяжынцы з песняй у даліну
Я спусціўся і суцішыў крокі.

І лясы, і пашу вечар весні
Ахінаў пяшчотна сінім змрокам.
Акрамя яго і ціхай песні,
Больш нічога не было навокал.

Што за песня дзіўная такая?
З лёгкасцю адольваючы горы
І цясніны ўсе, яна знікае
Там, дзе дружна карагодзяць зоры.

Песня пра каханне і пра сонца,
Пра героя, што ішоў праз буры.
Песня плакала раней бясконца...
Слухай, што цяпер пяе чангуры!

Ён пяе пра месячнае неба
Над маёй маленькаю планетай
І пра тое, што душы не трэба
Больш нічога, апроч песні гэтай!

## ЗНОЎКУ СЭРЦА Я ПАЧУЎ РАСКАТЫ

Гэта не лавіны, не абвалы.
Гэта сэрца ўдарыла ў набаты —
І плывуць удалячынь раскаты.
Глянуў у душы сваёй падвалы —
Скарб знайшоў раптоўна небывалы.
Там рубіны ззяюць і агаты.

На гары стаю, нібы капліца,
І гудзе любві маёй званіца.

Не шкадую я жыцця былога,
Бо яно — сапраўдная пустэча,
Немата, самота і галеча.
Стаў я пераможцам лёсу злога —
Ад былога больш няма нічога:
Сонца нада мною і сінеча!

На гары стаю, нібы капліца,
І гудзе любві маёй званіца.

Сэрца разарвала павуціну.
Я дзяцінству гэты дзень вяртаю —
З жураўлямі белымі ля гаю,
З сонцам шчодрым, што ліе ў даліну
Яркія струменьчыкі бурштыну,
І з разлівам руж да небакраю.

Я святлом заліты, бы капліца,
І гудзе любві маёй званіца.

Чуюцца мне дзіўныя напевы,
Быццам я гуляю ў райскім садзе.
Птушка з дзюбай залатою сядзе

На маё плячо, нібы на дрэва,
І святла абложная залева
Адлюструецца ў маім паглядзе.

Зноў гудзе любві маёй званіца,
Я святлом заліты, бы капліца.

## РАННІЯ РУЖЫ

Снег пайшоў, і горная сцяжынка
У імгненне вока белай стала.
Лёгкая пяшчотная сняжынка
Мне раптоўна ружу нагадала.

Засцілала небасхіл і гоні
Кісяя рухома-трапяткая.
А сняжынка села на далоні
І растала — ціхая такая.

Можа, явай мне здаліся мроі,
Можа, мне прысніўся вечар гэты?
Толькі быў я ў радасным настроі,
Быццам сонцам веснавым сагрэты.

Можа, крыл нябачных трапятанне
Гэтай белай замеці прычына?
Я душою задаваў пытанне,
А адказ атрымліваў вачыма.

Снег ляжаў навокал дыванамі,
На сады накідваў апранахі.
І бялелі вабна перад намі
Ціхія аснежаныя дахі.

## СНЕЖНАЯ ЖАНЧЫНА

Абдымаю снежную жанчыну,
Як сястру малодшую, на ўзлеску.
Снег збяжыць патокамі ў нізіну —
Нагадае мне яна пралеску.

Голас у сястры маёй пяшчотны,
Толькі мне спяваць яна баіцца.
Ад мяне хавае твар журботны
І ніяк пры мне не праслязіцца.

Нашу запаветную аповесць
Завіруха ў верш перарабіла.
Да мяне прыйшла сястра на споведзь,
А сказаць галоўнае забыла.

Не яна журбы маёй прычына,
Ды не вечны снег на пералеску.
Нагадае снежная жанчына
Мне вясной блакітную пралеску.

## Ладо Асацыяні

### ГРУЗІНСКАЯ МОВА

Бог у гарах стварыў цябе світальна,
О, мова вершаў, тостаў і кахання!
Прынёс да нашых дзён народ спрадвечны
Дрыжэнне вадаспадаў быстрацечных,
І раставанне снегу ў бляску дзіўным,
І бег аленяў, вольны і нястрымны,
І расціланне па гары атары,
І звон шчытоў грузінскіх, іх удары!
Пранёс народ здаўна праз час імклівы
І тое, як хвалюе вецер ніву,
Як молат плешча ў Саркінеці звонка,
І як над морам праплывае зорка
Ці ў месячную ноч у замкавым скляпенні
Найсаладзейшы страх любві таемнай,
Калі паломнікі начныя весяляцца
І калі сны шчаслівыя ўсім сняцца...
Цябе ў гарах стварыў, калі світае,
Бог, мова аксамітная, святая!

## КРЦАНІСКІЯ МАКІ

*Памяці трохсот арагвійцаў*

Гэй, ненасытныя ў бітве, харобрыя арагвійцы,
Перад магіламі вашымі нельга мне не схіліцца.
Ранены чэркес у чорнай чэркесцы? Ціха. Ні слова.
Ці гэта кроў твая, ці, можа, макі гараць пунсова?
Хлопцы ў чорных чэркесках, што вас такое натхняе,
Ці не пачулі здалёк вы бразганне шчыта Джургая?
Ці не адгукнуўся звон шаблі малога кахецінца?
Магчыма, страціў я зрок, і неба балюча іскрыцца,
Тады вы устаньце і самі скажыце, рашучыя:
Калі і не агонь макаў і не рана пякучая,
То сіла якая падпаліла спрадвечны Крцанісі?
Гэй, ненасытныя ў бітве, харобрыя арагвійцы,
Перад магіламі вашымі нельга мне не схіліцца.

## У ГРУЗІІ

Нараджаліся ў Грузіі заўсёды
З думкаю, што і цяпер не госць:
Эх, вярнуць бы на мінуту годы —
І дзяцінства, і красу, і маладосць.

На сябе грузін руку не падымае,
У баі загінуць ён гатоў
З той надзеяй, што жыццё не памірае
І ў мільярдах непадлічаных гадоў.

Калі ў Грузіі, бывала, паміралі,
Бедавалі аб адным адзіным скрозь:

Эх, каб на мінуту ажывалі
І дзяцінства, і краса, і маладосць.

У нас мужнасць перамешана з крывёю,
Хай пачуюць, хай вядома будзе ўсім:
Можа, мы ў баях памром са зброяй,
Можа,— ды жыцця не прададзім.

Калі так жыццё бяжыць імкліва,
Не пакіне смерць крывавы след.
І няхай жыве той дзень шчаслівы,
Той, што нас прывёў на гэты свет!

## САЛАГОБА

Мая жонка красуня, а я трызню —
хачу яшчэ больш прыгажэйшую.
Каб цвіла, нібы персік вясною,
і была, як галубка, узлётнай.
Я прыгожую Грузію моцна люблю,
ды хачу яшчэ больш прыгажэйшую,—
Як царыцы Тамары гаспода раскошная зіхціць
пазалотай.

«У мужчыны сэрца — мора,
Бурнае, глыбейшае,
Хоць і жонка прыгажуня,
А чужая — лепшая!»

Вы іграйце, каб адчуў кінжал трымценне,
Каб вышчарблены ў бойках быў усе гады!
Няхай жывуць блакіт нябёсаў і праменні,
Няхай магутнасць Грузіі жыве заўжды!

Вы іграйце! Пакуль кроў цячэ у жылах,
Пакуль тапыля густа лісцем шапаціць,
Пакуль у храме Мцхеты, вечнай, мілай,
Спачывальна сэрца Грузіі не спіць!

Вы іграйце! І спявайце — ёсць нагода! —
Няхай лёгкія набракнуць і баляць.
Іграйце, каб маладымі быць заўсёды,
Каб старасць у жыцці не сустракаць!

Вы іграйце! І спявайце шадзіяні,
Што Мачабелі ў баі калісь спяваў.
Іграйце песню старадаўнюю — паданне,
Арлінаю іграйце, каб палёт натхняў.

Калі кінжал дзевяць разоў праніжа сэрца,
Я не скаруся ворагу — жыццё люблю,
Да Грузіі любоў ніколі не самкнецца,
Яе любоў ні на імгненне не прасплю.

Вы іграйце! Сёння радасць услаўляйце:
Ваўчыца-старасць не адседзіцца ў цішы.
Лепш бадзёрую, даўнейшую іграйце: —
Чэркеска чорная нам, смуглым, па душы!

Вы старадаўнюю іграйце зухавата,
Што спяваў Саят-Нова, іграйце зноў.
Вы іграйце! Можа, у чарках малавата?
Ці, магчыма, паланіла ўсіх любоў?

Весялейшую іграйце, што пра волю,
А то смутку чорнай хмараю вісець.
Маладосць жа не вяртаецца ніколі,
Стыне сэрца, што магло кахаць, гарэць!

«Хлопцу трэба сэрца — камень
І кальчуга хоць драўляная.
Вочы — ястрабіныя,
Калені — сакаліныя».

Мая жонка красуня, а я трызню —
хачу яшчэ больш прыгажэйшую.
Каб цвіла, нібы персік вясною,
і была, як галубка, узлётнай.
Я прыгожую Грузію моцна люблю,
ды хачу яшчэ больш прыгажэйшую,—
Як царыцы Тамары гаспода раскошная
зіхціць пазалотай.

## Мірза Гелавані

### МАЕ ВЕРШЫ

Ты не ідзеш... Часы расстання,
Шмат позваў жоўтых прамільгне.
Мае радкі — як прывітанне
Усім, хто не забыў мяне.

Зноў чаргаванне летаў, зімаў...
Зямля, радкі мае прымі,
Як прабачэнне прад усімі
Мне незнаёмымі людзьмі.

Любоў прыходзіць немінуча,
Сябры ў мае ўваходзяць сны.
Жыццё — і ў смерці неўміруча!
Так і ў радках маіх — яны.

### ІЁРЫ

Я хлапчуком быў, як раўчук той звонкі,
І раніцой з бузінавым ружжом,
Як з другам, бег к табе наперагонкі,
Твой бераг быў для нас як родны дом.

Над намі дзьмулі рэзкія вятрыскі,
І тут да вышыні я прывыкаў.
Ты замяняла мне тады калыску,
Мая Іёры, горная рака.

Гады забаў далёка засталіся,
І толькі успамін пра іх не знік.
Вясною дрэвы выпускалі лісце
І берагам спяшаўся красавік.

Іёры, добры дзень!
Мяне ты чуеш?
Маё ж дзяцінства ля цябе жыве.
І шчодрасці сваёй ты не шкадуеш,
Даеш ваду і кветкам і траве.

Цябе пачуюць — бачаць ці не бачаць,
На вышыні сябе трымаеш ты.
Хачу і я,
Каб вершаў дождж гарачы
Мыў чыста сэрцы, кветкі і лісты.

Як з другам я бяседую з табою,
Дай мне руку і сэрца дай навек.
Іёры,
Так здаецца мне парою:
Са мной гаворыш ты, як чалавек.

І нездарма Важа цябе прыкмеціў,
Табе, гаранцы, вершы падарыў
Аб тых вірах, дзе ўлетку, нібы дзеці,
Карэнні дрэў ныруюць пад абрыў.

## ТЫ

Ты бачыў, як палаў блакіт нябёс,
Наўкол агнём уся зямля палала.
Ляцелі кулі, быццам сотні вос,
Каб у яго патрапіць вострым джалам.

Ён ніцма ўпаў на мокрую траву,
І, нібы медсястра над родным братам,
Вясна ў палях — не ў сне, а наяву —
Схілілася над раненым салдатам.

Ты сам тады ўвесь вымак да касцей,
Калі яго выцягваў з поля бою.
Але згадай той шлях і тых дзяцей,
Якія там сустрэліся з табою.

Гарачь з надзеяй позіркі малых.
А ты ідзеш. Кроў. Дым. Усё ў тумане.
І ўжо нічым не выратаваць іх:
Забойства смерці — вось выратаванне.

## АД МТАЦМІНДЫ ДА СМАЛЕНСКА

Ад Мтацмінды да Смаленска —
Доўгі шлях:
Горы, стэп, іржавыя балоты.
Помніш ноч?
Залёг ты у дратах
Пад шалёным градам кулямётаў.
Помніш Днепр?

Кляновых лісцяў рой.
Восень скрозь шляхі нам залаціла.
Быў я ранены, ды зноўку стаў у строй:
Неба роднае, бы ўрач, мяне лячыла.
...Я твой дом сваім пісьмом не засмуціў:
Напісаў, што ў бойцы ўсякае бывае,
Што рыбак з Пшаві на крок не адступіў,
Сэрца друга на вайне не памірае.
Б'ецца зноў яно — за ўдарам чую ўдар,
І здаецца зараз мне ў агні паходу,
Што з часіны той
двух сэрцаў я ўладар,
Што к сваім гадам
твае прыбавіў годы.

* * *

Я не герой. Адно ў баі было —
Мне шанцавала ўсім смярцям назло.
І апускала смерць сваё крыло...
Усё ж цяжэй мне помніць вашы вочы —
Не адтаго, што я пазнаў любоў,
Што буйна бунтавала ў жылах кроў
І перад ёю не знаходзіў слоў,
Ды ўкраў хтось гэты скарб у цемры ночы.
Не адтаго. Зусім не адтаго,
Што гэтай ночы патухаў агонь,
Што боль мой выцяў на світанку стогн
І клікаў вас, і толькі вас трывожна,—
О не!.. А проста смерць, як ні круці,
І вы — зарукаю ў пуці,
Што ўсё яшчэ магчыма у жыцці.
Магчыма ўсё... І жыць мінулым можна...

## МАЦІ

Вечар дажджлівы,
заплаканы вечар — вечар расстання.
У змроку асеннім знікне
маё юнацтва.
Мой адыход. Застаюцца і вершы, і край, і каханне,
Мама ў журбе,
чыё сэрца мяне будзе верна чакаць...
Вось я ў акопе,
Сагрэты агнём, што нашу ў аўтамаце,
Чую ваш голас, бы чую, сэрца крывёю пульсуе.
Хто ж тую сілу дае,
Каб і вашаму, мама, дзіцяці
Вытрымаць гэткае пекла?
Заклён ваш ад кулі я чую.

Помніце раніцу?
Дождж над прыціхлым Тбілісі цярушыць.
Не зразумець:
Світае ці хмары цяжкія радзеюць.
Ёкнула сэрца ад спеву —
прачнулася першая птушка:
Больш вас ніводзін світанак
цяпер у жыцці не сагрэе.
Неба святлей —
На Мтацміндзе Ніневія спала маўкліва!
Хутчэй бы цяжкі той растанак —
Такім было наша адзіным жаданне.
І вось ужо ад роднага краю
Нясе мяне ўдалеч імкліва
Поезд, падобна аленю,
Што скача па выручку лані...
Мама, прабачце мне:
Я не умею цяпер усміхацца.
Што ў вачах маіх зараз —

Не варта глядзець — гэтак страшна.
Можна
У чорнага ветру, барвовых снягоў распытацца,
Як ваш сын сёння на свет нарадзіўся
І як памёр учарашні.
Толькі адно:
Час святы Перамогі
Верне нам радасць і пах горных кветак.
Толькі яна
Мяне верне у горы
Па дарагому бацькоўскаму следу...

## СНЕГ

О, снег прыйшоў! Зусім не белы.
О гурбы, як вас абміну?
А можа, гэта ты нясмела
Нясеш мне снежную труну?

Спаві мяне завеяй сіняй,—
Стаміўся я ў цяжкой хадзьбе!
Спяшай, пакуль іскрыцца іней
Цнатлівай марай аб табе.

Мінула колькі — як пайшла ты?
А прыйдзеш — век які міне?
Ляціць, ляціць дымок крылаты —
Згарэлы снег, згарэлы снег...

Завеі следам — як напасці,
Што цёмна й зараз уваччу —
Такую стому, слодыч страсці
Я ўсёй істотаю адчуў!

Ён, снег, прыйшоў! Як манна з неба!
Твой край ад зарыва пажоўк.
Я — па-за сонцам, па-за снегам,
Я — як заплаканы сняжок.

О, колькі часу, як пайшла ты!
А прыйдзеш — век які міне?
Хутчэй ляці, дымок крылаты,
Згарэлы снег, згарэлы снег...

# Шалва Парчхадзе

* * *

Калі б я не дагледзеў быка,
калі б я не натоўк яму солі,
не рассек на двары кругляка,
не набіў тапарышчам мазоляў,
не пагнаў бы авечак на луг,
не адладзіў як след востры плуг,
не ўвіхаўся б у працы зімою і летам —
што тут сталася б з гэтым светам?
Без мяне б хіба ўправіўся бог
навіну гэту ралам узняць?
Падкаваць бы каня хіба змог,
песні пець і быкоў паганяць?
Я й грабар,
і цясляр,
я і муляр,
і земляроб,
паляўнічы,
і воін,
і вінароб.
Я і жнец,
я і швец,
і на дудзе ігрэц.
Што зрабілася б з гэтым светам?
Без мяне б ён марнеў пустацветам.

Хто б зямлю перацёр да крупінкі,
нізка кланяўся кожнай збажынцы?
Хто б тут гэтыя крэпасці ўзвёў,
хто тут ружы такія завёў,
каб не я, каб не я...
Мне пахвальнага слова не трэба,
для мяне ўцеха — чыстае неба
ды Радзіма мая!

## БЫК

Дубовае ярмо з жалезным шворнам
ты на сваім гарбу жыццё ўсё нёс.
Быў рад ці не — свайму піццю і корму —
не скардзіўся на неба і на лёс.
І ў час сяўбы, касьбы ці іншай зварушыны
узнагародаю былі заўжды
табе ахапак хрумсткай канюшыны,
глыток-другі падсоленай вады.
Ярмо тваё і шворан той жалезны,
бывала, шыю зрэжуць да крыві...
Ў сваім жыцці, гаротным і балесным,
ты знаў: жыві — працуй, працуй — жыві.
Так цягнеш лямку — дзень за днём мільгае...
Ад мітусні ўбаку, ад марнаты...
Пад'ём і спуск — усё ў жыцці мінае...
Здаецца мне, што вечны толькі ты.
Так адыходзіць дзён астатніх рэшта...
Ляжыш на сене, воглым ад расы,
жуеш, а ўсё табе здаецца: рвеш ты
арбу тваю па ступіцу ў гразі...

# АСЕННІЯ ДНІ

Вось надышлі і асеннія дні —
колькі турботаў на вёсцы ў радні!
Крэкчуць сяляне ад цяжкіх кашоў...
Прагнецца сонца хутчэй да крыніцы,
там надвячоркам збаноў-гладышоў!
Як з аднаго я хацеў бы напіцца!

Вось надышлі і асеннія дні.
Гожа надзелі рабіны каралі.
Сонца ручное.
Бурштынныя далі.
Далі Кахеці і Атэні.
Здалечы, клічучы ў вёску з Тбілісі,
вабяць мяне тыя далі і высі.

Як там жывецца табе без мяне?
Думка хоць раз пра мяне мільгане?
Сонца ручное
ды жоўтае лісце...
Мусіць, адны —
тут кляні не кляні —
сёння чакаюць
мяне там з Тбілісі?..

Вось надышлі
і асеннія дні.

## Іосіф Нанешвілі

### ВОСЕНЬ У ТБІЛІСІ

Вунь на праспекце Руставелі
Насустрач высыпаў народ,
Платан кілім пад ногі сцеле,
Вітаючы яе прыход.

З Кахеціі павеяў ветрык —
І разам з водарам віна,
Айвы і яблык, груш і кветак
Вязе свае дары яна.

Глядзіць і дзівіцца Тбілісі,
І не нарадуецца ён:
На славу сёлета ўдаліся
І ураджай, і добры плён.

Прыцмокваючы языкамі,
У захапленні ўвесь кірмаш.
Між бочкамі і бурдзюкамі
Вясёлы гоман нездарма ж:

Здымаюць пробу гараджане —
Якое лепшае віно:
Напарэулі, гурджаані,
Цалікауры, салхіно?

— Батона, справа не ў цане.
Як спадабаецца на смак —
Ты толькі не мінай мяне,
Бяры за так хоць цэлы гляк!..

Наўкола ўсклікі, охі, ахі:
— Што за віно, браток,— вай, вай!
— Ты заадно і карданахі,
І сапераві паспытай!

А вось яшчэ і ркацэтэлі,
І апельсінам закусі...
Хацелі вы ці не хацелі —
Дарэмна літасці прасіць.

Каго ж не вельмі трэба ўпрошваць,
Сам паддаецца на паспыт.
Глядзіш, і ён ужо харошы,
Удоваль і вясёл, і сыт.

Вунь хлопцы ліпнуць да дзяўчыны,
Гудзе натоўп паміж вазамі:
— Адкуль, красуня, мандарыны?
— Здалёк, батона,— з Алазані.

— Гаспадары і гаспадыні,
Купляйце кавуны і дыні.
Яны паспелі ў самы раз —
Гарантыю дае калгас!

Жанкі перабіраюць травы:
Тархун, і мяту, і чабор.
Не лішні клопат і прыправы —
Лепш перабор, чым недабор.

Не для пацехі і забавы —
Гранат, міндаль і мушмула,

Чырвоны перац хоць гаркавы —
Якая ўкраса для стала!

Займаецца на ўсходзе ранак,
На захад адступае цень.
Ты быў шчаслівы і жаданы,
Зямлі маёй працоўны дзень.

Пажоўклы ліст на дол кладзецца,
І тонкай павуціны ніць
Сярэбраным узорам тчэцца,
Зазімкам сонечным звініць.

Хвала і слава вінаграду,
Чырвоным персікам хвала.
Як залатая восень рада,
Што шчодры скарб свой аддала.

Дамоў вяртаецца з Тбілісі,
Улегцы едзе на арбе.
Калі сустрэнецца табе,
Не ганарыся — пакланіся!

## ЭПІТАФІЯ РЭЗЧЫКУ ПА КАМЕНІ

Я высякаў арнамент Кашуэці,
Сваёй душы апошні запавет,
Па кнізе зор, што з вечнай высі свеціць
І па якой я вывучаў сусвет,
Каб высекчы арнамент Кашуэці.

Якая таямніца паміж намі,
Між словам, каменем, зямлёй і мной —
Раскажа вам гранітны мой арнамент:
Я хмель і папарадзь звязаў вузламі
І вінаградпай перавіў лазой.

І хоць яны каменнымі былі,
А пад маім дыханнем ажылі
І доўга штось расказвалі сусвету,
Але майго не выдалі сакрэту.

Прахожы, прыпыніся, як калісьці,
Прыслухайся, калі ты не глухі,
Сам здагадаешся, аб чым шапочуць лісці,
І мне даруеш цяжкія грахі.

Са мною жорстка абышоўся лёс
За тое, што яму не пакарыўся,
За тое, што на камень перанёс
Сваёй каханай любыя абрысы.

Аблічча боскай мацеры святой,
Навекі анямелай і застылай,
Я замяніў абранніцай сваёй —
Жаданаю, жывой, зямной і мілай.

Не дараваў непрымірымы бог
Мае віны да гэтае пары:
«Не думай, што мяне ты перамог —
Без часу ў невядомасці памры...»

Спыніся на хвіліну, падарожны —
Даўно забылася маё імя.
Я адышоў, як і адыдзе кожны,
Ды будзе жыць любоў мая.

## Ладо Сулаберыдзе

### МОЙ КОНЬ

Бічом я ляскаў па тваёй спіне,
Аддаўшыся няўрымсліваму бегу.
Скакаў я ў доле, а вяршыня мне
Узмахвала сівою шапкай снегу.

Дарогамі — нізіна ці гара —
Штодзённа ты цягнуў цяжкія вязкі,
Цярпліва ад свайго гаспадара
Чакаў зярнят удзячнасці і ласкі...

Я накасіў травы каля вады,
Стагоў наставіў — дзе бальшак праходзіць.
Тваё іржанне шчырае заўжды
У добрых душах водгалас знаходзіць.

Былінны лёт кентаўраў — прывід твой
І рыцара ламанчскага імкненні
Кранаюць акрылёнасцю сваёй,
Як вечнасці шчаслівыя імгненні...

Калі ўжо шчыт узняты і кап'ё,
Хто спыніць крок, які штоміг мацнее?
Лятучай грывы воблака тваё
Магло б аздобіць нават Дульцынею.

Хіба ты бег на золку за сяло
Таптаць траву, якая раны гоіць?
О, скакуна блакітнае крыло,—
Яго ў шляху нішто не супакоіць!

Ляцім з табой мы з даўняй даўніны,
І нам утораць далі рэхам звонкім.
...І іншыя зайздросцяць скакуны
Тваім нагам, нібыта коп'і, тонкім.

## АКОП

Рыдлёўкаю маленькаю капаў —
Каменны непадатны грунт чапаў.
І вось ён, мой акоп —
Апора Крыма,
Прыстанак мой,
Маленькая радзіма...
То вецер хмары гоніць на мяне,
То град з нябёсаў шротам секане,
Але ў акопе я, нібыта дома,—
Мяне не страшаць ні мароз, ні стома.
Я ні на крок адсюль не адступлю,
Ратуючы айчынную зямлю...
Маленькаю рыдлёўкаю капаў —
Упарты непадатны грунт чапаў,
Ды тут спасціг такую глыбіню,
Якая абароніць ад агню!..
Акоп мой,
Ты, як ёсць, перад вачыма —
Маленькая
Нязломная радзіма!

## Мурман Лебанідзе

* * *

Макі, макі ў даліне —
як кроплі крыві,
Што праліта бацькамі,
чырванеюць у маі...
Апроч гэтай,
радзімы другой і любві
Я не маю!
Крэпасць кожную імем сваім назаві —
Хай вышыні падзорныя
горда ўздымае.
Апроч гэтай,
радзімы другой і любві
Я не маю!
Я з каўказскіх вяршынь,
што спавіты смугой,
Хваль уздыбленых спеўны парад прынімаю.
Апроч гэтай,
любві і радзімы другой,
І дарогі другой, і сцяжыны другой
Я не маю!

* * *

Бронзавага Гейнэ
мы шукалі —
Доўгім быў руплівы пошук наш.
Манументы іншых сустракалі,
І раптоўна —
кветкавы кірмаш.
Побач —
помнік Шылеру гранітны
Ростам ад зямлі і да нябёс.
Кветак стос,
чырвоны і блакітны,
Ля яго падножжа рос і рос.
У руках рухавага падлетка
Колас быў,
які без слоў пяе,
Коласам падперазаў ён кветку,
Шылеру падараваў яе.
І такая ціша ў летняй сіні —
Ні вайны,
ні грому,
ні трывог.
Толькі кветкі!
Ружы і вяргіні —
Шылеру вялікаму да ног.

* * *

Я не разумею бегу спраў:
Сеяў я, здаецца, поўнай жменяй,
Але, аказалася, прайграў,

Бо сяброў становіцца ўсё меней.
Не скасіла іх агнём вайна —
Тых, каго цяпер няма са мною,
Хоць ніхто не кінуўся з акна,
Але адгароджаны сцяною...
Зараз часта я з сабой самім —
У кватэры ўласнай на паверцы.
Кожны ў дробным клопаце сваім
Патанае, быццам у азерцы.
Некуды ў нязнанасць адплылі,
Седзячы на дроткай лодцы кожны.
Адышлі, як быццам не былі —
Раз'яднання поступ пераможны!
Аніхто ў жыцці не абміне
Ночы, дзе жывое ў цемры тоне...
Ценем таямнічым да мяне
Нехта набліжаецца ў сутонні.
На гару ўзабрацца я хачу
Ды марскія далечы аклікнуць,
Але затрымцела мне ўваччу —
Я хачу на ўсю планету крыкнуць.

## Хута Берулава

* * *

Сваіх паэтаў з іх урокамі,
Як жыць і род вясці з працягам,
Народ па праву зваў прарокамі,
Зваў крэпасцю сваёй і сцягам.

Трывожны кліч у дні былыя
Калі б сабе ні пратрубілі,
Яны, як вежы крапасныя,
Агніста ў набрыдзь словам білі.

Яны ў стагоддзяў за плячыма
Па ўсіх рэліквіях баталій
Стваралі летапіс айчыны
І з забыцця ўсё ёй вярталі.

Прайшоўшы шлях жыцця без страху,
Ім жыць і жыць з народам родным:
Пад дзёрнам — прыгаршчамі праху,
А ў душах — словам бессмяротным.

* * *

Я, чалавек,— жыхар непастаянны
На гэтым свеце — некалі памру,
І мой характар, добры ці заганны,
І ўсё, належнае майму пяру,
Наўрад ці доўга помніць будуць людзі.
А некалі ж у нейкай старане
Народзіцца другі, каторы будзе
Сабой і ўсім падобны на мяне.

* * *

Паклёп, што ўзвёў нягодны чалавек
З выгоды, нас не ўнізіць, не зарэжа.
Дык будзь жа непрыступны, як Казбек,
І помні мудрасць: хай сабака брэша,

А караван па сцежцы, як ішоў,
Ідзе далей. Глыбокі сэнс у сказе:
Нікчэмнасць не зазнае барышоў,
Бо брахуны ў народзе не ў павазе!

Запусцяць каменем, ты не зважай,
Напрамку не мяняючы, схінайся,
Але трывогі крыкам не ўзнімай,
І камень той падняць не нагінайся,

І не спяшайся ўсмешку пагасіць,
Як цыгарэту. Тым усебакова
Ты зможаш сам сябе абараніць —
І гэтага для помсты дастаткова.

## РУСТАЎСКІ САД, ВОСЬМАГА ЛІСТАПАДА

Я выпадкова госцем тут блукаю
І слухаю, як звоніць лістапад.
Старыя дрэвы моўчкі абдымаю
І гладжу па кары, як немаўлят.

Яны стаяць пахіла і задумна.
Мы крэўныя. Я моцна іх люблю.
Ім трыста год. І гэта вельмі сумна,
Калі злятае лісце на зямлю.

Яно звініць ледзь чутна над дарогай,
Губляе фарбы апусцелы сад.
І б'ецца ўсхвалявана, з насцярогай
У вочы мне вачэй тваіх пагляд.

Здаецца лісце? Так, яно здаецца.
Яго мятла на вогнішча зграбе.
Ды ў парастках надзея застаецца.
Яны яшчэ парадуюць цябе!

* * *

Год мінае руплівы ці скончыцца дзень —
Сэрца сціснецца раптам, заб'ецца нервова,
Хтосьці зноўку заходзіць, на плечы кладзе
Ношу цяжкую мне, не сказаўшы ні слова.

Хіба ж быў замалы той, ранейшы, цяжар?..
Хтосьці побач стаіць, падказаць нешта хоча...

Значыць, зноўку бяссонне глядзець будзе ў твар,
Зноўку смутак са мной будзе гутарыць ноччу...

Гэта бацька ідзе, што без вестак прапаў,
Да мяне ўсё знаходзіць з-за свету ён выйсце.
Бачу позірк — пытаецца моўчкі: «Не спаў?..» —
І ласкавы, і строгі — такі, як калісьці.

Пульс праверыць мой, на сівізну паглядзіць,
Боль і смутак на хвілю разважыць.
І дадасць мне да ношы, прамовіць: — Ідзі...—
Знікне ў ноч і пра раны свае зноў не скажа...

* * *

Я пакутваў у самоце,
Суму ловячы пагляды,
Без спагадлівага слова
Шчырай матчынай парады.

Свечка болей не міргала,
Не палаў ачаг дасвецця,
І вятроў вясновых подых
Двор мой змрочны не прывеціў.

Ды ў акенца заляцела
Двое ластавак раптоўна,
Весела засвіргаталі
І нягучна, і бунтоўна.

І сваё каханне ўспомніў,
Што за дымам гор прапала.
І сляза ў энгурскай хвалі
Нерастайная растала.

# Атар Мампорыя

## КАЛЯНДАР

Дзень — гэта толькі вокам міргнеш ты...
Мільгнуў — і ноч ахінае абшары.
Глядзіш, каляндар абляцеў дарэшты,
Нібыта ў восень лісткі з чынары.

І ценем лісточка на сценцы хаты
Пазначыць Вечнасць усё, што забыта.
Уся гісторыя — з першай даты —
На міг узнікне з глыбінь нябыту.

Дзень, калі лавы вялізны сподак
Разліў вулкан на ўзбярэжжы дзесьці,
І ўпершыню першабытны продак
З агнём адважыўся гульні весці.

І дзень, калі ў Рыме палалі храмы,
І дзень адкрыцця невядомай зоркі,
І дзень Банапартавай жорсткай драмы —
Дым Ватэрлоо цяжкі і горкі.

І дзень адплыцця караблёў Калумба
Ў невядомыя далячыні...
Колькі на лоцыі свету румбаў
Гадзіннікі Вечнасці адлічылі!

Колькі расказвае нам гісторый
Лісток, што гайдаецца ціхім ценем!..
Ды ўсё-ткі завяне і ён, і скора
На дол ападзе на дажджы асеннім.

Усё пралістаў каляндар — дазвання:
Прайшлі падзеі, а з імі людзі...
І толькі лісточак твайго кахання
На ім заўсёды свяціцца будзе!..

## НА МАГІЛЕ БАЦЬКІ

Месяц і зоры, як бацька з дзецьмі,
Ідуць, смеючыся, вячэрнім полем.
Цяжка, горка на іх глядзець мне,
Сэрца маё працінае болем.

Душа мая скамянела ў горы,
І не пазбыць незагойнай раны.
Даўно, даўно не хадзіў я ў горы,
Сюды, дзе бацька мой пахаваны.

Смерць адабрала яго заўчасна.
Я нават не помню яго пяшчоты.
З гадоў маленства ў вачах не згасла
Журба сірочае адзіноты.

Не мог я тату абняць рукамі,
Дык абдыму хоць бы вершам страты...
Знічка падае над гарамі,
Ляціць сюды, на магілу таты...

## ХВАЛА ТАБЕ!

Хто вызначае дарогу хмарам?
Чаму вінаграднік пабіла градам?
Чаму ахапіла стагі пажарам?
Чаму не хапіла дажджынак градам?

Куды спяшаецца ручаіна?
Чаму разбураюцца віядукі?
Да каго ў самоце сваёй асіна
Працягнула голыя рукі?

Чаму журботнаю жаўцізною
Восень фарбуе свае палеткі?..
Калі табе не даюць спакою
Пытанні гэтыя — чалавек ты!

Веру журбоце тваёй і болю,
Калі зразумець тваймү сэрцу трэба,
Чаму вятрыска ў гаі сваволіць,
Чаму зрываецца зорка з неба.

Калі і зло і дабро сусвету
Зліліся в тваім у адзіным спектры,—
Табе — безыменнаму — вершам гэтым
Хвалу складаю, бо — чалавек ты!

## Ганна Каландадзе

### ВЫЙДЗІ,
### ЧЫЯ-ЧЫЯ-МАРЫЯ

Не растапталі нас і не скарылі.
Шчыруюць пчолы, як спакон вякоў.
Кароўка божая, чыя-чыя-марыя,
Каго ты поіш райскім малаком?

Не растапталі нас і не скарылі,
Шчыруюць пчолы, як спакон вякоў.

Людскія ўсмешкі край мой азарылі.
Ніхто нікога ў шчасці не забыў.
Дзень пасвятлеў, чыя-чыя-марыя,
І Цыцышвілі ворага разбіў.

Людскія ўсмешкі край мой азарылі,
Ніхто нікога ў шчасці не забыў.

Вяртае ў берагі нашы крутыя
Нас безбярэжжа часу, як дзяцей.
Вяслуй жа ў свет, чыя-чыя-марыя,
Нам вораг крылы абламаць хацеў.

Вяртае ў берагі нашы крутыя
Нас безбярэжжа часу, як дзяцей.

Ну, як жа полю морам не разліцца,
Калі ручай ракою сніць сябе?..
Пакоціць хвалі спелая пшаніца...
Нікора-бык плыве, як карабель.

Ну, як жа полю морам не разліцца,
Калі ручай ракою сніць сябе.

Мая душа падобна сёння ружы.
Раскрылася пасля зімовай сцюжы.
Званочкі смеху, як дажджынкі майскія.
Зямля мяне ўзрасціла, мабыць, райская.

Мая душа падобна сёння ружы.
Раскрылася пасля зімовай сцюжы.

Заходзіць сонца, і ўзыходзяць горы.
Трава-шаптуха, зашапчы мяне.
Чыя-марыя, медуніца горкне...
А ты не адгукаешся ўсё мне.

Заходзіць сонца, і ўзыходзяць горы.

## ТУТА

Вось-вось уварвецца дрэва ў мой дом,
Не церпіцца зорнаяршыннаму.
У шыбіне я, нібы пад ільдом,
І тута высаджвае шыбіну.
Я не ўспяваю шкельцы прыбраць...
— Пішаце ўсё? Пра мяне напішыце.
О, што яна шэпча! Вушы гараць,
Я ў полымі ўся. Не патушыце.

* * *

Што за птушка жыла ў цярноўніку?
Што за птушка? Цёхкае — чую...
Зберагла горла песні. І ў вырай
Зноў за горы, за моры крылуе.

Песня стрэмкаю ў сэрцы восені.
— На каго пакідаеш хаціну?
Дзе мінулае знойдзе прытулак?
Яго выстудзіў вецер. Гняздоўе
Пад небам Гарэджы хістаецца,
На азызлай галінцы прыцемку.

Што за птушка кідае гняздоўе,
Калі ўсе абламаны калючкі?

## У ПІТАРЭЦІ

У гэтым старажытным храме вераб'і жывуць,
І штовечар бачаць яны тайную вячэру.
І калі выносіць херувім сваё кадзіла —
Не глядзяць. Знямела вочкі плюшчаць.
Вось прыходзіць з кашальком сярэбранікаў Юда
І за стол садзіцца — раб зямнога праху.
Замаўкаюць, заціхаюць, паміраюць птахі,
Сэрцы верабейчыкаў разрываюцца ад страху.

У гэтым старажытным храме вераб'і жывуць,
І штовечар бачаць яны тайную вячэру.

## П'ЮЦЬ З ГЭТАГА ЗБАНА

> «Амар Хаям папрасіў пахаваць сябе ў садзе, каб яго магіла заўсягды была засыпана лісцем і кветкамі. Я знайшоў магілу Хаяма ў Нішабуры. Утравянелы, засыпаны лісцем гарбяк зямлі. Я ўспомніў паэтавы словы і заплакаў».
>
> *Нізамі*

Скажуць, што спіўся.
Ныpайце за жлуктаю ў збан.
Месца ўсім хопіць.
У кожнага глотка свая.
Скажуць, што спёкся.
Згарэў ад віна. Гэта зман.
Макам хістаецца,
Вунь, на градзе ён,
Хаям.
Пад капытамі
Сэрца... Не б'ецца даўно.
Ды завітае
Ў сэрца жывое віном.
Мяккаю глінай
Стаў камянюка Хаям.
Выгарбіў спіну,
Некалі ж роўна стаяў.

Шыракароты,
Прагне да схочу
Ён непадатлівых губ.
Каля варотаў
Дзеву прысочыць —
Ножцы падсцеле свой чуб.
Скажуць:
Дзе п'юць, там і льюць,—
Не мала.

Ані дасціпнасць ён не забыў,
Ні віна.

Скажуць,
Прыбрэшуць,
Многа чаго наплятуць.
Ну а на грэшніку
Ружы-цнатліўкі цвітуць.

Прыйдзеш к паэту.
Не шапку, абутак знімі.
Нібы дзіця, плакаў тут Нізамі.

## ЗМЯЯ МОЛІЦЦА

Бліснe ў лагчыне, між траў слізгане,
Узорнай пятлёю ў паветры мільгне.
І раптам укленчыць — спатоліцца.
Змяя моліцца.

Грэшнай душою да бога хінецца.
Позірк атруты
К небу прыкуты,
Джалу няймецца.

Вочы сухія, змяіныя мецьме —
І стаўбуном знерухомее вецер.
І спалатнее мальва-нявольніца,
Змяі вольніца —
Змяя моліцца.

Хто зараз скажа: змяя-варагіня,
Хрэсніца д'ябла?

Сонцападобныя колцы тугія
Скруціць у яблык.

Млява раскруціцца і «засынае» —
Падсцерагае пані лясная.
Ці ж спавядалася дарам?
Не вінавата!
Бубен напяты.
Скача змяя узундару.

* * *

Мора каўкне то коцькай ля ног...
То — вурчыць паласатым тыграм.
Я ў яго супакою прашу,
Цішы, радасці і сінечы,
А яно ліжа рукі мне аддана,
Быццам просіць таго ж, што і я.

* * *

Спявае дрозд да самазабыцця.
Яліна развіталася...
З праменнаснежным сонцам.
Заружавелі неба, хата, двор
І крылы ветрака.
І нешта незямное ў гэтым...

Пярсцёнак сонца чарадзейнага
Дразда завабіў...
Спявае дрозд да самазабыцця.
Яліна развіталася
З праменнаснежным сонцам.

* * *

Подпіс да карціны Тыцыяна «Марыя Магдалена каецца».

Промень сонца, калясніцу пераймі,
Скачуць коні, не спыніць мне лёсу.
Ты знайшоў сваю сцяжыну да зямлі,
Памажы знайсці маю ў нябёсы.

Як душа мая ні прагнула святла,
Знічкі след на долю мне дастаўся.
Буду вечнаю пакутніцаю я,
Чоўнам, што без берага застаўся.

На Сіхемскіх, можа, казачных гарах,
Можа, на гайданцы Іярдана,
Ра́бі, чую голас твой прызыўны я,
Адгукнуцца ж не магу аддана.

Я ўцякла, хоць зорыш кожны след.
Перасатвары ты хоць сусвет.
Я ўцякла.

Я — зямная, грэшнай радасцю жыву.
То памілую сябе, то — пакараю.

Цела ў апраметню аддаю,
Бо спазнала ўрэшце слодыч раю.

І душа сама знайшла ў нябёсы шлях.
Калясніца, крыху затрымайся...
Я крычу, як жаўтароты птах.
Плач не плач і кайся ці не кайся.
Промень сонца, калясніцу пераймі...

* * *

Гэтак ціха, нячутна пайшоў ён
Ад мяне назаўсёды,
Быццам з кветкі світання пырхнуў
Месяца промнік.

## Атар Чалідзе

### СТАРЫ РЭКВІЕМ

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Глухі залівісты званок,
Такі знаёмы ўсім здавён,
Склікае сёння не на ўрок,
А на апошні наш паклон.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Адчаю тонкую струну
Напяў званок глухой журбой,
Калі з настаўнікам труну
Узнеслі вучні над сабой.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Мне сэрца сціснула няўсцерп
Раней нязнанаю віной.
І ўсе мы звязаны цяпер
Вяроўкай роспачы адной.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Здаецца, расшчапіўся ўраз
Самой зямлі зялёны шар

9 Зак. 1315

І ў бездань пакаціўся час,
Як сэрца развітальны ўдар.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Мяне таксама панясуць
Аднойчы з дому дружбакі.
Што я аддам тады на суд —
Свае паспешныя радкі?

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Сярод суседзяў і сыноў
Ступаю за труной маўчком
І мару, каб у школу зноў
Прыйсці наіўным хлапчуком.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Я выбраў бы іначшы шлях,
Граніт навук упарта грыз —
І высеклі б на камянях
Маіх любімых вучняў спіс.
Ды мне здалося — даляцеў
Уздых настаўніка цяжкі,
Як подых ветру:
— Не працей
На камні высекчы радкі.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Каля настаўніка свайго
Акамянелы я стаю
І адчуваю:
не яго
Хаваю — маладосць сваю.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Той, хто нам быў за ўсіх радней,
Узносіў думкі аж да зор,
Ляжыць
і ў смерці для мяне —
Найлепшы, наймудрэйшы ўзор.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Наблізіўся расстання міг —
І сэрца сціснула жудой.
Натоўп расцёр ля ног маіх
Акурак, кінуты на дол...

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары...

## ПЯЦІКАПЕЕЧНЫ ДОЖДЖ

Дождж прайшоў.
Адно чутны
Ветру сцішаныя ўсхліпы.
Кроплі звонкай цішыні
Падаюць з намоклай ліпы,
Болю даўняга агонь
Заліваюць асцярожна.
Я працягваю далонь
Ім, як добрым спадарожным.

Закрываю вочы я,
Заціхаю з ветрам цёплым
І чакаю, што з галля

Упадзе цяжкая кропля,
Як людской спагады знак,
Як бальзам з гаючых лекаў.
А прахожы мне пятак
На далонь кладзе са здзекам.

Што ж, яму зусім няўцям
Скрухі ўсе мае і тайны...
Ды няўжо настолькі танны
Момант самазабыцця?..

## БАЛАДА
## ПРА ТЫГРА

Шумна ў бераг вал прыліва
Тыцнуўся са зморай.
Поўня белая ляніва
Выплыла з-за мора.

У трысці размыла зверху
Шэры морак ночы
І разбуджанаму зверу
Асляпіла вочы.

Тыгр падкраўся ціхай сапай,
Зарычаў раптоўна
І падняў цяжкую лапу,
Каб раструшчыць поўню.

Ды свяціла ўжо далёка —
На скалу прысела
І ў раз'юшанае вока
Пазірае смела.

Тыгр маланкай паласатай
Кінуўся ў пагоню.
Ні пра страх,
ні пра засады —
Ні пра што не помніў.

Не бярог у лютай злосці
Маладую сілу
І за поўняй следам нёсся
Па крутому схілу.

За спіной сваёй пакінуў
Рэкі і імшары,
Край спякотны бедуінаў,
Табуны, атары.

Прамінуў і лес, і поле,
Вежы, замкі, скіты.
А злавіць гарэзу-поўню
Не хапіла спрыту.

І світальнаю парою
Ён спыніўся, злосны,
І пабачыў пад сабою
Край, як сон, дзівосны.

З вышыні
нязваным госцем
Пазіраў нясмела,
Ад нязнанай прыгажосці
Як акамянелы.

Аглядаў сады, палацы
І Арагві воды
І надумаў заставацца
Тут ён назаўсёды.

Цішыня і край нязвычны
Так душу кранулі,
Што не ўбачыў паляўнічых
І смяротнай кулі.

Лёг шчаслівым пілігрымам
Пасярод дарогі...
Чары Грузіі любімай
Пагубілі многіх.

## ІМГНЕННЕ ЖЫЦЦЯ

Вуліца запоўненая цяжка
Коціцца ў нястрымнасці і гудзе.
Фарбы ранняй восені няўцямна
Топчуць заклапочаныя людзі.

А машыны сноўдаюць наўкола,
З грукатам імчацца раўнадушна.
І калі я траплю ім пад колы,
Мімаходзь яны мяне раздушаць.

Там, дзе мы рыбачылі калісьці,
Людам набярэжная віруе,
З-за яшчэ не стрэсенага лісця
Сотнямі вачэй за мной віжуе.

Абыходжу я Куру старанна:
Сінявою мне яна не свеціць —
Нібы з вузкіх вуліц непрыбраных
Скінулі ў яе старое смецце.

Ледзь брыду, затурканы і хворы.
Цісне стома ліпкая на вейкі.
І дыханне здушваюць маторы
Мне смуродам атамнага веку.

Тхне ад рэстаранаў алкаголем
І бензолам — ад бяссонных плошчаў.
Гэта ўсё збіраецца паволі
Ува мне атрутаю найноўшай.

Мкне нястрымна грознае стагоддзе,
Кідаецца ў злоснай паняверцы,
Старадаўняй цішы і лагодзе
Пагражае лютым ветрам смерці.

І ніяк не абміну я гэта,
Колькі б веку ні паслаў праклёнаў,
Як ніколі з вечнага сусвету
Не ўцячэ наш шар зямны зялёны.

Мітусня, пакуты, парыванні,
Страты, і згрызоты, і памкненні —
Гэта ўсё нішто — у параўнанні
З радасцю жыцця,
З адным імгненнем.

## Міхаіл Квлівідзе

### УШБА

Ты задрамала, а святло гарыць;
На стуле каля ложка пры табе,—
Разгорнутая кніга, а на вокнах,
Разнасцежаных днём, хістае вецер
Празрыстыя бязважкія гардзіны.
Знадворку змрочна пазірае ноч —
Спакойны позірк. Вуліца прыціхла,
І толькі зрэдку позняя машына
Праскочыць там па ёй ці ў падаконні
Таропкі крок якогась пешахода
Парушыць цішыню...
Ты моцна спіш.
Спіць вуліца твая і спіць твой горад.
Ён стомленую клопатам за дзень
Сівую галаву сваю прыстроіў
На ўлонне святагорскае Мтацмінда.
Прылёг там ёменька, як паляўнічы,
І спіць, але, як кажуць, адным вокам.
А з вышыні на ўсё: і на цябе
Ды і на вуліцу тваю, на ўсё нагор'е
Навокал горада, а за хрыбтамі —
На станцыі і горныя дарогі,
На загароднія палі з гаямі
І стужкамі прысадаў ля палеткаў,

Уздоўж дарог шасейных і чыгунак
На гарады і сельскія пасёлкі
Ўсёй Грузіі, што, як дзіця, заснула,
Прыпаўшы да грудзей Каўкасіёні,
Глядзіцца мірыядамі воч-зорак
Бяздоннае, як наш жыццёвы клопат,
Яшчэ не скрозь разведанае неба...

Яму відаць усё, але нічога
Не перададзена з паняццяў нашых.
Таму яно, напэўна, не ўяўляе,
Што значыць наш няспынны час і старасць...

Ты зараз спіш. І ад цябе далёка,
За сценкай вузкага твайго пакоя,
На вышыні, арлу недасягальнай,
Між гор Сванецii, сярод вяршыняў
Каўказскіх гор яна, Ушба-князёўна,
Таксама закалыхана і зрэдку
Там-сям журчыць спрасонку ручаямі.
На схілах у яе пануе ціша.
Снягі на ёй і на хрыбтах наўкола —
Чысцейшыя, як пры светастварэнні,
І зоркі, спуджаныя цішынёю,
Мігаюць вейкамі вачэй бясстрасных.
Усюды снег і нават зеў цясніны
Забіты пульхным і зляжалым снегам.
Калі б не снег, то, мабыць, нават скалы
Не вытрывалі б цішыні такое.
Ахопленыя жахамі маўчання
Расколіны і бездані завылі б
У чорны твар насупленага неба.
Снег, снег і снег. І хоць бы знекуль рэха
Праекатала...
Цішыня...
Ні гуку...

Але зірні, зірні! Пры зорках нават
Відно, што там на снезе, як зярняты,
Чыесь сляды. Няўжо там быў праходчык?
Ні горныя абвалы, ні лавіны
Не здолелі засыпаць іх адбіткі.
Пад неабсяжным і маўклівым небам
Адзіны гэты следзянелы след
Застаўся, як на камені скрыжалі,
Калі пакінутыя, невядома...

Ты зараз спіш. А побач, пры табе,
Заснула і твая малая Тэя;
Твой ціхі сон, напэўна, гэткі ж светлы,
Як і любоў твая, твая адданасць
Сваёй дачушцы. Гэтакая ж светласць
Душы тваёй, як светлая яскравасць
Снягоў Ушбы паміж другіх вяршыняў.
Але зірні: пры зорным асвятленні
Відны ў душы тваёй, нібы зярняты,
Распырсканыя па чысцюткім снезе
Чыесь сляды. Так, так, сляды двух ног
Па ёй пракрочыўшага чалавека.
Прайшоўся цвёрда, як відно з адбіткаў,
І ні лавіны, ні вятры з дажджамі
Не сцерлі, не змялі, не спаласкалі
Слядоў яго, адціснутых глыбока.
Як незаплямлены абрус, бялее
Душы тваёй прастора, і на ёй
Адзіны след — адбіткі ног мужчыны,
Як старадаўні клінапіс на скалах.
Не разабраць, адкуль ён уваходзіў
І дзе намеціў выйсці... За сцяною,
У кабінеце побач, спіць ён, муж твой.
І ён, аднак, па віду непадобны
Да смелых тых праходчыкаў, якія
Гатовы з ходу штурмаваць вяршыні.

* * *

«А яна ўсё-ткі круціцца!»
Не дазваляй таго, бог,
Друг мой Георгій, каб мы да дзяўчат на парог
Больш не ступалі і зведалі расчараванне
З казак даўнейшых аб чарах красунь і кахання
І каб закідалі тухлымі яйкамі тых спевакоў,
што з надрывам
Славяць прычоску каханай, як тую ільвіную грыву.

«Яна ўсё-ткі круціцца!»
Не давядзі таго, божа,
Каб здавальняліся тым мы, што маем, а можа,
Нават і доляю сённяшняй — шчаснай, няшчаснай,
як ёсць,—
Вось пабыла, бы ў гасцях, і прайшла маладосць.
Задавальняцца адным толькі тым, што здабыта
Ўчора на сённяшні дзень? Малавата нібыта.
Мы, вінаробы, ўсе п'ём і ўсур'ёз спадзяёмся,
Што, знаўшы меру, з дарогі нідзе не саб'ёмся;
Мы паважаем не званні (не кожнаму ж —
шчасця падкова) —
Званні, здараецца часам, даюць памылкова.
Так бы нам жыць, каб жытло наша склепам не стала,
Дзе ўсё збіраюць, пакуюць, як быццам набытага мала.

Ёсць яшчэ свет, дзе забылі, што круціцца наша планета.
Бог не дазволіць таго, друг Георгій, каб доля нам
выпала гэта
Нібы ваўчок, яна круціцца і не прыстане.
Будзем і мы разам з ёю кружыцца ў садружнасці нашай
і стане,
Ды і па свеце, дзе рады нам, вечна спяшацца;
Быць не скупечамі, але і не раскідацца
Ўласным дабром абы-дзе і не ныць без прычыны.

Сум замяшчаць весялосцю, як працу — спачынам.
Гнацца за тым наўздагон чаго дома не мелі.
Моцнымі ў горы ўсім быць, як завяшчаў Руставелі,
Мець пазваночнік прамы, каб ад цяжкасцей нам не
згінацца,
Волю, натуру—такую, каб мог і праз слёзы смяяцца,
Ўмеў шанаваць нашу гордасць.
Калі ж мы усё гэта страцім,
То хай другія, мой мілы Георгій, мой дружа, мой браце,
(Хоць мо [illegible] такога прызнання і сэрца атруціцца?)
Гуртам за нас пракрычаць:
«Яна ўсё-такі круціцца!»

## ПЕСНЯ ДРЭЎ

Пасля дзённай гарачкі і ўгрэва
Ўсе па-свойму, з цяплом пачуцця,
Ўласнай песняю кожнае дрэва
Прызнаецца ў любві да жыцця.

Трапяткія асіны па звычцы
Ўсё пляткараць, а ясень махае,
Як рукамі, галлём — зараз біцца
Будзе з елкай — віхор падшыхае.

Ля вакна майго ў вельмі ўжо шумную
Перапалку ўступілі з платанам
Дзве чынары, а вербы задумныя
Ніцым веццем шумяць за парканам.

Сад гудзе, нібы ў кадзі бяздоннай,—
Вецер з гор у надвор'е благое.
Дуб стары ўсё баском аднатонна
Падпявае і грабам і хвоям.

А таполяў атрад пешаходны,
Быццам пост па ахове ўраджаю.
Плюшчыць вочы зямля і лагодна
Да дажджу нас у дом запрашае.

Пасля дзённае спёкі і ўгрэва,
Да глыбокай начы раскрыцця,
Ўсе сумесна, і кожнае дрэва
Прызнаюцца ў любві да жыцця.

Кожны вечар і я адчыняю
Фортку ў сад і з душы з пачуццём,
Як пяюн, мой платан, пачынаю
Верш складаць, падказаны жыццём.

* * *

Калі б зноў распачаць пашчасліўіла
Мне свой век абы-кім — не аб гэтым
Зараз клопат,— звярком, або сліваю,
Ці, прабачце, як ёсць я,— паэтам,

Я прасіў бы свой лёс: «Вельмі мала
Паспрыяй мне, абрус-самабранка,
Каб дзятва мне вярха не зламала
І ганчак не прыкончыў падранка,

Каб, сабраўшы ўсе вершыкі ўскладчыну,
Хоць бы вухам адным, а пачуць
Там-тых сховішчаў нашае спадчыны:
«Чым патомкі мяне ўспамянуць?» *

---

* Гэта радок з верша Галакціёна Табідзе шырока вядомы ў Грузіі.

## Прыдон Халвашы

### ГОСЦЕМ БЫЦЬ ТВАІМ Я НЕ ЖАДАЮ

Тбілісі, калі я цябе наведаў,
Стаяў я моўчкі, як любоў нямая...
І я павінен быць тваім паэтам,
А госцем быць тваім я не жадаю!

Таму я госцем не хачу прыходзіць,
Што ты заўжды лічыўся родным домам.
Сын з бацькам у разлуцы жыў стагоддзі,
Не пазнаваў знаёмага знаёмы.

У Марадзідзі стаў я аднарукім,
Хіхана крэпасць нада мной цямнела,
І ўратаваць каб роднай мовы гукі,
Пакутвала ад ран пякучых цела.

Са мною лёс мой абышоўся строга.
Чарохі воды след чырвоны слалі,
Таму ў грузінскіх рэчках, мабыць, стронгі
У краплінках крывавых замільгалі.

Прайшоў я пакручастыя дарогі,
Знаёмы і з усмешкай і з тугою...
Шмат вёсак засталося за Чарохі
За глухасценнай чорнаю мяжою.

Гнялі матулю той разлукі хмары,
Ліліся слёзы горкія ў зняменні.
Я — хвалейка адна ў цячэнні Мтквары,
Тваёй зямлі маленькі я каменьчык.

Я ластаўка ў тваіх нябёсах весніх,
Струна адна тваёй цудоўнай ліры,
Я Грузіі вялікасную песню,
Як вугалёк, раздзьмуў у сэрцы шчырым.

Тбілісі, калі я цябе наведаў,
Стаяў я моўчкі, як любоў нямая...
Тваім я сынам буду і паэтам,
А госцем быць тваім я не жадаю!

## РАДАСЦЬ

Радасць выткана з любві і болю,
І не вечна гэтая тканіна...
Радасць вымяраецца любоўю
І часамі змочана слязінай.

Летні дзень з зялёнаю усмешкай,
Як і ўсё ў жыцці, мяне хвалюе,
Я пайду нязведанаю сцежкай,
У дарозе дзень той правяду я.

Прыйдзе дзень другі з прыволлем новым,
Сонца на хрыбты арлы падымуць.
Мне прыемна паміж траў шаўковых,
Мне шкада — зялёныя — пакінуць.

Згоду і спакой спазнаў тут зноў я,
Голас сябра чуўся той хвілінай...
Радасць вымяраецца любоўю
І часамі змочана слязінай.

## МАЙМУ МАЯКОЎСКАМУ

Ганаруся тым я, што і сёння
Ў Грузіі твая маячыць постаць,
Што руплівых нашых дзён стозвонне
Вастрыё пяра такога вострыць.
Што й казаць: дзень сённяшні натхняе,
Узрастае нашых дзён імклівасць,
Ды фальшывасць часам замінае,
Пераможам мы з табой фальшывасць.
Вельмі нам патрэбен ты, Валодзя,
Сын Багдадзі, суайчыннік слынны.
Ты, з сажнёвым крокам у паходзе,
Памагаеш зло прагнаць з краіны.
Мне на свет глядзець цяпер не гожа
Без твайго завостранага зроку.
Бо зямлю хачу зрабіць прыгожай
Ад Батумі да марскіх затокаў.
У зямлю, як збажыны насенне,
Слоў насенне дружна засявалі.
Брацкі плён уславім блаславеннем,
Скажам па-грузінску: генацвале.
Ганаруся тым я, Уладзімір,
Што і ў нас твая маячыць постаць,
Што паэты ўсе ў сям'і адзінай
Вастрыё пяра такога вострыць.

## Сілаван Нарыманідзе

### АЙЧЫНА, МАЯ АЙЧЫНА!

Усе пласкагор'і —
Аазісамі у прасторы,
Сонца ў блакіце
Захмялелае коціцца.
Высяцца крэпасці, высяцца горы,
Тмогві, Зекары наведаць мне хочацца.
Там з кручаў
Патокі, лавіны спадаюць
І чуецца рэха ў цяснінах глыбокіх.
Жыве там гісторыя,
Казкі, паданні.
За марай крылатай
У край той далёкі
Імкнуўся.
Здаецца, яе даганю я.
Віхрыцца туман
І душу мне хвалюе.
Люблю я Артвіні, люблю Вазіяні
І Джвары — храм Мцхеты,
Што кулямі мечаны.
Люблю нашы сцежкі, лясы і світанні.
Вышыні душы
Той любоўю прасвечаны.
Высокая вера
Вяла на змаганне.

І душы мацнелі ў сяброўскім яднанні.
Думкі мае,
Вы народжаны ўсе хваляваннем
За лёс чалавека, яго пуцявіны.
І хоць на імгненне — такое жаданне —
Не дайце мне ўпасці...
Зрабіць чалавека мацнейшым павінны.
Любоў і дыханне
Тваім падарыў я гарам і палеткам —
Бурай, грымотай,
Маланкавым ззяннем,
Ветрам лагодным і подыхам кветак!
І зло і зладзейства
Я выпалю сэрцам,
Каб дабраце на агні тым сагрэцца.
На сіняй зямлі,
Нібы рунь, саматугам
Я вырас.
Яна мой абшар усё шырыла.
Не скажа яна пра мяне: «Валацуга,
Цябе не хачу
Прызнаваць я, няшчырага».
Я з гэтай зямлі
Бачу сонца жывое.
Яна мяне
Прагай жыцця надзяліла.
Калі ёй аддадзены
Усёю душою,
Ты з ёю зліешся
Нязнанаю сілай.
З табою я, Картлі, навекі адзіны.
Як сын ганаруся адпольнаю доляй.
Няхай для мяне,—
Непакаяць гадзіны,—
Ваш спыніцца бег, для айчыны — ніколі,
Пакуль я жыву — я шчаслівы надзеяй.

Ляжу на спіне,
На траве мяккай, сіняй.
Зямля.
Я дыханнем тваім маладзею:
Вадой з горных кручаў цябе арасілі.
На горы гляджу, у блакітнае ззянне,
Хачу у складаным жыцці разабрацца.
Адказу шукаю на тыя пытанні,
Якія і свету не хочуць паддацца.
Грудзямі, зямля, да цябе дакрануся,
Каб лепш мне адчуць
Цеплыню і дыханне
Вялікай такой,
Што нават дзіўлюся,
Як змог адгукнуцца
Табе на прызнанне.
Я слухаў палёў тваіх
Песню старую,
У неба тваё пазіраў
З асалодай.
Я тут нарадзіўся,
Тут і памру я,
Каб імем тваім
Называцца заўсёды.

## Шата Чантладзе

* * *

Дажджы не стамляліся ліцца,
бліжэй падступалася твань.
Бялела на ўзгорку бажніца,
бы колішняй велічы здань.

Нібыта прадвеснікі смерці,
блукалі тайком туманы.
Маўчалі багі ў паняверцы.
Званілі панура званы.

Ішоў я праз вецер і зліву —
званы калыхалі жуду.
Ад сцюжы асенняй цярпліва
я ў небе прытулак знайду.

Спраўляй па мне, вецер, хаўтуры,
лі, дождж, ад цямна да цямна,
стагні нада мною, віхура!..
Я — белай бажніцы сцяна.

* * *

Сёння дзень майго нараджэння —
і дзень нараджэння яшчэ кагосьці...
Цікава, хто яны, гэтыя людзі?

## СОН

Нябыт мігцеў прад вачыма.
Сон быў труной са шкла.
Прыходзіў сюды мужчына,
жанчына адсюль ішла.

Анёлы спявалі ў хоры.
Над лесам вядзьмарскім — шквал.
Імгліўся месяц хворы,
сонца ўпадала ў шал.

Колеры яркіх кілімаў
праз чорныя халады
міма сузор'яў, міма,
ляцелі кудысь... Куды?

Нябыт мігцеў прад вачыма.
Сон быў труной са шкла.
Прыходзіў сюды мужчына,
жанчына адсюль ішла.

* * *

Як і ўчора, па вуліцах сёння
я сланяўся — нічыйны слуга.
І, ўзышоўшы з праклятых бяздонняў,
абняла маё сэрца туга.

Я вярнуўся, самотны, ў кватэру,
стаў тужыць — нібы ўвосень лясы,
адчуваючы ў прыцемку шэрым,
як сівеюць мае валасы.

* * *

Травы-карункі —
скарбы глушы.
Горкія думкі —
прытулак душы.

Сцішыцца скруха,
скаргі заснуць.
Птушкі-пяюхі
думкі здзяўбуць.

Неба — як мора,
аблокі — плыты.
Колькі прастору
і прастаты!

* * *

Бы постаць другога кагосьці,
я моўчкі стаяў ля стала.
Сягоння я ночы быў госцем —
і ноч свае зоркі ўзняла.

Ды месяц забавіўся ў стосе
аблокаў, што ўкрылі уцёс...
Самотным якім засталося
вялізнае лона нябёс!

* * *

Я ішоў у бок гарадскога саду
і на вуліцы выпадкова спаткаўся
з адным знаёмым:
ён стаяў
і чакаў на трамвайным прыпынку трамвая.
Загаварылі — абы не маўчаць:
пра тое ды сёе...
Думаю:
калі ўрэшце прыйдзе трамвай,
каб адчапіцца ад гэтага балабона...
Але паступова настрой у мяне змяніўся —
і я захапіўся размовай.
Калі, нарэшце, трамвай прыйшоў —
я ўжо гаварыў заўзята.
Знаёмы сеў і паехаў.
А я застаўся стаяць на трамвайным прыпынку,
працягваючы размову з другім —
незнаёмым зусім —
чалавекам.

* * *

Як белыя птушкі — ў галінах
свіцяцца неба шматкі.
Ды праз якую хвіліну
дзень згасне, і нацянькі
ноч прыйдзе, і ўсё асяроддзе
займе — і ўшыр, і ўдоўж...
І гром прагрыміць, і пройдзе,
быццам вандроўнік, дождж.

* * *

Калі я выходжу з кватэры
альбо стаю ў кватэры,
адвярнуўшыся ад усіх, што ні ёсць там, рэчаў,
тады мне здаецца,
што рэчы ўсміхаюцца.
Калі спрабую іхнюю ўсмешку ўбачыць,
яны ў той жа момант перастаюць усміхацца.
Любяць яны асабліва ўсміхацца тады,
калі бачаць дым папяросны —
усмешліва-сумны.
І асабліва з усіх, там прысутных, рэчаў
найбольш усміхацца любяць
шапы і кнігі,
а з шапаў — кніжныя шапы.

* * *

Вось ізноўку прыйшла вясна.
Але яна ўжо не выклікае
ранейшых вясновых пачуццяў.
Я слухаю-адчуваю,
як недзе глыбока ўва мне
адчыняюцца дзверы ў нябыт.

* * *

Птушкі ладзяць на дрэвах
старыя гнёзды.
У іхніх крыках чуваць
радасць прылёту
і смутак будучага расстання.

* * *

Птушкі-адзінаверцы
ляцяць сцяжынаю сноў.
Каб выказаць сваё сэрца,
мабыць, не хопіць слоў.

Птушкі-адзінаверцы
ляцяць сцяжынаю страт.
Каб выказаць сваё сэрца,
трэба зусім няшмат.

* * *

Па вуліцах сіратліва
брыду. Я не брыдкі, не...
Мяне аглядаюць кпліва
горшыя за мяне.

Што вочы вам засляпіла,
што развязала язык?!.—
Тое, што з вамі сіла,
а я, быццам цень, панік?!.

Кажуць: бог любіць убогіх,
як ісціну. Ён мяне
адрозніць, відаць, між многіх,
а жорсткіх — дык пракляне.

* * *

Ноч адышла ў няпамяць —
акрэсліўся новы дзень.
Промні не лашчаць — паляць.
Дрэва займела цень.

Цень вырасце непрытомна,
зробіцца ноччу самой...
А залатыя промні
пяшчотай крануць нямой.

* * *

Усё вокамгненна. Глей злучыцца з глеем,
з вадою — вада, ды з аблокамі — дух.
Задумацца нават — і то не паспеем:
нас час праспявае, як песню пастух.

Імгненне жыцця дасталося Адаму.
І дзень карацее, і меншае год...
Садзіў бы я саджанцы ў лёс, а не ў яму,
каб рупіцца-бачыць, як спеліцца плод.

* * *

Снег сышоў —
і прыйшла зямля.

* * *

Што некалі вершам не стала —
вяртаецца ветрам наноў:
чуваць у ім гоман вакзалаў,
чуваць тупат-бег скакуноў.

У ім бедуінаў самота,
паганскія скруха і страх...
Усё, што не спраўдзіў ты,— потым
памкнецца, як здань, па слядах.

Душа звоніць песняй няспетай.
Галёкае вецер мне: гэй!..
Няма канца-краю ў сусвету,
няма — у сусвету — дзвярэй.

І сонца мяне баслаўляе,
і дождж — на дарозе зямной.
І неба, як птушка сівая,
цікуе зацята за мной.

Імгляцца далёка платаны.
Няма мне прытулку нідзе.
А вецер крычыць апантана:
глядзіце, ідзе ён, ідзе!

* * *

Я жыць не жадаў —
але ўсё роўна жыў.
Я не жадаў памерці —
але памёр усё роўна.
Магчыма, цяпер я змагу стаць тым,
хто не мае ніякіх жаданняў.

* * *

Я спыніўся, бы ў вёсцы гадзіннік насценны,—
мітусня адступілася, скончыўся спех.
А з нябёсаў так лёгка і так летуценна,
баслаўляючы ўсё павакол, падаў снег.

У пакоі спакой, патаемна-бяздонны,
і бялеюць лісты на далоні стала,
і не чуць ужо болей трамвайнага звону...
А ў нябёсы ліецца малітва-хвала.

* * *

Надакучыла ўсё да скрухі —
лета, восень, зіма, вясна,
подых ветрыку, завірухі,
уся праўда, уся хлусня.

Надакучыла ўсё, як сцюжа
і як сквар,— і жыву я ледзь...
Хай ніхто не здзіўляецца дужа,
што не змог мяне зразумець.

Ці мяне так мой лёс уразіў,
ці замкнуў мяне ў крузе прастор,—
што, нібыта самотны вязень,
пабрацімаў не меў, сясцёр?!.

Надакучыла ўсё да скрухі —
лета, восень, зіма, вясна,
подых ветрыку, завірухі,
уся праўда, уся хлусня.

* * *

Пустка.
Дзіііннн...
Звон галосіць —
і не ўбывае звону.
Нараджаюцца, бы птушаняты,
у ім галасы
і адзін за адным
гняздо сваё пакідаюць.
Ляцяць яны ў смужнай пrасторы
і зліваюцца паступова
з бясконцым небам.
Дзііінннн...
Звон вагае слых цішыні
і распадаецца
на аскялёпкі гукаў.
І распадаецца маё цела,
і я,
быццам гэтыя галасы,
паволі і паступова
цягнуся ўгору
і зліваюся з небам бясконцым.
Дзііінннн...

## Гіві Дзеладзе

### ОДА СЭРЦУ

Калі спяваеш — спявае сэрца!
Калі рыдаеш — рыдае сэрца!
Сэрца? Нашае сэрца?
Чалавечае сэрца!
Аснова ўсяго чалавека —
Яго надзвычайнае сэрца,
Яго незвычайнае сэрца,
Яго звычайнае сэрца!
Яно памірае першым,
Спярша памірае сэрца,
А толькі пасля — чалавек.
Першым заўсёды сэрца!
Сэрца заўсёды першым!
Душа! О не-не, няпраўда!
Першае ўсё-ткі сэрца:
Душа можа нас пакінуць,
А сэрца заўсёды з намі.
Усюды сустрэнеш сэрца —
Няма ва ўсім свеце гуку,
Няма ва ўсім свеце слова,
Якога б не ведала сэрца!
Як думку пра сына ў маці,
Як поўню ў празрыстай крыніцы,
У вачах чалавека бачым
Яго ўсеабдымнае сэрца.
Вядзе палымянае сэрца

Людзей праз іх радасць і гора,
Як ветразь у моры далёкім,
Як памяць у дзедавы горы.
Памкненні, палёт, хваляванні,
Якія належаць сэрцу,
Не дадзены больш нікому.
Расце праўдзівае слова
У чыстым, цнатлівым сэрцы.
У слова з'яўляюцца крылы,
І слова ляціць у вырай,
Каб вызваліць месца новым,
Праўдзівым і шчырым словам.
Аднойчы адчуе холад
Стамлёнае, беднае сэрца —
І скончацца ўсе пакуты,
І знікнуць у паняверцы.
Аднак застаюцца словы,
Якія сказала сэрца:
Не знікнуць яны, о не!

Вось так адбылося, браце,
Я мушу закрэсліць пачатак
Свайго недакладнага верша.
Спярша чалавек памірае,
А сэрца яшчэ рыдае!
А сэрца яшчэ спявае!
А сэрца яшчэ жыве!

## ЖЫЦЦЁ

Быў поўдзень, і цень ад кроны
Мяне ратаваў ад спёкі.
Я думаў пра лес і зоры,

Пра свет, чалавека, крыніцу,
Пра сонца, паветра, палеткі...
Прыйшло да мяне адчуванне,
Што зрок мой згубіўся ў сусвеце...
Я думаў пра лёс чалавека,
Пра добрае і благое...
А потым у думках розных
У сон адышоў на імгненне.
Дыханне жывой прасторы
Паміж зямлёю і небам,
Паміж нашым зрокам і рухам
Знікла, сышло кудысьці...
...І раптам удар перуновы
Пачуў я — расплюшчыў вочы,
Убачыў: бяжыць па сцяжыне
Суседскі гарэзлівы хлопчык,
Трымаючы доўгую стрэльбу...
Наперадзе гоніцца, рады,
Калматы, худы сабака,
Высалапіўшы язык...
Маленькую, мёртвую пташку
Хлопчык у пальцах трымае.
Ён з прастадушнай усмешкай
Разгортвае шэрыя крылы,
Уважліва разглядае...
Стрэл, што прымусіў прачнуцца
Мой розум, які згубіўся
У свеце бязмэтным, згубай
Стаў для другой істоты —
Прымусіў заснуць назаўсёды.

Я зноўку глядзеў на горы,
На сонца, на лес, на мора
І слухаў птушыныя песні,
Здавалася, поўныя гора.

# Назі Кіласонія

## РАДЗІМА

Цябе мы славім песнямі сваімі,
Ты — наша шчасце, наш любімы дом.
Калі мы гінем за цябе, Радзіма,
Мы не ўміраем,—
Мы заўжды жывём.

Мы беражом твае святыні, святы,
У радасці спяваем і ў журбе.
З табой, Радзіма, страты ўсе — не страты,
І быццам смерць жыццё,— што без цябе.

Калі дзяцьмі сваімі нас назвала,
Цябе як маці просім ад душы:
І ў мірны час, і ў грозную навалу
Сваім высокім імем беражы!

## ЖАЛЕЙКА

Вядома, я пра гэта знаю:
Спрадвеку веліч сонцам вызначаюць.
Таго, каго ўжо ў нас няма,
Паэтам першым называюць.

Я знаю, мне і не здаецца,
Што сэрца сэрцу адгукнецца.
І той, хто хутка прыйдзе к нам,
Паэтам першым назавецца.

Яго жалейка заспявае:
Бо сёння ўсе яе чакаюць.
Яе Іверыя з-пад сэрца дастае
І першаму паэту уручае.

## ПРАБУДЖЭННЕ

Стамілася. Я доўга спала,
Плячамі адчувала скалы,
Зямля мяне як бы сціскала,
І грудзі востра працінала
Лязо знішчальнага кінжала.
Вуголле ачага шугала.

Тады збанкі звінелі звонка.
Было ад смагі ў роце горка.
Віно знікала у пляцёнках,
Як на світанні гасне зорка.
Пакуль я стомлена ляжала
І ў сне гарлачыкі журчалі,
Чужынцы, снілася, напалі,
Мяне адну ў палон забралі.

Свайго я сніла быстравокага:
Звяры загрызлі адзінокага.
Памёрла я. Мяне у цемені
Альха пагушквала на рэмені,

На твар мой, маскаю увенчаны,
Вятрыска асыпаў сланечнікі.
І ведзьмы — дзіўныя стварэнні —
Мяне трымалі ў акружэнні,
З вядзьмарскай, незвычайнай сілаю,
Калолі палкамі, як віламі.

А лес, нібы кагосьці кліча,
Прысеў на ўзгорку, звонка свішча.
А зараз? Я у Цкараствалі
Празрыстаю крыніцай стала.
Прыгоркамі уніз збягаю
І на калені прыпадаю,
Цябе жаданага ласкаю.

І клічу я цябе, гукаю,
Такую роўнядзь я шукаю,
Каб выбеліць фартух мне свой
І высушыць пад сінявой.

Паднесці к століку, што хмеліць,
І падарыць перад вяселлем.
А поле блізка падступае,
Цвіценнем рукі асыпае.
І скалы-стромы з двух бакоў
Жадаюць мне, каб сон прайшоў.

Ляжала я. Было мне горка.
З гарлачыкаў звон наплываў.
І цяжка дыхаў лес на ўзгорку,
Здаецца, плакаў і свістаў.

## КАЛІ ПАЙДУ

Калі пайду,
Хто будзе паліваць мае фіялкі?
Калі пайду,
З кім будзеш любавацца
Поўняй яркай?
Калі пайду,
Хто расхіне ў нас вокны насцеж?
Калі пайду,
Хто прачытае верш аб шчасці?..
Калі ж у сэрцы, свеце мой,
Журба не адгукнецца,
То на каго штодзённа вам
Злавацца давядзецца?

## Надар Гурашыдзе

### ПА ДАРОЗЕ Ў ДРЭЗДЭН

Гэта было па дарозе ў Дрэздэн,
Я стаміўся, збочыў з патоку машын,
Ехаў павольна, ледзьве-ледзьве,
Палі праплывалі за клінам клін.

Быў май — шматгалоссе птушыных спеваў,
І сэрца спіскалася у журбе,—
На чужыне нават звычайнае дрэва
Радзіму раптам напомніць табе.

Як арба на прасёлку, плыла машына,
Дымок над папарам смугою сплываў...
І тут заўважыў я селяніна,
Які за працай спяваў.

Яго валасы залаціла сонца,
У руках лапата была, ці што.
І я падумаў: яму, саксонцу,
Маёвым ранкам спяваць пра што?

Пра горы Гарца, што ў далячынях,
Відаць, спявае саксонец той,
Ці аб каханай сваёй дзяўчыне,
Ці аб журботе якой сваёй.

Мо песню Зігфрыда ён спявае,
Ці славіць песняй маленства дні,
Ці гэты дзень, гэта неба мая,
Вунь тое воблачка ў вышыні?

І раптам я ачуняў ад стомы,
Дзверцы хутчэй адчыніў рыўком:
Прынёс мне ветрык матыў знаёмы —
Спяваў саксонец пра Суліко!

Спачатку я не паверыў слыху,
Я думаў — трызню, а селянін
Сваю работу рабіў пацíху
З любімай песняй усіх грузін.

Як верш Акакія Цэрэтэлі
Дайшоў да дрэздэнскай той шашы?!
Ім, нібы брата, мяне сустрэлі,
І стала хораша на душы.

Ўсім сэрцам слухаў я песню гэту
І верыў: прыйдзе той дзень, калі
Мір запануе на ўсёй Зямлі,
З'яднаны песнямі свету!

## НАША СТАГОДДЗЕ

Наша стагоддзе брыдзе між крывавых калюжын,
Віхурамі войнаў людскія ламаючы лёсы,
І танкі равуць, пад сябе падмінаючы ружы,—
Старая з касою страшэнныя мае ўкосы!..

Калі мы глядзім, як лясы і палеткі палаюць,
Як цяжкапаранены ў трызненні любую кліча,
Як на дарогах ад голаду дзеці канаюць
І робіцца чорным дамоў нашых светлых аблічча,—

Усёю істотаю,
                    кожнаю жылкай,
                                        крывінкай,
Мы просім,
                крычым
Праз дымы той сляпой кругаверці:
— Ці не досыць ужо
                            нас валіць, як снапы на дажынкі?!
Хай хутчэй паламаюць
                                касу ненажэрнае смерці!

...Пачынаецца раніца — мірнага сонейка дзея,
Прачынаюцца птушкі — званочкі цудоўнага ранку,
Разам з пахамі кветак у сэрца ўваходзіць надзея,
Усміхаецца любая,
                            друг сустракае ля ганку.

Моцным поціскам рук і харошай сяброўскай размовай
Пачынаецца дзень, абяцаючы ранак наступны,
Гэткі ж мірны і добры, адзначаны радасцю новай,
Да жыцця чалавечага чулы і рупны.

І ў душы дрэва радасці ціхай гамоніць лістотай.
Час над кронай яго то павольны, то порсткі...
Верш у нашым стагоддзі то поўніцца
                                                светлай пяшчотай,
То становіцца грубы і жорсткі!..

## Арчыл Сулакауры

* * *

Я агеньчык расклаў каля сцежкі,
Ён прарос, нібы куст, невысока.
Ад яго,
Бы ад шчырай усмешкі,
Стала светла і цёпла навокал.

Разрастаўся мой куст сярод ночы,
На ім іскры звінелі, як бомы.
Я не думаў,
Што столькі ахвочых
Прынясуць да яго сваю стому.

І агонь гэты цемру рассеяў,
Апаліў
Змроку чорнае крылле.
А вандроўнікі куст мой абселі
І сардэчна з агнём гаварылі.

Разам слухалі вогнішча голас.
Я не думаў,
Што гэткае будзе:
Як сябры
Гаварылі вясёла
Між сабой незнаёмыя людзі.

І было ўсім нам светла і шчыра,
І ў сэрцах азваліся бомы.
Куст святліўся,
Што поначы вырас,
Падружыўшы людзей незнаёмых.

## СТРАЧАНЫ ДЗЕНЬ

Дзень надзьмуўся, бы малое,
І пайшоў — не так, як дні ўсе.
На змярку дагнаў яго я,
Але ён не прыпыніўся.

Паляцеў мой дзень на волю,
Я не змог сказаць, што згадваў,
Наспяліць віна не здолеў
З маладога вінаграду.

І не зняў свой боль пякучы,
І ўзасмак не насмяяўся.
Толькі вуліцы намучыў,
Дзе без мэты я цягаўся.

* * *

Я шукаў цябе дотыкам вуснаў —
Так сляпы ўсё на дотык шукае....
Ты ж мяне абцякала спакусна,
Бы ласкавая хваля якая.

Сонца гасла.
А ў радасным сэрцы
Разрасталася светла трывога.
Я сказаў табе ўсё ўжо, здаецца,
Хоць яшчэ не сказаў анічога.

Што павінен сказаць быў — не помню.
Можа, тое:
Ты — быццам бы мора.
Можа, тое:
Зайздросціў я промням,
Што з табою, як з морам, гавораць.

Рады вуліцы,
Дрэвы
І плошчы —
Я знайшоў тваё ўрэшце дыханне!
Сонца гасне...
Ды промні і ўночы
Астаюцца з табою, каханне.

* * *

Зялёнае лета мінула, праз вузкія выцекла вулкі,
У вузкіх вулках набралася сілаю жаўціня́.
Ты чуеш, як з шоргатам вецер па нашых сцяжынах
гулкіх
За жоўтым лісцём ганяецца,
Спрабуе яго дагнаць?

Ну і хай сабе даганяе!
Што да таго нам з табою,
Што дзьме гэты жоўты вецер, што хмеліць шлях галаву.

Мы па гэтым бясконцым шляху ідзём у надзеі абое,
Ты — тая, дзеля каго я
Дыхаю,
Мару,
Жыву.

Ты — тая, ты — тая, ты — тая.
Спішаная такая,
Ты ўмееш шарготкую восень разумець, вяснянка мая,
Слухаеш моўчкі мяне ты, і ў тваіх вачах адкрываю
Думкі свае — нават тыя, што яшчэ і не выказаў я.

Дзіця ты, дзіця чароўнае!
Дазволь жа і мне вось гэтак,
Шчасцем дазволь задыхнуцца — хай няверʼе нас абміне.
Дай мне ўвайсці назаўсёды ў свет тваіх дзіўных кветак,
Хай неба асенняе шчыра, як і ты, усміхнецца мне...

## ПОЗНА ЎВЕЧАРЫ

Увесь дзень думаю:
чаму я гэтак радуюся,
чаму такі задаволены,
спакойны
і добры?
Сённяшні дзень нічым
не адрозніваецца ад учарашняга —
ён такі ж
задушлівы і спякотны,
што мне цяжка дыхаць
і лянота нават паварушыць рукою...

Позна ўвечары,
калі ўжо вяртаўся дадому,
мне раптам успомнілася:
раніцою ўбачыў я
маленькую шчаслівую дзяўчынку,
якая перад магазінам,
як журaўлянятка,
стаяла на адной назе,
а бацька ласкава і беражна
прымяраў ёй чырвоны чаравічак...

О, як асцярожна ён гэта рабіў —
быццам нага была шкляная
альбо шкляным быў сам чаравічак...

## ПРА СПАЧУВАННЕ

Вячэрняю часінаю ва ўсмешцы поўні
шчымеў нейкі незразумелы боль,
і за рассеянымі ў сініх колерах думкамі
не святло ў суцемках ішло, як ходзяць блізарукія.
Да мяне неспадзеўкі завітаў чалавек —
высокі, спакойны і праўдзівы.
Ён прынёс мне старое пісьмо —
пажоўклае і зацёртае:
«Брат брата,
чаму ты тужлівы?!»

* * *

Певень гарлае,
Вярэдзіць душу,
Шкло сноў каляровых
Разбіў спеў ягоны.
Я поўню люляю,
Па хаце нашу,
І яна на руках маіх
Спіць, як дзіцёнак.

Брэшуць сабакі,
Рвуць цішу начы,
Ва ўтульнасць спакою
Залезла трывога.
І сам я не ведаю,
Як мне ўцячы
Ад самога сябе,
Засмучонага, злога.

Але ж ведаю я,
Як ісці ўсё адно,
Каму поўню на рукі
Аддаць мушу смела...
Расчынілася раптам
На хвілю акно,
І поўня ў яго
Птушанём паляцела.

Стала ціха вакол,
Толькі зноў не заснеш,
Уздыхнеш — і пакоціцца
Гулкае рэха.
А ў бяссоннай начы
Не хапае ўжо мне
Расспяванага пеўня
І сабачага брэху.

# Мухран Мачаварыяні

## ЗНОЙДЗЕМ?!

*Археолагу Д. Надзірадзе*

Брат табе —
Брат твой!
Дык што табе ў нашым братэрстве?..
Крэўная повязь — былое, святое, спрадвечнае.
Ты — як світанак!..
Таму не цураюся версіі,
Што чалавек захавае ў сабе чалавечнае.

Тое, што ў нетрах
Шукаеш ты, як апантаны —
Грузію нашу —
Я ў небе імкнуся знайсці...
Помніш аднойчы —
Братэрствам з табой зніставаны —
Так я сказаў...
Так здабыў сабе веру ў жыцці!

Знойдзем?!
Вядома! — адкажуць і камень, і дрэва.
Сэрца загрукае, голас падаўшы,—
таму
Знойдзем!..
Спрадвеку ў народа, нібыта ў былiннага дэва,
Столькі галоў вырастала, колькі ссякалі яму.

Ворагі будуць!
Бог мой, хіба не адразу
Кожны знаходзіў іх!..
Мы іх таксама займелі:
Раптам ты знойдзеш магілу цара Парнаваза!
Раптам знайду я паэму Шата Руставелі!

Знойдзем?
Шукаем...
Дык хай не парушыцца згода
Сэрца і розуму —
Ляжа пароўну на шалі...
Знойдзем?
Вядома!
Таму што спрадвеку ў народа
Столькі галоў вырастала,
Колькі ссякалі!

* * *

Колькі загінула слаўных людзей,
Колькі не спраўдзілася надзей!

Толькі ўва мне зараз думка блукае
Не пра мінулае...

Што нас чакае?..
Страшна сачыць за ходою падзей!

***

Як нехта іншы думае — не знаю,
А сам перакананы я ў адным:
Як толькі нас надзея пакідае,
Становіцца душа, як горкі дым,
І незваротна ў неба адлятае.

***

Накінуць песню
я на смерць хачу —
Ды марна намагаюся... Маўчу.
Магілы на кладах адкрылі вочы,
І плоці моляць косці ўдзень і ўночы.

***

Гэта дарога — звыклая доля:
Пройдзе далінай, пракоціцца полем...
Гэтай дарогі кірунак я знаю...

Ты мне скажы пра дарогу, якая...
Гэтай дарогі кірунак я знаю.

## ДВА ГЭТЫХ ДНІ

Як зброі перад ворагам не маю,
Як сябра я найлепшага хаваю
І заклінаю некага: «Суцеш ты!» —
Такі настрой два гэтых дні...
А зрэшты,
Калі спытаеш: «Што з табою, брат?» —
Наўрад ці адказаць змагу... Наўрад...

* * *

Не зведаць чалавеку тайну гэту,
Што ведама платану і паэту:

Чаму яна смяецца без прычыны,
Калі бяжыць па вуліцы — жанчына?

Не зведаць чалавеку той прычыны,
Што ведаюць паэт і аблачыны:

Чаму жанчына пакідае дом?
Чаму яна смяецца пад дажджом?

* * *

Яшчэ ўсявышні не прызваў збірацца.
Павінен жыць ты. Нечым забаўляцца.
Ну і...
Ты мне ці здрадай дагадзі,

Ці зманам жонку ад мяне звядзі,
Альбо зняслаў мяне, альбо забі,
Ці...
Шмат забаў. Прыдумай і зрабі.

Іначай...
Знаеш сам, які ўсявышні!
Не разбірае, хто на свеце лішні!

Ну як стрываць да смерці, божа правы,
Калі не знойдзеш па душы забавы?!.

* * *

Я ў горы крочыў. Зброя за спіной.
Мой нюх — сабака бег перада мной.
І раптам перапёлка — фыр з-пад ног!
Махнуў рукой я: хай сабе... Мой бог,
Навошта зброя на плячы вісіць?..
Мне б дом паставіць тут... Свой век дажыць.

## ВОСЕНЬ

Зіма сабрала войска на гарах —
Вяршыні гор адразу пабялелі...
І ветрам наляцеў на лозы страх,
Спужаліся палі і долы...
— Ах,
Ратуйцеся! — асіны зашумелі.

І спуд напаў на алычу, айву,
Бачком плады да пуняў павярнулі;
Сторч галавой арэхі сыпанулі —
Інжыр прыкрыў рукамі галаву.

На полі кукурузным хто б памог!..
І скачуць самі катахі ў карзіну,
І збілася, дальбог, бабуля з ног,
Шнуруючы то ў свіран, то ў адрыну.

Пудамі вінаград пабег — сюды,
Дзе ў сацнахелі перасмягла днішча,
І яблыкі пакінулі сады —
Па ўсіх драбінах лезуць на гарышча!

Сядзяць паважна дыні на арбе,
Папераздзе іх — персікі і слівы;
Апошняю салома збегла з нівы,
Падперазаўшы поясам сябе.

І...
Засталося поле за жывёлай.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Як кураня, з плакучай вербы голай
Апошні лісцік на світанку збег...
На пачарнелым голлі — светлы снег.

Блакітны дым над камінамі ўстаў...
З паштовай скрыні пошту ўзяў мужчына...
Нястомна прас снуе ў руках жанчыны...
Хлапчук на ганку казку дачытаў...

І...
Столькі зор, што ледзьве ў небе месяцца!
І цені дрэў на сценах... цені дзён...
І — хто б сказаў, якія думкі ў месяца,
Якому зараз цэлы свет відзён...

* * *

Зямля мне пазычыла плоць,
Душу мне пазычыў гасподзь.
Жыву ў невыносным даўгу —
Нічога аддаць не магу.
Штодня напамінак нябёс
Грамамі хістае зямлю.
Я доўг свой да краю данёс.
Аддам... Пачакайце, малю.

* * *

Як смешна ўсё, што ў свеце існуе:
Чужыя думкі смешныя. Свае.
І смех сачыць, як выпадае снег.
А бараду галіць — хіба не смех?
І смешна, што тры гузікі прышыты
Да рукава, што ўсіх планет арбіты
Прыкутыя да сонца...
Справа ў тым,
Што ў даўні час у космасе пустым
Смех сам сабою ўзнік у першы міг,
Каб праз яго ты існае спасціг.

## Шата Нішніянідзе

### ХЛОПЧЫКІ ГАЎРОШ, ПААТА, АЛЕГ І ІНШЫЯ

Каб чалавецтва не састарэла,
Не замудрэла, не стала горшым,—
Побач з бацькамі становяцца смела
Алегі,
Пааты,
Гаўрошы.
Хлопчыкі! Божа, зусім яшчэ дзеці!
(Як сведчаць паданні куцыя.)
— Вы, дзеці, з агнём — не смейце!..
Ні з гісторыяй!..
Ні з рэвалюцыяй!..
Ідзіце, дзеці, дамоў бяжыце,
Чытайце кнігі, карагод вадзіце...
Яны ж
на іншае
скорыя:
Выносяць прысуд гісторыі!
Дай, лёс, праявіць мне гуманнасць паэта:
Ва ўяве, што свет абдымае,
Я
легендарным хлопчыкам гэтым
Дарогу
ў смерць
заступаю.

Парыжскія барыкады
Дымам гарматным абвіты.
Хтосьці весела, нібы рады,
Пераскоквае праз забітых.
Хутчэй на падмогу! Бо смерць не міне
Хлопчыка-абадранца.
— Я Гаўрош! —
адштурхнуў ён мяне.—
Я мушу памерці
за Францыю!

За коннікам юным, якога
У Персіі скон чакае,
Ад матчынага парога
Імчуся я —
даганяю.
Мая рука ўжо ў яго на спіне.
Рэальнасць гэта? Ілюзія?..
— Я Паата...
Не выручай мяне.
Я мушу памерці
за Грузію!..

Зіма сорак трэцяга...
Снегам сінім
Усё замяло, усё спіць пад завеяй.
Не спіць толькі хлопчык,
як і Расія,
Якая глядзіць на яго з надзеяй.

— Гэй! Прыпыніся! Не трэба паспешліва!..
Здраду хавае бераг пад вязамі.
— Я Алег...—
сказаў ён усмешліва,
І гэтай усмешкай
усё было сказана.

Хтосьці з разбегу праскочыў праз тын
І дзот асляпіў — не пускаў ён да горада...
Глянь:
вечнабронзавым
у Тыянеці застыў
Наш хлопчык,
сівы і горды.

Не, нашы хлопчыкі не паміраюць!..
Хоць іх забіваюць,
хоць іх караюць.
Усе надзеі пекла і рая
Яны на дзіцячых плячах трымаюць.
Сумленне іх рана
кожнага
стрэла,
Ніхто небяспеку з іх
не абыходзіў.
Каб чалавецтва не састарэла,
Гэй,
хто там з будучыні
на падыходзе?

## МАСКІ

Каб нечая зайздрасць мяне не ўракла,
Душу маю
каб не абмацвалі,—
Як тая скала, што хаваецца ў плюшч,
Я
закрываюся
маскамі.

Каб чэрствасць людскую
распазнаць
За хітрыкамі скупога,
Пад маскаю крыюся бедняка,
Не грэбую маскай сляпога.
Я часам магу бессаромнасць сыграць,
Зазнайства
або геройства.
Каб лепей сапраўдную ўведаць цану
Ісціннага сяброўства,—
То баязлівец я,
то прастак,
То невук,
які пра пасады мроіць.
Мне добра відно праз забрала маё,
Хто рыцар,
а хто з сябе рыцара строіць.
Мо нехта падумае:
злыдзень які!
А я ў гэты час зберагаю
Ва ўласнай душы
дзіця дабрыні,
Што апякунства благае.
Я і з табою сваруся не раз,
Каб выцяць душу сваю болем,
Каб вернасці і кахання
смак
Спазнаць яшчэ болей...

Той, хто людзям ролі раздае,
Для абранцаў падбірае маскі,—
Той вартуе вартасці мае;
Апякун,
ён знае абавязкі...
Мне б тых клятых масак век не знаць!
Надаелі мне яны што верад!

Ды без іх
як
твар уратаваць,
Жыць, пісаць і кратацца наперад?
Перад сконам я жыццю вярну
Ўсе пазыкі на дарогах бойкіх
І на маскі знятыя зірну,
Як на шлемы,
што бывалі ў бойках.

## ОДА КРЭПАСЦЯМ-ХРАМАМ

### I

Што параўнаецца з імі?
Уплаўлены-ўліты
Крэпасці-храмы
у неба маё,
як малітвы.

Грузія песціцца ў сонцы на тыгравай шкуры.
Сочыць ваколле Эльбрус праз свае амбразуры.

Ён усявышняму мольбы шле, рукі узносіць:
Доўгага веку для Грузіі роднае просіць.

Голас цячэ аксамітны.
Світальнай парою
Свецяцца ціха магілы святых і герояў.

## II

Кожная крэпасць характар свой мае і воблік:
Вокрык — адна,
а другая плыве, нібы воблак.

Гэта — кулак і пагроза,
а тая што выстрал,
Кожны зубец яе ў бітвах змагаўся і выстаяў.

Гэта — як песня, што гонарам стала і лёсам.
Там — паглядзі! — быццам вáгі зямлі і нябёсаў.

Годы, вякі павялі на муры наступленне
Мохам, грачынымі гнёздамі і запусценнем.

Льецца на камні металам расплаўленым сонца.
О, колькі вы, грабяні гэтых вежаў бяссонных,

Хмар прачасалі, варожых сцягоў растрапалі,
Што, нібы хмары, над краем маім праплывалі!

Грузія — крэпасць!
Яе тая самая доля:
Хто яе толькі не браў, ды ніхто не адольваў!

## III

Слава навекі вам, латнікі — пімены-старцы!
Нацыю вы захавалі, і мову, і царства.

Ноч... фаліянты... пергаменты... Вашыя словы
Ранкам лазой вінаграднай прачнуцца гатовы.

І адступае ад сэрцаў і цемра і холад,
І наліваешся сілай, мой край, нібы волат.

Маці святыя, што сховы знайшлі на іконах,
Лёс ваш няхай не спасцігне на свеце нікога!

Долю малю, каб імёны заўжды зіхацелі
Тых, хто узвёў Нікарцмінда і Свеціцхавелі!

Будзь блаславёны, хто думкай скалу сек для Вардзіі!
Скалы усталі вакол тваёй славы на варце.

Верным рабом я аратага тога быць рады,
Хто ўпершыню спеў пра хлопца і тыгра баладу.

Жыць таму вечна, хто сее, малюе, муруе!
Хто з вас калі й саграшыў — няхай бог вам даруе!

IV

О туманы па-над крэпасцю,— думкі мае вы!
Вільгаць на сценах — ад слёз маіх частых залевы.

О непадкупны, маланкай пакрышаны камень,
Ты — мая плоць, што ірвалі, драбілі вякамі.

Вежы-апоры, і хто ад вас толькі не драпаў!
О, як баліць ва мне ваша й найменшая з драпін!

Крэпасці-храмы, вы — талент мой, гонар, сумленне,
Вузел, што вяжа з мінулым маё пакаленне.

Мне праваліцца б, як здраджу я вам калі-небудзь!
Грузіі панцыр вы, шчыт ад зямлі і да неба.

Гэй! Ваш пясняр, я пяю вас, абраннiц свабоды!
Край мой па фрэсцы й лазе пазнавалі заўсёды.

Крэпасці Грузіі, вас — бы саму чалавечнасць —
З сонечным кап'япосцам ахоўвае вечнасць!..

## ХЕЎСУР

*(Памяці трохсот арагвінцаў)*

### I

Неяк летам на Арагві ля карчмы вясковай
Грукаў бубен, вытанцоўваў мядзведзь адмыслова.

Сонца бубен залаціўся над суседняй вежай,
І тапталася спякота зусім па-мядзведжы.

Тут хеўсуры балявалі... Тлустыя хінкалі —
А вялікія, што вымя — у ратах знікалі.

Твары воінаў у шрамах палымнелі макам.
Жнівень спелы проста ў глоткі залівалі махам.

Раптам выскачыў з-за рэчкі велікан-вярзіла.
Увапрэла пад асілкам рыжая кабыла.

Нібы вол той коннік мажны — і вагой, і ростам.
А кабыла, каб ты спрахла! — спудзілася моста.

Велікан з каня саскочыў, што дрыжэў ад страху,
І, пад чэрава схапіўшы, запіхнуў пад паху.

Перадыбаў мост драўляны. І хеўсуры хорам
Яму «ваша!» закрычалі — задрыжэлі горы.

Да стала — ніжэй каленяў — ён прысеў ахвоча.
Зашыпелі ў поўнай чашы валовіны вочы!

Стол умомант апрастаў ён ад усіх прыпасаў
І мядзведзя напалохаў грамавержным басам.

...Твары воінаў у шрамах палымнелі макам.
Жнівень спелы проста ў глоткі залівалі махам.

Кожны з іх размахваў вершам, нібыта кінжалам.
Тут і пропаведзь і споведзь з вуснаў іх злятала.

Сонца бубен залаціўся над суседняй вежай,
І тапталася спякота зусім па-мядзведжы.

Даў віна хеўсур кабыле, ухапіў вуздэчку
Ды прышпорыў, ды праскочыў... ўброд Арагві-рэчку.

II

Як, бывала, наплывала чужакоў навала,
Вінаграднікі згрызала, Куру выпівала,—

Тут жа з гор валы збягалі (вораг быў не рады!)
І — з рагамі на арэны Крцанісі, Марабды.

З гор збягалі, каб прыблудаў кроў папіць мячамі.
І... ў далінах застывалі горкімі крыжамі.

З гор злятаді хлопцы-зухі, быццам вецер весні,
А вярталіся у горы — казкаю і песняй.

Падавілася нарэшце смерць у краі горным,
Бо навекі шчыт хеўсурскі ёй засеў у горле.

Замкаў, крэпасцяў грузінскіх не скрышылі буры,
Бо ў іх сценах заімшэлых — косці, кроў хеўсура.

Перад смерцю не пасмелі стаць мы на калені,
Бо былі заўсёды з намі яго кроў, сумленне.

Шабляй шлях тарыў Айчыне ён, магутны, горды.
Ад яго прыпевак — іскры, што ад гострай горды.

Бачу: ў вобліку хеўсура з будучыні светлай
Родны край грузінскі крочыць волатна і смела!

## Морыс Пацхішвілі

### ГАМБІТ ФЕРЗЕВЫ

На дошцы шахматнай, як на планеце,
Пешка малая — жыхар маленькі...
Пешка малая, жыхар маленькі,
Ды пешка марыць у гэтым свеце.

Мудрасці добрай шукае сцежку,
Бляскам аслепленая каралеўскім,—
За караля змагаюцца пешкі,
За караля паміраюць пешкі.

Але аднойчы ў скрынку кідаюць
І караля, і пешку напáру.

Разам той цесны куток абжываюць
Праўда
І плётка,
Думка
І мара...

Ёсць несумненнае падабенства
Гэтай гульні і той, што з маленства
Мы вывучаем,
Азартна гуляем
Паўсюль і заўсёды.

А ўзнагарода
За перамогу —
Смутак маленькі
Пешкі маленькай
На дошцы пустой, халоднай і строгай.
Болей нічога.

## УЦЁКІ

Хочацца сустрэцца з адзінотай,
Збегчы ад размоў, хлусні, турботаў,
Быць сам-насам, думаць пра што хочаш
Ці зусім не думаць, сесці ў лесе —
І лузаць хвіліны аж да ночы,
Нібы семкі, на пяньку самотным...
Хочацца сустрэцца з адзінотай.

І ўцякаеш — ад сяброў і здрады,
Ад кахання, велічы і звадак,
Ад гадоў сваіх і ад сумненняў,—
Проста хочаш ты адзін застацца,
Ёсць аднойчы гэткае імкненне:
Збегчы за лясныя далягляды
Ад званоў зайздрослівай спагады.

З маскай чалавека дзелавога
З горада ў сяло імкнеш дарогу,
А пасля бяжыш далей — у горы,
Лапамі звярынымі ступаеш
Па лясных сцяжынках, там, дзе норы
Барсукі прыспалі ў цёмных нетрах,
Дзе бязлюддзем дыхае паветра.

І калі ў той час табе здаецца,
Што адзін-адзіны ты на свеце,
І хоць дрэва дрэвам застаецца —
Раптам і яно набудзе мову,
Каб адказу папытаць сурова:
Хто такі ты, кім ты быў і будзеш,
Што стварыў і што яшчэ здабудзеш...—
У глухі куток хацеў схавацца —
І... бяжыш — хутчэй з людзьмі спаткацца.

## МАСТАЦТВА

А выяўляецца, наш белы свет — які ён змрочны,
І шчасця бог, як выяўляецца, сам шчасця хоча.

І, выяўляецца, удача казкай даўняй стане,
Пакуль няўдачнікі перажывуць свае чаканні.

Як страшна, выяўляецца, ляцець на мёртвых крылах,
Калі жыццё — забітае — жыць яшчэ мае сілы.

Як смешна, выяўляецца, хадзіць дарогай смутку,
Дзе — горны цар — канаеш ты ў пярынавым закутку.

Як з клеткі залатой сваёй ламаць нялёгка дзверы,
Злы выяўляецца, які плач чалавека-звера.

Якія горкія ўсе вы, натхнёныя святыні:
Хоць маляваць не хочаш ты, ды маляваць павінен.

Як выяўляецца — не мёд жыцця зразаць калоссе,
Міг, калі між глуханямых спяваеш шматгалоссе.

Калі заве святло нябёс, ды часу ты не маеш,
Калі, здаецца, ўсё клянеш, выходзіць жа—ўслаўляеш.

## МАЁ КАХАННЕ

Не рака прамая ты, маё каханне,—
З берага на бераг не пераплывеш,
Не забава-казка ты, маё каханне,
Каб закончыць складна, як маленькі верш.

Не такая рана ты, маё каханне,
Дзе бяруць іголку, шво каб накладаць,
Не закон суровы ты, маё каханне,—
Па загаду песню тут не напісаць.

То замрэш, то ўспыхнеш ты, маё каханне,
Нібы жар юнацтва ў попеле гадоў,
Не рубель разменны ты, маё каханне,
Каб звінець паныла жменькай медзякоў.

Не віна, не тайна ты, маё каханне,
І не заляцанняў пераспелы шал,
Не аркестр слухмяны ты, маё каханне,
Дзе за дырыжорам цягнецца душа.

Ханжаства не знае, вольнае, як неба,—
Так ідзе каханне да цябе маё:
Сцежкай адзіноты, нікому не патрэбнае,
Бо яно — адзінае і яно — тваё!

## АПОШНІ ПРЫПЫНАК

Пэўна, вандроўкі доўгія маюць
самы апошні прыпынак —
старасць.

Хочаш таго альбо не,
ды ўрэшце
т
ы
на прыпынку
сыходзіць павінен!

## ПАЛІГЛОТ

Смерць-паліглот —
І зраўняцца
ніхто з ёй
не можа:
На мовах
усіх кантынентаў
гаворыць яна
дасканала.
Адну толькі мову жыцця
Не дадзена ёй зразумець.

## ЗАПОЗНЕНАЕ ПРАЦВЕРАЖЭННЕ

Аднойчы цудоўным днём
ніхто больш спрачацца не будзе...
Ды толькі ўжо будзе позна.

## НА ПАД'ЁМЕ

На пад'ёме крутым спыніўся стары чалавек —
І сэрца яго
У грудзях маіх раптам забілася...

## ПРАВА АГНЮ

Як захочацца мне,
так і пагасну!

## ПАЭТЫЧНЫ ФРАГМЕНТ З ПАЎСЯДЗЁННАЙ ПРОЗЫ

Яны спаборнічалі адзін з адным
Па скачках у вышыню
і,
Нібы краты,
П
А
Д
К
О
П
В
А
Л
І
С
Я
Адзін пад аднаго.

## ЧАС

Не шукай яго:
покуль шукаеш —
Ён ужо згублены
беззваротна!

## АПОШНЯЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ

Свет загіне
ад сказанага табою:
«Мяне гэта не датычыцца...»
«Мне гэта не з рукі...»
«Мне гэтага не хацелася...»

* * *

Ёсць адно: нябачнае цячэнне
Нейкай сілы страшнай і нябачнай,—
Як міраж вады: цячэ мігценне
Паміж пальцаў — у пясках гарачых.

Ападзе на штосьці думак попел,
Штосьці, як дарога, разаб'ецца,
Штосьці час у ракаўках затопіць,
Штосьці ў крышталі пакут зліецца.

Крышыцца таемная марознасць
Фарса, і трагедыі, і драмы,—

Пэўна, і па сэрцы так пагрозна
Б'юць і б'юць пераўтварэння шрамы...

Тое, чым бы ўладзіў ты бяссмерце,
Ртутны вечар перальe ў шматкроп'е...
О, нябачнага цячэння вецер,
Дні жыцця, што падаюць па кроплі!

## САНАТА АБЛОКАЎ

Трымценнем клічуць увысь аблокі,
Світаюць арфы ў расстайнай волі,—
І толькі б крылы для спраў высокіх,
І толькі б мары — нічога болей!

Жаданняў сола гучыць з нябёсаў,
Прастора — насцеж, як хорам весні,
І толькі сэрца на струнах лёсу —
Нічога болей,— толькі песня!

Спускае поўдзень надзей усходцы —
Блакітна-сінія, нібы мроі,
Але не ўзняцца душы да сонца —
Трымае пасткаю тло зямное.

## Джансуг Чарквіяні

### ЮНАЦТВА

Калі выкоўвалі мы адвагу,
Чужыя раны і нам смылелі.
Ад песень душы нашы хмялелі —
І не маглі наталіць мы смагу.

Не раз над намі грымела сеча,
А мы стаялі нязломным строем
І зберагалі пільней, чым зброю,
Сваё юнацтва і род наш вечны.

Калі ж збіраліся на выгодзе,
Каб падзяліцца з сябрамі шчасцем,
Спявалі славу дзвярам, што — насцеж,
І рэкам, што з берагоў выходзяць.

Не звонам — сэрцам сваім на веча
Склікалі новае і старое
І зберагалі пільней, чым зброю,
Сваё юнацтва і род наш вечны.

## ПРЫГОЖАЯ СМЕРЦЬ

Калі ў сне забалбоча крыніца,
Сонца крыкам разбудзяць алені
І туманам не зможа прыкрыць больш
Вішня грудзі свае і калені;

Калі дружна ўзарвуцца пупышкі,
Песню мне атрасуць ля парога
І алені, што з цемрадзі выйшлі,
Раннім сонцам нальюць свае рогі;

Калі знікнуць хмурынкі і цені,
Куляй ластаўка ў неба рванецца,
З саду вынесуць горда алені
Над ілбом сваім персіка вецце;

Калі сонейка высушыць нівы
І рамонкаў сыпне ля дарогі,
Маладыя алені шчасліва
Над травою сплятуць свае рогі;

Калі сцішацца ніцыя вербы,
Заблішчаць вінаградныя лозы —
Я зірну на высокае неба
І тужліва ўсміхнуся праз слёзы.

Продкі глянуць сухімі вачыма.
Горы змоўкнуць у тайне адвечнай.
Стану я перад роднай Айчынай,
Запалаю ёй тонкаю свечкай.

Пакланюся жыццю, што не зможа
Ні спыніцца і ні паўтарыцца.
І пасля я памру так прыгожа,
Як жыве гэты свет красавіцкі.

## ВЕЦЕР

Я добра памятаю той вецер,
Непаслухмяны, несамавіты.
Я адчыняў яму на дасвецці —
І ён гартаў мой раскрыты сшытак.

Даследваў кожны радок заўзята —
Дзе з захапленнем, дзе з недаверам.
Чытаў ён вершы — другі... дзесяты...
І раптам з імі знікаў за дзверы.

І першы верш мой кружляе ў клеці,
Другі — занесены на гарышча,
Ляціць паволі ў нізіне трэці,
І скакуну ўслед чацвёрты свішча.

То супакоіцца, то дурэе,
Паспець усюды спяшае пяты,
І вось павіс на высокім дрэве,
Сярод засохлых галін распяты.

А шосты тулькаецца ў бальніцы.
Загінуў сёмы ў краі далёкім...
Напэўна, трэба ўсё ж зачыніцца,
Каб не застацца мне адзінокім.

Ды чую, восьмы з дзевятым плачуць,
Дзесяты ў Мцхету, у Джвары рвецца...
Узвей жа, вецер, крылом гарачым,
Мае ўсе вершы развей па свеце!

## ДАЧЦЭ ТАМУНІІ — ДА МАЮ!

Я з дзяцінства неўпрыкметку
Зведаў кожны твой парыў.
Ты дажджу хацела? — Кветкі
Я дажджамі напаіў.

Слёз хацела ты? — Ці трэба
Непакоіцца ў журбе —
Вадаспадамі і небам
Плакаў я замест цябе.

Ты хацела снегу? — Гурбы
Я на вуліцы намёў.
Што ні выдумала б — тут бы
Я ўсё ўладзіў без размоў.

Я вадзіў цябе па ўзмежках
Над гуллівaю Курой.
І галінкаю чарэшні
Называў цябе парой.

Хай душа твая жывая
Хлыне ласкай цераз край.
Я ж сяджу і вышываю
Для цябе вясёлы май.

## ГЛАДЫШ

На скалах горнага Дагестана
Базар маленькі азартна дыхае.
Каспійскай рыбай гандлююць ціха.
І на галовах ва ўсіх — бараны.

Па скалах горнага Дагестана
Сплывае ўніз духата цяжкая.
Я на базары табе шукаю
Гладыш чырвоны размаляваны.

Нібы партрэт твой, любімы мною,
Дзе ты прыгожая і маладая,
Гладыш маленькі я выглядаю
За кожнай лаўкаю і спіною.

Ён мне пазваньвае напамінам,
Вадой крынічнай абцалаваны.
На скалах горнага Дагестана
Ён — нібы сонца ў тумане сінім.

Начуе холад на шэрым донцы.
Я нават чую, як пахне гліна.
Гладыш трымае ў руках дзяўчына,
І вочы бліскаюць, нібы сонца...

* * *

Завялі ружы пад сцюжнай слотай.
Пялёсткі ўпалі пад снегам раннім...
Ды ты з душы прагані самоту —
Ты ж мне патрэбна, нібы дыханне.

Мы ўсё былое забыць не можам,
Як майскіх ластавак шчабятанне.
Прысунь ка мне свой халодны ложак,
Дзе не заснула яшчэ каханне...

## КАЛІ ВЫ ПІШАЦЕ?

*Юсцінасу*
*Марцінкявічусу*

І днём
І ноччу,
І ў снег
І ў слоту,
І ў гулкім храме,
І ў казематах,
І згаладнелы,
І бесклапотны,
Жыццём дазвання
Сплаціўшы плату.

Пішу і крэслю,
Пішу і крэслю...
Ля тонкай свечкі.
Пры яснай поўні.
Не падпускаю
Сяброў да крэсла.
І павучанняў чужых
Не помню.

Пішу пра кнары,
Веласіпеды,
Пра жоўтых коней
На перавале,
Пра ненавіснага мне
Суседа
І прыгажуню
У светлай зале.

Пішу пра засуху
І паводку.

Пасля змяркання,
На схіле ночы,
Калі анёлы ўсе
Спяць салодка
І нехта тайна
За мною сочыць.

Пішу і крэслю,
Пішу і крэслю.
І зноўку словы
Складаю спехам,
Пакуль з няпамяці
Не ўваскрэсне
Мой свет будзённы
З кляцьбой
І смехам.

Пішу пра кашаль,
Пішу пра слёзы,
Пра карабела
І прадаўшчыцу,
І пра змяю,
Што шыпіць з пагрозай
І мне ў душу
Праслізгнуць лаўчыцца.

Каб мае вершы
Не разбрыліся,
Складаю ў стол —
Як саджу за краты.
Уцёк адзін з іх
І па Тбілісі
Прайшоў,
Самотны
І барадаты.

Пішу і крэслю,
Пішу і крэслю...
З гадамі толькі
І адбушую.
Усё гукаю,
Шукаю песню.
Як не пішу,
І тады пішу я.

# Тамаз Чыладзе

* * *

І нечакана заігралі Грыга,
Запалілі люстру — зазвінеў крышталь.
І душа — цяжкая, даўняя, бы кніга —
Расхінуўшыся, пазначыла ўжо даль.

Гэткай песні, гэтакай, прызнацца,
Шчэ не чуў я, але вось — агні,
І нерашучыя снежныя пальцы
Перагарнулі горасныя дні.

Завялі мяне ў залу са снежнай акрасай:
Беллю ззяла яна, бель усюды была.
Схамянуўся тады і — о не, не адразу —
Зразумеў, што ўжо думка далей павяла.

І што слова прыйшло, што расло яно ў цішы,—
І сказаў я: я ведаю, вас я любіў.
А душа ўсё расла — усё вышай і вышай:
Гэта снег, а мо нехта другі хто рабіў.

## ІМЯРЭЦІ

Табе кінуў выклік і з тла, і з праху
Зрабіў я сэрца, зірнуў: прыгожа.
Воблака, сонца, малога птаха
Зрабіў, і аблічча гэтае, можа.

Адкуль, адкуль чую гэтыя гукі?
Не, то не модлы і не праклёны.
Ды, помнячы міг непазбежнай разлукі,
Горбіцца Модзі-нахэ стамлёна.

* * *

Калі настане час расплаты,
Калі паўзмрок ружовы ляжа,
Дазнаюцца, чым вінаваты,
Сальюць і кроў, і слёзы ў чашу.

І калі дасць мне нехта слова,
Я словам некаму аддзячу.
«За што? — спытае ён сурова,—
За міг які, якую ўдачу?»

За міг мой на зямлі на гэтай,
Хоць і ўзляцець хацеў над ёю.
Як шчасця і бяды прыкметай,
Адзначан літасцю тваёю.

Спяваў я пра Радзіму, божа...
Хоць пад рукой тваёй быў глінай,
Сваю арбу, хоць і знямождны,
Хацеў пабачыць над далінай.

Хвалу я ўдзячную складаю
За дар мой песеннае сілы.
І ворагам я спагадаю:
Ім будзе без мяне паныла.

## ГРЭМІ

Не бываць, не быць:
Мары маёй — знямоглай,
Долі маёй — засмяглай,
Крыніцы душы — перасохлай.

І не бываць зямлі,
Дзедавай,
Бацькавай,
Матчынай,
Сёння, як і калі,
Нічыйнаю спадчынай.

Тут, на тых камянях,
Тут, на тых даланях,
Плады граната вячыстыя,
А з імі —
Помыслы чыстыя.

* * *

Трыста мужчын,
Трыста мужчын,
Трыста думак,

Няўпынных, як лава,
Імчаць удалячынь —
На трыста год,
На нязвод,
На новую славу.

Кура імчыць,
Коршун ляціць —
Мужчынам сачыць
За яго палётам.
Трыста мужчын —
Думкаю ўдалячынь.
Трыста замкоў
На тбіліскіх варотах.

Дарогі і лёсы
Крыжуюцца ўпарта,
Мне падаюць з даўніны
свае знакі.
Цяжкія,
як развітальныя слёзы,
Галоўкі звісаюць
Пунцовага маку.
Трыста мужчын,
Трыста мужчын,
Трыста думак,
Няўпынных,
як лава,
Узрастаюць з зямлі —
Удалячынь —
На трыста год
Доўжыць гонар і славу.

## ТБІЛІСІ

Аж покуль сэрца не астыла,
Ты ў ім жывеш, не проста — блізка.
Бо тут зямля маёй магілы,
Бо тут — маіх дзяцей калыска.

Табой іду, а крокі — гулка,
А думку — успамін калыша.
Спявае крок мой у завулку,
Бы вецер дзьме і дзьме ў гладышку.

## ДОН КІХОТ

«Сябры мае, да Алонса Кіхана Добрага цалкам вярнулася свядомасць, але жыццё, папраўдзе, не вернецца больш да яго».

Ды замаўчы ты, нарэшце, сумленне!
Цяжка мне. Попелам стаўся агонь.
Можа, жыццё маё — толькі трызненне,
Гэтак, як шпага, гэтак, як конь.
Санча мой верны! Табе я з ахвотай
Падараваў бы не востраў, а свет.
Вось паміраю. Не ў стэпе спякотным,
А на пасцелі — мірна як след.

Толькі адкуль ты, адкуль ты, сумленне?
Б'ецца ж во сэрца. Слова са мной.
Што там чакае? Дакор ці збавенне?
Ці ўсё міне, абміне стараной?

Хто гэта кліча? Дзівосныя гукі!
Не, паміраю! Тушыце свячу!
Свету дарую зло без прынукі,
Трэшчыну ў сэрцы... Куды я лячу?!
Скончана! Скончана? Не, не скаруся!
Меч шчэ не позна руцэ займець!
Дык чаму ж сэрца ў гэтакай скрусе?
Розум пры мне мой. Бачу я... смерць!

## Тарыэл Чантурыя

### ЗІМА

Ледзьве
ластаўкі пакінуць далі,
прылятуць сняжынкі ўслед
без шуму.
Сэрца! Колькі ты хаваеш жалю.
Сэрца! Колькі ты таймуеш суму!

Кожная сняжынка нагадае
маму,
і наўкол
захаладае...

...На двары гайдаліся платаны,
маляваў зіму на шыбах іней,
мама клалася наўмысна рана,
мне пасцель баронячы ад стыні.
Падымалася раней за ранне,
цішу венікам мяла па следу,
трэба сыну цёплае сняданне.
— Трэба нам абед... і да абеду...
І памерла ў клопаце раптоўна,
думкі пра мяне ўзяла з сабою.
Снег мяце. Недачасана воўна.
Сэрца мамы снег занёс журбою,

чыстае, як снег. Памерла рана.
Мне сагрэць халодную магілу...
Снег за ластаўкамі нечакана
зацярушыць вока небасхілу.
Сэрца! Стыне глыба ледзяная.
Сэрца! Сум і жаль не ўсе пачулі.
Маму холад мне напамінае,
снег згадаў пра сівізну матулі...

## ІСЦІНА

А ісціна жыцця
падобна на дзіця, падкінутае багачу пад дзверы:
яна не ведае, хто маткай быў,
як звалі бацьку
і ці былі ў яе брат ці сястра калісьці...
Аднак жа і таму,
хто гэтага не ведае нічога,
таксама лёгка жыць,
паколькі ведае адно:
высокая гэтая ода — ягоная,
і гэты сад-гарод чароўны,
і двор, дзе поўна птушак і жывёлы,
апратка незлічоная і ка́пы —
ягоныя, толькі ягоныя,
і ён не мае з кім дзяліцца спадчынай,—
прыгожы першынец багатай пары...

Ісціна —
дзіця, падкінутае багачу пад дзверы!..

## КАХАННЕ

Як жалеза,
як медзь,
як алюміній,—
у прыродзе
і каханне таксама
не сустракаецца ў чыстым выглядзе.
І ў ім прысутнічаюць таксама дамешкі:
ці рознасць,
ці недавер,
ці страх,
ці шкадаванне,
а падчас,
вы ўявіце,
нянавісць нават...

І каханне
накшталт жалеза,
накшталт медзі,
накшталт алюмінія,—
ў прыродзе
ў чыстым выглядзе
не сустракаецца...

## ІРАНІЧНАЕ

Парушылася прадаўняя
Чароўнейшая з гармоній:
У кожным пятым мужчыну
Жанчы гармон сягоння!

Ці палахлівец закончаны
Кожны па ліку пяты!
Ці з гэтым трэба зміріцца,
Ці часу ступаць на пяты?
Не выльеш з пустой пасудзіны многа!
Не вып'еш нічога
З кубка пустога!

Парушылася прадаўняя
Чароўнейшая з гармоній:
У кожнай дзесятай жанчыне
Мужчынскі гармон сягоння.

* * *

Дарагая, каханне... сляпое,
І таму незнаёмае цела
Пальцамі я чытаю ў запоі,
Як сляпец той шрыфт Брайля,
І смела
Я на кнопкі саскоў націскаю,
Каб на гук выйшла
Шчасце таропка.
Толькі ў тэксце яшчэ, дарагая,
Анідзе не пастаўлена кропка.

А каханне, сляпое заўсёды,
Вулку вобмацкам пройдзе ахвоча.
Небяспечныя ўсе пераходы
Пераходзячы,
Палкай стукоча.

Крыж кахання цяжкі,
Ды зацята
Я зайздрошчу таму, хто распяты!

Дарагая, каханне сляпое,
І на целе тваім незнаёмым
Бугаркі выступаюць на тое,
Каб я пальцамі мог пакрыёма
Прачытаць беласнежныя сцёгны,
Плечы,
Пальцамі чуючы стогны...

Дарагая, глухое каханне,
Бо не ўчула ты крыку жадання,
Што апоўначы трызніў табою.
Дарагая, каханне сляпое —
І таму тваё цела завучваю —
Выгараюць радкі неўміручыя...

## СНЕЖНАЯ ЗІМА. ВЕЧАР

Уся, нібы са снежнага ўспаміну,
Ты, жонка верная, ступаеш снегам,
І на слабых плячах нясеш даніну —
Снег, кінуты ў цябе хлапечым смехам.

Запомніш плечы дужыя, вядома...
Прымусіць здрыгануцца пал расстання,
Ды адагрэцца лёгка зможаш дома...
І снег чужы... таксама ўраз растане...

# ДОЖДЖ

Жаданы матэрыял на апошнюю
старонку правінцыйнай газеты.

— Сорак гадоў таму назад у Сахары пайшоў дождж марскіх рыбін, сыпаліся, як выявілася, з неба малькі: карпа, сазана, селядца, кефалі...

— Дваццаць дзевяць гадоў таму назад на Цэйлоне пайшоў дождж манет. Валіліся, выходзіць, з неба грошы: шылінгі, песа, афгані, левы, тугрыкі, злоты, маркі, рублі...

І сялянскія хлопчыкі басаногія, схаваўшыся пад высокімі пальмамі, смяяліся і прыгаршчамі збіралі
грошы...

— Я яшчэ лепей табе скажу: летась, у сакавіку, сапраўдных слёз дождж пайшоў. Сыпаліся, выходзіць, з неба слёзы: старых, дзяцей, мужчын, жанчын...
І дождж, выходзіць, ліў як з цэбра.

Ліў дождж.

Ліў дождж...

# Вахтанг Джавахадзе

* * *

Дзесь крэйсер адчальвае, узброены.
Дзесь лодка падводная аснашчаецца.
Яшчэ да вайны пачынаюцца войны.
Вайна і пасля вайны прадаўжаецца.

Потым вартуюць яе старанна
Даты —
суровыя,
як смерць,
як пагроза.
Заўсёды вайна пачынаецца рана.
Заўсёды вайна канчаецца позна.

Шчаслівай даце сэрца ўдзячна.
Ды б'ецца яно заўсёды іначай,
Калі пра сябе нагадаюць раптам
Ваеннае фота, магіла на полі ратным.

Шпіталі,
прапахлыя крывёю людскою,
Згарэлыя хаты, пагнутыя рэйкі
Можна забыць...
Ды ёсць нешта такое,
Што ад вайны застаецца навекі.

Не можа забыць мінулае маці.
Мінаецца ўсё, ды не матчына гора.
І кожны дзень новы гэтак займаецца,
Як быццам вайна была толькі ўчора.

* * *

Ведаю:
лёс і мне паспрыяе.
Веру:
фартуна ўсміхнецца і мне...
Заўтра паштоўку я атрымаю,
Якая прыснілася сёння у сне.

Заўтра ў мяне будзе радасці болей.
Заўтра набуду шчаслівы білет.
Заўтра узброюся сілаю волі.
Заўтра іначай гляну на свет.

Заўтра, адолеўшы ўсе прычыны,
Адкрыю я ёй пачуцці свае,
Даб'юся я ўсмешкі ад яе —
Ад гэтай гордай, чароўнай жанчыны.

Заўтра заззяе сонейка ядрана.
Загляне ў акно маё найперш.
І вецер, прадбачу, суцішыцца заўтра.
І заўтра закончу я гэты вось верш...

## УСЁ САМ

Як быццам ён скінуў ношу з плячэй
Ці праўду адкрыў нечакана...
Сам ён гадзіннік завёў хутчэй,
Сам кветкі паліў старанна.
Яшчэ сам падмёў таропка пакой.
Дыван сам паслаў у пакоі.
Люстру пачысціў уласнай рукой —
Чаго не рабіў ніколі.
Сам потым праверыў святло і званок.
Зрабіў усё сам непахісна.
Сам дзверы замкнуў і — на курок
Сам тут жа пальцам націснуў...

* * *

Разбураюць стары дом.
Плача толькі адна абшарпаная лялька —
Апошняя і адзіная гаспадыня
Гэтага асуджанага на знос дома.
Плача
Ці, можа, смяецца?
Хто яе ведае.
Цяжка тут разабрацца.
Гэтак жа, як не адразу зразумееш:
Разбураецца дом ці будуецца.
Бо завіхаюцца каля яго
Усё тыя ж будаўнікі.
Яны ж пакончылі са страхой.
Неўзабаве дайшла чарга да столі.

Прыступілі да сцен.
Затым заняліся вокнамі.
Узяліся за дзверы.
Глядзіш — ужо справіліся і з рамамі.
Дайшлі да пераборак.
Тут жа ўзяліся за балкон.
Пасля балкона
расправіліся з падлогай.
Затым дабраліся
да лесвіцы і парэнчаў.
Пастунова рухаюцца ўніз
(Значыць, усё ж разбураюць,
Бо інакш рухаліся б знізу ўгору).
Хутка знікаюць
Паверх за паверхам
(Узводзяцца яны больш марудна).
Будаўнікі разбураюць стары дом...

## ЯК ГАРЭЛІ ПАМІДОРЫ

Ва ўніверсаме,
у аддзеле «Гародніна»
Памідоры гарэлі.
Палала іх чырвань прыродная.
Той пажар разліваўся,
разліваў незвычайны водар.
Той пажар адбіваўся на тварах і сценках вёдзер.
У вёдрах,
у сумках,
у кашах
і кашолках
Жар-пажар той разносілі людзі па ўсім пасёлку.

І гарэлі кастры
ля пад'ездаў, ля кожнага дома.
Несці ў рот такі плод
ніштавата было, вядома.
Апякаліся людзі памідорамі,
што гарэлі.
Але елі іх,
прагна і паспешліва елі.
А калі ў магазіне
скончыўся памідораў запас —
Пажар той пагас...

# Гіві Гегечкоры

## ЗАЛАТОЕ РУНО

*А. Чыладзе*

Мне сніцца штоноч залатое руно,
штоноч сніцца той карабель,
які вывозіць залатое руно.
Ашуканыя, маўклівыя, нерухомыя,
стаім і глядзім,
як забіраюць у нас залатое руно,
як падымаюцца на свой карабель,
на хуткакрылы «Арго»
Язон і яго браты
і лёгкім ценем
накіроўваюцца па ўспененых хвалях
да берагоў роднай Беотыі...
Залатым руном азараюцца
каханне і вераломства.
І наша душа вярэдзіцца
легендаю і шкадаваннем.
Крэпасці разбураюцца знутры.
Мы нічога не можам зрабіць:
нам здрадзіла царская дачка.
На Арэсавым полі утаймаваны,
пастаўлены на калені
нашы агнядышныя быкі.
Абрабавана наша краіна.

Вытаптана наша сонечная ніва.
Высечаны наш дрымучы лес.
Пантыйскі вецер напружвае з шумам ветразь
іх дзевяцівёсельнага карабля.
Аддаляецца ён ад нашага берага,
нагружаны скарбам.
З акропаля ў некропаль перайшлі
многія з тых, хто не схіліў галавы.
Ды што мы маглі зрабіць?
Як нам было змагацца з багамі?
Што вінаваціць? — багацце нашай краіны?
Каго вінаваціць? — царскую дачку?
Дэльфійскага аракула?
Ці, можа, лепей было б,
каб яго мы не мелі зусім,
гэтага залатога руна?
Але тады чым бы мы ганарыліся?..

## БАЦЬКУ

Ты пайшоў.
Адыход твой
быў таямнічы і ціхі.
Быццам кнігі цябе
павялі ў іншы край.
Былі ў доме усюды яны,
былі ўсюды яны — кнігі, кнігі...
Я, наследнік, няўцямна глядзеў:
выбірай ды чытай.
Ты чытаў іх начамі.
Ты гатоў быў над кожнай маліцца.

Чысты, светлы,
над кнігаю
горбіўся ты штодня.
Ты з пашанай такою
кнігу здымаў з паліцы,
Быццам ты памагаў
жанчыне сысці з каня...

## ПАХОД З СЫНАМ У КІНО

Калі цябе пачне прасіць ён вельмі —
не адмаўляйся і схадзі
ты ў выхадны дзень з ім у кіно.
Калі ісці вы будзеце праз двор,
вам з зайздрасцю услед зашамаціць
ягоная кашуля, што вісіць,
бы казляня з рагамі, на вяроўцы.

Пакуль вы з ім праз вуліцу пяройдзеце,
пакуль далучыцеся да натоўпу,
глядзіш, ён ужо выслізнуў з тваёй рукі
і гоніць, быццам мяч,
бляшанку з-пад кансерваў.

Празрысты, крохкі, нібы кветка мальвы...
І пакуль ты бярэш білет,
ён круціцца паблізу, каля ног
і сам сабе штосьці ціха напявае.

Вось і кіназала.
Ты цяпер
то прапусці яго перад сабой,

то сам наперадзе ідзі,
яшчэ купі пламбір ці бутэрброд
(ён будзе яго есці на ўвесь рот!).

Кіно... Там качаня Дональд
на скрыпцы грае і крычыць: «Дарлінг!»
Яшчэ, на радасць залы, скача там
маленькі чалавек, які завецца Чарлі...

Ну вось і ўсё, відовішчу канец.
І смех і слёзы застаюцца ззаду.
На вуліцы ж, аказваецца, дождж.
Яшчэ ў нас да таго ж
разбэрсаўся шнурок.
Завязваеш яго ты пад дажджом.

Мільгаюць, бачыш, ножкі малыша.
То ён спыняецца і паднімае тварык,
і тады бачыш у вачах яго пытанне
і зубы са шчарбінкай.

Дождж, нібы слоўнік, ціха шапаціць
у змроку ночы. Не відаць таксі.
Спыняецца нарэшце. Вось і добра.
Ты дзверы адчыні і пасадзі яго
каля вадзіцеля абавязкова.

Дзіця — жывы пытальны знак.
Заглядвае табе у вочы.
Смяецца, круціцца, зноў са сваім «чаму».
Жыццёвых ісцін безліч для яго
таіцца за сямю пячацямі —
бы за заслонай гэтага дажджу.

Ён будзе апірацца на цябе,
пакуль не стане сам на ногі,

пакуль яго не знойдуць у свой час,
пакуль не возьмуць яго ў свой палон
жаночых рукавоў карункі.

Ды зараз над загвоздкамі жыцця
яму яшчэ не трэба біцца.
Яшчэ ён з бацькам сваім побач.
Не для яго яшчэ гучыць
тужлівы блюз асенняга дажджу.

І толькі потым, калі сам састарыцца
і стане сам сівы як лунь,
ён будзе думаць, згадваць будзе:
ці то ён жыў з табою побач,
ці то з вагоннага акна
убачыў ён цябе аднойчы?..

## СТАРЫ ЦІХІ І ДЗІЎНЫ

*Галакціёну Табідзе*

Стары ціхі і дзіўны...
Ён, са сваёй сарамлівасцю
і вачамі цнатлівага дзіцяці,
быццам шукаў спачування і падтрымкі.
Дзіцяцем быў ён, старым дзіцяцем.

Стары ціхі і дзіўны...
З пацёртымі локцямі і безабаронным выглядам,
з адкрытым чалом,
з няправільна зашпіленымі гузікамі,

ён быццам кожны дзень пацвярджаў,
што толькі адзін крок,
усяго толькі адзін крок
ад вялікага да смешнага.

Стары ціхі і дзіўны...
Мы як быццам аднойчы забылі,
што ён быў дзіцяцем,
і адпусцілі яго аднаго,
і ён заблудзіўся і недзе прапаў
у мітусні і гамане горада...

І вось цяпер, калі вечарэе,
вялікі горад шукае яго з ліхтарамі...

## Заур Балквадзе

### ЖУРАВЫ

Адлятаюць...
Гаснуць небасхілы.
Восень перайначвае прапіскі.
Выбіўся важак нястомны з сілы —
з чарадой змагаюцца вятрыскі.

У сінечы — чорныя пункціры,
у сусвеце — вечныя сіроты:
крылы ў іх цяжэюць, быццам гіры...
Ды канца не маюць пералёты.

Ды імгляцца грозныя разлогі,
ды бялеюць гор маўклівых пікі,
ды ляцяць услед перасцярогай
жураўля, які адстаў, усклікі.

Ім пяўцям самім, ці карацее,
ці даўжэе шлях іх у нябёсах...
...Дзесьці мору трызніцца надзея,
што да журавоў яно ўзнялося.

## МАЯ ЗЯМЛЯ

Мы цябе крывёй жывілі,
баранілі моцай жыл.
Калі ўсе злічыць магілы —
станеш цеснай для магіл.

Ты нам доляй стала, мэтай
і апорай наўсягды!
Ты прыснішся — нават гэта
Ўберагае ад бяды.

Ты ў сабе стагоддзі спеліш,
ладзіш з часам маладым.
Твая роздумная веліч
узыходзіць і ў малым.

Адраджайся з друзу, з прыску,
нараджай дзяцей красы —
хай сякуцца на калыскі
твае шчодрыя лясы.

Мы цябе крывёй жывілі,
баранілі моцай жыл.
Калі ўсе злічыць магілы —
станеш цеснай для магіл.

## ЧАС І ПЕСНЯ

Мы ўжо пабрацімамі не будзем —
час цішком змяняе краявід
і нясе бесперастанку людзям
дар хвілін, якія шле нябыт.

Ёсць сярод хвілін адна хвіліна,
што разлучыць канчаткова нас:
набяжыць, сарвецца, як слязіна —
і дыханне абарвецца ўраз.

Сябра, дай да гэтага падзелу
ў песнях увасобіцца душы:
што сказаць хацела й не пасмела —
так і застанецца ўжо ў цішы.

Песня смерці слухацца не будзе.
Свеціцца яна, як адкрыццё,
і змяняе час, каб нёс ён людзям
дар жыцця, якое шле жыццё.

## Медэя Кахідзе

### БЫЛА Б РАДЗІМА

Аддавала жыццё я табе шмат разоў
Да апошняй крывінкі.
Гатова
Зноў аддаць,
калі трэба,
і палкую кроў,
І апошняе
сваё слова!
Загадай —
і панесці я здолею
сцяг.
Не схілю галавы,
хоць жанчына.
Толькі б слаўся
зямлі маёй
вольны прасцяг,
Толькі б спевы
лунalі
грузінаў!
О зямля,
што крывёю сплывала не раз!
Гор магутных
адвечнае дзіва!

Будзь са мною!
Бо лёгка таму паміраць,
У каго за плячамі —
Радзіма!

* * *

Без цябе я — вулей парожні,
Салавей, што спяваць не можа,
Сад, што плача галінкай кожнай —
О, не дай разысціся нам, божа!
Без цябе ў адчаі старэю...
Без цябе я лаза, якая
Забуяць, расцвісці не ўмее
І цябе, як вясны, чакае!

## КЕТЭВАН

«Пасля прынеслі распалены кацёл і
Надзелі на святую царыцу Кетэван...»
*Картліс Цхаўрэба*

Над зямлёй вісіць маўчанне.
Вогнішча — барвова ў вочы.
«Адрачыся! — мне крычалі.—
Грузія ж твая — з лісточак!
Дык нашто вам незалежнасць?!»

І, зрываючы мандзілі,
Кветкай вогненнай жалезнай
Мае грудзі апалілі!
О, як мне перацінала
Сорамам і гневам горла!
Ды стаяла я, стаяла,
Галаву падняўшы горда!
«Вашай літасці не трэба.
Не прашу вас мучыць меней,
Бо стварыла мяне неба
З нашай гліны і камення!
Дык кляніце, колькі ўлезе!
Ці ж даведацца маглі вы —
Некалі вось так жалеза
Загартоўвалі халібы!»
Плавіць полымя, як крыцу...
Вытрымаю ўсе, паверце!
...Пацярпі яшчэ, царыца!
Уваходзіш ты — ў бяссмерце!

## КАЛІ ПЧАЛА ПАМІРАЕ, ЯК ЧАЛАВЕК

Неба зрабілася зноў маладым.
Водар садоў абуджае зямлю.
Пчольнік, як крэпасць,
стаіць ля вады —
Тут пасядзець я часамі люблю.

Паназіраць, як імклівы дазор
Кветкі шукае за пеннай ракой.

Грудзі цукровыя сонечных гор
Пчолы высмоктваюць, як малако.

Так я сядзела...
І раптам пчала
У грудзі ўдарыла дзідай тугой,
І адкацілася, і палягла,
Быццам дазорца, што рынуўся ў бой,
Грудзі прабіла ліхая страла.

Мне прыгадаўся зямлі маёй шлях —
Цёплай, мядзянай, як вулей, зямлі.
Па гэты край, як па соты, здаля
Колькі чужынцы ішлі ды ішлі!

О, як змагаліся продкі мае!
Перад магіламі ўстань, памаўчы.
Можа, зямля наша моцы дае
Гэтак аддана яе берагчы!

Будзь да пчалы той падобны, паэт!
Абараняй сваю крэпасць, пясняр!
Слова гартуй — дзядоў запавет.
Соты Радзімы хай поўніць твой дар!

## ПРАЙШЛА ПАРА ТВАЯ

Першы снег! А табе няма радасці:
Хлопцы ўслед не кідаюць снежкамі.
Гэта значыць — прайшла пара твая,
Маладосці згубіла сцежкі ты.

Прыляцяць у даліну ластаўкі —
А душа маўчыць, скамянелая.
Значыць, час падышоў няласкавы,
Калі сны выцвітаюць белыя.

Як струны патаемнай і тонкае
Не кране бяда чалавечая —
Значыць, песні юнацтва звонкія
Адышлі ад цябе — навечна.

# Атар Чыладзе

## ЦЯЖЭЙ ЗА ЗЯМЛЮ

*Прысвячаю маёй маці*

Дазволь перавесці дух на тваёй агароджы,
Схавацца ў засень інжыру і тваёй крыніцы
Даверыць ногі, што карані, каб яшчэ раз
Праверыць долю сваю, бо ніхто ўжо
Да болю майго не прыпадзе, што баліць мне,
Яго карчаваць мне самому, каб паглыбленне
Запоўніць усмешкай тваёй да святла падобнай,
Што любіць мяне, ды не шкадуе, бо не ўмее
Крывіць душой і можа мне ўсватаць удачу...
Не можа паслабіць, развеяць, забыцца тое,
Што маю ў сабе цяжкое, цвярдое канкрэтна,
Што мушу, нібы дубіну, ўзяць некалі ў рукі.
Мне давядзецца праходзіць ля сабак галодных.
І надыдзе страшнейшая за нябыт хвіліна,
Якая сцвердзіць мусіць, што і мая таксама
Душа была душой чалавечай, а не клубам
Паветра, сагрэтага ў лёгкіх, якім я існую;
Раз існую, не маю права заплюшчваць вочы,
Сціскаць вусны, сашчапіць на грудзях рукі,
Падобныя да ступелых рыдляў, якія ўжо
Не могуць зямлю капаць, хоць і ведаюць добра,
Што ў гэтай зямлі прах бога спакой адшукаў свой,—
Ды ў беднага на грудзях больш часу, чымся зямлі,

Цяжэй ад зямлі недаступны, цёмны, халодны
Час мне замест кія ў рукі даў мудрага змея,
На плячо пеўня ўссадзіў, цёплым семем напоўніў,
Як бабовы стручок... і, як пячатку, паставіў
Мяне на гэтыя неба і дол...
А я ў стоме
На агароджы сяджу і падцягваю круком
Галіну інжыра ад спякоты... ад голаду...
Каб выйграць час...
Даруй мне гэта адно імгненне,
Адно гэта імгненне слабасці ці невуцтва:
І я ж дзіця,
шчаня,
птушаня,
кокан ці яйка...
І мне закарцела ў засені тваёй пасядзець,
І забыўся, што без мяне няма заступніка
У сукні той, што ўвабрала ачага горкі дым
І выбілася з-пад касынкі сівой даўніны,
Што прыскам асыпаецца на мяне, калі сплю,
І ты мне мераеш плечы, смакуеш, цалуеш,
Быццам высмоктваеш з раны яд...
Я тваё дзіця!
Я абпалены ў тваім чэраве, што ў гарніле,
Я неўміручы!
Я прыстаў ад неўміручасці!
Праз гэта мая хвілінная ашаломленасць
І мае наіўныя думкі, што падобныя,
Нібы блізнюкі, на думкі таго селяніна,
Што ў зямлі просіць харчу на год, каб на адзін год
Працягнуць сваё існаванне яшчэ...
На адзін год!
Каб не знесці ў магілу, што точыць, як той чарвяк,
Клопат пра ўбраны ўраджай, пра карову, жанчыну...
Быццам распальваю агонь у полі, і ў цемры
Сам разгараюся, чырванею, як вугалі,

Ды не ведаю, адкуль яна, гэтая чырвань,
Ад кахання, ад сораму... Два гэтыя пачуцці
У душу мне ўпіраюцца патарчакай лютай.
Уперадзе шлях, прачэрчаны тваім пазногцем,
Шлях, пратаптаны болем тваім, выбрукаваны
Акамянелай упартасцю, тваім цярпеннем.
Амаль няма людзей на гэтым шляху і таму
Ён сумны такі самотнаму падарожніку,
Зрэдчас прамільгне прывід папярэдніка, продка,
Ці падпільнуе за выгінам, стаўшы крыніцай,
Што змусіць зірнуць у душу ёй і разам з вадой
Перадаць немач смеласці, самаадрачэння.
Нібы помнікі незавершаныя, стаяць дні
І ночы, як спешна выкапаныя магілы...
На помніку кожным кроў душы мушу пакінуць,
У магілу кожную мушу легчы, каб, як гук,
Вызваліцца ад маўчання альбо, нібы святло,
Вызваліцца ад змроку і, нібы на дрэве ліст,
Да сябе на момант звярнуць твой слых і твой позірк.

## ТАКО І ЗАЗА

І так маё жыццё само пайшло:
Пагасла шмат жаданняў напачатку,
На кожнае ўцалелае крыло
Я пасадзіў па кволым птушанятку:

Тако і Заза!
Сын мой і дачка!
Абраз і клятва!
Подаць і даніна!
Самой прыроды шчодрая рука
Стварыла пару мудра і нявінна.

Тако — дзяўчынка,
І вядома ёй,
Як позірк хітры кіравацъ ціхмана
На тое ўсё, што вабіць навізной,
Што ў глыбіні таемнасцю схавана.

А Заза — хлопчык,
І ў яго вачах
Настойліва штовечар і штораннн,
Як буйвал той, цень пачынае шлях
Яшчэ незразумелага жадання.

Што след праб'ю, не думаў я ані,
Што прамяням пазычу я лагоды.
Цяпер
Мае нявуседы-прамяні,
Маю апору маеце заўсёды.

Зямля,
Якой вы мусіце ісці,
Матуля нашай гордае пароды,
Хавае раны, толькі ў забыцці
У сне іх раскрывае боль нягоды.

Матулін смутак — гэты сіні мох,
А горы — грудзі, што сілкуюць сілы,
І грудзі поўніць малако трывог,
Што клятва, малако напяла жылы.

Тако!
Стаць маці радасць настае,
Як гронкі вінаграду, ўспыхнуць грудзі,
Як Заза грудзі пракляне твае,
Ён лютым мечам пакараны будзе.

Тако!
Як бог таго захоча сам,

Ты адляціш, зрабіўшыся жанчынай.
Напоўнішся ты, быццам спевам храм,
І сонейкам, і чуласцю птушынай.

Ты ўся засвецішся...
І ў харашбе
Цябе закруціць хутка вір шалёны,
І горача ўтаропяцца ў цябе
Вачыма рэстараны, стадыёны.

Табе дарога сцелецца раўней,
Пачатак там, дзе продкава хаціна,
Цябе не тычыць, што было раней:
Час — быстрая рака,
А мост — жанчына.

Жаноцкасць не дае табе загад,
Каб ты сваёй краіне думку грэла,
Каб ты яе, прывыкшы да спагад,
Пераняла цераз патокі смела.

Я меўся шмат чаго сказаць спярша,
Ды толькі дні імчацца вар'яцела.
Як свечка хліпкая,
Мая душа
Гарыць, сваё ж дапальваючы цела.

І спіць Тако, і што казаў малой,
Усё ўвайшло ў ласкавы сон, паслухай,—
На кветцы б'ецца шустраю пчалой,
Паблісквае на шыбе кропляй-скрухай.

У засені чынары трапяткой
Жыве, як птушка, сэрца кліч жаданы.
І хто парушыць ранішні спакой,
Той мечам Зазы будзе пакараны.

А Заза — хлопчык,
І ў яго вачах
Настойліва штовечар і шторання,
Як буйвал той, цень пачынае шлях
Яшчэ незразумелага жадання.
Хай мае меч драўляны,
Даўніны
Старонкі помніць, што святыя словы,
Як перс гнаў з родных пашаў табуны,
Як перад ім стаяў брытагаловы
Татарын, што ад скачкі ап'янеў,
Як з прыскам дзеда даўняе вуголле
Тушыў мачой мангол,
Як маці гнеў
Чадрою ахінула
Сведкай болю.

І Заза гартаваў дакладны ўдар,
Турыў татар, што саранчой ляцелі.
Вароны хмарамі сплывалі ў яр
І ад крыві і падалі — люцелі.

Ён неаднойчы перажыў наноў
Анісі і Джанісі,
І Крцанісі,
І слухаў памінальны спеў званоў,
І ніцма да святой зямлі хіліўся.

І вочы зачыняў маўкліва ён,
На грудзі свечку ставіў,
Ды зацята
Гнеў праведны ў магільны грукаў сон,
І доўг патрабавала свой
Адплата.

Яшчэ не раз перапужаны лёс,
Як дзік у цемры, кідаўся ў бяссіллі.
Матулі, сёстры, чорныя ад слёз,
Ягоны меч пакутліва насілі.

А ён ляжаў,
Жыцця маўклівы госць,
Ухутаны зямлёю роднай дбала,
Ды клятва,
Што ў крыві жыла,
Ды злосць
Сканаць надоўга Зазу не давала.

І зноў імя люляла гор смуга,
Ягонае імя з далін спрадвечча,
Імя нябыт адпрэчыла,
Слуга
Штандара шматаванага і меча.

Каб радаваць сябе карысцю спраў,
Ён пыл і гразь страсаў з сябе памалу,
У нагах краіны седзячы,
Пісаў
Ён кнігу, а краіна дыктавала.

Мая краіна!
Мы сляды бяды
Заблыталі, каб жыць табе адзінай,
І зноў мы дыхаем,
Бо ты заўжды
Не боскай, а маёй была краінай.
Мая краіна!
Кроў, якой жыву,
Жывіла, што агонь, твой квет і камень.
І сэрца Зазава і галаву
Табе падношу я дзвюма рукамі.

Табе апорай дзедаўскай зямлі
Яго ўзгадую
Кнігаю ці хлебам,
Ужо твае шыпы ў яго ўзялі
На пробу кроў —
Ён твой пад гэтым небам.

Ён толькі твой!
Адно ў яго вачах
Настойліва штовечар і штораяння,
Як буйвал той, цень пачынае шлях
Яшчэ незразумелага жадання.

## Хута Гагуа

### НОЧ У ДАШЧАТАЙ ОДЗЕ

Зноў снег ідзе. Галосіць птаха
Жахліва ў непраглядзь начную.
Я галаву, як чарапаха,
З-пад коўдры вытыркнуць спрабую.
Знік сон мой. Коўдра адсырэла.
Світанне збілася з дарогі,
Яго чакаем утрапела
Мы: сын і бацька аднаногі.
А бацька ў сне свой ложак месіць,
Мой страх, стаіўшыся, трывае.
Вайны няма ўжо сёмы месяц,
Але яшчэ вайна жывая.
Змагаюся са зданню смерці —
Я ўвесь палаю, горла сушыць...
Аберуч я трымаю сэрца,
Каб не рванулася, як птушка.
Я, хлопчык дзесяцігадовы,
Вайной і так па горла сыты,
Забыць на ўсё і ўсіх гатовы,
Ды бацька трызніць. Сон разбіты.
Я стомлены. Ды ўстаць без жалю
Павінны, радасны як быццам,
Пакуль там не пазабівалі
Сябе на смерць мой бацька з фрыцам.
Расстацца з ватнай коўдрай мару,

Смуга ружовых споў радзее.
Спавіты быў, нібыта ў хмару,
На сховішча няма надзеі.
Я верыў, панцырам як-небудзь,
Што чарапаха, засланюся,—
Калі ж зямля сышлася з небам,
Вайна калоціць сон у скрусе.
Дарма даверыўся спакусе
Схавацца. Не ўцячы ад лёсу.
Над ложкам бацькавым хілюся,
Стаю ў адной кашулі, босы,—
Я да яго шчакі шчакою
Тулюся:
— Наша перамога
Прыйшла...
Засцелена ў пакоі
Кілімам холаду падлога.
Я плачу. Бацьку цяжка з явай
Сустрэцца зноў — яна цяжкая,
Нялёгка хутка ўстаць — і правай
Ён левую нагу шукае.
І не знаходзіць. І не верыць,
Як і раней, прапажы гэткай.
І ціха ўносіць мама ў дзверы
Пратэз з нагрэтаю шкарпэткай.

## ЗЯМЛЯ

Дождж прайшоў — свет стаў аблiччам белы.
Раніца напоўнілася звонам.
Бесклапотны ўвесь і ап'янелы
На пагорку кволюся зялёным.

Поле радасна за саснякамі
Падстаўляе сонцу ўзлобак чорны.
А ручай рагоча і знікае,
Скачучы, як хоча, круціць жорны.

Столькі ў смеху ручая спакою,
І душа сама імкнецца ўгору,
Аж здаецца, дасягну рукою
Неба, там знайду сабе апору.

Свет прыціх, святло расце вясёла.
Кружыць ястраб, на здабычу падкі,
І кусты разбегліся наўкола,
Як спалоханыя курапаткі.

Кожны куст махае мне рукамі,
Цягнецца на дыбачках рахманы,
Там царква стаіць за саснякамі,
Там мой дзед ласкавы пахаваны...

Матылькі святло цяпла адчулі.
Рад я, што вільготная міжволі
Мурава, як барада дзядулі,
Долу хілячы, мне шчокі коле.

## ПРАЛОГ

А гэта было — як пякучай паэмы
Пралог, не магу растлумачыць і сёння;
А гэта было — кроплю слодычы немы
Хацеў паспытаць, потым — хоць у прадонне!

А гэта было — белай вішні трымценне,
Пяшчота — туман, што аблытаў калоссе.
А гэта было — пугача азарэнне,
Якое не ўночы, а ўдзень адбылося.

А гэта было — бо такі як і ўсе я,
У грудзі збалелыя біць кулакамі,
Як куля — ў ахвяру, у лёс, у надзею.
Было гэта. Толькі было, ды знікае.

Як Марс, ледзьве вочы расплюшчыць світанне,
Як тое віно, што шыпучае ў чары
Пачне выпарацца — салодка растане,
Пакуль паспытаць яго ўпрошваем мары.

Знікае, нібыта жадання здзяйсненне —
Узмах безнадзейнай рукі развітання?!
Ці смагі на векі вякоў наталенне,
Ці гэта нарэшце кананне кахання.

## СПАЧУВАННЕ

Лісце злятае,
Як тая знямога.
Болей нічога. Аголены сад.
Перасцярога хавае пагляд.
Два верабейкі.
Болей нічога.

Болей нічога.
Як лісце сухое,
Час у няспынлівым руху цячэ,
Марыць душа затрымацца яшчэ.

Болей нічога.
Стаіш у спакоі.

Моўчкі стаіш,
Роздум твой спачывае.
Болей нічога. Рука дружбака
Даўняга, як ля царквы жабрака,
Лашчыць цябе —
Радасна спачувае.

Крадма смяецца дружбак,
Як аконам,
Сытаму лусты не шкода табе;
Так у далонь сарамлівай мальбе
Падае град медзяковы
Са звонам.

Болей нічога.
Ступаеш нябога
Брукам ля голых прысад, каб не знік
Цень летуценны, твой ценькі двайнік,
З шыяй худою.
Болей нічога.

## ФОТАКАРТКА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА

Каб дзіця не ўпала, нечая рука падтрымлівае хлопчыка, які толькі што навучыўся хадзіць.

Хто так руку працягнуў дзіцяці,
Што за рука пастаралася чула?!

Хто гэта? Цётка? Бацька? Дзядзька? Маці?
Бач ты, сорак доўгіх гадоў мінула.

Можа, руку ўжо адрэзалі каты,
Бо змайстравала калысак багата.
Хто ён: аробшчык, касец, араты,
Той, што на здымку застаўся руката...

Пэўна, з рукі вырывалася сіла...
Пэўна, з адзінай хадзіла ў абдымку,
Рыдлі трымала і цеста мясіла —
Што за рука засталася на здымку?

Можа, касіла траву густую,
І падала ніц пад касой асака,
І, ўрэшце, скасілі яе самую —
Чыя гэта ўсё ж на здымку рука?..

Той хлопчык і сёння няцвёрда ідзе.
Рука — яго ратавальніца — дзе?..

## Тагу Мебурышвілі

### СЕМ СНОЎ

*(Фрагменты)*

#### ПЕРШЫ СОН

Праз дваццаць гадоў
у промневым шоўку
вясна маіх сноў
прыйшла ка мне зноўку.
Ды не, не прыйшла —
прыляцела на крылах
маіх успамінаў,
далёкіх і мілых.
На сцежках далоні
ты мне варажыла,
пачуцці мае
ты, як жар, варушыла.
Мы крочылі поруч,
так шчыра я верыў:
няма на шляху
ні мяжы, ні бар'ераў.
Была ты маёю
спакусай і марай.
Ані хмурынкі
ў вачах і на твары.
Нібыта мімозы,
фіялкі, цюльпаны,
твой смех расцвітаў,
непаўторны, жаданы.

Пад небам сінелі
туману палотны,
да шлюбу
бясхмар'е ты шыла ахвотна.
Паднёсшы
бялюткую ружу жывую,
падкрэсліў
красу я тваю маладую.
Я казачны замак
узводзіў над морам,
і вочы твае
запаўнялі прастору.
Настрой узнімаўся
арлом — вольным птахам...
І вось нада мной
прабуджэнне — як плаха.
Мой сон-успамін
патух, быццам свечка.
Ды смех твой звініць,
як крынічка, як рэчка.
Наіўны, так рады
і снам я,
і марам,—
яшчэ ўсё валодаю
гэткім я дарам.

## ШОСТЫ СОН

Я прысніў,
што любові рака
у пустыні бясконцай,
да мяне ідучы,
усміхалася сонцам.
Побач людзі
адзін аднаго
праклінали за штосьці,

ўсе глухія, сляпыя ўсе
ад нянавісці, злосці.
Як дзяцей,
я пачаў апякаць
іх, няшчасных, няйначай,
стаў хрысціць у вадзе,
у любові рацэ гарачай.
Вернасць ім і любоў
прывіваў,
благаслаўляючы лёсы.
І на камні сядзеў сатана,
праліваючы чорныя слёзы.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Белагрудыя
ластаўкі дзён
пралятаюць, нібыта вецер.
Зноў губляю кагось,
як і ён
губляе мяне ў белым свеце.
Цяжка звыкнуцца з ходам такім,
з горкай думкай такою:
да канца
не астацца ні з кім
і ніхто
да канца не дабудзе з табою.
Краю мой, як жа я табе рад!
І жывуць у крыві маёй
з роду
(і шумяць яны, як вадаспад) —

песні, танцы майго народу.
Да канца буду верны я
табе вернасцю сына,
старажытная маці мая,
маладая мая краіна.

## СТАРАСЦЬ

Адхлынулі ўсе:
хто — з прагай адной, хто — з удачай.
Паблізу сябе
нікога я болей не бачу.
Сабраў я спіралі дарог —
якое нікчэмнае выйсце!
Пачуццяў шкада,
такіх незалежных калісьці.
Бо сталі яны
нібыта маўклівыя рэчы
і не спрабуюць
са мною спрачацца,
пярэчыць...
Запал іх патух,
няўжо ім агнём не схапіцца?
Дзе чэрвеня дух?
О, дзе ты, размах касавіцы?!
Розум халодны
расселўся на троне
тыранам,
пачуцці ў рабоў абярнуў
так рана.

## Іярам Кемерталідзе

### БАЛАДА АБ ЧАРАВІКАХ

*(Фрагменты)*

Становіццаяваю казка часамі,
Як вогненны зрок карабіна,
як штык...
Не за марамі і не за гарамі,
Як іншыя,
жыў адзін чаравік.
Адкрыўшы рыпучыя дзверы нячутна,
Вярнууўся дадому былы франтавік.
Чакаў усю ноч ён світання пакутна —
І спаў пад тахтою адзін чаравік.
У сне яму чуліся грукат, і сеча,
І стук капытоў, што маланкава ўзнік.
Здавалася, быццам схавала сінеча
У ранішняй рані другі чаравік...
Часамі здзяйсняецца сон незвычайны.
Аднойчы ягоны спакойны начлег
Кранула трывога — ён сніў у адчаі,
Як з дому на пошукі сябра
Пабег...
Хадзіў і блукаў,
Абнімаючы хаты,
Адолеўшы ўброд ледзяпую ваду...
І ледзь не аглух ад грымотаў гарматы,

А ўсё-ткі
Працягваў бясстрашна хаду.
Тут недзе, здаецца, рассталіся ўчора
(Ах, як двайніка ён старанна гукаў!).
І хоць неадольна падкошвала змора,
Ён любага друга няспынна шукаў.
Раптоўна ад бомбы зямля застагнала.
І каля чырвонага полымя ўзбоч
Убачыў ён сябра, ды іх падзяляла
Варонка,
Нібы непраходная ноч.
Застаўся адзін ён, нясцерпна самотны.
А там,
За варонкай,
Другі чаравік,
Смяротна апалены хваляй грымотнай,
Да долу крывавага моўчкі прынік...
З адчаю
Ён поўзаць наважыў, урэшце,
Знямог, да абвугленай пожні прырос:
Не можа ні кроку зрабіць ён, хоць рэжце...
І ў роспачы горкай заплакаў без слёз.
А потым —
Дзве мыліцы, вельмі цяжкія.
І зноўку ідзе чалавек пехатой.
Не помнячы добра хвіліны такія,
Самотна ляжыць чаравік пад тахтой.

## Эмзар Квітаішвілі

### МІНУЛЫ ДЗЕНЬ

Ты неўзабаве мінеш, як мінулі
іншыя дні, затуляючы твар...
Сонца плыло, кукавалі зязюлі,
чорныя лічбы гартаў каляндар.

Ззялі то поўня, то ветах каляны,
тузаўся вецер, і слаўся туман,
лава варылася ў горле вулкана...—
Ява, што заўтра абернецца ў зман.

* * *

Прыходзьце, людзі, з зацені, з глушы —
за ўсё плачу я золатам душы.

Загарадзіў дарогу я сваю:
пазыкі даўнія сягоння аддаю.

Са мной былі вы ўсюды і заўсёды —
хто згоду гадаваў сярод нягодаў,

хто пёк мне мчадзі, хто паіў вадою,
развітваючыся з доляй маладою,

хто кашлю каштаваў за дзень вымогі,
хто раставаў, каб я ўставаў на ногі.

Паклон шурпатым стомленым рукам,
даліне сціхлай, змоўклым раўчукам.

Я помню іх брую, іх чысты звон...
Вандроўніку сустрэчнаму паклон,

і тым, хто ліпы тут садзіў руплiва,
паклон руплівай калыхлівай ніве.

Паклон дажджу, што са страхі сцякаў,
і той, якую я ў той дождж чакаў.

Прыходзьце, майго лёсу спарышы,—
за ўсё плачу я золатам душы.

## ПТУШЫНЫ ГОРАД

Аднойчы трапіў я ў птушыны горад.
Прычынай гэтаму не сон быў,
не трызненне
і нат не ласка боская,
а проста
ўсёісны выпадак —

нібы з людской дарогі
я збіўся на птушыную...
Дык вось,
той горад насялялі толькі птушкі.
Але, як людзі па сваіх кватэрах,
сяліліся яны на розных дрэвах
і на галінах розных, да таго ж,
і лёталі яны, як я заўважыў,
не абы-як, а па сваіх маршрутах,
і матылёў сваіх яны лавілі,
і паасобку альбо ўсёй сям'ёю
спявалі песні, кожная — па-свойму.
А што за птушка гэтакая смерць
ніхто і не чуваў з іх аніколі,
і не чакаў яе зусім.
Звінелі
у спеўных горлах кропелькі дажджу,
і выпраменьвалі навостраныя дзюбы
сталёвы бляск, і, як вясёлка, ззялі
іх пёрыны, ну, а па тварах іхніх
усё адно заўважыць было нельга,
што радавала іх, што засмучала.
І разгубіўся я, і не хапіла
ў мяне на той час розуму, каб лётаць
тут навучыцца.
Я паспадзяваўся,
людское самаўпэўненасці поўны,
што калі-небудзь зноў сюды патраплю...
І я падаўся нацянькі — у ноч.
Ды ўсё, што я ні бачыў потым, нават
і параўнацца не магло з тым дзівам,
з якім так выпадкова я сустрэўся
і размінуўся,— з горадам птушыным.

## СОН

Царства сну, ў адрозненне ад іншых
старажытных царстваў і сучасных,
анідзе не значыцца: ні ў актах,
ні на картах, жыхароў не лічыць,
грошай не чаканіць, тым не меней
першае яно між іншых царстваў
па багацці, першае — па шчасці.
Што б ні пажадаў ты ў ім убачыць —
сонца скамянелае ці шэры
прыдарожны камень — калі ласка:
варта толькі пажадаць — і ўбачыш,
і дзівосы дзверы разнасцежаць,
і вандроўка павядзе ў бясконцасць.
...Быццам глыбамер, знікаеш раптам
у глыбі таемнай, і паверхні
для цябе ўжо болей не існуе.
У мазгу свінцовых пломбаў злідкі,
а ў наўколлі туманы, як здані,
растаюць — агледзься, падзівіся:
на пяску бялюткім забялелі
зграбныя калоны і парталы.
А далей бялее саван-поле,
поўнае спрадвечнага спакою.
Вунь скала,
ўся ў маршчаках, чарнее —
плача яна чорнымі слязамі.
А вунь там кірмаш:
народу процьма,
ды ніхто цябе не заўважае,
і ніхто не чуе, што ты клічаш,
і не чуе, як грукоча сэрца.
Ты крыўдуеш — на імгненне, праўда.
Царства сну ўсёўладнае — так проста
можа яно звесці з чалавекам,

што пайшоў дарогай незваротнай
дзесяць год таму назад, і дваццаць,
і раней, пагутарыць дазволіць,
а пасля яму дазволіць знікнуць
гэтак жа, як перад тым з'явіцца.
Але больш за ўсё мяне займала
ў царстве сну, што ён не мае межаў
ні ўшыркі, ні ўдоўжкі: ён усюды
і нідзе, нібы стаў час прасторай
і змяніў яе каардынаты.
Вежы царства гэтага без ліку,
а штандары — дык усіх узораў.
Да таго ж, не лічыць непарушнай
царства сну той розніцы, якая
аддзяляе рэч ад іншай рэчы
і асобу ад другой асобы.
Часта для яго адно і тое ж
скарб і смецце, рыба і жанчына,
луг і мора, у руках ягоных
нож ператвараецца ў відэлец,
белае апыньваецца чорным...
А ў астатнім тут якраз парадак,
і шчаслівы той, чыйму пагляду
свет яго чароўны адкрываўся.
Толькі мусіш ты асцерагацца
і ніякіх рухаў выпадковых
не рабіць, бо раптам — ррраз! — вяроўка
возьме і парвецца, і навекі
застанешся ты на дне бяздонным.
Лепш за ўсё маўчы тады, згаджайся
з тым, што адбылося. Да нікога
крык твой не праб'ецца — мо ўсхвалюе
бурбалкамі белымі паверхню.
Не бядуй, мой любы. З гэтай хвілі
для цябе ўжо існаваць не будзе
дня і ночы, сцюжы і спякоты,

захаду і ўсходу. Будзеш, вольны,
ты ісці, усё ісці дарогай,
у якой няма канцоў-пачаткаў...
Ну, а больш за гэта, больш за гэта
ці што можна пажадаць урэшце
і сабе, і ўсім астатнім людзям.

## Рэзо Амашукелі

* * *

Як мне надакучыла
Гэтага горада аднастайнасць,
Аўтобусаў,
Машын,
Плыні людской...
О, каб я мог апынуцца
Зараз у Імерэці
І ў засені ляшчынніку
Слухаць кудахтанне
Звычайных курэй...
І ўбачыць,
Ахопленую полымем жоўтым,
Націну гарбузную,
Што рызыкоўна лезе праз плот,
Каб вытыркнуцца на белы свет.

* * *

...Ляжу на спіне
Каля разамлелага мора.
Пераспелыя зоркі з неба
Цярушаць на дол

Залатое сяйво...
Плёхкае каля ўзбярэжжа
Срабрыста-хвалістая кефаль,
І на далёкім гарызонце
Пагойдваецца ліхтар
Лодкі рыбацкай.
З глухім рокатам
Самалёт нырнуў у цемрыва ночы,
І мне здалося,
Што, як і ў маім дзяцінстве,
У самалёце сядзеў па-ранейшаму ён:
Сент-Экзюпеверы!
На вочы навярнуліся слёзы...
А з неба нехта сарваў адну зорку,
І яна пагасла,
Апальваючы мяне зялёным агнём...

## МАЛЕННЕ

*Памяці Шата Іаманідзе*

О, цудоўная восень!
Падзялі са мной сваю гронку,
Якую выспеліла жнівеньская спёка,
Прынясі спакой
Душы маёй
І забыццё,
Бязмежнае забыццё перазяблай зімы.
О, восень!
Горка-салодкая, як дзікі мёд.
Прасвяці мяне святлом садоў тваіх,
Прышчапі, як завушніцы, спелыя чарэшні,

Што набрынялі чырвоным сокам.
Барвамі кізіла і бузіны
Пафарбуй мае лоб і шчокі
І адчыні для мяне
Сховішча нектару любові...
Хоць на імгненне
Вярні маё дзяцінства,
Падзялі са мною мой лёс,
Падзялі са мною маю радасць і журботу.
О, восень!
Уратуй мяне ад хуткаплыннасці часу,
Благаславі мой шацёр вечаровы...
...Зусім побач
Магіла майго сябра,
З зялёнага каменя
Журботна высечаная.
О, змілуйся над маёй самотай
І над тым вершам,
Які я вясною замкнуў
У скрыні, акутай забыццём.
О, восень!..
Падай мне твой кубак,
Вільготны і перапоўнены
Вінаградным настоем,
Бо сухія слёзы
Смыляць у маіх вачах...
Раскрышы мне кукурузны кіях,
У якім столькі сонцаў маленькіх.
Дазволь мне ўгледзець твае дрэвы,
На якіх, як плады, гайдаюцца
Сцішана жаўтаватыя сойкі.
Запалі
Пазалочаны твой падсвечнік
І адгані
Кажаноў піскляватыя здані...
О, восень!

Блаславі мой шацёр вечаровы!..
...Зусім побач
Магіла майго сябра,
А я, як і раней, гляджу на цябе,
На твае сакаўныя барвы,
Ад якіх кружыцца галава...
Сонца бязлітасна
Муляе мае плечы.
Ахіні ж мяне сваім вечарам,
Прынясі спакой
Душы маёй...
Рассып жа па начным небасхіле
Буйныя зоркі,
Што стракочуць у цёмнай цішы,
Як цвыркунчыкі,
Ахіні мяне
Зялёным промнем,
Закалышы мяне
І дай мне ўбачыць у сне
Майго самаахвярнага сябра,
Майго Шата...
...Укрый мяне,
Укрый мяне коўдраю вечара...

# Іза Арджанікідзе

## ПРЫЗНАННЕ

*Маі*

Вечар надыдзе.
Ясным імгненнем,
Як дарагую з надзей,
Я пасаджу
Цябе на калені
І прытулю да грудзей.
Чатыры сцяны —
Чатыры сумёты...
Сцюжа. Цяпла не стае...
Кінутыя
У куток адзіноты
Рэчы старыя твае.
Кніга пра казку
Адзінаццаці лебедзяў,—
Усё напамінак жывы,
Мроіцца мне,
Што вязала некалі
Кашулю я з крапівы...
Гналі гады мяне,
Як ураганы,
Стэп аціхаў у журбе.
Несла тады
На руках старанна,

Грэла дыханнем цябе.
Несла, не смеючы
Азірнуцца,
Грэючы думкі трывог,
Толькі баялася
Спатыкнуцца
Аб вострыя камні дарог.
Ты і не ўведаеш
Нават сёння,
Небам якіх краёў
Я спавівала
Маленькае, соннае
Цела, дачушка, тваё.
Ты не спазнаеш
Таго скрыжавання,
Разлукі нашай цішы,
Дзе аддала я
Жыццё чаканню —
Д'яблу маёй душы.

. . . . . . . .

Вечар надыдзе.
Чароўныя цені
Выткалі мяккі кілім.
Я пасаджу
Цябе на калені.
Сумна нам абаім.
Сонца табе
Я захавала —
Праўды святое віно.
Толькі б халодная
Сцюжа растала...
У свет адкрываю акно.

## У ВЁСЦЫ

Нядзеля.
Раніцай пявучай
Іду з палёгкаю
Пад кручу.
У копнах
Сена спачывае.
Гусей бадзяжных не склікае
Ніхто,
І толькі неба сінь,
Глядзіцца светла далячынь.
Шапоча ціхая лістота,
Вось птушка чыркае кругі.
На могілках ідзе работа:
Адзін капае, а другі
На камень чорны
Ад відна
Паставіў поўны збан віна,
Ніяк не можа наталіцца.
Празрыстае нябёсаў вока.
Злы вецер склаў
Сівыя крылы.
І, пэўна, з вышыні далёкай
Не бачна новае магілы.
Нядзеля.
Поле жытам спелым
У пояс клоніцца няспешна.
Лунае ўверсе ястраб смелы,
І чутна,
Як сабака брэша.
Схаваўся дом за паваротам,
Крыніца і падворак мілы.
І сцежка адбірае сілы...
А там, за вёскаю — работа,
Капаюць некаму магілу.

## ПЕРАД ДАЖДЖОМ

На вуліцах
Словы рассыпаны зернем,
Марна іх сэнс прападае.
У мітусні мізэрнай
Горад, як мачаха злая,
Заўсёды на праўду грэшны.
Хмара дажджы збірае,
Кроплю за кропляй, няспешна,
Быццам чароўныя словы.
Дождж жыватворны пральецца,
Змые бруд выпадковы,
Стане ўвесь свет зялёным.
Ідзе па вуліцы горада
Жанчына цяжарная горда,
Нібыта святла калона,
Дажджу чароўнага жрыца,
Якому пара праліцца...

## Мурман Джгубурыя

### АБЕД
### У МІНГРЭЛЬСКАЙ ВЁСЦЫ

Знаёмае ўсё да сардэчнага болю:
Людзі за стол пад ігрушай паселі,
Крона навісла зялёнаю столлю,
Рэчка бліпчыць, нібы цела фарэлі.

Ў цяньку забаўляецца ветрык рахманы,
Форткі і дзверы ўсе адчыняе,
Ляжыць на траве капялюш саламяны,—
Маё Саджгубурыё адпачывае.

Нібы багародзіцы вока, праз вецце
Свеціцца часам блакітнае неба...
Нічога мне болей не трэба на свеце,
Толькі акраец сялянскага хлеба.

Толькі вады крынічнай гарлачык,
Цыбуля і добрая міса фасолі.
Жыццё услаўляю малітвай гарачай
За шчасце адвечнай сялянскае долі!

* * *

Пабываў у вёсцы роднай,
у радні гасціннай,
Харчаваўся агароднай
свежай зелянінай.
Ўсе абеды ў агародзе!
Дось, аб'еўся мясам.
Сёстры кажуць,
што не шкодзіць
Папасціцца часам.
У зялёную дуброву
бегаў кожны ранак,
Слухаў цішу і размову
зяблікаў, заранак.
І глядзеў,
як дыскам з медзі
Сонейка ўзыходзіць,
Ўдзень мірыў старых суседзяў,
каб жылі у згодзе.
Надвячоркам задавалі
мне пытанні людзі:
— Як з вайною, генацвале?
Будзе ці не будзе?
Кукуруза і фасоля
Не звядуцца з поля?

І адказваў я з развагай,
і дзяліўся скрухай...
Горад мой,
з такой павагай
Ты мяне не слухаў!
Вёска верыла паэту,
прыбаўляла сілы.
Захаваць бы сувязь гэту
да самой магілы!

# З ЖОНКАЙ ІДУ ПА МЯСЦІНАХ ДЗЯЦІНСТВА

— Вось тут дзяцінства маё прабегла!
— Тут, дзе кароўнік стаіць нягеглы?
— Ды не, кароўніка не было тут!..
Быў домік сціплы, лужок ля плота,
Дзе я з дзядуляй касіў травіцу.
А тут вырошчвалі мы пшаніцу...
У доме кухня была малая,
У ёй бабуля мая старая
Абеды смачныя гатавала,
А я круціўся пры ёй, бывала,—
А быў гарэзлівым я дзіцяткам,
За што бабуля і называла
Мяне і лешым, і чарцяняткам!
Ў двары чакалі мяне прыгоды
Ў хаўрусе гэткіх жа чарцянятак.
Разам лазілі мы ў гароды,
Разам пасвілі ў полі статак.
Жылі ў затоцы Джумочы ра́кі —
Мы ім даваліся добра ў знакі!
Рукамі і сеткамі іх лавілі,
Іграць вучыліся на пандуры,
Спявалі песні, вершы вучылі,
На конях гойсалі, як віхуры!
Гулялі ў «белых» мы і ў «чырвоных»
На гэтых конях неасядланых.
Клінкі драўляныя у далонях
І страляніна з ружжаў драўляных!
І назіралі ўскрай лагчынкі
За гэтай бітвай джыгітаў палкіх
З усіх суседніх двароў дзяўчынкі,
Нібы задумлівыя фіялкі.
Любіў я моцна адну з дзяўчынак,
І перад ціхай фіялкай тою

Хацеў геройскі зрабіць учынак,
І лез у самае пекла бою!..

Ды пойдзем далей.
Вунь там, дзе лісце
Вось гэтых новых плантацый чаю,—
Там гай арэхавы быў калісьці,
Бамбук стаяў без канца і краю!
Жылі там у прыцемку злыя духі,
Паўзлі ліхаманкі адтуль, задухі,
Цвіла ў гушчарніку папараць-кветка...
Прабабка мая гэтых дзіваў сведка!
Лясы ад вока хавалі Джумі,
Такі быў гушчар, што не ўбачыш сонца,
І пазіралі горы ў задуме
На лес, як вечнасць сама, бясконцы!

Мінула ўсё, як маё маленства.
З былым — ніякага падабенства!
Няма ні бамбуку таго, ні гаю —
Адно плантацыі чаю.
Ні вінаграднікаў тых, ні поля.
Знік агарод, дзе расла фасоля,
І кабачкі, і пукі цыбулі...
Прыгожы быў агарод у бабулі!
Не знойдзеш руплівай такой гаспадыні.
Якія вырошчвала бабка дыні,
Які духмяны мы елі мёд!
Цяпер ён застаўся адно ва ўспаміне...
Усё мінавала, як той агарод!..

Дзе сулугуні? Куды падзелі
Тварог бялюткі, нібыта пена?
Дзе віны хатнія з лёгкім хмелем?
Якая цяперака ім замена?
Няма тых вінаў даўно і духу.

Што п'е наш горад?
Жах! —
«Барматуху»!
Усюды чай — без канца і краю...
Пазелянела ўваччу ад чаю!

Што есць наш горад?
Куды падзелі
Шашлык, смажонку з хмелі-сунелі?
Дзе нашых бабак і матак блюды?
Усюды чай, толькі чай усюды!
Пазелянела ўваччу ад чаю...
Чай — гэта добра, я чай не хаю,
Ды ўсё-ткі, думаю, для настрою
Было б няблага вярнуць з былога
І кружку цёплага сырадою,
Ляпёшку з калівам мёду тога!
Усё, што было з чалавекам змалку,
Чым наша славілася старонка...

— А дзе ж падобная на фіялку
Дзяўчынка тая? — спытала жонка.
— Яна як сон, што прысніўся мне...
— І ты смуткуеш па ёй ці не?
— Смуткую, мілая, да адчаю!..
Пазелянела ўваччу ад чаю...

* * *

Як паэт складае вершы?
Рытм спачатку, ён — аснова,
Ён гучыць заўсёды першым,
А пасля прыходзіць слова.

А аснова слова — корань,
Што расце ў народзе родным.
Мой народ — мая апора,
Я — на дрэве радаводным.

Я — лісток яго галіны —
Адчуваю з дрэвам злітнасць.
Так спакон вякоў грузіны
Разумеюць самабытнасць.

Самабытнасць як прыроды
Непарушныя законы.
Будуць іншымі заўсёды
Дрэва іншага плямёны.

І клянуць, і хваляць долю
Кулікі ў сваім балоце.
Ад свайго я плачу болю,
Свет чужы — як дзірка ў плоце.

Ўсё маё — ў маёй краіне,
Са свайго жыву я збожжа.
Хто камусьці нешта вінен,
Той спакойна спаць не можа.

І свайго не знойдзе шчасця,
І касцей не пазбірае,
Хто з разяўленаю пашчай
На чужое пазірае.

Будзь сваім дабром давольны,
Карыстайся — тут ты вольны.

Мне — маё. І будзе згода.
Кожны — сын свайго народа.

Рускі ты альбо татарын,
Дому роднага трымайся,
Са сваім адметным тварам
Ў чалавецтве заставайся.

Самабытнасць — нібы горы
На падмурку роднай глебы.
Аб сваім я плачу горы,
Клопат пра свае патрэбы...

## ПЯРЭДАДЗЕНЬ ЗІМЫ

Сівер дыхнуў суровы.
Ляжаць каля плота дровы.

Як дровы згараць у печы,
Будзе і плот дарэчы.

Жорсткім марозным днём
Прыкрые мяне агнём,
Як сёння плячыма — дровы.

Сівер дыхнуў суровы...

# Мамука Цыклауры

## ПРАТЭСТ

Як змучаных доўгаю і цяжкою дарогаю разбойнікаў,
Што адпачываюць, знямоджаныя, між скалаў
і камянёў,
Цягне да разасланай пасцелі,
Так і мяне часам цягне
Да самаўпэўненых,
Самазадаволеных хітруноў,
Да спрытнюг з дагледжанымі, саладжавымі тварамі.
Часам думаю:
«Пайду, прысяду да іх,
Да гэтых сыноў мутнай ракі,
Да гэтых набрыяліненых галоў
І гэтаксама, як і яны,
Буду гаварыць паблажліва, абыякава:
— Паважаю вас...
— Галоўнае, усё ж здароўе...
— Шанцуе хлопцу...»
Але тут жа
Сам па сабе нараджаецца пратэст.
І вось ён ужо свішча, сыкае ў маіх думках,
Нібыта каса.
Тады сваім дзецям
Я гісторыю Роберта Скота расказваю,
Пра непахіснае сэрца Звіадауры расказваю,

Пра вялікіх вояў Давіда Будаўніка згадваю...
І гэтым самым я нібыта ўзводжу агароджы,
Будую скалы
Паміж тымі людзьмі і сваімі дзецьмі.

## ДОЎГАЯ НОЧ

Ноч доўгая, быццам бы сто начэй
Узяліся за рукі і сталі адна за адною...
Ведаю, вам надакучылі гэтыя вымучаныя параўнанні,
Якія вершатворцы ўжо зажавалі, нібыта жуйку,
Але ж ён і напраўду быў падобны на арла,
Напраўду быў падобны на тыгра,
Ён на дуб быў падобны — на той,
Што астаўся адзін на адзін з громам.
Яму з арламі трэба было лятаць,
З тыграмі ён павінен быў жыць і цешыцца джунглямі,
Ён у дубовым лесе павінен быў стаяць.
Але са сцярвятнікамі яму давялося сядзець за сталом,
Але з кратамі яму давялося перажываць і радасць
і гора,
Але ўсяго толькі між кустоўя яму давялося стаяць...
І таму ён часта пачуваўся няшчасным —
Мне даводзілася бачыць, як, абапёршыся на руку,
Журботна,
Быццам арол, што ўпаў у прадонне,
Глядзеў ён на воблакі,
Глядзеў гэтак, як тыгр глядзіць
З-за прутоў цеснай клеткі.
Часцей жа за ўсё ён узлаваны і засмучаны быў.
Крычаў над галовамі кратоў,
Якія надзімаліся ад гонару, пахваляючыся грашыма.

Скочваў з гор уніз сцярвятнікаў,
Якія аб'еліся падлінай,
За хвост падвешваў да столі тых,
Хто задзіраў хвост.
Смяяўся над імі, дапякаў ім,
Не выносіў іх, не цярпеў...
...Потым гэтага хлопца забілі каменем у бойцы...
Праводзілі яго вадзяністыя вочы,
Рабскія сэрцы —
Пакорныя, выпрасаваныя, утрамбаваныя...
Неслі яго, і на іх тварах
Быццам напісана была мудрасць пераможаных:
— Мы ведалі...
Ведалі, пад якою чорнаю зоркаю нарадзіла цябе маці,
Ведалі, што такія доўга не жывуць —
Паміраюць ад кінжала, ад каменя, ад кулі, ад яду...
Развагі, разумнага сэнсу не было ў табе.
Не ў нагу з усімі ты крочыў...
Ведалі мы, ведалі, ведалі...
А душа нябожчыка думала:
«Навошта ты загінуў у барацьбе з цемраю,
Дарэмна ты спаліў свяцільні ў поўнач.
Доўгая ноч — быццам бы сто начэй
Узяліся за рукі і сталі адна за адною,
І самотнаму чалавеку немагчыма ў такую ноч
Дачакацца світання».

## ТЭМПЕРАТУРА БЯДЫ

Калі мы не зможам вытрымаць тэмпературу бяды,
Калі не зможам прайсці праз уважлівы позірк
прашчура,—
Нас затрымае гэты позірк, нібы клешчы.

Боль гэты не толькі мой,
Ён належыць усім, як горы, як Арагві,
Як пасажырскі цягнік.
Таму ён такі грозны і выбуховы,
Таму ён такі невыносны для тых,
Хто боль, быццам слова, міма вушэй прапускае,
Хто просіць цябе, загадвае табе, раіць табе і гыркае
на цябе:
— Кінь свае лясы і цясніны —
Ідзі і ты па гэтай дарозе!
— І ты падстрыжы свае галіны —
Падпарадкуйся дэкаратарам!!
— І ты прайдзі пад аркаю —
Сагніся, ніжэй схілі галаву!!!
Патрабуюць вырваць з сэрца цярністае дрэва
І на яго месца пасадзіць дрэва практычнай мудрасці.
Яны не ведаюць, што цярністае дрэва,
Калі не ім, то дзецям іх спатрэбіцца,
Бо ўрэшце некаторыя хваробы
Вылечваюцца ядам, а не нектарам.

## Бесік Харанаулі

### ВЯСНОВАЕ ВЯРТАННЕ

Зноў адшукала мяне вясна...

Я сядзеў
на ўтравянелым беразе рэчкі
і бяздумна круціў у руцэ
гнуткі дубец вярбовы.

А на мяне пазірала вясна,
аднак не тым ранейшым зялёным
паглядам —
а быццам таўкла-гатавала ў ступе
атруту з зёлкаў
і шкадавала мяне, у душы, пры гэтым.

Мама,
што цябе непакоіць
у сыне тваім?
Чаму просіш-перасцерагаеш
увесь белы свет:
— Цішэй!..
Калі ласка, цішэй —
хай мой сын адпачне з дарогі!..
Хіба ён вярнуўся дадому зусім нядужы?
Хіба ношка гадоў яму ўгнула плечы?

А ўсё-такі зоркі звоняць!

Ты не здолееш, мама, яго ўтрымаць,
якую б жалезную вопратку ні звязалі
твае руплівыя пальцы!

## ПАРАФРАЗА

Сусвет распазнáе той,
хто сябе распазнáе найдасканала.

У каго для гары стромкарогай
і для вірлівага мора,

для зоркі,
для кветкі
і для зярняці,

для птушкі,
для рыбіны
і для чалавека

будзе адзіная мерка —
ён сам.

## АДКРЫЦЦЁ

Калі здараецца адкрыццё,
дык тое, што свету адкрылася, быццам кажа:
«А мне даўно ўжо вядома, што я існую!..»

Счышчае з яго адкрывальнік
рэшткі апошняй руды,
рэшткі апошняй гліны,
абгладжвае, упрыгожвае, прыручае
і, спішаны, пасміхаецца сам сабе
з хітрыкаў існасці новаадкрытай.

## НЕАБХОДНАСЦЬ

Што ён такое, талент,
калі яго плотам не акаляеш?

Што ён такое, плот,
калі яго не гародзіш цярпліва?

І што такое яно, цярпенне,—
калі не кожная ноч
і не кожны дзень?!

## ЗАМОВА

Сюды ляціце,
сюды,
усе стрэлы!..
У засені свайго саду
сяджу
і ўпарта складаю
сваю замову:

сюды ляціце,
сюды,
усе стрэлы!..
Але не туды,
дзе стаіць мой сын,
расхрыстаўшы грудзі.

## ХВІЛІНЫ І ВОКАМГНЕННІ

* * *

Каб жа я зноў мог застацца сам!..
Са сцен на мяне пазіраюць людскія аблічча —
навошта я тут сабраў іх?!.
Я дома,
ды я тут не гаспадар.

* * *

Адна распусніца і адзін паэт...
Родам з адной і той самай вёскі —
мы побач сядзім у вагоне метро
і не жадаем адно аднаго заўважыць.

* * *

Адважся, маці, і нас нарадзі!
Калі не здолеем выжыць самі сабою —
начэпім нейкія маскі.

* * *

З каго хапае і каліва страху,
каб да смерці перапужацца,
таму бог шкадуе пакуты.

* * *

Калі ты сам-насам сядзіш за сталом,
і п'еш, і ясі —
чаму тады непазбежна здаецца,
што нехта нядаўна пайшоў ад цябе,
што вас было двое?

* * *

І вы падзеліся дзесьці, сны,
пахаваліся, як ад пастушка-сіраты авечкі,
і пакінулі мяне на камені аднаго
з заплаканымі вачамі.

* * *

Столькі разоў у сне мы падаем долу,
што некалі сапраўды ўпадзём,
не паспеўшы прачнуцца.

* * *

Навошта бадзяцца табе, стары нябога?!
Застанься дома,
у думку сваю паглыбся.

* * *

Жыццё... Калі і яго не стане —
са мной застанецца ўсё роўна тое,
што мяне ўсёй душой любіла,
што было са мной да пачатку.

* * *

Нават манах схамянаўся часам: «Авох,
я ўсё-ткі падумаў пра гэта!..»

* * *

Заўважылі чалавека, калі ён адпачываў,
і чутка пабегла па ўсіх дарогах:
вунь той, хто не мае турботаў.

* * *

Тады не сляпучае сонца
пякло мне вочы
і не сцюдзёны вецер
асвечваў слёзы —
а змучаны твар сустрэчнага чалавека.

* * *

Імгненне імклівага шчасця,
што мне з табой рабіць,
як мне цябе ўтрымаць,
расцягнуць на стагоддзе,
прымусіць састарыцца ў маім доме?

* * *

Вочы заплюшчу
і соладка-мройна засну:
там, у маіх вачах,
ты застанешся са мною.
Павейкамі пільна цябе атулю.
А раніцай мае слёзы
дзверы табе адчыняць:
ты вольная, адлятай!..

* * *

О, каб жа я мог таго чалавека
памыць,
пасадзіць за стол,
накарміць гарачаю стравай
і, абапёршыся на руку, глядзець,
як жмурыць ён вочы ад асалоды
і як вяртаецца зноў у ягонае цела моц,
а ў сэрца — надзея.

* * *

Часам кажу пра самога сябе:
«Глядзіце, ён адыходзіць!..
Глядзіце, ён ужо там!..»
Чалавек — рэха ўласных крокаў.

* * *

Калі і месяц, і тыдзень
ты будзеш ляжаць тут з заплюшчанымі вачамі,
не прыляціць да цябе анёл,

не прыпаўзе вужака.
Ты сам адчыняеш дзверы ў свой дом гасцям:
і шчасцю, і страху.

* * *

Вунь мы, грузіны!..
І на хаўтурах убачыш усіх
і на свяце.

* * *

Радасць, што скажаш ты дням учарашнім?
Ты сёння гамоніш,
ты сёння ззяеш,
а на каго пакінула тыя дні?

* * *

Калі ўжо заснуў быў — пачуў:
дзіця недзе плача...
Божа, якім самотным
яно засталося ў маім тым сне.

* * *

У каго хопіць моцы
падзяліць з ганьбаваным найбольшую ганьбу
і застацца самому чыстым, нібы юнаку,
што выйшаў з вады і абсыхае на сонцы?!

* * *

Хтосьці спявае няўмела.
А мне прыгадваецца мая
найлепшая песня,
што, як нябожчык,
ляжыць ува мне век-вяком.

* * *

У тысячы сёлаў я пабываў,
прывязваў каня да тысячы агароджаў
і пакідаў усюды
па адной сваёй масцы:
недзе — маску героя,
недзе — шэльмы,
недзе — гулякі,
а недзе яшчэ — баязліўца,
але сам я для ўсіх
незнаёмцам застаўся.

* * *

Калі голас цнатлівага ручая
спудзіць страх, што ў табе пачуе,
здасца: блізка патоп.

* * *

Моц, якою мы дзейнічаем супраць яго,
атрымліваем ад яго:
хто ён?

* * *

Словы — хлусы,
звадыяшы — словы:
яны камечаць нашыя думкі па-свойму,
яны аб'яўляюць уголас тое,
што розуму ўжо апрыкла
і што разлюбілася сэрцу,
словы — каб мы яшчэ раз сказалі,
пра што не думаем самі.

* * *

Будзь ты, а жыццё табе дапаможа...
Станеш чакаць каго-небудзь —
самі сабою дзверы пачнуць рыпець
і крокі чуцца.
Стане даймаць самота —
на вуліцу выйдзі,
і мноства разоў пачуеш сваё імя.
Захочаш абранніцу сваю ўбачыць —
чакай, і яна аб'явіцца табе ў сне...
Быў бы ты, а жыццё табе дапаможа.

# Алуда Арабулі

## КАХАННЕ

Прымі гэту чашу першую
Майго
Запаветнага верша.
Хай здзіўленне
Узыдзе кветкай нязвыклай,
Падступіць да горла
Аленевым рыкам.
Тры песні маю,
Тры песні волі:
Пра куточак сіні
            роднага поля,
Пра месяц ясны
            даўняга болю,
Пра вочы твае,
            нібыта долю...
Адзіная,
Ты мне ў твар зазірні,
Дай мне кветку
Тваёй цішыні.
Голас аленя
Пакліча з сабою.
Дай мне мужнасць і вернасць героя.
Шлях да цябе, нібы шчасце, пакутны.

Дай дакрануцца пяшчотна, пячутна
Далоні тваёй, сатканай з даверу...
Святла адчыні мне дзверы,
Прашу,—
Я прысвячаю табе душу.

## КРЫНІЦЫ РАДЗІМЫ

Нібы з дыяментаў каралі,
Чыстай слязы крышталю,
Сто тысяч цячэ ручаін,
Сто тысяч тваіх крыніц.
Прагнучы,
                нахілюся адзін,
Не ведаю,
                што рабіць,—
З каторай ваду мне піць?
Нібы з дыяментаў каралі,
Чыстай слязы крышталю,
Сто тысяч цячэ ручаін,
Сто тысяч тваіх крыніц.
Краю мой,
                сонцам багаты,
Ты — усяму пачатак,
Цалую душу тваю
І гімны табе пяю.
Верны табе да смерці,
Мячом тваім знішчу сэрца
Ворага лютага самага,
Што стане прасіць тваёй літасці...
Табе ствараю малітвы,

Краю
праведны!
Твае ўсхвалю
Сады і зямлю,
Прытулак адзіны
Любай радзімы:
Дол камяністы,
Пагоркі лясістыя —
Усё ад цябе прымаю,
Песню-хвалу спяваю.
Дазволь жа яшчэ пакланіцца
Прыгожым тваім крыніцам,
Што, як з дыяментаў каралі,
З чыстай слязы крышталю,
Такіх не ўбачыш нідзе,
Слава гаючай вадзе!
Я прагнучы,
мушу схіліцца,
З якой, падкажы мне,
напіцца?

## ЗАПАВЕТНАЕ

Як біруза сінявокая,
Чыстае неба высокае.
Полем раўніны без краю
Ляжыць ізумрудная ніва,
Смех юнакоў шчаслівых...
Звонам пандуры пяшчотным
Б'е з-пад зямлі крыніца.

У песні грузінскай самотнай
Іскры мяча-бліскавіцы.
Усё для цябе, Айчына,
Радасці і нястачы,
Горы твае, лагчыны,
Зачараваны, бачу.
Тут мая лепшая доля,
Не разлучуся ніколі
З песняй лазы ўрадлівай,
З мовай грузінскай і нівай.

## Лія Стуруа

### ЖАНЧЫНЫ 1941

Покуль сцямнее, сушылі зярняты
З думкай пра хлеб, што вайною закляты.
Плечы ўгінала паветра цяжкое,
Поўнае галасу і неспакою.
Плечы нямелі — яны ж працавалі,
Ноч прыхапіўшы, і потым не спалі —
Горка аплаквалі мужа ці сына.
Ранкам, запіўшы слязьмі успаміны,
Зноў шчыравалі над зернем-кармільцам,
Перабіралі, сушылі пшаніцу.
Покуль сцямнее — да плачу, да ночы...
Сталі ад слёз гэтых слепнуць іх вочы.
Цёмна ў вачах... А рассыпалі зерне —
Птушак галодных з тым зернем не вернеш,
І засталіся галоднымі дзеці...
Што ж, прычакаўшы другое дасвецце,
Выйшлі жанчыны, сагнутыя горам,
Выйшлі, ліловую тоўшчу прасторы,
Быццам труну, паднялі, утрымалі
І — пахавалі свой плач. Пахавалі.
Плакалі дзеці, скаціна рыкала,
Неба, ўздымаючы сонца, чакала,
Покуль слязу сваю, горкую скруху
Вёска праводзіла...

Спёка. Задуха.
Зноўку жанчыны звыкла, няспешна
Сталі прасушваць зярняты,
Няўцешны
Смутак іх, плач іх па родных магілах
Звыклая справа сабой засланіла.
Спёка ж такая, нібыта ніколі
Цень не з'яўляўся, не з'явіцца болей.
Быў толькі цень, што залёг за плячыма,
Перабіралі пшаніцу жанчыны...

## БАЛАДА ПРА ВАДУ

Гэта, відаць, не пра ваду балада,
Таму што смага мая
Яшчэ не стала болем.
Я разменьваю яе на медзякі,
Медзякі кідаю ў аўтамат,
Аўтамат налівае мне шклянку вады...
Зусім як у старой, наіўнай казцы,
У тым жа рытме:
«Карова дасць мне малака,
Малако я занясу кошцы,
Кошка адпусціць мыш...»
І ў гэтым лагічным свеце
Штоноч мяне мучае прывід:
Чырванавокі рыжы мужчына
Упарта капае пустыню,
А голас,
Які за душу хапае,
Спрагнёны голас жанчыны,

Голас, з якога точыцца кроў,
Просіць вады...
Просіць,
А яе палавіна,
Чырванавокі рыжы мужчына,
Зямлю капае-капае,
Не ведаючы формулу вады.
І я зайздрошчу яму...

## УЗРОСТ

Дажджы размываюць сны:
Прыгавораная да адзіноты,
Чапляюся за сваю тугу,
А яна з вадасцёкаў грымлівых
Струменіцца ў ноч вадою зіхоткай.
Адзінае, што кожны раз
Прымірае з дасвеццем:
У салодкім,
Клейкім вецці інжыра
Нараджаецца вецер...
Чорны плашч насіў той мужчына,
Чорны,
Шархоткі, як ліст засохлы.
Вецер аціх,
І дажджы — не больш як затока
У крузе рэальнага сэнсу...
І завяршаецца горад,
Выразна акрэслены ў раме акна
Вяршынямі стромкімі гор,
Вяртаючы адчуванне віны:

У гор з травінкай большая роднасць,
Чым з маім імкненнем да вышыні...
У балеі — вада залатога адцення,
Вада, што павінна б
Лашчыць гарачае цела жанчыны,
А ў ёй толькі мухі ды сколкі сонца...
Няма мужчыны, няма абаронцы.
Як у кроплі мёду
Сабраны водар
Ліповага гаю,
Так у сэрцы —
Цяжар непамернай віны і кахання,
І падмурак страсці
Не ўзводзіцца ўжо на чырвоных ружах...
Ёсць толькі тонкая сцяблінка травы,
Што цягнецца да вяршыняў, у вецер,—
Туга, за якую спрабую ўчапіцца
З наіўнай верай у сэрцы...

## Грыгол Джулухідзе

### АРЛЕКІНА

I

Хіба ў Грузіі здараўся калі-небудзь час такі,
Каб які грузін бадзяўся, марна мераў бальшакі?
Валацугаю бяздомным шчэ не быў у нас ніхто!
Што ты скажаш мне на гэта, Арлекіна з шапіто?
Ля Крцанісі і Шамкоры стогне памяць аб былым...
Помняць долы, помняць горы, кім ты быў!
А стаўся — кім?!
Над Крцанісі і Шамкоры, дзе народа карані,
Толькі ястрабы лунаюць над гняздом тваім — зірні!
Толькі ястрабы ў прасторы над былым гняздом тваім,
Над Крцанісі і Шамкоры стогне памяць аб былым...

II

На мяне глядзіць з усмешкай Арлекіна-жартаўнік.
Ды не радасць у паглядзе Арлекінавым, а крык.
Болей жоўці той, каторай наглытаўся з пылам ён.
І маўчыць ён, нібы горы,
а маўчанне як праклён!
Твар ягоны пад паўмаскай, слова вусны не кране,
І яго маўчанне цемрай напаўняе вочы мне.
Я гляджу, як ён смяецца, раздзірае смехам рот
І стараецца да ўпаду насмяшыць увесь народ.

Мусіць ён на небараку быць падобным, блазан-чмут,
На пабітага сабаку, што скавыча ад пакут.
На калеку, на пачвару —
                                        ён адзін такі, адзін...
Страшна мне, што Арлекіна,
                                            гэты смешны Арлекіна,
                                                        недарэчны Арлекіна,
Рагатун дурны —
                              грузін!
Насмяшыць, каб розум страціў чалавек —
                                                              вось гэта смех!
Чортам скача па канаце, шкло грызе, нібы арэх.
Паспрабуй жа Арлекіна не глытаць яго, як тут
Гвалт пачнецца, крыкі, кпіны,—
                                          «Без падману, чуеш, чмут?!»
І рагоча служка цырку: — «Арлекіна хоць бы што,
Калі хто яго за шкірку прэч пацягне з шапіто!»
Нос блішчыць чырвонай гуляй, і на гулі той нажом
Рэжуць добры пук цыбулі —
                                            выбухае смех, як гром!..
А пасля біруць цагліну, каб разбіць на галаве...
Цырк рагоча з Арлекіна, цырк шалее, цырк раве!
І на вейках — нібы іскры —
                                           слёзы Грузіі усёй,—
Смех слязамі горла сціснуў, паласнуў, нібы касой!
Твар схаваны пад паўмаскай,
                                            слова вусны не кране,
І яго маўчанне цемрай напаўняе вочы мне.

## III

Ды хіба калі ў грузінаў штось падобнае было?
Скінь жа маску, Арлекіна, запалі ў вачах святло!

## САРАКАГАДОВЫ МУЖЧЫНА

Ён раніцай выйшаў з дому —
Ніхто не заўважыў нават.
Вярнуўся — яму ўжо сорак.
На яго гаспадарчую сумку
Сквапна зірнулі разам
Жонка, дзеці і маці.
Пра сваё запытаўся кожны:
— Мяса?
— Цукеркі?
— Хлеб?
Ён моўчкі сеў у куточку,
Ніяк ён не мог успомніць,
Калі ён ператварыўся
Ў мяса, ў цукеркі, ў хлеб...

## НАВЕЛА АДНАГО ТЫДНЯ

### ПАНЯДЗЕЛАК

Зноў прыйшоў панядзелак.
Бразнулі дзверы ранка,
Радыё забубніла,
Машына прыйшла па смецце,
Будзільнік звініць:
«Уставай!»
Першы візіт суседа:
— Пазычце бутэльку «баржомі»!

За ім чалавек, каторы
Трымае чаргу ў магазіне,
Кіруе гэтай чаргою,
Дзе кожны мае свой нумар.
— Ваш нумар цяпер такі-та! —
Ён сказаў гаспадыні,
І яна апранулася хутка —
Пабегла па дэфіцыт.
Потым званок тэлефона:
— Даведаліся пра тэму,
Што на экзамене будзе!
Вучань хапае ранец —
І таксама знікае з дому.
А сам гаспадар кватэры
Глядзіць на снеданне, нібы
На ранішнюю газету,
Якую ўжо прачытаў ён.
Мые пад кранам рукі,
Апранаецца і выходзіць.
Булькоча вада ў вадасцёку.
Мужчына сядзіць на службе,
Корпаецца ў паперах,
Лагодзіць свайму начальству
І не можа ніяк успомніць:
Закруціў ён кран, як выходзіў?
Забыў пра чаргу і экзамен.
Служба, яна патрабуе
Аб высокіх матэрыях думаць,
А справы сям'і — як-небудзь...

## АЎТОРАК

Вітаю цябе, аўторак!
Ты таксама мяне прымусіў
Выйсці з гэтай турмы, у каторай
Адбываю я пакаранне

За пашлюбіны,
За бацькоўства,
За суседства і за сваяцтва...
Апрануў паліто чыноўшы
І пайшоў штурмаваць аўтобус.
Даспадобы мне наш аўтобус —
Пяцімоўны, двухуваходны.
Калі ты чалавек разумны,
Можаш вывучыць мовы тут жа.

## СЕРАДА

Раніца ўваходзіць з пенсійнаю кніжкай.
Гэта значыць, што сёння зноўку
Цукерніца будзе з цукрам,
Напоўніцца слоік з маслам,
Накупяць мукі і крупаў,
І ў кладоўку вернуцца мышы.
А ўвечары я, бедалага,
Буду хваліць у харчэўні
Смак хінкалі і смак гарэлкі.

## ЧАЦВЕР

Вочы ў яго, як у снулай рыбы.
«Рыбны дзень» — чацвер плаўнікОм
На вокнах адсоўвае раніцай шторы,
Раса на траве — як луска фарэлі.
Праслізне гэты дзень, як фарэль між пальцаў!..
«Рыбны дзень» — ні кавалка мяса.
Гэты дзень называюць ў Іміерэціі «мёртвым»...
Горад — акварыум, дзе, як рыбы,
Мы мітусімся, у рот набраўшы
Вады маўчання,
І, нібы бруха сялёдак дохлых,
Бялеюць на сонцы нашыя твары...

## ПЯТНІЦА

Вечар пятніцы як прысуд:
Чакай не шыбеніцы, а расстрэлу...
Яны ўжо ідуць, ідуць:
Ліхаманка базара,
Спусташэнне кішэняў,—
Дай табе божа конскія ногі!

## СУБОТА

Гэты дзень —
Толькі кропля расы на дрэве,
Якую ці птушка вып'е,
Ці сонца
Высушыць, зробіць дажджынкай,
Каб яна слязой на зямлю апала.

## НЯДЗЕЛЯ

Сам бог загадаў спачываць у дзень гэты —
У дзень, што ў суботу напіўся добра...

## ПАСТСКРЫПТУМ

Жыццё — падобнае да каруселі.
А дні як дрэвы, што растуць вакол.
І колькі б я разоў ні пракруціўся
На каруселі той — паўторыцца ўсё зноў.
І трэба, каб да дрэў прывыкла вока.
Не заўважала ні навін, ні змен.
Інакш паўстануць дрэвы, як сцяна
Суцэльная, прабіць якую будзе
Табе цяжэй, чым карусель спыніць.

## Тэда Бекішвілі

### ІДУ ПА ДАРОЗЕ

Крочу дарогай...
Людской, караваннай дарогай.
Безліч слядоў чалавечых, цёплых
Яна хавае,
Далёкая і бясконцая.
Тут, паабапал бітага шляху
Густа, як косці зямныя, камяні бялеюць.

Кінецца позірк
Да ціхіх зялёных пагоркаў.
Сэрца — за ім, ды я паслухмяны
Аброці сцёртай.
Бізун нябачнага конніка
Пыхне скрываўленаю вясёлкай,
Свісне і сцебане па голых плячах з любоўю.

Вецер мне ў вочы
Не пылам, а мінулым сыпле.
Цень мой на сонцы паўдзённым згінуў,
Абліты потам,
Іду і чую ў гаях светлых
Звон ручаёў птушынага спеву,
Рып спакойны абозу гадоў за небасхілам.

Гэтай дарогай
Ішло маё гордае племя,
След абвуглены пакідаючы...
І хоць гасцінец
Сціскаюць крутыя цясніны,
Чутны ўсё ж бомы званоў далёкіх,
Крочу на іхні голас:
родны і непаўторны...

Шлях, як улонне
Ракі гонкай, што вечна мкнецца
У мінулае, у незваротнасць.
А наступнае
Высокую хвалю ўзнімае,
Хвалю, якая коціцца хутка,
І мае сілу магутнага снегавога абвалу!

## ЛІСТ ДА БАЦЬКІ

Дзень добры, тата!
Гукаю гады...
Можа, ўсцешу цябе навіною?
Вось і старэй я, чым ты быў тады,
Спорна світае чуб сівізною.

Пішу са спазненнем вялікім ліст,
Хоць невядомы адрас і пошта.
Але я веру — на гэтай зямлі
Знойдзе твой ліст прытулак апошні.

Пішу не ў роспачы і не ў жальбе,
Ты зразумей душы парыванне...

А мама ледзь ходзіць, бо па табе
Слёзы ўсе выплакала ў чаканні.

Раскідалі летась дом наш стары,
Зладзілі новы,
І ты ў ім будзеш.
Завітваюць часта твае сябры,
Не забываюць добрыя людзі.

Суседзі наш не мінаюць парог,
Памяць жыве, не стала кароткай.
Па звычаю мы свой жалобны рог
Разам заўжды ўзнімаем за продкаў.

З партрэта глядзіш на радню ўвесь час,
Вобраз твой не паблякне ніколі.
Папраўдзе, відаць, ёсць ворагі ў нас,
Вер, што таварышаў — значна болей.

Сястра мая не крыўдуе на лёс,
Шэсць унукаў ты мог бы ўжо гушкаць...
Але мне дагэтуль ад горкіх слёз
Не высушыць маміну падушку...

Хоць круціць у коле сваім жыццё,
Чуем удоў і сірот праклёны —
Вайна яшчэ не сышла ў забыццё...
Вашыя ў сэрцах жывуць імёны.

Імёны тых, што ў атаку пайшлі,
Кліч пачуўшы Марабцкага поля...
На полі буйныя росы ўзышлі,
Плача так, як Арагві ў няволі.

О дзе ні цякла грузінская кроў!..
Ёй акроплены долы Расіі.

Вышыннага краю гордых сыноў
Кулі пад Ржэвам, Курскам касілі.

Так загадалі Айчына і род —
Іхняе слова для ўсіх — святое.
Вы — ствол, ад якога мкнецца штогод
Голле сыноў, унукаў густое.

І сёння, калі гарыць за спіной
Шлях мой
любоўю,
смуткам,
трывогай,
Адчуў душою — ты змалку са мной
Крочыў, надзейнай стаў дапамогай.

Спі, тата...
За праўду трымаем бой
Мы — ваша радня па крыві і духу.
Аб чым напісаць?.. Няхай над табой
Дрэвы шумяць, зямля будзе пухам...

Стамілася слова разам з пяром
Памяці глыж варочаць у скрусе...
Не аддаляюся... Не!
З кожным днём
Я бліжэй да цябе станаўлюся!

## Гурам Петрыяшвілі

### ГУЛЬНЯ

Даўно ўжо супыніўся
Дождж вясенні,
Але вішнёвыя дрэўцы-дуронікі
Прыхавалі кроплі,
Стаяць, нібыта са слязьмі,
Быццам і папраўдзе
Яны зазналі скруху.

* * *

Так,
Мусібыць,
Да дрэў прыходзіць старасць:
Зашэрхнуў дуб,
Стаяў у апраметнай цемры
І больш не адчуваў,
Сядзяць,
                    паснуўшы,
                                        па галінах птушкі
Ці назаўсёды адляцелі.

* * *

Калі згадаеш
Леташнія цёплыя дажджы,
Калі падасца,
Што ўсе пакінулі цябе,
Счакай.
І ветрык прынясе
На твой балкон
Лісток айвы
З далёкага, дагледжанага саду.

* * *

І гэты дзень мінуў,
Дзень сцёк,
Дзень выпетраў,
спустошыўся дазвання,
Як гэтае люстэрка.
Люстэрка,
У якім ужо не знойдзеш нават
Свайго адлюстравання.

## ШКОЛЬНЫ ВАРТАЎНІК

Усю ноч,
да самага світання,
Навокал школьнага будынка
Няспешна тупае
самотны вартаўнік.

У пакоях белых
вусцішнасць пануе,
Выстройваюцца
парты
па ранжыру
У лесвіцу,
што да нябёс
сягае.
А прыступкі святыя
пільна і няўцямна
Ахоўвае стары...

* * *

Зайздрошчу я шчасліўцу-мастаку,
Які шчыруе ў цырку —
Жанчын,
прыгожых, грацыёзных,
Мужчын,
удачлівых і дужых,
Штодня ён можа на афішах маляваць,
Ніхто не ўздумае
Ўпікнуць яго,
абвінавацiць:
Ілжэш, маўляў,
Занадта прыхарошваеш жыццё.

* * *

Раннім ранкам
з акна паглядаю ў сад.
Боязна позірку
там прыпыніцца,
Дзе ўчора,
учора якраз, акурат
Упершыню, абабралі
маладыя вішні.

* * *

Вечар.
У крэсле сядзіш —
мо дрэмлеш, мо час проста бавіш
адзін на балконе.
Змрокі крадуцца ціхутка,
лашчачы сэрца.
Ды раптам
пачуецца шоргат,
і раптам —
трапечацца нешта.
Нетутэйшая птушка ляціць на балкон.
Не на пошук спажытку
(адразу здагадка пра гэта),
вельмі пільна ў вочы табе глядзіць,
нібы выпіць узрок твой хоча.
Нібы звар'яцела ад неба,
ад прасторы, можа,
дагэтуль табе невядомай.

***

Помню, што ў дзяцінстве адпусціў,
змайстраваўшы на зямлі, у неба
змея папяровага. Дагэтуль
думаю: а мо яшчэ ён там?
Пашукаць не хочацца пад плотам.

## ГЛЯДАЧ

Той-сёй паплакаў,
хто і раззлаваўся,
пайшоў дамоў.
А быў спектакль,
і ў ім было вось гэта.
Заслона расхінулася,
на сцэне
раптоўна кветка ярка расцвіла.
Паплыў у залу водар казытлівы.
То доўжылася міг.
А потым
завяла кветка.
Ну а больш —
нічога.

# Джарджы Пхавелі

## ГВРЫНІ

### I

Не спяваецца гэтая песня.
Мой радок
Не будзе ўспырхваць над светлым полем раяля.
Смяротны
не адшукае яе след, і араты
Не заспявае яе; і жыхар шырокіх стэпаў — пастух,
І стомлены вандроўнік
Таксама не будзе яе спяваць, крочучы па бездарожжы.
Нямы і глухі гэты голас, і без матыву.
Ён — стогн абаронца вежы, якому прабілі скронь.
Ён — хрыпенне авечкі, якой перарэзалі глотку.
Не спяваецца гэтая песня.
Толькі там,
Дзе плачуць жанкі, яна стогне.
І ў крэпасці між развалін,
Дзе мёртвыя воі ляжаць. Нямая яна, як дзіця,
Што плача з надрывам.
Хвалямі слёз напаўняецца горла.
Не спяваецца гэтая песня.
Самотная і нямая,
Коціцца ўніз, як валун са сцяны.
Топча траву. Сінякі на душы пакідае.

## II

Паволі растайвае свечка твая.
Зірні на мяне. Зірні, як шпурнуў мне пад ногі дыван
Разнаколерны гэты кастрычнік.
Апоўначы
Я крочу па цьмяна-ільдзістай сцяжынцы свечкі сваёй...
Зірні на мяне, на цыркавога асілка,
На таго, што пуды жалеза ў зубах валачэ:
Кветкі надзей,
І рыданні забытых ценяў,
І шматок пыльнага неба —
Майго горада плашч...
Зірні на мяне: я крочу па дрогкім промні
І ў цьмянасці свечкі світальнай
Чую посвіст няўмольнай касы.

## III

Ты зноўку клічаш мяне, гонішся за мною.
Ты зноўку рыдаеш. Зноўку спяваеш у нетрах імглы.
І гэтыя спевы, як да неба
пры-
стаў-
ле-
ная
дра-
біна,
Мігцяць трывожным святлом.
Ты зноўку клічаш мяне туды —
Да сонца, запаленага ў тумане нябёсаў.
Ты зноўку плачаш. Ты зноўку рыдаеш.
Ты зноўку спяваеш у нетрах імглы.
Трывожны посвіст касы, тваёй касы, набліжаецца да
мяне.
І я добра бачу:
Кладзецца трава, у якой перасохлі вусны...
Набліжаецца да мяне гук тваёй касы.

## IV

Каго гукаюць жаўранкі? У сонечным святле змяркання
Куды сіратліва ляцяць гракі?
Чаму над пустымі нівамі
Стаіць самотны голас без адзення і без матыву?

## V

Не сяваецца гэтая песня.
Толькі імгненне жывуць, успырхваюць,
А потым гэтыя думкі ўголас,
Шэпты вятроў, спеў касы
Туды зноў вернуцца, дзе мігціць
Вечаровага царства свечка,
Дзе ператворана ў гліну ўсё.

# СМЕРЦЬ КАСМАНАЎТА

Дзіўнае жаданне адарвала яго ад прыполу Зямлі...
З блакітным эскортам зорак ён пераляцеў
Праз цясніны Месяца, і калі Месяц быў праглынуты
Змрокам, туманам,
Ён разбіў на сабе шкарлупіну плоці.
Ён праляцеў хмурыя раўніны зорак
І за гаямі, засыпанымі касмічным друзам,
Знік
У храме вечнай начы.

## Гіві Алхазішвілі

* * *

Бабуля са старажытным абліччам, скажы:
Гэтыя зморшчынкі-іерогліфы горасцяў і турбот,
Раней за ўсіх прачытваць
Навучыліся слёзы і расінкі поту,
Якія сцякалі з твайго чала?

Горасці і турботы, хоць на іх і не жалілася,
Сэрца тваё сціскалі;
Не раствaралася і маркота: сваю баразёнку
Кожная ноч пакідала на твары...

Нарэшце і я навучыўся ўчытвацца
У самотныя іерогліфы зморшчынак,
Чытаць пісьмёны ад ценю галінак —
Пісягі ад усохлых галінак гадоў.

На стамлёных руках
Нібы карэньчыкі — сінія жылы,
А пальцы твае перабіраюць пацеркі —
Падарункі ўнукам.
Ты лагодзіш іх, новыя парасткі роду —
І ад усмешкі яшчэ адна зморшчынка спее,
Як самы глыбокі і самы акрэслены
Іерогліф любові.

* * *

Ад барвянага клёну галінка
Паявілася ў доме, як госця лясная.
Хутка ў вазу паставіў яе:
Не ўпадабала ваду хларыраваную —
Крыху адпіла, насцярожылася.

Толькі дзеткам яна ўсміхнулася.
Вельмі ўважліва
Агледзела нас, тэлевізар;
Прыслухалася да радыё.
І — замаркоцілася, у свой лес захацела.
Папрасілася, каб вярнуў яе
Да сваіх каранёў:
— Гэта ж кліча мяне лістапад, суседзе...

## НЕЗАБЫЎНАЯ

Мора аж да ранку спявала:
Гэта яно паўтарала тваё імя.

Хвалі для мора — словы:
Хвалююцца і складваюцца
У прыбой...

Мора да берага
Заўсёды прамаўляе хвалямі.
І бераг — рубеж разумення.
Яго пазначыла калісьці мора
І заўсёды да яго імкнецца:
То лашчыцца, а то штормам штурмуе.

Чайкі для мора — думы,
Лунаюць ля берага мора.

На сонечным пляжы людзі
Узнёсла адпачываюць.
Гінуць для лагоднай восені
Спеўныя дні,—
І ў водары адпускнога сезону
Пасяліўся пах райскіх яблык.

Мора аж да ранку спявала:
Гэта тваё імя
Нашэптвала вуснамі ракавін.
Не запоўніце пустэчу прыбоем,
І самотаю, і чаканнем,
І чытаннем халодных кніжак.

Я сябе адчуваю парожнім чучалам,
Што ўпадзе неўзабаве ў дрымотны туман,
На каляны ложак...

Не прыйшоў сон — адданы сябар
Стомленага чалавека.
Ён пакінуў мяне ў адзіноце.

Скрыпкі голас далёкі заве.
Я гляджу ў твой бок, вінаваты,
Што пакінуў...

Захінаю далонямі вочы — і зноў
Усплывае тваё аблічча, і ўсмешка
Вышываецца на далонях.

## БІЯГРАФІЧНЫЯ ДАВЕДКІ

*Аляксандр Чаўчавадзе* нарадзіўся ў 1786 г. у Пецярбурзе ў сям'і Гарсявана Чаўчавадзе, пасла Грузіі ў Расіі, які падпісаў Георгіеўскі трактат 1783 г. Адукацыю атрымаў у Пецярбурзе, а ў 1799 г. выехаў у Грузію. Знаходзіўся на вайсковай службе, удзельнічаў у Айчыннай вайне 1812 г. і ў замежных паходах супраць Напалеона, з 1841 г.— генерал-лейтэнант. Быў буйным прадстаўніком грузінскага рамантызму, займаўся перакладамі і грамадскай дзейнасцю. Памёр у 1846 г.

*Грыгол Арбеліяні* нарадзіўся 2(14).10.1804 г. у Тбілісі ў арыстакратычнай сям'і. Скончыў «вучылішча для высакародных» і артылерыйскую школу. Знаходзіўся на вайсковай службе, удзельнічаў у вайне супраць Шаміля. Кіраваў Прыкаспійскім краем, а з 1862 г. займаў вышэйшыя адміністрацыйныя пасады на Каўказе. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1827 г. Памёр 21.03(2.04).1883 г. у Тбілісі.

*Вахтанг Арбеліяні* нарадзіўся 5(17).04.1812 г. Скончыў Пецярбургскі пажскі корпус (1830). Удзельнічаў у дваранскай змове 1832 г., быў сасланы ў Калугу. З 1838 г. знаходзіўся на вайсковай службе. У 1860 г. атрымаў чын генерал-маёра, а ў 1864 г. выйшаў у адстаўку. Быў прадстаўніком школы грузінскага рамантызму. Памёр 29.09(11.10).1890 г. у Тбілісі.

*Ніколаз Бараташвілі* нарадзіўся 15(27).12.1817 г. у Тбілісі ў знатнай, але збяднелай сям'і і быў пляменнікам Грыгола Арбеліяні. У 1835 г. скончыў гімназію і паступіў на дзяржаўную службу. У гэтыя гады напісаў свае лепшыя творы:

«Мерані», «Лёс Грузіі», «Роздум на беразе Куры» і інш. У 1844 г. Н. Бараташвілі становіцца памочнікам начальніка Нахічаванскага павета, а вясной 1845 г. атрымлівае прызначэнне ў Гянджу (Кіравабад), дзе служыў памочнікам павятовага начальніка. Пры жыцці вершы Н. Бараташвілі распаўсюджваліся ў рукапісах, а ўпершыню былі надрукаваны ў 1852 г. Паэзія Н. Бараташвілі — вяршыня грузінскага рамантызму. У ёй распрацоўваліся праблемы грузінскай гісторыі, гучала вера ў будучыню народа, агульначалавечыя тэмы. Памёр 9(21).10.1845 г. у Гянджы.

*Рафаэл Эрыставі* нарадзіўся 9(21).04.1824 г. у вёсцы Чала ў Кахеціі. Вучыўся ў Шуамтыйскім манастыры. У 1845 г. скончыў Тбіліскую гімназію. Працаваў перакладчыкам, у канцылярыі Савета Галоўнакамандуючага на Каўказе, членам Савета Упраўлення Мягрэліі, суддзёй у Кутаісі і Рачынскім павеце, цэнзарам Каўказскага цэнзурнага камітэта. Першы верш Р. Эрыставі быў надрукаваны ў 1854 г. Р. Эрыставі — адзін з заснавальнікаў грузінскай дзіцячай літаратуры. Талент паэта і драматурга спалучаўся ў ім са здольнасцямі вучонага. Ён напісаў каштоўныя этнаграфічныя працы, склаў «Грузінска-руска-лацінскі слоўнік». Памёр 19.02(4.03).1901 г. у г. Тэлаві.

*Ілья Чаўчавадзе* нарадзіўся 27.10(08.11).1837 г. у кахецінскай вёсцы Кварэлі Тэлаўскага павета Тыфліскай губерні ў дваранскай сям'і. Выхоўваўся ў сельскага дзячка, а потым у прыватным пансіёне і Тбіліскай гімназіі. За чатыры гады вучобы ў Пецярбургскім універсітэце (1857—1861) трапіў пад уплыў рускіх народных дэмакратаў. З 1864 г. служыў членам канфліктнай камісіі, потым міравым суддзёй і пасрэднікам у Душэці, а з 1874 г. да 1905 г. стаяў на чале дваранскага банка ў Тбілісі. З 1877 г. рэдагаваў часопіс, а потым газету «Іверыя». У 1906 г. быў абраны членам Дзяржаўнага Савета. Паэт і белетрыст, драматург і журналіст, крытык і гісторык, буйны палітычны дзеяч Ілья Чаўчавадзе быў цэнтральнай фігурай у літаратурным і грамадскім жыцці Грузіі другой паловы XIX стагоддзя. Памёр 30.08(12.09).1907 г. у вёсцы Сагурама.

*Акакій Цэрэтэлі* нарадзіўся 9(21).06.1840 г. у вёсцы Схвітары Шарапанскага павета Кутаіскай губерні. Скончыў Кутаіскую гімназію, у 1859 г. паступіў на факультэт усход-

ніх моў Пецярбургскага універсітэта, а ў 1862 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю. У 1897 г. заснаваў у Грузіі і тры гады выдаваў часопіс «Штомесячны зборнік». Літаратурную дзейнасць распачаў у 1858 г. Выступаў як перакладчык, паэт, празаік, драматург, публіцыст. Разам з Ільёй Чаўчавадзе адыграў вялікую ролю ў развіцці грузінскай літаратуры і літаратурнай мовы. Памёр 26.01(08.02). 1915 г. у вёсцы Схвітары.

*Георгій Чаладыдэлі (Качахідзе)* нарадзіўся ў 1847 г. Вучыўся ў Пецярбургскім ваенным вучылішчы, прымаў актыўны ўдзел у руска-турэцкай вайне 1877—1878 гг. Асноўныя тэмы творчасці паэта: патрыятызм, барацьба супраць сацыяльнага прыгнёту, служэнне народу. Некаторыя вершы Чаладыдэлі пакладзены на музыку і сталі папулярнымі песнямі. Памёр у 1898 г.

*Іосіф Давіташвілі* нарадзіўся 1.(13).07.1850 г. у вёсцы Гардатэні ў беднай сялянскай сям'і. Працаваў чаляднікам у горадзе Горы, а з 1870 г. на заводзе Зейцара ў Тбілісі, адкуль у 1878 г. быў звольнены за рэвалюцыйную дзейнасць. Працаваў таксама рэзчыкам па дрэве, чыгуначнікам і рабочым сцэны. Выступіў у друку ў 70-х гадах. Памёр 13(25).03. 1887 г. у горадзе Тэлаві.

*Ніко Ламауры* нарадзіўся 7(19).02.1852 г. у вёсцы Арба (цяпер Гарыйскі раён) у сям'і святара. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію (1879), дзе зазнаў моцны ўплыў рускіх народных дэмакратаў. Яму належаць першыя пераклады твораў Т. Шаўчэнкі, М. Дабралюбава і М. Някрасава на грузінскую мову. Вершы з'явіліся ў друку ў 1872 г., але потым аддаў перавагу прозе. Знаны і як выдатны педагог. Памёр 17(30).04.1915 г. у горадзе Горы.

*Важа Пшавела (Разікашвілі Лука)* нарадзіўся 14(26). 07.1861 г. у вёсцы Чаргалі (Усходняя Грузія) у сям'і святара. Вучыўся ў Гарыйскай настаўніцкай семінарыі. Настаўнічаў у вёсцы Эрца, быў вольнаслухачом юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта (1883—1884). Працаваў хатнім настаўнікам, а ў 1896 г. зноў атрымаў пасаду сельскага настаўніка ў Дзідзі-Танецкай школе. Пасля сутыкненняў з мясцовымі чыноўнікамі і памешчыкамі зноў пакінуў школу, пасяліўся ў родным Чаргалі і займаўся сельскай гаспадаркай і паляваннем. У 1879 г. бы-

лі надрукаваны этнаграфічныя нарысы, а ў 1881 г.— паэтычныя творы Важа Пшавелы. Памёр 27.06(09.07).1915 г.

*Шыо Мгвімелі (Кучукашвілі)* нарадзіўся 12.02(24.02). 1866 г. у вёсцы Брэці (цяпер Карэльскі раён). Пасля заканчэння Гарыйскай семінарыі працаваў у рэдакцыях розных часопісаў і газет, у таварыстве распаўсюджвання пісьменнасці сярод грузінаў. Друкаваўся з 1885 г. З'яўляецца адным з заснавальнікаў грузінскай дзіцячай літаратуры. Паэтычныя вобразы, лексіку, а нярэдка тэмы і матывы чэрпаў з фальклорных крыніц. Памёр у 1933 г.

*Дуту Мегрэлі (Хаштарыя Дзімітрый)* нарадзіўся 26.10 (7.11).1867 г. у вёсцы Суджуна (цяпер Абашскі раён). Літаратурную дзейнасць распачаў у 1886 г. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў і драматычных паэм, празаік, драматург. Памёр у 1938 г.

*Ірадыён Еўдашвілі (Хасіташвілі)* нарадзіўся 7(19).05. 1873 г. у Бадбісхеві ў Кахеці. Вучыўся ў Тэлаўскім духоўным вучылішчы і Тбіліскай духоўнай семінарыі. За ўдзел у рэвалюцыйным руху быў выключаны з семінарыі (1893). Паступіў у Тбіліскае пяхотнае юнкерскае вучылішча, служыў на Паўночным Каўказе і ў Баку, удзельнічаў у руска-японскай вайне. З'яўляўся членам РСДРП, актыўна супрацоўнічаў у бальшавіцкай прэсе. У 1906 г. быў арыштаваны і сасланы ў Сольвычагодск, а потым у Астраханскую губерню. Друкаваўся з 1892 г. Унёс у грузінскую паэзію пафас рэвалюцыйнай барацьбы. Памёр 2(15).05. 1916 г. у Тбілісі.

*Катэ Макашвілі* нарадзіўся 25.11(7.12).1875 г. у вёсцы Ікалто (Тэлаўскі раён). Пасля заканчэння Тбіліскай класічнай гімназіі вучыўся на юрыдычным і ўсходазнаўчым факультэтах Пецярбургскага універсітэта. Быў выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях і ў 1900 г. вярнуўся на радзіму. Першыя вершы надрукаваў у 1902 г. Быў першым старшынёй Саюза пісьменнікаў Грузіі. Памёр у 1927 г.

*Эцім Гурджы (Дабгашвілі)* нарадзіўся ў 1875 г. у Тбілісі. Паэт-ашуг. Пісаў на грузінскай, армянскай і азербайджанскай мовах. Спяваў свае вершы пад акампанемент чангуры і чыануры, а таксама аркестра зурнаўшчыкаў. Першая кніга выйшла ў 1901 г. З 1905 г. жыў у Баку. Быў сасланы за ўдзел у рэвалюцыйным руху. Памёр у 1940 г.

*Аляксандр Абашэлі (Чочыя Ісак)* нарадзіўся 15(27).08. 1884 г. у вёсцы Сачочыя Кутаіскай губерні. Вучыўся ў Кутаіскім гарадскім вучылішчы, праслухаў курс лекцый на гісторыка-філасофскім факультэце ў Маскоўскім народным універсітэце імя А. Шаняўскага. Актыўны ўдзельнік рэвалюцыі 1905 г., быў арыштаваны і сасланы ў Сольвычагодск. Спачатку пісаў на рускай мове. Першыя грузінскія вершы былі надрукаваны ў 1909 г. Аўтар фантастычнага рамана «Жанчына ў люстэрку» (1930). Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі. Памёр 29.09.1954 г.

*Георгій Кучышвілі (Чхеідзе)* нарадзіўся 17(29).10.1886 г. у вёсцы Мярэ (цяпер Тэлаўскі раён). Вучыўся ў практычнай школе пры Тбіліскім батанічным садзе. Працаваў у рэдакцыях газет, удзельнічаў у рэвалюцыйным руху, быў арыштаваны. Друкаваўся з 1906 г. Выступаў і як празаік. Адыграў вялікую ролю ў развіцці грузінскай дзіцячай літаратуры. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», медалямі. Памёр 20.01.1947 г. у Тбілісі.

*Сандро Шаншыяшвілі* нарадзіўся 13(25).07.1888 г. у вёсцы Джугаані (цяпер Сігнахскі раён). Вучыўся ў Тбіліскай духоўнай семінарыі, потым у гімназіі, а з 1911 г. набываў адукацыю ва універсітэтах Цюрыха, Берна, Берліна і Лейпцыга. Пасля вяртання на радзіму (1922) працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў, супрацоўнічаў з тэатрам імя Ш. Руставелі. Друкаваўся з 1905 г. Аўтар празаічных і драматычных твораў. Заслужаны дзеяч мастацтваў Грузінскай ССР (1930). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр у 1979 г.

*Валерыян Гапрындашвілі* нарадзіўся 21.12.1888(2.01. 1889) г. у Кутаісі. Скончыў юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта (1914). Пісаць пачаў на рускай мове. Першы грузінскі верш быў надрукаваны ў 1916 г. Адзін з заснавальнікаў сімвалісцкай групы «Блакітныя рогі». Аўтар шэрагу прац па тэорыі літаратуры. Перакладаў творы рускіх і заходнееўрапейскіх паэтаў. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Памёр 31.01.1941 г.

*Іосіф Грышашвілі (Мамулаішвілі)* нарадзіўся 12(24).04. 1889 г. у Тбілісі. Пасля заканчэння Тбіліскай класічнай гімназіі займаўся самаадукацыяй, працаваў суфлёрам і акцё-

рам у тэатры, супрацоўнічаў з рэдакцыямі газет і часопісаў. Выступіў у друку ў 1904 г. Шмат перакладаў, пісаў вершы для дзяцей, займаўся літаратурна-даследчыцкай дзейнасцю. Правадзейны член АН Грузінскай ССР (1946). Заслужаны дзеяч мастацтва Армянскай ССР (1945), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950), народны паэт Грузінскай ССР (1959). Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі. Памёр 3.08.1965 г.

*Галакціён Табідзе* нарадзіўся 6(18).11.1892 г. у вёсцы Чквіісі Кутаіскага павета. Вучыўся ў гімназіі ў Кутаісі, а потым у Тыфліскай духоўнай семінарыі (1908—1910). Друкаваўся з 1908 г. Народны паэт Грузінскай ССР (1933). У 1935 г. удзельнічаў у рабоце I Сусветнага антыфашысцкага кангрэса ў абарону культуры ў Парыжы. Правадзейны член Акадэміі навук Грузінскай ССР (1944). Узнагароджаны ордэнам Леніна. Памёр 17.03.1959 г.

*Тыцыян Табідзе* нарадзіўся 21.03(02.04).1893 г. у вёсцы Шуамта Кутаіскай губерні ў сям'і свяшчэнніка. Вучыўся ў Кутаіскай класічнай гімназіі, на філалагічным факультэце Маскоўскага універсітэта (1913—1917). Друкаваўся з 1910 г. Адзін з заснавальнікаў групы грузінскіх сімвалістаў «Блакітныя рогі» (1915). З 1920 г. рэдагаваў органы сімвалістаў «Рубікон» і «Барыкады». Вёў грамадска-літаратурную і арганізацыйную работу. Па яго ініцыятыве былі адкрыты Літаратурны музей Грузіі і музей імя А. Казбегі. Актыўна займаўся перакладчыцкай дзейнасцю. Памёр 16.12.1937 г.

*Паола Яшвілі* нарадзіўся 17(29).06.1895 г. у вёсцы Аргвеці (цяпер Сачхерскі раён). Вучыўся ў класічных гімназіях Кутаісі і Анапы, рэдагаваў часопіс «Стрэлы Калхіды». Друкаваўся з 1911 г. Адначасова з паэзіяй захапляўся і жывапісам. Вучыўся ў Парыжы ў Інстытуце мастацтваў пры Луўры. У 1915 г. вярнуўся ў Грузію, стаў членам групы «Блакітныя рогі», рэдагаваў часопіс сімвалістаў. Горача вітаў перамогу Савецкай улады ў Грузіі. У 1924 г. быў абраны кандыдатам, а ў 1934 г. членам ЦВК Закаўказзя. Шмат перакладаў з французскай і рускай моў. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр 22.07.1937 г.

*Грыгол Цэцхладзе* нарадзіўся 14.04.(26.04).1895 г. у вёсцы Маідані (цяпер Ланчхуцкі раён). Скончыў Тбіліскі педага-

гічны інстытут, працаваў у рэдакцыях літаратурных газет і часопісаў. Рэдагаваў часопісы «Пояс Фалабуса» і «Дзеянне». Быў членам групы сімвалістаў «Блакітныя рогі». Шмат перакладаў, пісаў і для дзяцей. Памёр у 1976 г.

*Калаў Надзірадзе* нарадзіўся 24.02(08.03).1895 г. у Кутаісі. Скончыў юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта (1916). Першы верш быў надрукаваны ў 1915 г. у часопісе «Блакітныя рогі», адным з ініцыятараў стварэння якога быў паэт. Шмат перакладае. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

*Цярэнцій Гранелі (Квірквелія)* нарадзіўся 25.11(7.12). 1898 г. у вёсцы Цаленджыха (Заходняя Грузія) у сям'і селяніна. Скончыў пачатковую сельскую школу. У 1918 г. пераехаў у Тбілісі. Працаваў кантралёрам на чыгунцы, кур'ерам у рэдакцыях. Выпускаў газету «Іа» («Фіялка») і часопіс «Кронасі сарке» («Люстэрка Кронаса»). Друкаваўся з 1919 г. Памёр у 1934 г.

*Шалва Кармелі (Гагіяшвілі)* нарадзіўся ў 1899 г. Скончыў Кутаіскую гімназію, а з 1920 г. вучыўся ў Тбіліскім універсітэце. Друкаваўся з 1915 г. Быў членам групы сімвалістаў «Блакітныя рогі». Першая кніжка «Вавілон» выйшла ў 1921 г. Паэт не паспеў апублікаваць зборнікі «Коні Апакаліпсіса» і «Белы Георгій». Памёр у 1923 г. У 1970 г. выйшла кніга выбраных вершаў.

*Георгій Леанідзе* нарадзіўся 27.12.1899(8.01.1990) у вёсцы Патардзеулі ў Кахеціі. Вучыўся ў Тбіліскім духоўным вучылішчы, з 1913 г.— у духоўнай семінарыі, а ў 1918 г. паступіў на філалагічны факультэт Тбіліскага універсітэта. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1905 г. У 1918 г. уступіў у групу сімвалістаў «Блакітныя рогі». Выступаў таксама як празаік і даследчык гісторыі грузінскай літаратуры. Дырэктар Літаратурнага музея Грузіі (1930—1952), Інстытута гісторыі грузінскай літаратуры АН Грузінскай ССР (1957—1966). Народны паэт Грузіі (1959). Правадзейны член АН Грузінскай ССР (1944). Доктар філалагічных навук (1961). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Рэспубліканскай літаратурнай прэміі імя Ш. Руставелі (1969). Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Памёр 9.08.1966 г.

*Іона Вакелі (Мегрэлідзе)* нарадзіўся 15(28).11.1900 г. у вёсцы Ваке. Адзін з арганізатараў Асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (1921). Друкаваўся з 1920 г. Аўтар многіх паэтычных зборнікаў і драматычных твораў. Заслужаны дзеяч мастацтваў Грузінскай ССР (1960). Памёр у 1984 г.

*Давід Гачачыладзе* нарадзіўся 19.09.1902 г. у вёсцы Гарэша (цяпер Харагаульскі раён). Скончыў эканамічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта. Друкуецца з 1919 г. Быў членам групы футурыстаў. Выступаў як драматург, аўтар кніг для дзяцей і перакладчык з моў народаў СССР. Памёр у 1974 г.

*Алія Мірцхулава (Мамашвілі)* нарадзіўся 15(28).04. 1903 г. у вёсцы Хорга (Хобскі раён). Скончыў Паційскае гарадское вучылішча і Зугдзідскую гімназію. Потым вучыўся ў Тбіліскім дзяржаўным універсітэце і адначасова працаваў у ЦК ЛКСМ Грузіі. Вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя В. Брусава ў Маскве (1923—1927), а потым — у Камуністычным інстытуце журналістыкі. Працаваў сакратаром СП Грузіі (1937—1939), у выдавецтвах, рэдагаваў часопісы. Друкаваўся з 1921 г. Узнагароджаны ордэнам Леніна, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам «Знак Пашаны», медалямі. Памёр 16.10.1971 г.

*Сіман Чыкавані* нарадзіўся 9.01(21.01).1903 г. у вёсцы Наесакава Сенакскага павета Кутаіскай губерні. Скончыў Кутаіскае рэальнае вучылішча і філалагічны факультэт Тбіліскага універсітэта. У 1922—1925 гг. служыў у радах Чырвонай Арміі. Друкаваўся з 1924 г. У дні Вялікай Айчыннай вайны актыўна супрацоўнічаў у франтавым друку. У 1944—1951 гг. быў старшынёй Саюза пісьменнікаў Грузіі, у 1954—1960 — галоўным рэдактарам часопіса «Мнатобі» («Свяціла»). Аўтар шматлікіх літаратуразнаўчых артыкулаў і перакладаў. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР трэцяга склікання. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947). Узнагароджаны ордэнамі Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр 27.04.1966 г.

*Ніко Самадашвілі* нарадзіўся 1.07.1905 г. у вёсцы Хідзіставі (цяпер Гарыйскі раён). Скончыў Тбіліскі універсітэт і ўсё жыццё працаваў рэвізорам-эканамістам. Упершыню вершы былі надрукаваны ў 1967 г., пасля смерці паэта (1963). У 1973 г. выйшла кніга выбраных вершаў.

*Карло Каладзе* нарадзіўся 16(29).3.1907 г. у Кутаісі. Скончыў літаратурны факультэт Тбіліскага універсітэта, адзін з першых уступіў у Асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў. Першыя вершы надрукаваў у 1920 г. у падпольнай газеце «Камунісці» («Камуніст»). Рэдагаваў часопіс «Ніянгі» («Кракадзіл»), быў дырэктарам выдавецтва «Мерані» (1968—1977). Выступае таксама як драматург і перакладчык. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

*Іраклій Абашыдзе* нарадзіўся 16(29).11.1909 г. у вёсцы Хоні Кутаіскай губерні. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1931). Працаваў у рэдакцыях літаратурных часопісаў, адказным сакратаром СП Грузіі (1939—1944), першым сакратаром, а потым старшынёй праўлення СП Грузіі (1953—1967). З 1965 г.— галоўны рэдактар Грузінскай савецкай энцыклапедыі. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Старшыня Вярхоўнага Савета ГССР. Акадэмік АН ГССР (1960). Друкуецца з 1928 г. Шмат перакладае, піша творы для дзяцей. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Ш. Руставелі (1965). Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і «Знак Пашаны».

*Грыгол Абашыдзе* нарадзіўся 19.07.(1.08).1914 г. у сяле Зедаргані каля горада Чыятуры. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1936). Працаваў галоўным рэдактарам часопісаў «Дзіла» («Раніца»), «Ніянгі» («Кракадзіл»), «Дроша» («Сцяг»), «Мнатобі» («Свяціла»), старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Грузіі (1967—1981). Друкуецца з 1934 г. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951). Аўтар некалькіх раманаў, кніг апавяданняў, драматычных твораў, перакладаў, твораў для дзяцей. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», медалямі.

*Шалва Амісулашвілі* нарадзіўся 10.04.1915 г. у горадзе Тэлаві. Скончыў тэатральны інстытут імя Ш. Руставелі (1940). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у рэдакцыях газет, у выдавецтвах. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені. Друкаваўся з 1938 г. Памёр у 1981 г.

*Рэваз Маргіяні* нарадзіўся 11(24).11.1916 г. у вёсцы Мулахі ў Сванецыі. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1940). Працаваў у рэдакцыі пія-

нерскай газеты. У 1941 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт. Працаваў галоўным рэдактарам газеты «Літэратурули Сакартвела» («Літаратурная Грузія») (1968—1973), часопіса «Дроша» («Сцяг») (1973—1985). Друкаваўся з 1934 г. Плённа займаўся перакладам. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» і іншымі. Памёр у 1985 г.

*Аляксандр Саджая* нарадзіўся ў 1916 г. у вёсцы Ледгябіо (цяпер Зугдзідскі раён). Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1940). Друкаваўся з 1935 г. Займаўся перакладам. Памёр у 1944 г.

*Ладо Асацыяні* нарадзіўся 14.01(26.01).1917 г. у сяле Бардпала (цяпер Цагерскі раён). Скончыў факультэт грузінскай мовы і літаратуры Кутаіскага педагагічнага інстытута (1938). Пераехаў у Тбілісі. Друкаваўся з 1936 г. Памёр у 1943 г.

*Мірза Гелавані* нарадзіўся 2.03.(14.03).1917 г. у вёсцы Пакалакары (цяпер Тыяпецкі раён). Пасля заканчэння педагагічнага тэхнікума ў Тыяпеці (1936) працаваў у Тбілісі. Удзельнік савецка-фінляндскай (1939—1940) і Вялікай Айчыннай войнаў. Загінуў 19.07.1944 г. пры вызваленні Беларусі. Пахаваны каля вёскі Саннікі Бешанковіцкага раёна. Друкаваўся з 1934 г. На беларускай мове выйшаў зборнік яго вершаў «Клятва» (1970). Імя паэта прысвоена Ржаўскай сярэдняй школе (Бешанковіцкі раён). Лаўрэат прэміі імя Ш. Руставелі (1975).

*Шалва Парчхидзе* нарадзіўся 14.01.1918 г. у вёсцы Квацыхе (цяпер Чыятурскі раён). Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1946). Друкуецца з 1946 г.

*Іосіф Панешвілі* нарадзіўся 6.04.1918 г. у вёсцы Карданахі (цяпер Гурджаанскі раён). Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1942). Служыў у Савецкай Арміі (1943—1946). Працаваў у рэдакцыі газеты «Камунісці» («Камуніст»), галоўным рэдактарам часопіса «Дзіла» («Раніца»), газеты «Літэратурулі Сакартвела» («Літаратурная Грузія»), сакратаром Саюза пісьменнікаў Грузіі (1965—1972). Старшыня рэспубліканскага Камітэта абароны міру (1972—1981). Дэпутат Вярхоўнага Савета Грузінскай ССР сёмага склікання. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Друкаваўся з 1938 г. Памёр у 1981 г.

*Ладо Сулаберыдзе* нарадзіўся 20.04.1918 г. у вёсцы Шуамта (цяпер Вапскі раён). Вучыўся ў Тбіліскім дзяржаўным універсітэце. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Першая кніга выйшла ў 1948 г. Аўтар кніг для дзяцей, шматлікіх перакладаў.

*Мурман Лебанідзе* нарадзіўся 14.11.1922 г. у вёсцы Агстафа ў Азербайджанскай ССР. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1948). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў. Друкуецца з 1944 г. Многа піша для дзяцей, плённа займаецца перакладчыцкай дзейнасцю. Лаўрэат прэміі імя Ш. Руставелі.

*Хута Берулава* нарадзіўся 10.12.1924 г. у горадзе Зугдзідзі. Вучыўся ў Сухумскім педагагічным інстытуце, скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1952). Працаваў у рэдакцыях часопісаў і газет, дырэктарам выдавецтваў «Накадулі» («Ручаёк») і «Ганатлеба» («Асвета»), галоўным рэдактарам часопісаў «Цыскары» («Зара») (1966—1980), «Дроша» («Сцяг») (1980—1986). З 1986 г.— сакратар Саюза пісьменнікаў Грузіі. Друкуецца з 1941 г. Піша і для дзяцей. Пераклаў паасобныя вершы беларускіх паэтаў. Аўтар паэмы «Хвалі Нёмана. Дванаццаць песень пра Беларусь».

*Атар Мампорыя* нарадзіўся 1.12.1924 г. у Кутаісі. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта. Друкуецца з 1940 г. Выступае таксама як драматург, піша для дзяцей.

*Ганна Каландадзе* нарадзілася 15.12.1924 г. у вёсцы Хідзіставі Чахатаурскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1946) і аспірантуру пры ім. Друкуецца з 1946 г. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў.

*Атар Чалідзе* нарадзіўся 8.09.1925 г. у Тбілісі. Скончыў філасофскі факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1950), вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага (1950—1954). Друкуецца з 1943 г. Выступае і як перакладчык. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і ордэнам «Знак Пашаны».

*Міхаіл Квлівідзе* нарадзіўся 22.06.1925 г. у Тбілісі. Скончыў факультэт графікі Тбіліскай мастацкай акадэміі (1950) і аспірантуру па спецыяльнасці «Мастацтвазнаўства». Доў-

гі час жыў у Маскве, працаваў кансультантам па грузінскай літаратуры ў СП СССР. Зараз працуе ў Галоўнай рэдкалегіі па літаратурных сувязях і мастацкім перакладзе пры СП Грузіі. Друкуецца з 1946 г. Выступае як крытык і перакладчык.

*Прыдон Халвашы* нарадзіўся ў 1925 г. Вучыўся ў індустрыяльным тэхнікуме ў Батумі, працаваў у калгасе, на будаўніцтве чыгункі, загадчыкам сельскага клуба, настаўнікам. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1957) і быў абраны сакратаром Аджарскай арганізацыі СП Грузіі, дзе працуе і цяпер. Першы зборнік паэзіі быў выдадзены ў 1948 г. Аўтар некалькіх раманаў, апавяданняў і п'ес.

*Сілаван Нарыманідзе* нарадзіўся 15.03.1925 г. у вёсцы Маграані Ахмецкага раёна. Скончыў юрыдычны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1949), працаваў у рэдакцыях газет, з 1974 г.— намеснікам дырэктара выдавецтва «Мерані». Друкуецца з 1947 г.

*Шата Чантладзе* нарадзіўся 13.06.1927 г. у Тбілісі. Вучыўся на філалагічным факультэце Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта. Пры жыцці друкаваўся вельмі мала. Выступаў і як перакладчык. Зборнікі вершаў выйшлі пасля смерці паэта (1972, 1984). Памёр у 1967 г.

*Гіві Дэнеладзе* нарадзіўся 23.08.1927 г. у вёсцы Бурнаці Чахтаурскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт пединстытута імя А. Пушкіна (1952). Працаваў у рэдакцыях літаратурных газет і часопісаў. З 1983 г. працуе ў часопісе «Саунджэ» («Скарб»). Друкуецца з 1948 г. Піша і для дзяцей, шмат перакладае.

*Нагі Кіласонія* нарадзілася 20.10.1927 г. у вёсцы Абісі Карэльскага раёна. Скончыла Тбіліскі дзяржаўны універсітэт (1952). Працавала ў рэдакцыях часопісаў «Піянеры» («Піянер»), а з 1960 г.— «Сакартвелас калі» («Грузінская жанчына»). Друкуецца з 1953 г. Пераклала паасобныя вершы беларускіх паэтэс.

*Надар Гурашыдзе* нарадзіўся 10.03.1927 г. у вёсцы Марані Абашскага раёна. Скончыў філасофскі факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1950). Працаваў загадчыкам аддзела ў газеце, дырэктарам тэатра, сакратаром СП Грузіі (1971—1973). З 1973 г. працуе ў Савеце Міністраў

Грузінскай ССР. Друкуецца з 1946 г. Шмат перакладае.

*Арчыл Сулакауры* нарадзіўся 28.12.1927 г. у Тбілісі. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1951). Працаваў у рэдакцыях літаратурных часопісаў, дырэктарам выдавецтва «Накадулі» («Ручаёк»). Зараз — галоўны рэдактар часопіса «Мнатобі» («Свяціла»). Друкуецца з 1945 г. Плённа працуе і ў прозе. Лаўрэат прэміі імя Ш. Руставелі (1971).

*Мухран Мачаварыяні* нарадзіўся 12.04.1929 г. у вёсцы Аргвеці Сачхерскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1952). Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Цыскары» («Зара»), «Піянеры» («Піянер»), «Дзіла» («Раніца»). Друкуецца з 1952 г. Піша і для дзяцей, займаецца перакладам. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

*Шата Нішніянідзе (Мамагейшвілі)* нарадзіўся 18.03.1929 г. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1953), вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага, працаваў у рэдакцыях літаратурных часопісаў, сакратаром СП Грузіі (1982—1985), старшынёй яго праўлення (1985—1986). Друкуецца з 1946 г. Лаўрэат прэміі імя Ш. Руставелі. Займаецца перакладчыцкай дзейнасцю. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

*Морыс Пацхішвілі* нарадзіўся ў 1930 г. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1954). Працаваў у выдавецтве, у СП Грузіі, галоўным рэдактарам часопіса «Цыскары» («Зара»). Зараз — дырэктар выдавецтва «Накадулі» («Ручаёк»). Друкуецца з 1953 г. Піша і для дзяцей. Пераклаў паасобныя вершы беларускіх паэтаў.

*Джансуг Чарквіяні* нарадзіўся 30.09.1931 г. у Тбілісі. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1956). Працаваў у рэдакцыях часопісаў, галоўным рэдактарам часопіса «Цыскары» («Зара»). Цяпер сакратар праўлення СП Грузіі. Друкуецца з 1948 г. Піша і для дзяцей, шмат перакладае. Лаўрэат прэміі імя Ш. Руставелі.

*Тамаз Чыладзе* нарадзіўся 05.03.1931 г. у горадзе Сігнахі. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1954). Працаваў у рэдакцыях часопісаў, а з

1973 г. быў галоўным рэдактарам часопіса «Сабчота хелаўнеба» («Савецкае мастацтва»). Цяпер — сакратар праўлення СП Грузіі. Друкуецца з 1952 г. Выступае і як празаік, драматург, крытык.

*Тарыэл Чантурыя* нарадзіўся 11.07.1932 г. у Батумі. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1956). Працаваў у рэдакцыях газет, часопісаў, у выдавецтвах. Цяпер працуе ў Галоўнай рэдкалегіі па літаратурных узаемасувязях і мастацкім перакладзе пры СП Грузіі. Друкуецца з 1951 г. Перакладае, піша і для дзяцей.

*Вахтанг Джавахадзе* нарадзіўся 29.07.1932 г. у Кутаісі. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1956). Працуе намеснікам дырэктара выдавецтва «Сабчота Сакартвела» («Савецкая Грузія»). Друкуецца з 1947 г. Пераклаў паасобныя вершы беларускіх паэтаў.

*Гіві Гегечкоры* нарадзіўся 24.01.1933 г. у Тбілісі. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1956). З 1958 г.— загадчык аддзела паэзіі і прозы часопіса «Цыскары» («Зара»). Цяпер працуе кансультантам СП Грузіі. Друкуецца з 1952 г. Аўтар некалькіх кніг паэзіі, вершаў для дзяцей. Выступае як перакладчык і крытык.

*Заур Балквадзе* нарадзіўся 2.04.1933 г. у вёсцы Гутуры Чахатаурскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1965). Працаваў карэспандэнтам у Галоўным упраўленні грузінскай радыёінфармацыі, адказным сакратаром універсітэцкай шматтыражкі, загадчыкам аддзела часопіса «Цыскары» («Зара»), адказным сакратаром часопіса «Ніянгі» («Кракадзіл»). Друкуецца з 1951 г. Шмат перакладае.

*Медэя Кахідзе* нарадзілася 30.12.1933 г. у вёсцы Ахалісопелі Кварэльскага раёна. Скончыла юрыдычны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1954) і Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Працуе сакратаром партыйнай арганізацыі СП Грузінскай ССР. Друкуецца з 1950 г. Аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, двух кніг вершаў для дзяцей. Пераклала паасобныя вершы беларускіх паэтаў.

*Атар Чыладзе* нарадзіўся 20.03.1933 г. у вёсцы Сігнахі. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1956). Працаваў у часопісе «Мнатобі» («Свяціла») (1967—1973). Друкуецца з 1952 г. Апошнім часам выступае як празаік, шмат перакладае.

*Хута Гагуа* нарадзіўся 10.08.1934 г. у вёсцы Бабушара Гульрыпшскага раёна Абхазскай АССР. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1963). Быў сакратаром СП Абхазіі, а з 1976 г.— адказны сакратар савета па грузінскай літаратуры пры СП СССР. Друкуецца з 1954 г. Выступае і як перакладчык.

*Тагу Мебурышвілі* нарадзіўся 22.08.1934 г. у вёсцы Пярэта Ванскага раёна. Скончыў літаратурны факультэт Кутаіскага педагагічнага інстытута (1957). Працуе ў выдавецтве «Мерані». Друкуецца з 1955 г.

*Іярам Кемерталідзе* нарадзіўся 21.05.1936 г. у вёсцы Мярджэві Сачхерскага раёна. Скончыў Тбіліскі інстытут замежных моў. Працаваў у рэдакцыях літаратурных газет і часопісаў. З 1967 г.— адказны сакратар часопіса «Дзіла» («Раніца»), з 1977 г.— загадчык аддзела грузінскай мастацкай літаратуры выдавецтва «Сабчота Сакартвела». Друкуецца з 1958 г. Пераклаў паасобныя вершы беларускіх паэтаў.

*Эмзар Квітаішвілі* нарадзіўся 27.11.1936 г. у Тбілісі. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1959). Кандыдат філалагічных навук. Працаваў у часопісе «Цыскары» («Зара»), цяпер працуе ў Інстытуце літаратуры АН Грузінскай ССР. Друкуецца з 1957 г. Піша і для дзяцей, выступае як перакладчык і літаратуразнаўца.

*Рэзо Амашукелі* нарадзіўся 24.06.1936 г. у Кутаісі. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1960). Працаваў загадчыкам аддзела часопіса «Цыскары» («Зара») (1961—1964), у Дзяржаўным камітэце па справах друку і паліграфіі, на партыйнай рабоце (1971—1973), адказным сакратаром у часопісе «Мнатобі» («Свяціла») (1973—1985), сакратаром СП Грузінскай ССР (1985—1986). Быў абраны прэзідэнтам міжнароднага клуба моладзі (1969). Друкуецца з 1957 г. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Грузіі (1968).

*Іза Арджанікідзе* нарадзілася 21.11.1938 г. у Тбілісі. Скончыла філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. Ламаносава (1965). Працавала ў выдавецтвах «Накадулі», «Мерані», дырэктарам Музея грузінскай літаратуры (1976—1980). Друкуецца з 1958 г. Шмат перакладае.

*Мурман Джгубурыя* нарадзіўся 13.06.1938 г. у вёсцы Акумі Гальскага раёна Абхазскай АССР. Вучыўся ў будаўнічым тэхнікуме, працаваў на будоўлях. Скончыў Тбіліскі дзяржаўны універсітэт (1966). Друкуецца з 1967 г. Пераклаў паасобныя творы беларускіх паэтаў.

*Мамука Цыклауры* нарадзіўся 4.04.1938 г. у вёсцы Пасанауры Душэцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1964). Працаваў у рэдакцыях літаратурных часопісаў, у альманаху «Крытыка», намеснікам дырэктара выдавецтва «Мерані». Цяпер — загадчык аддзела крытыкі штотыднёвіка «Літэратурулі Сакартвела». Друкуецца з 1960 г.

*Бесік Харанаулі* нарадзіўся 11.11.1939 г. у горадзе Тыянеці. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1962). Працаваў у выдавецтвах, у рэдакцыях літаратурных часопісаў. З 1985 г.— адказны сакратар часопіса «Мнатобі» («Свяціла»). Друкуецца з 1956 г. Пераклаў паасобныя вершы беларускіх паэтаў.

*Алуда Арабулі* нарадзіўся ў 1939 г. Скончыў гістарычны факультэт Тбіліскага педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна. Працаваў выкладчыкам у горадзе Барысаха, у Міністэрстве культуры Грузінскай ССР. Цяпер працуе ў Кніжнай палаце Грузінскай ССР. Друкуецца з 1969 г.

*Лія Стуруа* нарадзілася 15.05.1939 г. у Тбілісі. Скончыла філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1962). Кандыдат філалагічных навук (1974). Друкуецца з 1970 г. Выступае як літаратуразнаўца і крытык.

*Грыгол Джулухідзе* нарадзіўся 1.07.1940 г. у вёсцы Чхенішы Самтрэдскага раёна. Скончыў вячэрняе аддзяленне філалагічнага факультэта педагагічнага інстытута імя Пушкіна (1968). Друкуецца з 1968 г.

*Тэда Бекішвілі* нарадзіўся 1.06.1941 г. у вёсцы Нагварэві Душэцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1967). Працаваў рэдак-

тарам у выдавецтве «Накадулі» (1968—1974), загадчыкам аддзела крытыкі ў «Літэратурулі газеці» («Літаратурнай газеце») (1974—1982). Цяпер працуе намеснікам галоўнага рэдактара ў часопісе «Цыскары» («Зара»). Друкуецца з 1965 г. Выступае і як перакладчык.

*Гурам (Сіман) Петрыяшвілі* нарадзіўся 16.05.1942 г. у горадзе Лянтэхі. Скончыў механіка-матэматычны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1964) і кінарэжысёрскі факультэт Тбіліскага тэатральнага інстытута. Працаваў інжынерам у навукова-даследчым інстытуце і ў вылічальным цэнтры, настаўнічаў, працаваў асістэнтам і памочнікам кінарэжысёра, тэлеаператарам, кінаакцёрам. Цяпер працуе рэжысёрам на кінастудыі «Грузія-фільм». Друкуецца з 1973 г. Шмат піша і для дзяцей. Выступае таксама як празаік, сцэнарыст, крытык.

*Джарджы Пхавелі (Цыграшвілі Давід)* нарадзіўся 18.10.1943 г. у вёсцы Арахіджа Душэцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1968). Працаваў у выдавецтве «Сабчота Сакартвела» («Савецкая Грузія») (1968—1975), а з 1975 г. працуе ў часопісе «Саунджэ» («Скарб»). Друкуецца з 1968 г. Шмат перакладае.

*Гіві Алхазішвілі* нарадзіўся 26.05.1944 г. у горадзе Тэлаві. Скончыў філалагічны факультэт Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта (1969). Працаваў у выдавецтвах «Мерані», «Ганатлеба», «Цыгніс самкара». З 1976 г. працуе загадчыкам аддзела паэзіі ў часопісе «Цыскары» («Зара»). Друкуецца з 1966 г. Выступае і як перакладчык.

# ТЛУМАЧЭННІ
# НЕКАТОРЫХ ТЭРМІНАЎ, УЛАСНЫХ ІМЁНАЎ І ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ

*Абазі* — срэбная манета ў 20 капеек.

*«Абдул-месія» («Раб Хрыста»)* — адычная паэма свецкага зместу Іаанэ Шаўтэлі.

*Агар* — паводле старазапаветных паданняў егіпцянка, рабыня Сары і наложніца Аўрама.

*Адзісі* — вёска з крэпасцю ў Картлі.

*Азарпеша* — карэц для віна з доўгай ручкай.

*Акракана* — сяло ў наваколлях Тбілісі, літаральна «Залатая ніва».

*Алазань* — рака, даліна якой лічыцца адной з прыгажэйшых мясцін Грузіі.

*Алена-царыца* — у грэчаскай міфалогіі найпрыгажэйшая з жанчын, жонка цара Спарты Менелая.

*Алепа* — горад у Сірыі.

*Аляксандр* — малодшы сын Тэймураза І. У 1620 годзе па загаду шаха Абаса, у якога царэвіч знаходзіўся ў заложніках, быў вылегчаны, ад чаго і памёр.

*«Аміран-Дарэджаніяні»* — гл. Ханелі Масэ.

*Аміранi* — герой старажытнагрузінскіх паданняў (у антычнай міфалогіі Праметэй), які ўкраў агонь у багоў і быў прыкаваны за гэта да скалы.

*Амірбар* (араб.) — міністр двара; начальнік ваеннага флоту, адмірал.

*Амір-Спасалар* — камандуючы войскамі.

*Ананура* — цытадэль ва Усходняй Грузіі.

*Анісі* — назва мясціны, звязанай з гістарычнай бітвай.

*Арагві* — рэчка ва Усходняй Грузіі.

*Аран* — вобласць у сярэдневяковым Азербайджане.

*Армазі* — буйное капішча і акропаль каля г. Мцхета.

*Арпіры* — вёска ў Заходняй Грузіі, радзіма Тыцыяна Табідзе.

*Артвіні* — мясціна ў Грузіі.

*Архалук* — мужчынскае адзенне.

*Архвацi* — вёска ў Хеўсурэціі.

*Арыстоцель* (384—322 гг. да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф і вучоны.

*Арэс (Арэй)* — у грэчаскай міфалогіі бог каварнай, вераломнай вайны, сын Зеўса і Геры.

*Асецін* — Давід Саслані, муж царыцы Тамары.

*Асклепій* — у грэчаскай міфалогіі бог лячэння, што ўваскрашаў нават нябожчыкаў.

*Асмат* — гераіня паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры».

*Аспіраз* — планета Венера (Мілавіца).

*Астарта (Аштарт)* — у старажытнафінікійскай міфалогіі багіня ўрадлівасці, мацярынства і кахання.

*Астрахань* — горад на р. Волзе, у якім грузінскія цары і іх паслы на шляху ў Маскву ці Пецярбург часта зімавалі.

*Атарыд* (араб.) — планета Меркурый.

*Аўрам (Абрам)* — міфалагічны родапачынальнік яўрэяў, у біблейскай міфалогіі бацька Ісака.

*Ахілес (Ахіл)* — у «Іліядзе» адзін з самых храбрых герояў, што трымалі ў аблозе Трою (Іліён).

*Бабкар* — азербайджанскі валадар, якога грузіны перамаглі на Шамхецкім полі ў 1195 годзе.

*Баграці* — манастыр, архітэктурны помнік непадалёку ад Кутаісі.

*Бадахшан* — мясцовасць на Паміры, што славілася здабычай і апрацоўкай рубінаў.

*Базалецi* — возера непадалёку ад Тбілісі.

*Бахмара* — горнакліматычны курорт у Гурыі.

*Безаар* (перс.) — каштоўны камень арганічнага паходжання, якому прыпісвалі лекавыя ўласцівасці.

*Беотыя* — вобласць у Сярэдняй Грэцыі.

*Бетані* — мясцовасць непадалёку ад Тбілісі, дзе знаходзіцца выдатны помнік грузінскага дойлідства XII ст. На адной з фрэсак храма захаваўся партрэт царыцы Тамары.

*Ваал(Баал)* — старажытнае агульнасеміцкае бажаство, якое ўшаноўвалася ў Фінікіі, Палесціне і Сірыі як бог урадлівасці, вод, вайны і інш.

*Важа* — вялікі грузінскі паэт Важа Пшавела.

*Вазір (візір, везір)* (араб.) — вышэйшы саноўнік, міністр, саветнік манарха на Усходзе.

*Вазіяні* — мясціна ў Грузіі.

*Ванкі* — сабор у Тбілісі.

*Вардзія* — пячорны горад-манастыр у Паўднёвай Грузіі, пабудаваны ў XII ст. Захавалася каля трохсот памяшканняў.

*Вахтанг Гаргасал* (?—502) — цар Картлі, які праславіўся барацьбой з іранскімі захопнікамі. Заснавальнік горада Тбілісі.

*Ваша* (груз.) — вокліч радасці, захаплення, адпаведны воклічу «ура!».

*Веліар (Веліал)* — у іудаістычнай і хрысціянскай міфалогіях дэманічная істота, дух небыцця, хлусні і разбурэння.

*Віс* — гераіня персідскай рамантычнай паэмы Фахраддзіна Гургані «Віс і Рамін».

*Вісон* — каштоўная тканіна.

*Віфінія* — гістарычная вобласць на паўночным захадзе Малой Азіі (на тэрыторыі сучаснай Турцыі).

*Габаон (Гаваон)* — гарыстая мясцовасць у Палесціне.

*Галгофа* — пагорак у наваколлях Іерусаліма, на якім, па хрысціянскім паданні, быў укрыжаваны Ісус Хрыстос.

*Гамборы* — лясісты хрыбет у Кахеціі, што аддзяляе цясніну ракі Іёры ад Алазанскай даліны.

*Гамер* — легендарны старажытнагрэчаскі паэт-эпік.

*Гаргасал* — гара.

*Гарц (Харц)* — горы ў ГДР і ФРГ.

*Гвадалквір* — рака ў Іспаніі.

*Гврыні* — фальклорная песня-галашэнне.

*Гебел (Гебал)* — старажытнаяўрэйская і фінікійская назва фінійскага горада Бібл (сучасны Джубейль), што часам сустракаецца ў літаратуры.

*Геён (Джэён, Джэйхун)* — старажытная арабская назва р. Амудар'і.

*Гелаці* — архітэктурны комплекс каля г. Кутаісі, буйнейшы культурны цэнтр сярэдневяковай Грузіі. Захаваліся галоўны храм і руіны акадэміі.

*Гіргіта* — дэталь плуга.

*Горда* — шабля з асаблівай, «франкскай» сталі, якой славілася Хеўсурэція.

*Грэмі* — да XVI ст. сталіца Кахеціі. Захаваліся руіны крэпасці, палаца, цэркваў, жылых памяшканняў.

*Гуланшара* — казачны, легендарны горад; «гулан-шарх» (перс.) — горад ружаў.

*Гурыя* — гістарычная вобласць у Заходняй Грузіі. У XIV — пачатку XIX ст. феадальная дзяржава — Гурыйскае княства.

*Давід* — 1) Цар Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы ў канцы II ст.— каля 950 г. да н. э.

2) Асецінскі княжыч Сасланi, другі муж царыцы Тамары.

*Давід-Гарэджы* — манастырскі комплекс ва Усходняй Грузіі, архітэктурны помнік VI ст.

*Давід-Рэктар* — Давід-Алексі Месхішвілі (1745—1824), вучоны, педагог, перакладчык.

*Дадзешкеліяні Мурзакан* — гістарычная асоба, за зневажанне нацыянальнай годнасці грузінаў забіў расійскага губернатара.

*Далі* — у грузінскай міфалогіі багіня паляўнічых.

*Даліла* — у біблейскай міфалогіі філісцімлянка, каханая Самсона.

*Дамаск* (араб. Дзімішк) — сталіца Сірыі.

*Дарый I* — цар дзяржавы Ахеменідаў у 522—486 гг. да н. э.

*Дарыяні Елене* — выдуманая жанчына, ад імя якой Паола Яшвілі напісаў цыкл вершаў.

*Джавахішвілі Міхаіл* (сапраўднае імя і прозвішча Міхаіл Савіч Адамашвілі) (1880—1937) — грузінскі савецкі пісьменнік.

*Джайран* — парнакапытная жывёла з роду газеляў.

*Джан* — ласкальны зваротак (ад перс. «душа»).

*Джанісі* — гістарычнае месца баявой славы Грузіі.

*Джапарыдзе* Пракофій Апрасіёнавіч (партыйны псеўданім Алёша) (1880—1918) — савецкі партыйны дзеяч. Расстраляны ў ліку 26 бакінскіх камісараў.

*Джвары* — храм (586 або 587—604) на вяршыні гары ў месцы зліцця рэк Арагві і Куры, непадалёку ад Мцхеты.

*Дзіянос* — Дзіянісій Арэапагіт (псеўда-Дзіянісій), шырокавядомы ў старажытнай Грузіі хрысціянскі філосаф Пётр Івер.

*Драхма* — дробная срэбная манета, а таксама мера вагі.

*Дудукі (дудук)* — духавы музычны інструмент: трубка з 9 іграeымі адтулінамі і падвоенай трысцінкай.

*Дыларгет* — герой паэмы Саргіса Тмагвелі «Дыларгеціяні».

*Дэбора (Дэвора)* — у біблейскай міфалогіі вяшчунка і суддзя, што ўзначаліла заваяванне старажытнаяўрэйскімі плямёнамі Палесціны.

*Дэў* — у грузінскай міфалогіі волат, злы дух, велікан антрапаморфнага ці зааморфнага выгляду.

*Елене Дарыяні* — гл. Дарыяні.

*Елісейскія палі (Элізіум)* — у грэчаскай міфалогіі тагасветны прыстанак праведнікаў.

*Енох (Янох)* — у рэлігійна-міфалагічных уяўленнях іудаіз-

му і хрысціянства: 1) старэйшы сын Каіна; 2) нашчадак Адама ў сёмым пакаленні, прадзед Ноя, бацька Мафусаіла.

*Зедазені* — старажытны манастыр, выдатны помнік грузінскага дойлідства.

*Зекары* — горны масіў у Грузіі.

*Зеўс* — у грэчаскай міфалогіі вярхоўны бог.

*Зуал* (араб.) — планета Сатурн.

*Зянон* з Кітона на востраве Кіпры (каля 336—264 да н. э.) — заснавальнік стаічнай філасофскай школы ў Афінах.

*Іаан* — 1) Іаан Багаслоў — у хрысціянскім веравучэнні адзін з апосталаў. Царква прыпісвае яму адно з кананічных евангелляў, Апакаліпсіс і тры пасланні. 2) Іаан Дамаскін (каля 675 — да 753) — візантыйскі багаслоў, філосаф і паэт, завяршальнік і сістэматызатар грэчаскай патрыстыкі, вядучы ідэйны праціўнік іканаборства. 3) Іаан Златавуст (каля 350—407) — візантыйскі царкоўны дзеяч, біскуп Канстанцінопаля (з 398), выдатны прадстаўнік грэчаскага царкоўнага красамоўства, аўтар шматлікіх пропаведзяў, панегірыкаў, псалмоў. 4) Іаан Хрысціцель (Іаан Прадцеча) — у хрысціянскай міфалогіі прадвеснік прыходу месіі, папярэднік Ісуса Хрыста; мае мянушку (Хрысціцель) паводле абраду хрышчэння, што праводзіў у рацэ Іардан.

*Іаанэ Петрыцы* (XI—XII стст.) — грузінскі філосаф, прадстаўнік неаплатанізму.

*Іверыя (Іберыя)* — старажытная назва Усходняй Грузіі.

*Ікалто* — вышэйшая школа ва Усходняй Грузіі, што ўзнікла на пачатку XII ст.; буйнейшы культурны цэнтр. Захаваліся руіны акадэміі.

*Іліён (Троя)* — старажытны горад у Малой Азіі, вядомы па грэчаскаму эпасу.

*Імерэці (Імерэція)* — гістарычная вобласць у Заходняй Грузіі, яе цэнтр — Кутаісі. У канцы XV ст. тут было ўтворана Імерэцінскае царства.

*Інгароква Э. Ф.* — гл. Нінашвілі Э. Ф.

*Інгуры* — рака ў Грузіі, што ўпадае ў Чорнае мора.

*Іоры* — рака ва Усходняй Грузіі.

*Іосіф* — у біблейскай міфалогіі любімы сын Іакава і Рахілі; быў прададзены братамі ў рабства.

*Іоў* — у біблейскай міфалогіі прапаведнік (поруч з Даніілам і Ноем).

*Ісак* — у біблейскай міфалогіі сын Аўрама і Сары, бацька Ісава і Іакава.

*Ісаў* — біблейскі персанаж, сын Ісака.

*Ісая* — біблейскі прарок.

*Іянафан* — паводле біблейскай міфалогіі сын першага ізраільскага цара Саула.

*Іярдан* — рака і старажытная дзяржава на Блізкім Усходзе.

*Кадж* — у грузінскай міфалогіі чалавекападобная істота, што валодае звышнатуральнай сілай.

*Каджэці* — краіна і крэпасць каджаў.

*Каін* — 1) у біблейскай міфалогіі старэйшы сын Адама і Евы, што з зайздрасці забіў свайго брата Авеля; 2) герой паэмы Нізамі «Лейлі і Меджнун».

*Каіс* — герой паэмы Нізамі «Лейлі і Меджнун».

*Каліопа* — муза эпічнай паэзіі.

*Калхіда* — старажытнагрэчаская назва Заходняй Грузіі (Эгрысі).

*Кандагар* — горад на поўдні Афганістана.

*Караван-сарай* (перс.) — карчма, заезны і гандлёвы двор у гарадах і на дарогах на Усходзе.

*Картвелі (картвел)* (груз.) — грузін.

*Картлі (Карталінія)* — гістарычная вобласць ва Усходняй Грузіі, у даліне ракі Куры. З IV ст. да н. э. Картлійскае царства (Іберыя). З канца X ст. н. э. ядро адзінай грузінскай дзяржавы. У другой палове XV—XVIII стст. Картлійскае царства.

*«Картліс Цхаўрэба»* («Жыццё Грузіі») — збор грузінскіх летапісаў, выдадзены Вахтангам VI.

*Каўкасіёні* — грузінская назва Вялікага Каўказскага хрыбта.

*Кахеці (Кахецця)* — гістарычная вобласць ва Усходняй Грузіі ў басейне рэк Алазані і Іоры.

*Кашуэці* — храм у Тбілісі, выдатны помнік грузінскага дойлідства.

*Кварэлі* — горад у даліне р. Алазані.

*Квелта* — вёска з крэпасцю ў Картлі.

*Квеўры* — вялікі збан для захоўвання віна, укапаны ў зямлю.

*Кетэван* — маці цара Тэймураза I. З 1605 года, калі 16-гадовага Тэймураза каранавалі царом Кахеціі, яна некалькі гадоў кіравала краінай. Была пакарана шахам Абасам I у Персіі 12 верасня 1624 года.

*Кімвал* — старажытны ўдарны музычны інструмент.

*Кінто* — дробныя гандляры ў старым Тбілісі, што вызначаліся гарэзлівым і махлярскім норавам.

*Кларджэці* — гістарычная вобласць у паўднёва-ўсходняй частцы Прычарнамор'я (зараз на тэрыторыі Турцыі).

*Кнары* — струнны музычны інструмент.

*Кронас* — планета Сатурн.

*Крцанісі* — мясцовасць непадалёку ад Тбілісі, дзе ў 1795 г. войска Іраклія II змагалася ў няроўнай бітве з полчышчамі іранскага шаха Ага-Магамета.

*Лаваш* — хлеб асаблівай выпечкі з тонка раскатанага цеста.

*Лазар* — у хрысціянскіх паданнях жыхар Віфаніі, горада непадалёку ад Іерусаліма, якога Ісус Хрыстос уваскрасіў праз чатыры дні пасля пахавання.

*Лал* — вышэйшы сорт рубіна.

*Ламіскана* — месца, дзе лезгіны захапілі ў палон Давіда Гурамішвілі.

*Лахты* — нацыянальная грузінская гульня.

*Лаша* — цар Георгій IV Лаша, сын царыцы Тамары.

*Леван* — старэйшы сын Тэймураза I, заложнік шаха Абаса. У 1620 годзе быў вылегчаны па загаду шаха, звар'яцеў, а неўзабаве памёр.

*Лечакі* — частка нацыянальнага галаўнога ўбору грузінкі.

*Лечхумі* — гістарычная вобласць у Грузіі.

*«Лілео»* — харавая песня, сванскі язычніцкі гімн сонцу.

*Магамет* — гл. Мухамед.

*Маджама* (перс.) — вершы, строфы якіх абапіраюцца на амонімныя рыфмы.

*Маджары* — гл. мачары.

*Майсей* — біблейскі прарок, правадыр ізраільскіх плямёнаў, што вывеў супляменнікаў з фараонаўскага рабства.

*Мамадавіці (Мтацмінда)* — гара св. Давіда ў Тбілісі. На ёй знаходзіцца Пантэон, дзе пахаваны выдатныя дзеячы Грузіі, а таксама рускі пісьменнік і дыпламат Аляксандр Грыбаедаў.

*Мамелюкі* — воіны-рабы каўказскага паходжання, гвардыя апошніх уладароў егіпецкай дынастыі Эйюбідаў. У 1250 г. мамелюкі захапілі ўладу ў Егіпце і правілі там у XIII—XIV стст.

*Мамона* — бог багацця, злы дух, ідал, які ўвасабляў срэбралюбства і скнарнасць.

*Манасій* — адзін з цароў ізраільскіх, адступнік ад Майсеевай веры.

*Мандзілі* — жаночы покрыў, частка нацыянальнай вопраткі, своеасаблівы сімвал жаночага гонару.

*Марабда* — сяло, каля якога ў 1625 г. грузінскія войскі на чале з Тэймуразам I і Георгіем Саакадзе сышліся ў крывавай бітве з персідскімі захопнікамі.

*Марадзідзі* — сяло ў Аджарыі.

*Маранда* — вобласць у Персіі.

*Марані* — памяшканне, дзе выраблююць і захоўваюць віно.

*Марых* (араб.) — планета Марс.
*Масул* — горад на рацэ Тыгр.
*Махарабелі* (груз.) — вястун радасці.
*Мацоні* — сыракваша, кіслае малако, прыгатаванае асаблівым спосабам.
*Мачары* — маладое віно.
*Мегрэлія (Мінгрэлія)* — гістарычная вобласць у Заходняй Грузіі, населеная мегрэламі. У XVI—XIX стст. Мегрэльскае княства.
*Меджнун* — гл. Міджнур.
*Мека* — радзіма Магамета, свяшчэнны горад мусульман (у сучаснай Саудаўскай Аравіі).
*Мельхіседэк* — у паданнях іудаізму і ранняга хрысціянства сучаснік Аўрама, цар Салема (будучага Іерусаліма), свяшчэннаслужыцель культу Эльёна, які атаясамліваўся з Яхве.
*Мерані* — у грузінскай міфалогіі крылаты конь, падобны да антычнага Пегаса.
*Месхеці (Месхеція)* — гістарычная вобласць у Паўднёвай Грузіі (Ахалцыхскі кр.). У XVI ст. была захоплена Турцыяй. У 1829 годзе частка Месцехі была далучана да Расійскай імперыі.
*Месхі* — жыхары або выхадцы з Месхеці.
*Метэхі* — храм у Тбілісі на скалістым беразе Куры.
*Міджнур (Меджнун)* (араб.) — мужчына, звар'яцелы ад кахання; імя галоўнага героя паэмы Нізамі «Лейлі і Меджнун», якое стала хадзячай назвай.
*Мінгрэлія* — гл. Мегрэлія.
*Модзі-Нахе* — цытадэль у Заходняй Грузіі.
*Мравалжаміер* — заздароўная харавая песня.
*Мрові* — вёска ў Картлі, дзе знаходзіцца епіскапальны сабор.
*Мтацмінда* — гл. Мамадавіці.
*Мтквары* (груз.) — Кура, самая вялікая рака Закаўказзя.
*Мускус* — пахучае рэчыва жывёльнага або расліннага паходжання, якое выкарыстоўваецца ў парфумерыі і медыцыне.
*Мухамбазі* — адна з традыцыйных форм грузінскага вершаскладання.
*Мухамед* (каля 570—632) — арабскі рэлігійны і палітычны дзеяч, заснавальнік ісламу.
*Мухрані* — урадлівая даліна ў Картлі.
*Муштар* — планета Юпітэр.
*Мцхета* — горад, які да канца V ст. н. э. быў сталіцай Картлійскага царства.

*Мчадзі* — хлеб з кукурузнай мукі.
*Накерала* — гара ў Імерэціі.
*Нарды* — гульня ў косці, распаўсюджаная на Усходзе.
*Нарыкала* — руіны старажытнай крэпасці ў Тбілісі.
*Начармагеві* — адна з рэзідэнцый Давіда Будаўніка, якога называлі царом цароў, бо яму падпарадкоўваліся сем царстваў у Закаўказзі і на Сярэднім Усходзе.
*Нікора* — бык з белай адмецінай на лобе.
*Нікарцмінда* — храм у Грузіі, выдатны архітэктурны помнік XI ст.
*Німврод* — у старазапаветнай міфалогіі сын Хуша і ўнук Хама, паляўнічы і волат, што кіраваў будаўніцтвам Вавілонскай вежы.
*Ніна* (1-я пал. IV ст.) — напаўлегендарная грузінская асветніца родам з Кападакіі. Выступіла з прапаведваннем хрысціянства ў Іберыі (Картлі) у перыяд праўлення цара Мірыяна і садзейнічала распаўсюджванню хрысціянства ў якасці афіцыйнай рэлігіі ў Грузіі.
*Нінашвілі* (псеўданім, сапраўднае прозвішча Інгароква) Эгнаце Фаміч (1859—1894) — грузінскі пісьменнік.
*Носце* — вёска ў Картлі, дзе знаходзіліся родны дом і крэпасць Георгія Саакадзе.
*Оле* — адзінокае дрэва ў полі.
*Ода* — лёгкая дашчатая пабудова ў Заходняй Грузіі.
*Паата* — сын грузінскага палкаводца Георгія Саакадзе, заложнік у шаха Абаса.
*Пандуры* — трохструнны шчыпковы музычны інструмент.
*Панта* — дробныя грушы-дзічкі.
*Парнаваз (Фарнаоз)* (3 ст. да н. э.) — легендарны грузінскі цар, якому прыпісваецца стварэнне грузінскага алфавіта.
*Перыпат* (Перыпатэтычная школа, або Лікей) — філасофская школа, заснаваная Арыстоцелем.
*Пётр (Пётра)* — паводле Евангелля апостал, якому Ісус Хрыстос даў права пускаць у рай чалавечыя душы і ўручыў ключы ад райскай брамы.
*Пірымзе* — горная кветка, назва якой нярэдка ўжываецца ў дачыненні да прыгожай жанчыны.
*Платон* (428—347 гг. да н. э.) — старажытнагрэчаскі філасаф-ідэаліст.
*Понцій Пілат* — рымскі пракуратар (намеснік) Іудзеі ў 26—36 гг. Паводле Іосіфа Флавія і новазапаветнай традыцыі. Понцій Пілат прысудзіў да ўкрыжавання Ісуса Хрыста.
*Прокл Дзіядох* (412—485) — старажытнагрэчаскі філосафнеаплатонік.

*Пшавы* — этнаграфічная група грузінаў, жыхары Пшавіі, горнай вобласці ў Грузіі.

*Рамін* — герой персідскай рамантычнай паэмы «Віс і Рамін» Фахраддзіна Гургані, якую ў XII ст. пераклаў на грузінскую мову Саргіс Тмагвелі.

*Растом (Рустам)* — герой паэмы Фірдаўсі «Шах-наме».

*Ртвелі* — збор вінаграду.

*Рыа-рыа* — музычны паўтор без пэўнага сэнсу.

*Рыёні* — рака, што бярэ пачатак на схілах Каўказа, цячэ па Калхідскай нізіне і ўпадае ў Чорнае мора каля г. Поці.

*Рытар* — прамоўца і настаўнік тэорыі красамоўства.

*Саакадзе Георгій (Вялікі Маўраві)* (каля 1580—1629) — грузінскі палкаводзец і палітычны дзеяч, прыхільнік аб'яднання Грузіі.

*Саганлуга* — старая ўскраіна Тбілісі.

*Сакартвела* (груз.) — Грузія.

*Сакрат* (каля 470—339 гг. да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф, адзін з роданачальнікаў дыялектыкі.

*Саламан* — паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, герой паэмы «Саламан і Абсем».

*Саламон* — цар Ізраільска-Іудзейскага царства ў 965—928 гг. да н. э. Паводле біблейскай традыцыі славіўся надзвычайнай мудрасцю.

*Саламуры* — жалейка, дудка.

*Самсон* — біблейскі персанаж, старажытнаяўрэйскі волат, надзвычайная сіла якога таілася ў валасах.

*Самтаўра* — старажытны храм, выдатны помнік грузінскага дойлідства.

*Сарамара* — імя скажона. Адны даследчыкі звязваюць яго з Саламонам, другія — з індыйскай чарадзейкай Сарамай.

*Сарацыны* (араб.) — у эпоху сярэдневякоўя так называлі арабаў і нярэдка наогул усіх мусульман.

*Саслані* — гл. Давід.

*Сацнахелі* — вялікая драўляная кадушка, у якой з вінаграду выціскаюць сок.

*Свеціцхавелі* — кафедральны сабор у г. Мцхета (1010—1029. арх. Арсукісдзе), выдатны помнік грузінскага дойлідства.

*Свімеон I* — цар Картлі ў 1556—1600 гг.

*Сем святых* — апосталы, аўтары Новага запавету: Мацей, Марк, Лука, Іаан, Якаў, Пётра, Іуда (Фадзей).

*Серафім* — у іудзейскай і хрысціянскай міфалогіі шасцікрылы анёл вышэйшага рангу.

*Сім* — у біблейскай міфалогіі сын Ноя.

*Сірачхані* — раён у Тбілісі, дзе даўней прадавалі віно.

*Скінія* — паходны пераносны храм.

*Скрыжалі* — у біблейскай міфалогіі каменныя табліцы з 10 запаветамі, якія Майсей атрымаў ад бога Яхве на гары Сінай.

*Спаспет* — военачальнік, палкаводзец.

*Стоўп жыватворны* — царкоўнае паданне кажа, што мцхетскім рабінам Элеазарам у Грузію быў прынесены хітон божы і пахаваны разам з ягонай сястрою Сідоніяй на тым месцы, дзе зараз узвышаецца храм Свеціцхавелі. Паводле падання, на магіле Сідоніі вырас вялікі кіпарыс, які хацелі выкарыстаць пры будаўніцтве бажніцы, але, спілаваўшы, аніяк не маглі падняць яго. Уначы стоўп, выпраменьваючы святло, сам падняўся і стаў на тое месца, куды яго хацелі паставіць будаўнікі, г. зн. стоўп стаў жыватворны і тварыў цуды.

*Сулугуні* — від сыру.

*Тавісуплеба* (груз.) — свабода.

*Тамара (Тамар)* (сяр. 60-х гг. XII ст.— 1207) — царыца Грузіі (1184—1207). Падчас яе каравання Грузія дабілася вялікіх ваенна-палітычных поспехаў.

*Танэ* — печ для выпякання грузінскага хлеба.

*Тары* — музычны інструмент.

*Татары* — так у сярэднявечнай Грузіі нярэдка называлі ўсіх мусульман.

*Таха (Тэжу)* — рака ў Іспаніі і Партугаліі.

*Тлюгві* — назвы крэпасці.

*Тмагвелі саргіс* — грузінскі паэт XII стагоддзя, аўтар паэмы «Дыларгеціяні».

*Троя* — гл. Іліён.

*Трыста арагвінцаў* — 300 горцаў з цясніны Арагві, якія, адпраўляючыся на вайну, пакляліся памерці або вярнуцца з перамогаю. Калі яны падышлі да Крцанінскага поля, бітва ўжо была прайграна, але, верныя сваёй клятве, арагвінцы кінуліся на ворага і ўсе загінулі.

*Трыялеці* — комплекс археалагічных помнікаў на Цалкінскім плато, на поўдзень ад Трыялецкага хрыбта.

*Тур* — прылада, на якой сядзіць дрэсіраваная драпежная птушка.

*Тушеці* — горная вобласць ва Усходняй Грузіі.

*Тыянеці* — горад у Грузіі, радзіма паэта Мірзы Гелавані, які загінуў пры вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Тэймураз I* (1589—1663) — цар Кахеціі (1606—1648) і Картлі (1625—1632), які шмат гадоў пражыў палоннікам пры

персідскім двары, але да канца жыцця застаўся хрысціянінам.

*Тэкля* — імя жонкі грузінскага цара Іраклія II.

*Тэргі* (груз.) — рака Церак.

*Уджарма* — цытадэль ва Усходняй Грузіі.

*Узундару* — усходні танец.

*Ушба* — адна з самых высокіх і прыгожых вяршынь у Сванеціі. Доўгі час лічылася непрыступнай.

*Фарнаоз* — гл. Парнаваз.

*Фіней* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі цар Салмідзеса ў Фракіі, што валодаў дарам прароцтва.

*Хазары* — цюркскамоўны народ, што з'явіўся ва Усходняй Еўропе пасля гунскага нашэсця (IV ст. н. э.) і качаваў у Заходне-Прыкаспійскім стэпе і па паўночных схілах Каўказскага хрыбта.

*Халібы* — жыхары племені, што лічацца продкамі грузінаў. Былі майстрамі апрацоўкі жалеза.

*Хам* — у біблейскай міфалогіі сын Ноя.

*Ханаан* — старажытная назва тэрыторыі Сірыі, Палесціны і Фінікіі.

*Ханелі Масэ* — грузінскі пісьменнік XII стагоддзя, аўтар рамана «Аміран-Дарэджаніяні».

*Харэзм* — старажытная дзяржава ў Сярэдняй Азіі са сталіцай у нізоўі Амудар'і.

*Хатай* — паводле некаторых даследчыкаў паўночны Кітай.

*Хатун* (цюрк.) — знатная дама, пані.

*Хашы* — нацыянальная грузінская страва.

*Хвамлі* — гара непадалёку ад Кутаісі.

*Хеўсур* — жыхар Хеўсурэціі, высакагорнага краю ва Усходняй Грузіі.

*Хінкалі* — асаблівага роду пельмені.

*Хмелі-сунелі* — араматычная прыправа.

*Цкараствалі* — назвы мясцовасці.

*Цхінвалі* — горад на рацэ Вялікая Ліяхві, цэнтр Паўднёва-Асецінскай аўтаномнай акругі.

*Чаладзідскае возера* — возера ў Заходняй Грузіі.

*Чангуры* — 4-струнны шчыпковы музычны інструмент.

*Чаргалі* — сяло ў Пшавіі (Пшавеці), радзіма Важа Пшавелы.

*Чаргі* — музычны лад.

*Чарохі* — рака ў Аджарыі, што ўпадае ў Чорнае мора каля Батумі.

*Чачнагір* (перс.) — прыдворны віначэрп, дэгустатар він.

*Чоха* (цюрк.) — від чаркескі са стаячым каўняром, рукавамі да локцяў; падпярэзваецца поясам.

*Чуры* — вялікі збан, у якім захоўваецца віно.

*Чхіквадзе Ноэ* — грузінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

*Чыя-марыя* (груз.) — багоўка.

*Чыянуры* — 2—3-струнны смычковы музычны інструмент.

*Шадзіяні* — старадаўняя вясёлая песня.

*Шаіры* — форма верша (страфа складаецца з чатырох шаснаццаціскладовых радкоў са скразной рыфмай). Ёй, у прыватнасці, напісаны «Віцязь у тыгравай шкуры» Шата Руставелі.

*Шамкоры* — гістарычнае месца баявой славы грузінаў.

*Шамхал* — тытул феадальных уладароў у Дагестане. Скасаваны ў 1867 г.

*Шаўнабада* — гара ў ваколлях Тбілісі, у перакладзе «Чорная бурка».

*Шаўтэлі* — грузінскі паэт XII стагоддзя, аўтар паэмы «Абдул-Месія».

*Шаўтэці* — гістарычная вобласць у Грузіі.

*Шчыт Джургая* — паданне гаворыць, што шчыт легендарнага героя Ажа Джургая бразганнем папярэджваў аб пачатку вайны.

*Шыо (Шыомгвіме)* — старажытны манастыр у наваколлях Тбілісі, выдатны помнік грузінскага дойлідства.

*Шыо-Мгвімелі* — грузінскі святы-цудатворца VI стагоддзя.

*Шырван* — гістарычная вобласць і феадальная дзяржава ў Азербайджане са сталіцай Шэмаха.

*Эджыб* — пасол, прыдворны накшталт царскага сакратара.

*Эдэм* — у біблейскай міфалогіі краіна, дзе да грэхападзення жылі Адам і Ева; сінонім рая.

*Эзрас (Эзра)* — некаторыя даследчыкі лічаць Эзрасам яўрэйскага паэта з Іспаніі Ібн-Эзру (XI—XII стст.), другія — псеўда-Ездру, біблейскага прарока.

*Элеазар* — мцхетскі рабін. Гл. Стоўп жыватворны.

*Энас* — газскі філосаф-неаплатонік V стагоддзя.

*Эпікур* (341—270 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф-матэрыяліст. У 306 годзе да н. э. заснаваў у Афінах філасофскую школу, што атрымала назву «Сад Эпікура».

*Эрзінджан* — горад у паўночна-ўсходняй частцы Турцыі.

*Этна* — вулкан на востраве Сіцылія ў Італіі.

*Юры (Юрый)* — старажытнарускі князь, сын Андрэя Багалюбскага, першы муж царыцы Тамары.

## ЗМЕСТ

### АЛЯКСАНДР ЧАЎЧАВАДЗЕ

*Пераклаў Алесь Звонак*



### ГРЫГОЛ АРБЕЛІЯНІ

*Пераклаў Алесь Звонак*



### ВАХТАНГ АРБЕЛІЯНІ

*Пераклаў Алесь Звонак*



### НІКОЛАЗ БАРАТАШВІЛІ

*Пераклаў Язэп Семяжон*

## ТЫЦЫЯН ТАБІДЗЕ

*Пераклаў Максім Лужанін*



## ПАОЛА ЯШВІЛІ

*Пераклаў Сяргей Грахоўскі*



## ГРЫГОЛ ЦЭЦХЛАДЗЕ

*Пераклаў Уладзімір Шахавец*



## КАЛАЎ НАДЗІРАДЗЕ

*Пераклаў Сяргей Грахоўскі*



## ЦЯРЭНЦІЙ ГРАНЕЛІ

*Пераклаў Алесь Разанаў*

## МІРЗА ГЕЛАВАНІ



## ШАЛВА ПАРЧХАДЗЕ

*Пераклаў Анатоль Клышка*



## ІОСІФ НАНЕШВІЛІ

*Пераклаў Васіль Вітка*



## ЛАДО СУЛАБЕРЫДЗЕ

*Пераклаў Пятрусь Макаль*



## МУРМАН ЛЕБАНІДЗЕ

*Пераклаў Пятрусь Макаль*



## ХУТА БЕРУЛАВА

## АТАР МАМПОРЫЯ

*Пераклаў Валянцін Тарас*



## ГАННА КАЛАНДАДЗЕ

*Пераклала Нэля Тулупава*



## АТАР ЧАЛІДЗЕ

*Пераклаў Генадзь Бураўкін*



## МІХАІЛ КВЛІВІДЗЕ

*Пераклаў Язэп Семяжон*



## ПРЫДОН ХАЛВАШЫ

*Пераклаў Уладзімір Шахавец*



## СІЛАВАН НАРЫМАНІДЗЕ

*Пераклаў Юрась Свірка*

ШАТА ЧАНТЛАДЗЕ

*Пераклаў Алесь Разанаў*



ГІВІ ДЗНЕЛАДЗЕ

*Пераклаў Адам Глобус*



НАЗІ КІЛАСОНІЯ

*Пераклаў Юрась Свірка*



НАДАР ГУРАШЫДЗЕ

*Пераклаў Валянцін Тарас*

АРЧЫЛ СУЛАКАУРЫ

*Пераклаў Янка Сіпакоў*



МУХРАН МАЧАВАРЫЯНІ

*Пераклаў Уладзімір Някляеў*



ШАТА НІШНІЯНІДЗЕ

*Пераклаў Вячаслаў Рагойша*



МОРЫС ПАЦХІШВІЛІ

*Пераклаў Васіль Зуёнак*

## ЛІЯ СТУРУА

*Пераклала Таіса Бондар*



## ГРЫГОЛ ДЖУЛУХІДЗЕ

*Пераклаў Валянцін Тарас*



## ТЭДА БЕКІШВІЛІ

*Пераклаў Сяргей Законнікаў*



## ГУРАМ ПЕТРЫЯШВІЛІ

*Пераклаў Уладзімір Сіўчыкаў*



*Пераклаў Міхась Стральцоў*



## ДЖАРДЖЫ ПХАВЕЛІ

*Пераклаў Леанід Дайнека*



## ГІВІ АЛХАЗІШВІЛІ

*Пераклаў Сяргей Панізнік*

**Анталогія** грузінскай паэзіі: У 2-х т.: Пер. з
А 72 груз. Т. 2/Рэд. А. Разанаў; Мн.: Маст. літ., 1989.—
494 с., [3] л. іл.

ISBN 5-340-00140-7.

Антология грузинской поэзии.

У другі том увайшлі творы паэтаў, якія жылі ў XIX і XX стагоддзях: Ніколаза Бараташвілі, Ільі Чаўчавадзе, Акакія Цэрэтэлі, Важа Пшавелы, Галакціёна Табідзе, а таксама сучаснікаў.

У перакладах прынялі ўдзел майстры паэтычнага слова нашай рэспублікі: М. Танк, М. Лужанін, В. Вітка, А. Звонак, Р. Барадулін, В. Зуёнак, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі і іншыя.

А $\frac{4702170202-011}{М\ 302(03)-89}$ 129—89 ББК 84Гр

Литературно-художественное издание

*Антология грузинской поэзии*
*в двух томах*

**Том II**

**Минск, издательство «Мастацкая літаратура»**
**На белорусском языке**

---

Літаратурна-мастацкае выданне

*Анталогія грузінскай паэзіі*
*ў двух тамах*

**Том II**

*Рэдактары Н. І. Тулупава, К. Я. Жук*
*Мастак Л. А. Трэстман*
*Мастацкі рэдактар А. І. Цароў*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Л. М. Маслоўская*

ІБ № 1905

Здадзена ў набор 05.04.88. Падп. да друку 01.11.88. Фармат $70 \times 100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 20,15+0,49 укл. Ум. фарб.-адб. 21,29. Ул.-выд. арк. 18,94. Тыраж 2000 экз. Зак. 1315. Цана 2 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.